УДК 882.93
К14

Друкуецца па выданні
Мн., "Юнацтва", 1991 г.

Казько В.
К14 Суд у Слабадзе. Аповесць. — Мн.: "Сталія", 2002. — 192 с.
ISBN 985-6670-10-1

Падпісана да друку 10.02.2003. Фармат 84х108/32. Папера афсетная. Тыраж 1000 экз. Заказ 780. ТДА "Сталія". Ліцэнзія ЛВ 504 от 17. 07. 2001. г. Мінск, т. 227-67-44. Надрукавана УП "Друкарня "Перамога". 222310, г. Маладзечна, вул. В.Таўлая, 11.

УДК - 882 - 93

ISBN 985-6670-10-1

# I

Неба плавілася. Неба гарэла і палала. Рушылася сонца. Надломвалася пластамі і навальвалася на парныя ўжо ад спёкі просіні, на бляклую сцяжынку ад самалёта, які праляцеў над горадам, пэўна, яшчэ цемнатой. Агонь і спёка цяклі на зямлю, і вось агонь і спёка дасягнулі зямлі. Сонца рэдкай і празрыстай лавай ахутала лес і памчала па зямлі, асляпляючы ўсё на сваім шляху нясцерпнай зыркасцю.

— Што ж гэта такое? Што гэта? — не чуючы свайго голасу, закрычаў Колька, заплюшчыў вочы і выпраставў перад сабою рукі.— Трымайце, людзі, сонца!

Але вакол было ціха. Горад яшчэ спаў. Калі па-добраму, спаць бы цяпер і Кольку Лецечку, выхаванцу старэйшай групы Слабадзянскага дзіцячага дома. Але не спіцца яму ў гэты ранішні світальны час. Другі тыдзень з дня ў дзень сустракае ён на ганку свайго корпуса ўсход сонца. Дзён дзесяць назад дзетдомаўскі вартаўнік Захар'я Сучок спыніў раптам Лецечку на дарожцы саду, спыніў не воклічам, не паглядам — загадам нейкім тайным, нячутным. Ішлі яны, Захар'я і Лецечка, адной сцежкай, але з розных канцоў саду, сышліся і ўжо разышліся, здаецца. Размінуліся і — абодва як у сцяну ўперліся, быццам для абодвух адразу скончылася дарога: прыпыніліся і павярнуліся абодва адразу, як па загаду, тварам адзін да аднаго. І прагна, са спалохам і дапытлівасцю ўтаропіліся ў вочы адзін аднаму, вышуквалі, разглядвалі адзін у другім штосьці патрэбнае і вядомае

толькі ім. Але Лецечка доўга не вытрымаў, а Захар'я глядзеў, глядзеў, а потым абышоў вакол яго і яшчэ раз зазірнуў у вочы і сказаў амаль што весела:

— Э, Лецечка...

Лецечка стрымглоў ад Захар'і, адкуль тае і сілы ўзялося. Забег у ізалятар, на зашчапку зачыніў за сабою дзверы. Хвіліну-другую прыслухоўваўся, ці не лясне па ганку палкай Захар'я, ці не загрукоча ў дзверы сваёй сукаватай смяротнай кульбай. Захар'я за Колькам не пайшоў, але ж пазбавіцца ад яго позірку, ад яго голасу, забыць тую сустрэчу ў садзе Лецечка ўжо не здолеў. І не ведае ён цяпер, ці то падалося яму, надумалася, ці то саснілася, але здаецца, у той жа дзень на той жа сцежцы саду сустрэўся ён яшчэ з Захар'ем. І ўсё было — як і ў першую сустрэчу, як у сне і наяве ў той час. Захар'я абышоў вакол яго, зазірнуў у вочы і сказаў амаль што весела:

— Э, Лецечка, ды ты хутка памрэш...

— Чаму гэта я хутка павінен памерці, Захар'я?

— А я чую, Лецечка, як цябе зямля кліча.

— Гэта яна цябе кліча, Захар'я, ты галасы ўжо блытаеш. Вось як рэзну зараз, дык і дух з цябе вон...

Захар'я пасмяяўся, сур'ёзна, як і ўсё ён рабіў, паварушыў вялізнымі, нібы восеньскія лопухі, збурэлымі вушамі.

— І мяне яна кліча ўжо, твая праўда, Лецечка. Толькі мне на той свет у спасаў дзень. А ты да таго дня не дацягнеш. Пасля Івана Купельніка лажыцца табе.

— Гэта калі ж? — у роспачы спытаў Лецечка дзеда.— Калі гэты Іван Купельнік будзе?

— А хутка і будзе,— ахвотліва павёў гамонку Захар'я.— Калі першыя сунічкі выспеюць, калі першыя грыбкі-каласавікі вытыркнуцца...

— Раніцай ці вечарам? — спыніў яго Лецечка. Ён раптам паверыў Захар'ю, паверыў таму спакою, з якім Захар'я гаварыў пра яго і ўласную смерць. Так спакойна людзі не жартуюць, не хлусяць, так спакойна людзі гавораць толькі праўду. Ён паверыў, што не сон гэта і ніякае не

насланнё, а ява ўсё, ява. І жахлівасць напала на Кольку. Патух у вачах ясны дзень, здрыганулася пад нагамі зямля, як усё роўна памёр ужо ён, Колька Лецечка. І здаецца яму — голас Захар'і гучыць ужо для яго з іншага свету:

— Дзяды, як правіла, паміраюць ноччу, каб дзяцей малых не трывожыць, не пужаць іх. А дзеці, дзеці — тыя на ўсходзе сонца...

І вось Лецечка пільнуе сонца. Не хочацца яму паміраць, жудасна паміраць, ведаць пра тое, што ён памрэ на ўсходзе сонца. Сонца ўзыдзе, а цябе ўжо няма, нідзе няма. І жудасна, і жахліва, але і цікаўна яму: як можа сонца з'явіцца, калі яго ўжо няма, калі яно, сонца, для ўсіх? Выходзіць, не для ўсіх? Спяшаецца, бяжыць ад яго сэрца. Яму і самому хочацца ўцячы ад сябе. Але дапытлівасць пераадольвае жах: як, як гэта ён будзе паміраць, знікаць з гэтага свету, як смерць будзе браць яго да сябе? Ці ўбачыць ён яе, што адчуе ў тую хвіліну, што? Як яго жывыя ногі і рукі стануць нежывымі, спруцянеюць? Няўжо чалавек не можа даць рады смерці? Чаму, ну чаму? Ён жа такі, такі... над усім ён, чалавек. А над смерцю хто ён? Смерць над ім. Навошта тады яму ўся яго моц. Сабаку тады яе... пад гэтае самае месца... як гэта могуць памерці вочы і не ўбачыць больш свету... А мозг, кажуць, яшчэ пасля смерці чалавека жыве тры дні. Гэта ж ён будзе ўжо ў дамавіне, павязуць яго на могілкі, а ён будзе ўсё чуць, адчуваць, разумець. Усё-ўсё. Толькі ніколі-ніколі і нікому-нікому нічога не раскажа аб гэтым... Не верыцца ў гэта, не, не верыцца... А можа, яму ўсё ж пашанцуе і ён перахітрыць смерць. Не хоча ён па-сапраўднаму і назаўсёды паміраць. Мо можна памерці і зноў ажыць? Есць на свеце, здараюцца цуды на свеце. Свет вялікі, чаго толькі на ім няма. А добра б было памерці і зноў ажыць. Паглядзець, як будуць па табе плакаць, як будзе сумаваць па табе Лена, што будуць гаварыць Козел, Дзыбаты. І толькі яны адгавораць, толькі труну забіваць, а ты вазьмі і ўстань. Што тады пачнецца, што будзе...

Сонца на небе ўжо няма. Няма сонца. Колька вобмацкам, вочы заплюшчаны, сыходзіць з ганка, каб

апошні раз паглядзець на зямлю, дзетдом і тое запаветнае за белай фіранкай акно і развітацца з усім гэтым назаўсёды.

Гэтае кароткае і прыглушанае «назаўсёды», як палкай, аперазала яго па спіне.

— Ілжэш ты, Захар'я, чуеш, ілжэш ты ўсё, Захар'я! — крыкнуў ён і адплюшчыў вочы. Але яшчэ да таго, як Лецечка адплюшчыў іх, ён паспеў глытнуць, хапіць усім целам ранішняга, яшчэ духмянага паветра і ў гэтым, з волкім водарам, паветры адчуць пахі зямлі і вады: рыбы, што нагульвае цяпер у сажалцы бадзёрасць, яблыкаў, якія дыхаюць, струменяць у гэты час світанкам і сонцам, водар далёкіх суніц і такіх жа далёкіх грыбкоў-каласавікоў, што падымаюць насустрач раніцы галаву. Прываблівую духмянасць жыцця і сваю ўласную прысутнасць у гэтым жыцці. А першае, што ён згледзеў,— гэта яблыкі, якія весела вылупіліся з каляных лісцяў, счырванелі ад празмернасці святла і соку, ад прагі святла.

А сонца ляжала ў сажалцы, ля ног Лецечкі. Сонца купалася, умывалася вадой. І сажалка была ўся ружовая і прамяніста-залатая, аголеная. Сонца раздзела яе, высвеціла да апошняй пясчынкі на дне. На дне разгублена і ў той жа час радасна мітусіліся маляўкі, шчыпалі сонца за яго ружовыя бакі, а рыбы большыя смакталі сонца, як бабулькі смокчуць мякіш, усміхаліся бяззубымі зяпамі, краталі плаўнікамі, каламуцілі ваду і пясок і асалавела паглядвалі на Лецечку пукатымі вачыма; і самая вялізная рыба ўжо брала сонца на буксір, чапляла яго, як крукам, гарбатым плаўнікам і цягнула яго за сабой у самую цемру, углыб.

Лецечка зірнуў на неба — там таксама было ўжо сонца. Не згінула сонца, адгарадзілася ад неба блакітным абручом. Абруч гэты імкліва павялічваўся, уцягваў, паглынаў ружовасць. І вось ужо па гэтым блакіце ў бяздонні неба весела віруюць ластаўкі, бестурботна пастрэльваюць вусікамі хвастоў, нібыта падсаджваюць сонца на неба, падштурхоўваюць, збіраюць у шлях-дарогу дзень.

— Ты чаго гэта мяне клікаў, Лецечка-Ліхалецечка?

Перад Лецечкам, абапёршыся на кіёк, стаяў Захар'я, стаяў трывала, быццам яго адлілі з бронзы. Так застыгла-нерухома было ўсё ў ім, такі моцны быў ён, засцерагальна-руды, ахоўна-зялёны, у вайсковых, камандзірскіх, рудых ялавых ботах, у вайсковым, салдацкім галіфэ, у салдацкім бушлаце і салдацкай гімнасцёрцы, у цывільнай, але салдацкага колеру вушанцы. Твар, рукі, якія супакоіліся на кійку, цела, грудзі, якія выпіралі з-пад зашпіленай на паўтара гузіка гімнасцёркі, былі таксама таго ж ахоўна-засцерагальнага колеру. І ўсё трывалае, маслакаватае, нават твар без адзінай маршчыны. Сонца ў сажалцы, быццам у нечаканым з'яўленні Захар'і было штосьці нежаданае, непатрэбнае, пачало імкліва драбніцца, гаснуць.

— Так чаго ты мяне клікаў, Лецечка-Ліхалецечка? — паўтарыў Захар'я.

— А я цябе не клікаў, ты сам прыпёрся,— адказаў Лецечка.

— Як гэта не клікаў, як гэта не клікаў? Я ў будане толькі наладзіўся сон паглядзець, галосіць хтосьці: «Захар'я, Захар'я...»

— То зямля галасіла,— сказаў Лецечка не без хітрыкаў, сказаў і ўскінуў вочы на Захар'ю: як той успрыме гэтыя яго словы, ці сустракаліся яны другі раз на сцежцы ў садзе, ці была паміж імі размова, ці ўсё ён, Лецечка, як заўсёды, прыдумаў. Шмат, вельмі шмат чаго залежала цяпер ад таго, што адкажа Захар'я. А Захар'я памыляў губамі, азірнуўся, нібыта побач быў хтосьці яшчэ з імі, трэці, хітнуў галавой:

— Мо і зямля галасіла, мо і твая праўда... А ты што ні свет ні зара падхапіўся?

Лецечка змоўчаў, у яго прапала ахвота гаварыць з Захар'ем: жах, які адсланіўся з усходам сонца, з надыходам дня, зноў апанаваў Лецечку. Захар'я, як зразумеў яго, загаварыў ласкава:

— Ты не крыўдуй на мяне, хлопец, не сярчай на мяне, такі я ўжо ўдаўся, сурочлівы і бязглузды... Малы ты яшчэ, малы... А яно, разумееш, да смерці трэба загадзя рыхтавацца. Ад сумы ды ад турмы, гавораць, не заракайся, а

ад смерці — не бяжы. І пад зямлёй яна цябе знойдзе, дастане ўсюды. Так стрэнь яе па-людску.

— Як гэта па-людску смерць сустракаць? — здзівіўся Колька. Ён усё яшчэ не хацеў гаварыць з Захар'ем, але і пайсці ад яго не мог. Было ў словах Захар'і штосьці жудаснае, аголена-непрыстойнае, але адначасова гэтай голасцю і непрыстойнасцю і прыцягальнае.

— Як госцю яе, ці што, сустракаць? — дапытваўся Колька, не падымаючы вачэй на Захар'ю, быццам гэта не стары, а сама смерць была перад ім.— Адзежу лепшую даставаць?

— І адзежу, а ты як думаў... Я вось сабе паркалю ўжо прыдбаў белага, тапачкі ўжо ёсць...

Колька паглядзеў на вялізныя, пяцідзесятага памеру, чобаты Захар'і і не ўтрымаўся, крыва ўсміхнуўся: нічога сабе будзе Захар'я на тым свеце ў тапачках.

— Да спасавага дня і на касцюм сабе зараблю. Мо і на сена што-небудзь застанецца.

— А навошта яно, сена? — здзівіўся Колька.— На тым свеце што — таксама каровы ёсць?

— На тым няма, ды на гэтым ёсць,— не крыўдуючы, працягваў Захар'я.— Таму і гавару: загадзя да яе рыхтавацца трэба. І па дому ўсё зрабіць — цябе няма, хто руку прыложыць,— і душу ад усяго лішняга, дробязнага аслабаніць, каб смела ёй у вочы глядзець. Дарога ой далёкая, і зборы не маленькія!

— А дарога сюды адтуль ёсць?

— Мо і ёсць, ды толькі ніхто па ёй яшчэ не хадзіў, ніхто назад не варочаўся.

— Дык і я не пайду туды. Не пайду.— Колька тупнуў нагой, закусіў губу, млосць пайшла па целе, потам пакрыліся пальцы на нагах і руках, ногі і рукі зрабіліся мяккімі, ватнымі, усё роўна як іх пазбавілі касцей,— ссінеў ружовы ранак. І Захар'я страціў сваю надзейнасць і ахоўнасць, перафарбаваўся раптам у сіняе, захістаўся, загойдаўся, як на хвалях.

Колька да крыві прыкусіў губу: хай будзе балюча, ды толькі б не ўбачыў яго слабасці Захар'я, не здагадаўся

пра яго хваробу. І Захар'я, як бы нічога і не зразумеў, нічога не ўбачыў, адвёў вочы ад Колькавага твару.

— Пойдзем, хлопча, пойдзем на ганак, пасядзім, пагутарым, млосна мне нешта ад вады,— сказаў Захар'я і амаль пацягнуў Лецечку за сабой. Той ішоў за ім пакорліва, толькі лаяўся:

— Падла ты старая, Захар'я, падла...

— Падла старая,— не супярэчыў, пагаджаўся Захар'я.— Старое, ад яго патыхае...

— Ад добрых малаком патыхае.

— Гэта калі баба, дык ад яе малаком, ды і то калі ў яе дзеці былі. Ад бяздзетнай бабы сукай ужо прэ.

— Ілжэш ты. Ад бабы Зосі...

— Во, у самую кропку.— Захар'я нібы ўбачыў гэтую кропку перад сабой, паказаў на яе пальцам і тупнуў па ёй чобатам.

— Ілжэш, ілжэш ты, Захар'я, нагаворваеш усё. Малаком пахне ад бабы Зосі. А ад цябе... У цябе дзеці былі?

— Пэўна былі...— Захар'я ўздыхнуў.— Няма ў мяне дзяцей, Лецечка. Адзін я на белым свеце. Сучок і ёсць Сучок.

— Вось таму ты і падла,— сказаў Колька.— Дзяцей у цябе не было. Навошта ты мне ўсё пра смерць, пра смерць гаворыш? Я і без цябе ведаю, што хутка памру... На світанку памру. Ведаю, але ведаць не хачу. А ты мне... Не было ў цябе дзяцей, Сучок! — сказаў, быццам палкай аперазаў, і Захар'я на гэтых яго словах угнуўся, як ад удару.

— Былі ў мяне дзеці, поўна хата,— з дакорам неўзабаве загаварыў Захар'я, калі яны ўжо сядзелі на ганку і хвароба ўжо адпускала Кольку.— Поўна хата, адзін мо і лішні, ды толькі не згадаць — каторы... Бялявыя, пад цябе, вушастыя, у мяне, і малаком пахлі — у бабу... Пахлі малаком, як цуцыкі...

— Куды ж яны дзеліся, дзеці твае?

— А вось у гэту ноч усе і сканалі... Вушастыя, бялявыя, малочныя... Не, не сёння ў гэту, а даўно, у вайну яшчэ. Таксама на Івана Купельніка ноч была. Пагарэлі Сучкі.

2. Зак. 780.

Вёска наша Сучок згарэла, і людзі ў ёй таксама ўсе Сучкамі празываліся — і ўсе згарэлі. Выпаўзлі з таго купальскага агню, як ваўкалюгі, адзін я ды суседка... Жывём з ёй з той пары... А дзяцей ні ў яе, ні ў мяне, ні ў нас — няма... І не спаў я сёння, Лецечка, галавы не прыхіляў.— Сучок змоўк, устаў і пайшоў у бок саду. І ў яго пакатых плячах, у схіленай да грудзей галаве, ва ўсёй абмяклай, як вываранай, постаці не было больш той сілы, якая так злавала Лецечку. І Лецечка канчаткова паверыў ужо, што не хлусіць, не маніць Сучок, калі гаворыць пра голас з таго свету. Кліча, кліча Сучка зямля, з таго яшчэ даўняга купальскага агню павінен ён чуць галасы. І яго, Колькі Лецечкі, голас.

Але паміраць Лецечка не збіраецца. Без бойкі не дасца ён смерці. Трэба, ён будзе дзень і ноч сядзець на ганку і пільнаваць сонца, каб смерць на ўсходзе не прыхапіла яго сонным. Жыць ён хоча, жыць. Ён толькі што скончыў дзесяць класаў, толькі наладзіўся жыць, і жыць доўга. Не за аднаго сябе, а за ўсіх. За бацьку, за матку, за дзяцей Сучковых, за самога Сучка...

Між тым горад прачынаўся ўжо. Колька адчуў гэта не слыхам, не зрокам, а па пахах. Ён ужо даўно ўмеў пазнаваць жыццё і жывое па пахах, па колеру, таму што яшчэ да гаворкі з Захар'ем у садзе пра смерць ён часта сядзеў вось тут, на ганку, і сустракаў раніцу, таму што дзесьці ў глыбіні душы ён заўсёды насіў страх, баяўся, што аднойчы для яго можа і не развіднець. І Колька заўсёды чакаў, падганяў заўтра і адчуваў абуджэнне гэтага заўтра. Вось і цяпер ён ухапіў імгненне, калі пачалі расчыняцца хлявы, яшчэ не замычалі каровы, а панесла, панесла ўжо настоем сырадою, расчыненага з ночы жытла чалавека і жывёліны. І адразу да гэтага чалавечага і жывога прымяшаўся саладкаваты дух ахаладзелага за ноч жалеза, да якога ўжо дакранулася сонца; едкі пах салляркі; заслізгацеў па ветрыку, пабег самы трывалы і самы хуткі дух бензіну — пачалася работа ў гаражы, які быў непадалёку ад дзетдома.

І вось ужо затрубіў у рог пастух — як прамкамбінатаўскі гудок зароў спрасонку. І пасля гэтага рога-гудка лена, застаяла завалюхаліся па вуліцы каровы. Разам забрахалі сабакі, што згаварыліся. Ляснуў, як стрэліў, пугай упоперак вуліцы пастух, не то супакойваючы сабак, не то задзіраючы іх. Задзенькалі варотцы на падворках, загулі галасы. І крануліся, здаецца, з месца кветкі ў агародчыках. Нерухомае раней паветра паплыло, пацягнулася ўслед за каровамі, людзьмі на прастор, на волю, каб дыхнуць полем і лесам. Гэта і было доўгачаканае Лецечкава заўтра.

Прачынаўся і дзетдом. І зноў аб гэтым Колька Лецечка даведаўся не па гуках, не звычайным слыхам і зрокам, а зрокам і слыхам, здабытым за гады жыцця ў дзетдоме. А ў дзетдоме ён жыў заўсёды, заўсёды быў дзетдомаўскім. І ведаў пра ўсё, што адбываецца цяпер у яго сценах. Першымі ўставалі ў дзіцячым доме недаробкі. Недаробкам быў і сам Колька Лецечка. Хто яго так ахрысціў — вось гэтага ён не ведаў. Услых мянушка гучала зрэдку. Але ўсё роўна ён, Колька Лецечка,— недаробак, таму што больш жыве не ў палаце, не ў корпусе разам з усімі хлопцамі, а ў ізалятары. У ізалятары жывуць і гарбаценькі Васька Козел, і Дзыбаты — метр дзевяноста ростам — Стась Марусевіч — гэта пастаянныя недаробкі, недаробкі, на ўсё жыццё замацаваныя за ізалятарам. І цяпер, утаропіўшы вочы ў столь, яны ляжаць на ложках і не варушацца, скрыжаваўшы рукі на грудзях і роўна дыхаючы. Падманваюць адзін аднаго, быццам у іх цудоўны сон, быццам не яны ноччу падскоквалі ўвесь час і стагналі.

Так затоена і ціха яны будуць ляжаць яшчэ доўга, пакуль не загрукоча ў каморцы бідонамі і посудам баба Зося. Тады яны, як па загаду, павернуцца адзін да аднаго, сустрэнуцца вачыма, у якіх ужо даўно сон не начуе, збянтэжацца і адначасова прагавораць:

— А куды гэта зноў прапаў гэты Лецечка-лунацік?

Скажуць так, хаця добра ведаюць, што Лецечка ніякі не лунацік, і пачнуць апранацца, марудна, ціха, пачнуць прыбіраць ложкі. А за сцяной у агульнай палаце хлопцы будуць яшчэ спаць чуйным і салодкім, самым дарагім

сном, калі ўжо зразумела, што пад'ём блізка, а паднімацца не хочацца. І яны будуць да апошняга чапляцца за падушкі, за сон, да той пары, пакуль не прыйдзе выхавацельніца і разам са старастам палаты не пачне зрываць з іх пакамечаныя прасціны. Хлопцы будуць адбівацца, брыкацца, а які з іх і шыбане ў старасту чаравікам ці падушкай.

Усё гэта ведае, уяўляе сабе Колька, толькі вось не можа ўявіць, як устаюць, што адбываецца ў гэты ранні час у дзяўчат. Ці таксама моцна спяць яны, як і хлопцы, захутаўшыся прасцінамі ці раскрытыя. Дзяўчаты, іх спальня,— замежная краіна для Колькі.

Ляпнулі дзверы, не, не ў ізалятары ў недаробкаў, а ў тым нармальным, здаровым крыле корпуса. Колька ўзняў галаву. Па сцежцы, якая вяла да «шпакоўні», што стаяла ў кіяхах, ішла Лена, ішла хутка, выкідвала цыбатыя ногі, пацепвала ад свежасці плячыма, азіралася, ледзь не бегла. «Вось табе і замежная краіна,— падумаў Колька,— усё, як усюды, і...» Тут думка яго была перапынена. Зноў, але мацней ужо ляпнулі дзверы, і на сцежку, якая вяла да той жа шпакоўні, выкапацеў Ванька Бурак, па-мясцоваму, па-дзетдомаўску Ванька-Дурак. Гэтых Буракоў у дзетдоме трое: Ванька, Манька і Андрэй. І ўсе яны... Буракі. Ванька — самы малодшы. І цяпер ён жвава капацеў па сцяжынцы, адной рукой смыгаў уверх трусікі, што спаўзалі, другой — нос. І намер яго быў відавочны — абагнаць Лену Лазу.

І ён абагнаў яе, убіўся паперад яе ў шпакоўню. І адразу, як выбух, грымнуў смех. Смяяліся хлопцы старэйшай групы: мо яны і падбухторылі Бурачка. І Лецечка смяяўся разам з усімі, ад яго разам адхлынулі ўсе світальныя жахі. Вельмі ж здаровая, ядраная была раніца, хоць ты сам ідзі ў скокі, як тое цялё на поплаве, хоць сам на злом галавы ляці па гэтым зіхатлівым ад роўнага ранішняга сонца садзе, збірай павуцінне, што раскідаў за ноч павук, збірай з травы расу, як у вір, кідайся ў застылую пад плотам прахалоду і бадзёрасць, залезь на яблыню, пакаштуй яшчэ няспелых — скулы верне,— але такіх прываблівых яблыкаў.

Пачынаўся доўгі дзень-год. І Лецечка быў задаволены тым, што ён пачынае яго як усе, быў задаволены тым, што зноў бачыць сонца, дзетдомаўцаў, чуе іх смех, нібыта сам удзельнічае ў тым, што адбываецца вакол яго, нібыта ён сам дапамог узняцца на неба сонцу, а цяпер дапамагае яму разгарэцца і добра ўгрэць зямлю. Не квасіцца, як Дзыбаты Стась і Козел Васька, у ізалятары, не лічыць мух на столі, быццам і ён не з недаробкаў. Вось возьме стане разам з усімі ў строй, пачне рабіць фіззарадку.

Але Лецечка толькі падумаў так, а з месца не крануўся, таму што думаць яму можна было ўсё, а рабіць... Ён і сам не ведаў, што яму дазволена рабіць.

## II

Колькі памятае сябе Лецечка-Ліхалецечка, ён ніколі не жыў, а ўвесь час паміраў. Паміраў летам, калі яго равеснікі ад ночы да ночы гойсалі па вуліцах, да крыві разбівалі галовы і ногі. Паміраў, калі ўсе спалі, восенню і зімой, і ў жыццё гэтае ён з'явіўся са смерці — так яму гаварылі дарослыя. Але аб гэтым ён нічога не ведаў і не памятаў і асабліва не задумваўся, нікога не распытваў. З'явіўся і з'явіўся. Вася Козел, Стась Дзыбаты, Ваня, Маня і Андрэй Бурачкі — часовыя недаробкі, якіх час ад часу з-за той ці іншай хваробы заганялі ў ізалятар, таксама не ведалі і ніколі не ламалі галавы, адкуль яны ўзяліся, з'явіліся такімі на белы свет.

Першая памяць Лецечкі аб сабе — гэта ляжыць ён на палацях каля печы, дзе, у якім месцы, у якім годзе — невядома. Палаці з негабляваных дошак, у шчылінах, чорныя, у чорным куце каля чорнай печы. Пад ім, пад Лецечкам, дзяружка, пад дзяружкай сена ці салома, тое, што было калісьці сенам ці саломай, а цяпер пацяруха, збітая ў камякі, змолатая ў муку, закінутая дзяружкай. Дзяружкай накрыты і Колька Лецечка. Над ім рой мух і блохі. Столь заседжана мухамі да чорнага крапянога бляску. Мухі лезуць на Лецечку нахрапам. Ён душыць іх і

лаецца, таму што больш нічога яму і не застаецца рабіць, нічым іншым ён не можа дапамагчы сабе. Ногі ў яго мёртвыя, нерухомыя. Час ад часу Лецечка адкідвае дзяружку і разглядае свае ногі. Не з цікаўнасці і жалю да іх, з нуды. Пад дзяружкай ён голы, і ногі ў яго ўсіх адценняў, рознай масці: і сінія, і блакітныя, і жоўтыя, і рудыя. Мо ад гразі, мо ад хваробы, а мо яны такія павінны быць, ногі ў чалавека. А ён — чалавек, гэта Лецечка ведае. Ды калі б ён быў зверам, ці ўлежаў бы ён цяпер у гэтай хаце? Чорта лысага...

Людзей вакол сябе не памятае, ніводнага чалавечага твару, постаці. Былі якіясьці постаці, хтосьці хадзіў, валюхаўся. Але Колька з імі не гаварыў і ад іх нічога, акрамя лаянкі, не чуў. Не памятае ён і змены дня і ночы. Здаецца, і не спаў ён у той час: вочы заўсёды адплюшчаны былі, як чакалася чагосьці, а чаго — невядома. Але ад гэтага спрадвечнага чакання вочы ў яго ўжо тады сталі пукатымі. Можа, і не ад чакання, магчыма, ад голаду. Хаця асаблівага голаду ён таксама не памятае. Увогуле не памятае патрэбы есці. Калі спіць чалавек, ці да яды яму? А гэта якраз быў час яго сну. І колькі сон той цягнуўся, цяжка адказаць: год, два, век? Для яго, для Лецечкі, пэўна, век, а для іншых... няхай іншыя самі і лічаць, калі ім трэба.

Праляжаў ён той век, імглісты, цёмны, на палацях. Не сатлеў, не спрах, не распаўся. Потым пачаўся век другі, сярэбраны, светлы, але, бадай што, больш цяжкі і доўгі, чым той, імглісты, цёмны, таму што быў ён ужо з памяццю. Пачалася гэтая памяць вясновым ясным днём з болю, страху і жаху. Уварваліся людзі ў шэрых доўгіх шынялях, разам з дзяружкай зграблі яго ў ахапак і панеслі з хаты на паветра. І што перажыў Лецечка ў тую хвіліну, калі спатыкнуўся позіркам першы раз аб снег, калі першы раз на ўсю моц хапіў свежага паветра і захлынуўся, абурыўся, што нідзе няма паратунку ад гэтага снегу і паветра... Ён і выў, і прасіўся, умольваў пашкадаваць яго, і пляваўся, і драпаўся. А што ўжо лаяўся, дык наўрад ці гэтым людзям у шынялях, апаленых порахам, даводзілася і чуць такое.

Адзін з іх нават узяўся запісваць за ім. А Лецечку сутаргава выварочвала адчаем, болем і мацюкамі. Больш тады ў ім нічога і не было: адчай, скура, косці, вочы, боль і мацюкі. Апошнія — дзвюх моў: па-руску і па-нямецку.

Але пакуты Лецечкі толькі пачыналіся. Яго доўга кудысьці везлі на белым у яблыках кані, па белай дарозе. Потым зноў неслі на руках. І прынеслі ў бялюткі, такі бялюткі, што выдзірала вочы, пакой. А перад гэтым зноў быў страх гасподні. З яго садралі дзяружку і, як у мора, кінулі ў ванну з вадой. Дзве медсястры і салдат ледзь саўладалі з ім, памылі яго. Медсёстры абяцалі яму цукру, салдат зацікаўліваў аўтаматам. Але што той цукар, што той аўтамат, калі вас жыўцом абварваюць у вары, калі вы дажылі ўжо да розуму, а не зведалі, што такое цёплая вада, калі вы баіцеся гэтай вады больш, чым агню.

— Здоров, ефрейтор,— сказаў салдат, калі ўжо нёс яго з ваннай у палату.— Женить тебя надо, а не в госпиталь.

Што адказаў яму Лецечка на гэта, якімі словамі аддзякаваў, нельга тут і перадаць, і з гэтых яго гарачых слоў і пачаўся новы Лецечкаў век, век жахліва доўгі, які і сёння ўганяе яго ў халодны пот. Не злічыць, колькі разоў ён збягаў, а дакладней, поўз са шпіталя з надзеяю адшукаць тую хаціну, з якой яго выцягнулі чырвонаармейцы, знайсці тыя палаці. Яго лавілі, спачатку ў калідоры, а потым ужо на лесвіцы: Лецечка ляжаў у палаце на другім паверсе, — потым на двары, непадалёку ад шпіталя. Замілавана здзіўляліся: «До чего же упрям пацанище, как он стремится быстрее стать на ноги». А ён зусім не хацеў на ногі. Ён ужо звык на карачках, яму ўжо зручней было на карачках. Але Лецечка маўчаў. Прыгадваў дарогу, па якой яго везлі. Днямі адчужана глядзеў у акно, за якім ужо ружавеў бэз, а ноччу на карачках наладжваўся ў дарогу. Яшчаркай шмыгаў з палаты, і чуйныя няні і сёстры і цяжкараненыя, што не спалі начамі, не маглі прысачыць за ім.

Запаветнай марай Лецечкі было выпаўзці са шпіталя, а там, там ён ужо ведаў, што рабіць. І ён выпаўз ужо на сходзе лета, выпаўз за агароджу. І ад радасці, што

здзейснілася, не прыкмеціў таго і сам, як ухапіўся за слупок і стаў на ногі. Так, не ўсведамляючы таго, што адбылося, ён усе ж адчуў не столькі ў сабе, як навокал, нейкую дзіўную нязвыкласць.

Усё стала раптам далёкім і маленькім. То, калі ён поўз, на вочы яму трапляліся ўсялякія казяўкі, чарвякі, павукі, ліст лопуху быў як прасціна — засціў белы свет, сцяблінка кураслепу, жытняя саломіна выглядалі з калоду. А цяпер... Навалач нейкая. Усё жывое як вымерла, усе рэчы зніклі — дрэў жа, будынкаў з-за іх вялізнасці ён не браў у разлік і раней.

І вось, стаіўшыся за агароджай шпіталя, са здзіўленнем разглядваючы гэты новы, невядомы яму свет, Лецечка зразумеў, што нікуды ён болей не пойдзе ад гэтых добрых людзей. Больш таго, ён ніколі і не імкнуўся збягаць ад іх. Проста вучыўся хадзіць. І пайшоў.

Лецечка адняў рукі ад слупка і грымнуўся вобзем. І знаёмы свет, свет казявак, чарвякоў, павукоў, сцяблінак і лісцікаў, зноў знаёма расчыніўся перад ім. Але Лецечка цяпер ужо адрынуў яго. Ён адрынуў ад сябе ўсё гэта, што поўзала, смактала. Ён хацеў хадзіць. Глядзець на дамы, заглядаць у іх вокны, бачыць дрэвы і птушак.

І ў дзетдом Лецечка прыйшоў сваімі нагамі. Без прозвішча, без імя, але сваімі нагамі. Ніхто, праўда, не адзначыў, не заўважыў гэтага, і Колька звяў. Яму столькі напелі пра дзетдом: і свабода там, і хлопцы ёсць, і есці тры разы гарачае даюць, і чацвёрты раз даюць — полудзень, і выхавацельніцы добрыя, уважлівыя. Ён наслухаўся гэтых песень і як падарунак таму цудоўнаму дзетдому нёс свае ногі. А ў яго патрабавалі прозвішча і імя, і імя па бацьку, і год нараджэння. А хвароба яго ведае, дзе гэта ўсё ўзяць, хоць красці ідзі. Ды ці ўкрадзеш яшчэ ўсё гэта: бацьку, матку, прозвішча? Колька разгубіўся і засумаваў. Дапамагла яму нянька, што прыйшла разам з ім са шпіталя.

— Лецечкам гэтым ён на ногі ўстаў, хай і будзе Лецечка. А імя напішыце па майму сыну. Мікалай, Мікалай Мікалаевіч, царства яму нябеснае. Яно хоць і нягожа, што

загінуўшага імя бярэ, ды можаце спакойненькія быць. Род наш крэпкі...

— Згодзен ты быць Лецечкам Мікалаем Мікалаевічам? — перапыніла няньку дырэктарыха дзіцячага дома, маладая жанчына, белая і кучаравая.— Не згодзен — можаш іншае прозвішча падабраць: Няпомняшчых, Салдатаў...

— А Маршалаў нельга? — спытаў Лецечка з падкалупкай.

Дырэктарыха разгадала гэтую яго падкалупку і ўсміхнулася.

— Нельга,— сказала яна.— Маршалаў у нас мала, а вось генералаў многа. У нас ужо ёсць адзін Генералаў, хочаш — можаш і ты запісацца Генералавым.

Кольку спадабаліся ўсмешлівасць, памяркоўнасць, і голас дырэктарыхі спадабаўся. Але другім Генералавым ён не пажадаў стаць. Калі ўжо ёсць адзін, навошта другі. Ды, можа, яшчэ той, першы Генералаў смаркаты які. Радуйся потым, гледзячы на гэтага смаркатага Генералава нумар адзін.

— Дык як цябе пісаць? — дырэктарыха падняла ад папер галаву і паклала на стол ручку, нібыта перадумала пісаць, хацела пакінуць яго без прозвішча.— Можа ты сваё прозвішча ўспомніш? Рука ў мяне не ідзе запісваць гэтыя прыдуманыя прозвішчы.

Лецечка бачыў па вачах дырэктарыхі, што сапраўды не падымаецца ў яе рука пісаць, што вельмі проста ён можа застацца без прозвішча. А без прозвішча яму цяпер ужо не хацелася.

— Пішыце, чаго ўжо там, чарніл няма? Паплюйце на пяро: Лецечка пішыце.

— Вось і добра, вось і добра,— усміхнулася зноў дырэктарыха.— А то адразу Маршалаў. Вырасцеш — станеш маршалам. Маршал Савецкага Саюза Лецечка! А то што за маршал — Няпомняшчых, Салдатаў. Маршал Лецечка — іншая справа. Гучыць?

Колька прымераў толькі што атрыманае прозвішча да сябе і адчуў, што і на самай справе гучыць. І зліўся,

зросся са сваім прозвішчам, не аддзерці, сякерай не адсекчы ўжо гэтае прозвішча ад яго. Нарадзіўся ён з гэтым прозвішчам, рос з ім. І было яно яму ўжо дарагое, сваё, роднае, цёплае, якраз па ім, як чаравікі, што ў самы раз: не цiснуць, не хлябаюць, для ўсякай дарогі падыходзяць, і для будняў, і на выхад у святы. Вось што значыць добрае прозвішча, вось што значыць — па табе прозвішча. І крыўды ніякай, што не заўважылі, як ён трывала стаіць на нагах.

Запісалі Кольку Мікалаем Мікалаевічам Лецечкам, руку паціснулі і адправілі ў ізалятар, як бы каранцін прайсці, а выйшла — навек. І век гэты стаў самым доўгім, і самым кароткім, і самым шчаслівым у жыцці Лецечкі. Самым шчаслівым і... самым нешчаслівым.

Самым доўгім, таму што ўвабраў ён у сябе цэлых дзесяць гадоў. І гады гэтыя прамільгнулі для Лецечкі — як адно лета. Паспеў толькі зайсці ў ізалятар і пабіцца адзін раз са Стасем Дзыбатым, а ўжо года і няма. Сеў за парту — і ўсе дзесяць праляцелі самалётам. А выйшаў на дзетдомаўскі двор, адзін толькі раз разбегся, урэзаў па скураным, набітым тырсой мячыку і войкнуў, упаў пад векавую ліпу. Дзень стаў векам, стагоддзем. І ўсё гэтае бясконцае, цяглівае стагоддзе хлопцы ганялі мячык, купаліся ў сажалцы, лазілі па садах, білі кагосьці з гарадскіх, а ён, Лецечка, ляжаў пад ліпай. Для дзетдома, каб пражыць у ім толькі дзень, нічога не значыць, што ў цябе ёсць прозвішча, што ў цябе ёсць ногі, каб пражыць дзяцінства, гэтага недастаткова, трэба яшчэ і сэрца, а сэрца ў яго было нікуды не вартае. Нават Маня, Ваня і Андрэй Буракі былі шчаслівейшыя за яго.

Але гэта сваё асабістае няшчасце, сваю хваравітасць, Лецечка не падкрэсліваў, не насіўся з ім, як з пісанай торбай, як, зрэшты, не насіліся і Стась Дзыбаты, і Васька Козел. Больш таго, яны зубамі і кулакамі біліся, каб быць такімі, як і ўсе. Біліся, змагаліся да пасінення, часам страчваючы прытомнасць ад непамернасці таго, што ўсклалі на сябе. І выбілі, адстаялі сябе і ў ізалятары. Пра іх гаварылі ў дзетдоме: «псіхі», але гаварылі з аглядкай,

шэптам. Пра іх гаварылі і «недаробкі», але заўсёды толькі за вуглом і ніколі ў вочы: што з псіхаў возьмеш? А ім было напляваць, яны ганарыліся, што гэта пра іх так гавораць, што іх баяцца. Яны адгарадзіліся ад усіх устойлівай хваляй бальнічнага паху і за гэтай хваляй у сваім ізалятары і сваёй ізаляванасцю набылі такую свабоду і самастойнасць, аб якой усе дзетдомаўцы могуць толькі марыць і, марачы, уздыхаць: недасягальна.

Недасягальна ў дзетдоме, каб ты не быў падпарадкаваны рэжыму. Недасягальна, каб на трох было паўкрыла вялізнага будынка. Паўкрыла, куды амаль што не заглядваюць выхавацельніцы. На кожнага радыёнавушнікі. І ты можаш слухаць гэтае радыё, пакуль не пасінееш, пакуль там, на станцыі, не выключаць яго. Тумбачка на аднаго чалавека. І мноства-мноства іншых дробязных паслабленняў, тых самых дробязных паслабленняў, з якіх якраз і складваецца шчаслівы, неказённы побыт, дзіцячы, не загрувашчаны дысцыплінай, распарадкам свет.

І гэтым сваім светам, неказённым побытам Васька і Стась выхваляліся штодзённа і шточасна, як умелі, фарсілі ім і, не прызнаючыся, тоячыся нават адзін ад аднаго, пакутавалі ад яго, як пакутуе зімой пад ільдом нябачная рэчка. І не для прыгожага слова тут гаворана, што дзесяць гадоў, якія пражылі яны ў дзетдоме, у ізалятары, сцягнуліся ім як век. За дзесяць гадоў Васька Козел паспеў не толькі адрасціць горб, але і састарыцца. Гэта быў маленькі, сухенькі дзядок-каракаціца з маршчынамі на дзіцячым чыстым твары, з сухотнымі старэча-дзіцячымі крохкімі і кволымі костачкамі на гэтым жа твары, з цененькім і пісклявым голасам, зацяты і хітры. Калі Васька ішоў дзетдомаўскім садам, уяўлялася, што гэта ідзе гном, што ён з'явіўся з-пад дрэва, упаў з галінкі разам з яблыкам. І карцела падбегчы да яго, пашукаць у траве, знайсці і даць яму ў рукі кіёк, які ён згубіў.

Гном-Козел быў у дзетдоме першым матэматыкам і чэмпіёнам па шашках. Але ніхто не ведаў, з якой шалёнай лютасцю ён ненавідзеў гэтыя шашкі, як, тоячыся начамі,

краўся да ленінскага пакоя, выдзіраў з рамы шыбку і, абдзіраючы горб, лез у акно, збіраў там шашкі і шахматы, паліў іх у грубцы. І з асалодай сачыў, як ахопліваюцца агнём чорная і белая фарбы на фігурах, асабліва любіў ён паліць коней. Быў радасны і потым, калі хапаліся гэтых коней, шашак і шахмат. Так помсціў ён у першую чаргу, пэўна, самому сабе, свайму гарбу за абдзеленасць дзяцінствам, за сваю абяздоленасць. За тое, што кожны год у школе за добрую вучобу, у дзетдоме — за перамогу ў шашачным турніры яго прэміявалі дошкай і шашкамі. Але гэтыя свае ўласныя дошкі і шашкі Козел бярог як вока, і ніхто дакладна не мог сказаць, колькі ён ужо іх назапасіў.

Стась Дзыбаты быў адкрыты ўсім, але на гэтую яго адкрытасць ніхто не мог глядзець без дрыжыкаў. Ніхто не мог пахваліцца, што да канца вытрымаў, разгледзеў твар Дзыбатага. Гэта быў не твар, а адзіная жывая рана, якая крычала і галасіла ўголас, рана з чырванню і сінню, нібы кветка, нейкая дзівосная і жахлівая, на якой усімі адценнямі вясёлкі палалі струпы, рубцы, ягадзіны і ледзякі даўніх апёкаў. І на гэтым жа, што ўганяў у дрыжыкі, твары — дзівоснай сілы і прывабнасці вочы, вочы спрацаванага, з'езджанага каня, які ведае ўжо ўсё аб тым, што яго чакае і пакорліва, але з жывёльным спрадвечным смуткам глядзіць, прыслухоўваецца да таго, як пакідае, выходзіць з яго жыццё. З'езджанасць каня была ў яго скразная, яна смугой лягла не толькі на твар, але і на новы, ды на ім, здаецца, ужо зношаны шэры каверкотавы касцюм, на грудзі, ногі, рукі — усё гэта ценька, празрыста, але без звону, з усхліпамі звонку і ўнутры. Яму, пэўна, было цяжка насіць не толькі свае сто дзевяноста сантыметраў, але і касцюм. І касцюм яму быў не толькі адзеннем, а і абручом, сашчэпкай, якая сашчапіла, з'яднала ў адзінае цэлае разладжанае, расхістанае цела. І пры ўсім гэтым Стась Дзыбаты быў улюбёны ў футбол, любіў яго да апантанасці, як, дарэчы, усе мы, чалавекі, любім тое, што забаронена нам і недасягальна.

Колька Лецечка... Што любіў ён, як выглядаў ён, які быў... Увогуле, самым звычайным. Гарба ў яго не было,

апёкаў і, крый бог, струпоў на твары таксама не было. Але і вельмі ўжо прыгожым ён сябе не лічыў і крыху нават шкадаваў аб гэтым, калі цішком разглядваў у люстэрка свой звычайны твар. Хацелася яму крыху больш і пунсовасці на твары, больш прывабнасці, носа іншага, вастрэйшага, точанага, рымскага, а не бульбачкай. Так, нос, здавалася яму, мог зрабіць яго прыгажуном. Але дзе ты тут возьмеш гэты рымскі нос, калі і вачэй змяніць нельга! Да рымскага носа, зразумела, патрэбны і вочы іншыя, цыганскія, а ў яго... паляшуцкія вочы: калі яшчэ не ўкраў чаго, дык абавязкова ўкрадзе. Да чорных вачэй пасавалі б і валасы кучаравыя, чорныя, з бляскам, цыганскія, а ў яго... Хату ці то хлеў саломай крылі, засталося трохі ад страхі, не доўга ламалі галаву, куды дзець, прызначылі яму рэшткі на валасы.

Але гэтую вонкавую непрываблівасць Лецечка надумаў запоўніць трываласцю духу, характарам, унутраным зместам. Ён выпрацоўваў у сабе волю, гаварыў усім толькі праўду і стойка зносіў усе крыўды, якія выпадалі на яго з-за гэтай праўды, не плакаў. «Мужчыны не плачуць» — гэта быў яго дэвіз. Трэба сказаць, што плакаць-то ён не плакаў, але слёзы іншы раз цяклі. Ніхто не ведаў, што ён выпрацоўвае ў сабе волю, рэжа ўсім праўду ў вочы не таму, што злы, а прынцып у яго такі.

З гэтым прынцыпам яму асабліва нязручна стала жыць апошнім часам. Апошнім часам у дзетдом прыйшло шмат навічкоў, і некаторыя з іх прыйшлі ў дзетдом з калоній.

Стогне горад, стогне дзетдом ад гэтых хлопцаў, якія так нечакана для сябе атрымалі свабоду і вольніцу, звычкі ў іх ужо зусім іншыя, чым у дзетдомаўцаў, і спяшаюцца яны, спяшаюцца нацешыцца гэтай свабодай і вольніцай. Ідуць па горадзе чуткі, што на плошчы абакралі ларок: «І во дзіва, анічагусенькі не ўзялі, адны толькі запалкі...» Запалкі гэтыя патрэбны для «падпеканаў» — самаробных пісталетаў. Гарадскі цір у парку закрыўся на рамонт, а ў лесе страляюць з гэтых самых «падпеканаў» дзетдомаўцы, спаборніцтва ідзе там: чый б’е мацней. Дзень і

ноч не пакідаюць дзетдом дырэктар і выхавацелі. Прыйшла новая выхавацельніца ў Лецечкаву групу. Не паспела ступіць на парог, пастроіла групу, абвясціла:

— Я сама папрасіла групу самых адпетых. Я іх зраблю людзьмі. Я прыйшла навесці парадак. І навяду яго. Занадта мякка тут да вас адносяцца, вось і развялі распусту. З гэтага часу ўсё будзе па-іншаму. Гэта я вам цвёрда заяўляю. Завуць мяне Вера Канстанцінаўна!

— Не,— сказаў Лецечка,— не.

Не даспадобы прыйшлася яму прамова новай выхавацельніцы.

— Што значыць тваё «не»? — спытала яго Вера Канстанцінаўна.

— Не веру я вам,— сказаў Лецечка.— Я тут даўно ўжо, даўно, Лецечка я. «И кто с мечом к нам входил, тот от меча и погибал». Так будзе і з вамі, гэта я вам гавару без падману, таму што заўсёды гавару толькі праўду.

— Вось з цябе і пачну,— сказала Вера Канстанцінаўна і нядобра зіркнула на яго цыганскім вокам і бліснула залатым зубам, зморшчыла рымскі нос, як усё роўна прынюхалася да яго гэтым рымскім точаным носам. І пачалася ў Лецечкі з новай выхавацельніцай — васпеткай — самая сапраўдная вайна. З дня ў дзень невядома за што цягае яго Вера Канстанцінаўна ў кабінет да дырэктарыхі. Парушана вольніца ізалятара. Парушана ў той самы дзень, калі Лецечка сказаў праўду, сказаў тое, што думаў аб новай «васпетцы». І шлюць праклёны Лецечку Козел з Дзыбатым. Яны, зноў жа па праўдзе кажучы, і ваююць з Верай Канстанцінаўнай, Козел ваюе, а ён, Лецечка, пакутуе ад гэтай вайны. У той жа самы дзень пасля сваей заявы Вера Канстанцінаўна пакінула на стале ў пакоі хлопцаў старэйшай групы капейкі. Як быццам забыла. Хлопцы зразумелі яе, раскусілі імгненна. Сабралі нараду, паклікалі Лецечку, Козела з Марусевічам. Козел толькі даведаўся, у чым справа, падбег да стала і з асалодай плюнуў на гэтыя капейкі — на дзесяць, а то і больш карабкоў запалак, на дзесятак, а то і два дзесяткі зарадаў для самапалаў. Следам за ім пачалі падыходзіць

і рабіць тое ж самае іншыя. Усе, кожны па разу, як дамовіліся.

І толькі ўправіліся яны, як у пакой, бы ўсё роўна за дзвярыма стаяла, увайшла Вера Канстанцінаўна. І загрымеў Лецечка, як, пэўна, больш ненавісны Веры Канстанцінаўне, як чалавек, прозвішча якога яна ўжо ведала, у кабінет дырэктарыхі.

— Нядобра, Лецечка, нядобра,— з сумам у голасе сказала дырэктарыха.

— Звяр'ё! — крыкнула Вера Канстанцінаўна.

— Сама звяр'ё! — крыкнуў ёй Лецечка.

— Хто пляваў? — улезла паміж ім і выхавацельніцай дырэктарыха.

— Я пляваў,— і не падумаў адпірацца Лецечка.— І трэба — яшчэ раз плюну на тыя грошы.

— Вось бачыце,— павярнулася да дырэктарыхі Вера Канстанцінаўна.— Вось да чаго даводзіць ваш лібералізм.

— Хто яшчэ пляваў, Лецечка? Я ведаю, ты заўсёды гаворыш праўду і скажаш нам, хто яшчэ пляваў на тыя капейкі,— дырэктарыха зноў звярнулася да Лецечкі.

— Я гавару праўду,— пацвердзіў Лецечка.— Я пляваў, а хто яшчэ — пытайце ў іншых. Я не даносчык і нічога вам болей не скажу.

— Вось бачыце, вось бачыце, да чаго дайшлі...— усхапілася была зноў Вера Канстанцінаўна.

— Ідзі, Лецечка, ступай, — перабіла яе дырэктарыха.

— Я прымушу цябе гаварыць,— крыкнула яму ў спіну выхавацельніца.

Лецечка выйшаў з кабінета і стаіўся за дзвярыма, каб паслухаць, што там будзе пець пра яго Вера Канстанцінаўна. А тая «пела»:

— Не разумею я вас, не разумею. Занадта вы ўжо далікатнічаеце з імі, вось і вынікі. Гэта ж... гэта ж... Маўглі...

Слоўца спадабалася Лецечку, хоць ён і не ведаў, што гэта ці хто гэты Маўглі, але здагадваўся: нядобры чалавек, прозвішча абразлівае нейкае. І ўсміхнуўся сам сабе: хай абражае, хай плюецца, хай пальцы грызе, так ёй і трэба.

Лаянка новай выхавацельніцы не кранула яго, прыкра толькі зрабілася на душы ад таго, што яна давёдалася штосьці аб ім, ведае ўжо, што ён увесь час хварэе, а ён хацеў быць перад ёй моцным і здаровым. Аднак Лецечка падумаў, што ў яго з новай выхавацельніцай усё на гэтым і скончыцца. А ўсё толькі пачыналася. Канца не відно было. Зайшоў Лецечка со сваёй праўдай у такія нетры, з якіх і выйсця няма. З аднаго боку праўда, з другога — Вера Канстанцінаўна, якая патрабавала ад яго праўды, той, якой яму не хацелася гаварыць. А тут яшчэ хлопцы, не толькі Стась і Козел, уся група ўжо коса паглядала на яго: з якой гэта нагоды яго кожны дзень водзяць да дырэктарыхі, у чым ён спавядаецца ёй? Вось якім бокам вылазіла Лецечку яго праўда. І круць-верць, і верць-круць — усяк нядобра...

Вось так выпрацоўваў Лецечка ў сабе волю. А яшчэ марыў ён аб тайне, аб тым, як знайсці яе і адкрыць. Аб тайне, як аб кашальку з грашыма, марылі ўсе дзетдомаўцы. Але Лецечку патрэбна была не просценькая, не звычайная, а самая галоўная, самая вялікая тайна. Праўда, дзе яна таілася, гэтая вялікая тайна, ён яшчэ не ведаў. Але добра ведаў, што яна існуе. Дабярэшся да яе, разгадаеш, і расчыняцца перад табой усе дзверы, расчыняцца неба і зямля. І ты зможаш стаць птушкай, завіруеш па небе, зможаш стаць рыбай — паплывеш у цёплае мора. Ты зробішся моцным, зможаш ірваць, як быллё, векавыя дубы, з карэннем, ламаць іх, як голле. Будуць у цябе рымскі нос, цыганскія вочы і чорныя валасы. Будзеш ты сам зямлёй, небам, будуць табе ўслугоўваць птушкі і звяры, ты будзеш разумець іх мову. Не будзе табе перашкоды ні ў часе, ні ў прасторы. Будзеш ты ветрам, будзеш марской хваляй, мамантам і зубрам, наведаеш Марс і Месяц.

Вось аб якой таямніцы марыў Лецечка. І не толькі марыў, ён увесь час адчуваў яе прысутнасць каля сябе, адчуваў, як яна горача, агнём дыхае. Выпростваў насустрач ёй руку і як апякаўся. Але кожны раз штосьці перашкаджала яму ўхапіць гэтую тайну, нібыта птушанё,

за хвост. Коўзкая была тайна, не ішла ў рукі. Не хапала якойсьці драбязы, дваароту якогасьці калёсіка, і тайна была побач, і тайна была далёка. Побач — гэта дзверы-невідзімкі, схаваныя яркім святлом дня, дзверы, каля якіх усе ходзяць і якіх ніхто не бачыць, а мо не ведаюць таго хітрага слова, якім можна адамкнуць гэтыя дзверы, ад якога яны загарацца агнём і расчыняцца самі. «Аўсень, таўсень, ал лал бел!..» — не, не тое, не тое слова...

Тайна далёка — гэта там, на краі зямлі, дзе зямлі канец, дзе яна абрываецца ўступам, на які яшчэ не ступала нага чалавека. Толькі паткнецца ён туды нагой і — расхінецца новы, невядомы свет. Блакітны і ружовы, шчаслівы. Але як, як да яго дабрысці, да гэтага краю зямлі? Як даведацца таго запаветнага слова: прыдумаць яго самому, падслухаць дзесьці, прысніць? Што для гэтага трэба рабіць? Жадаць? Дык ён і так жадае, што больш нельга: памерці можна. Лецечка прыслухоўваецца да сябе і адчувае: можна, можна памерці ад непамернага жадання. Што ж рабіць, што ж рабіць? Прасіць кагосьці? Ведаць бы — каго. Капаць у зямлі? Зноў жа, дзе? Не спаць ноччу? Спрабаваў. Спаць дзень і ноч? Спрабаваў. Біць каменне, шукаць у каменні? Біў, нічога не выбіў. Магчыма, гэтае слова і тайна ў сэрцы якой-небудзь птушкі, а мо ў яго ўласным сэрцы, а мо ў старым замшэлым пні, у карэнні ці ў вершаліне векавой хвоі. Не ўгадаеш, не ўгадаеш — дзе. Думаць трэба, думаць і ўяўляць.

І яму падабалася думаць і ўяўляць. Мо хто лічыць, што гэта адно і тое ж: уяўляць і думаць, для Лецечкі ж гэта ўсё па-другому. Ён яшчэ не ведаў як трэба нічога на свеце, а ўжо ўяўляў сабе ўсё. Глядзеў на неба, бачыў у небе самалёт і ўяўляў, як і сам ён, нібы птушка, у небе, уяўляў сябе лётчыкам. А думаць і ўяўляць адначасова навучыўся зусім нядаўна, мо тады, калі Сучок сказаў яму пра смерць. Вось тады Лецечка ўявіў сабе спачатку дзетдом, усе тры карпусы, канюшню, сажалку, Лену Лазу, хлопцаў на дзетдомаўскім падвор'і, сонца ў небе. І асобна, крыху воддаль ад усяго гэтага, тайну. Тайна нагадалася яму на гэты раз у выглядзе звычайнага ляснога арэха.

Была тайна, усё было, а яго, Лецечкі, ужо не было. І яшчэ Лецечка ўспомніў, што ў яго з Ленай Лазой калі-небудзь там, у будучым, павінны быць дзеці. А адкуль яны возьмуцца, калі цябе ўжо не існуе. Вось узяць, напрыклад, яго самога...

І тут у яго закалодзіла: ну і што — узяць яго. Адкуль ён сам узяўся? Наогул, ясна адкуль, не маленькі. Зразумела, не з капусты, зразумела, не бусел яго ў дзюбе прынёс... А ўсё ж адкуль ён такі — як ёсць, і яшчэ — навошта, дзеля чаго? Нарадзіла яго на свет маці. А што гэта такое — маці? Цішыня, пустэча была яму за гэтым словам, якісьці туман: бацька, матка... 3 чаго гэта толькі ён сам? Па батаніцы праходзілі, памятае ён яшчэ і сёння пытанне Ваські Козела аб тычынках, песціках і рыльцах... Памятае пунсовую разгубленасць маладой выкладчыцы. Сорам і брыдота. І з гэтага сораму, з гэтай брыдоты, так выходзіць, з'явіўся і ён. Чаму ж яму не сорамна было з'яўляцца, чаму не сорамна было бацькам? Ну, адсеклі б яны сабе на руцэ па пальцу, усё ясна, балюча, а не сорамна. Прыгожа нават. А так...

Але менавіта так, праз гэта ідуць усе на белы свет, праз «сорам, брыдоту». Урэшце, што тут зробіш, калі такая завядзёнка. Урэшце, з гэтым можна, не, не звыкнуцца,— гэта можна вытрываць. Справа тут у іншым.

Усё на зямлі разумна, усё па ланцужку ідзе, і ва ўсім сваё прызначэнне, свая мэта: каровы даюць малако, мяса, бык... бык патрэбен для таго, каб былі каровы, жыта — каб было пад бок гэтым каровам, каб людзі не галадалі, і г. д. Нічога лішняга, непатрэбнага. І загадзя вядома: што, навошта. А ён, Лецечка, не ведае аб сабе нічога: ні хто ён, ні адкуль, ні навошта. Аб чым думалі бацькі, калі пускалі яго на белы свет, і ці былі яны, мо ён ад пальца пайшоў, мо ад палацяў у той чорнай хаце нарадзіўся — хто яму адкажа на гэта?

І стала Лецечку да немагчымасці няўтульна і сумна жыць на свеце. Адышлі крыўды, што нанесла яму выхавацельніца, глупства, дробязь. Больш крыўдна было іншае: не паспеў нарадзіцца, а ўжо нібыта пракляты кімсьці,

за якія грахі? Не паспеў нарадзіцца, не паспеў нічога спазнаць аб сабе, а ўжо, гавораць, час паміраць: дзень добры, дрэва, я дзед-мароз. Яму адкрытыя ўсе дарогі, ён малады гаспадар жыцця, а ён не ведае такой драбніцы, драбязы: што ён такое ўрэшце. Выхавацельніца ахрысціла яго Маўглі, і мянушка ўжо прыляпілася да яго, а ён не ведае нават, што за звер такі гэты Маўглі. Тэлеграфнаму слупу і то лягчэй, стой сабе, як слуп, талерачкі ўніз, трымай дрот, гудзі. А яму, Лецечку, загадана шырока крочыць па жыцці і не быць абыякавым. Адкуль пачынаць жа, у чый крок лучыць? Дзе і ў каго шукаць адказу на гэтыя пытанні? Хто той чалавек, які аслабаніць яго памяць ад мінулага? Чаму ён памятае ад мінулага толькі палаці? Бязглуздзіца, але ж ён увесь у палацях, і да таго, як прыйшлі салдаты ў чорную, курную хату, памяць яго — белы ліст паперы, таму яна, як сведчыць характарыстыка, якую ён атрымаў разам з атэстатам, і такая багатая — няма ў ёй мінулага. Няма ў ёй Колькі Лецечкі. І з яго такі Лецечка, як з таго ж тэлеграфнага слупа хвоя. Няма і ніколі не было на свеце ніякага Мікалая Мікалаевіча Лецечкі. І якім здзекам гучаць словы з той жа школьнай характарыстыкі аб багатай памяці. 3 чым можна тады параўнаць бедную памяць?

«Хто ж я такі ёсць?» — звярнуўся да сябе Лецечка. Аціх, прыслухаўся да сябе, чакаючы адказу, напінаючы, ірвучы памяць, як конь ірве настроні. Але надрыўна толькі тахкала ў грудзях сэрца. І ні ў сэрцы, ні ў памяці адказу на гэтае пытанне не было. Тады ён звярнуўся да зямлі, якая, па словах Сучка, клікала яго да сябе і якой ён пабойваўся ўжо:

— Адкажы ж мне, зямля, адкуль я ёсць і пайшоў? — крыкнуў ён і тупнуў нагой, увагрэў зямлю чаравікам, таму што яна маўчала, не жадала адказваць.

— Фігу ж ты мяне дачакаешся тады, зямля,— сказаў Колька.— Пакуль аб усім не даведаюся, не ўбачыш ты мяне. Крычы цяпер, кліч мяне...— І Лецечка пайшоў у ізалятар, да бадзёрых ужо і свежых Козела і Дзыбатага. І сам ён быў бадзёры і свежы. Рана яму яшчэ было думаць аб смерці, хаця ўжо і прыйшоў Іван Купельнік, і паспелі

суніцы ў лесе па ўзгорках, і вытыркнуліся першыя грыбы-каласавікі.

Ён ведаў пра гэта, хаця яму ніколі не даводзілася ў сваім жыцці збіраць тыя суніцы і грыбы. Ведаў шмат пра тое, аб чым не павінен быў ведаць, з чым да гэтага часу не прыходзілася яму сустракацца. Іншы раз сам з сябе дзівіўся: адкуль толькі што бярэцца ў галаве? Чаму яна на адно такая пустая, а на другое... І пад зямлёй не схаваць ад яго гэтае другое. Дзівіўся, пакуль выпадкова не падслухаў размову ўрачыхі і бабы Зосі. Баба Зося скардзілася ўрачысе, што ён, Лецечка, апошнім часам зрабіўся якісьці не такі, праніклівы, бачыць нябачнае, чуе нячутнае. І яшчэ яна сказала, што гэта прыкмета нейкая нядобрая. Урачыха пацвердзіла, што так, нядобра гэта.

— Але што зробіш... Усе яны адтуль такія ў шаснаццаць-семнаццаць гадоў... Век іх такі, шаснаццаць-семнаццаць гадоў...

У прыкметы Лецечка не вельмі верыў, а ў тым, што ён не такі, як усе, асаблівай навіны не было. І яго не вельмі засмуцілі словы ўрачыхі пра век, не былі ўжо і яны ў навіну. Але ён спадзяваўся, спадзяваўся... Да таго ж яму спадабалася гэта — чуць нячутнае, бачыць нябачнае. Ён жадаў гэтага, праг незвычайнага, магчыма, дзесьці за гэтым незвычайным ёсць і паратунак. І цяпер Лецечка спяшаўся ў ізалятар: мо там, пакуль яго не было, адбылося што-небудзь незвычайнае.

## III

— Добрай раніцы, Лецечка-авечачка,— пяшчотна прапела, стрэўшы Кольку ў калідоры, баба Зося. Колька ад нечаканасці пераблытаў, якой нагой ступаць: адкуль гэтыя цялячыя далікатнасці, якая ён бабе Зосі авечка? То слова ад яе добрага не пачуеш. Ходзіць сабе, гугнявіць у нос, нібыта яны, Лецечка, Козел, Дзыбаты, у пакаранне ёй дадзены, ці па-зладзейску, цішком корпаецца ў сваёй скрыні,

пераkладае з месца на месца зжоўклыя паперкі, пакрыўджана цыруе ўсялякае рыззё. І ці бачыць яшчэ штонебудзь, акрамя гэтага рыззя, не зразумееш.

Не зразумееш, хто яна і ў дзетдоме: нянька, медсястра, цётка, бабулька ці то дзетдомаўская маёмасць накшталт тумбачкі, ложка. Колькі памятае сябе Лецечка, заўсёды яна жыла ў дзетдоме. І была ў ёй якаясьці тайна. Магчыма, гэтую тайну прыплялі да яе самі «недаробкі». Яны ў сваёй ізалятарнай адасобленасці былі здатныя на пляткарствы, на прыдумку, таму што не прызнавалі абыдзёнкі, пазбягалі абыдзёнкі. Абыдзёнка была іх жыццём, а яны ў ім прагнулі незвычайнасці.

Баба Зося была для Лецечкі не проста бабай Зосяй, сухенькай ружовашчокай бабулькай са жвавымі вочкамі, густой сівізной, яна была коласаўскай шляхетнай пані Ядвісяй з трылогіі «На ростанях». Усё ж супадала — бабе Зосі было цяпер прыкладна ж столькі год, колькі магло б быць і пані Ядвісі, была яна, баба Зося, калісь, пэўна, і прыгожая. Што стала з Ядвісяй пасля яе кахання да Лабановіча, невядома, невядома, што было і з бабай Зосяй да гэтага часу. Хутчэй за ўсё тое было і стала, што яна ёсць цяпер. Хіба ж яна магла пакахаць каго-небудзь пасля Лабановіча? На тое ж, што бабу Зосю ўсё ж завуць Зосяй, а не Ядвісяй, не зважалі. Змяніла імя, і ўсё. Не захацела адкрыцца, не захацела, каб людзі наракалі, што адвергла каханне Лабановіча, лічы, самога Коласа, таму што, усім жа вядома, Лабановіч — гэта, лічы, і ёсць Колас. І баба Зося-Ядвіся хадзіла, блукала па свеце, перажывала, што яна была дурная. А потым прыбілася да дзетдома і дзетдомаўцаў. А маўчыць аб сабе, дажывае свой век, думаючы пра сваё першае каханне. Чытае пажоўклыя запіскі, якія пісаў да яе Лабановіч, а мо і сам Колас, ходзіць па калідоры, бурчыць на Лецечку, Козела, Дзыбатага, грэбліва падбірае тонкія вусны.

За знаёмства з Лабановічам, за любоў да яе Коласа-Лабановіча — а ўсё гэта было бясспрэчна, стала бясспрэчным, як толькі яны дадумаліся да гэтага,— Лецечка, Козел, Дзыбаты даравалі бабе Зосі ўсё: і сцятыя вусны,

і бурклівасць, і прамую да іх варожасць. Больш таго, мо менавіта за гэта яны і любілі яе.

А трэба сказаць, што па-за сценамі ізалятара баба Зося асаблівай павагай не карысталася. Быў за ёй грэх, любіла яна сёе-тое і пераказаць дырэктарысе аб хлопцах. Але і Лецечка, і Козел, і Дзыбаты не зважалі на гэта, і ў сваім ізалятарным жыцці яны стварылі, «вылепілі» сваю бабу Зосю, ні ў чым не падобную да той, якой была яна ў сапраўднасці, якой ведалі яе іншыя. У картовай, як і ўсе дзетдомаўкі, рудой сукенцы, у хлапчуковым, таксама казённым, пінжачку, у казённых хлапчуковых чаравіках яна была для іх сваёй, дзетдомаўскай, свой хлопец — баба Зося, і яны абыходзіліся з ёю, як са сваёй. Але варта было бабе Зосі скінуць з сябе кургузы дзетдомаўскі пінжачок і апрануцца ў блакітную, цёплую, з трусінага пуху кофту, белую з таго ж пуху касынку, як гэтая свойскасць тут жа страчвалася, яны шукалі і знаходзілі ў бабе Зосі сляды былой прыгажосці, шляхетнай ганарлівасці і стрыманасці. І яны ўшаноўвалі яе і за гонар, і за стрыманасць, і за строгасць. Такая яна была звычайна з раніцы. А гэтай раніцай з ёю адбылося штосьці незразумелае. У касынцы, у кофце — пры ўборах, і на́ табе — пяшчотнасць ды лагоднасць: «авечачка».

— 3 чаго ета ты на сябе не падобная, хоць да раны цябе прыкладай? — асмеліўся, спытаў бабу Зосю Колька, у нерашучасці тупаючы па падлозе, сцяўшыся ад дзёрзкасці сваёй. Баба Зося пачула гэтую дзёрзкасць у яго голасе, здзіўлена і шырока раскрыла вочы, і зноў у гэтых вачах прамільгнула штосьці даўняе, шляхетнае, ганарыстае. Але баба Зося хуценька прытушыла бляск у вачах.

— Ідзі прыбірай караваць, дзіцятка,— загадала яна Лецечку, але загадала зноў жа без строгасці, і Колька пайшоў, недаўменна пацепнуўшы плячыма, гадаючы сам сабе, што такое сталася сёння з бабай Зосяй.

Козел і Дзыбаты сустрэлі яго стрымана. Ім ужо даўно былі не даспадобы гэтыя раннія ўставанкі Лецечкі. То жылі мірна, дружна, разам клаліся, разам засыналі, разам

уставалі, а тут раптам Лецечка стаў штосьці выкаблучвацца, аддаляцца ад іх. Але ні Козел, ні Дзыбаты, зразумела, уголас аб гэтым нічога не сказалі, ды Лецечка ўсё скеміў і па іх маўклівасці. І сам загаварыў аб іншым, аб тым, што было незразумелае яму.

— Баба Зося заходзіла да нас?

— Заходзіла,— адказаў Козел,— і вельмі злавала, што зноў знік кудысьці.

— Не перабольшвай,— не даў Козелу схлусіць Дзыбаты,— запытала толькі, дзе ты ёсць.

— Запытала толькі,— ускочыў з крэсла і пабег па пакойчыку Козел, пабег кругa ложкаў, кругa прыбранага ўжо, са свежым настольнікам, стала, на якім па-сірочы блакітнелі незабудкі, што баба Зося паставіла яшчэ ўчора, спыніўся каля Калькі.

Але Колька рабіў выгляд, што не бачыць Козела, не адрываў вачэй ад незабудак, якія здаваліся ў іх аднатонным белым жытле не толькі іншароднымі, а нават і вылодлівымі. Трывогай павявала ад іх шклянога блакіту. Колька не вытрымаў, абышоў Козела, зняў са спінкі свайго ложка чорныя, з бліскучай стальной дужкай радыёнавушнікі, паклаў іх каля шклянкі з кветкамі. І кветкі ажылі, але для раўнавагі яшчэ чагосьці не хапала. Лецечка азірнуўся, шукаючы гэтага чагосьці. Козел апярэдзіў яго, грэбліва, адным пальцам, падчапіў навушнікі за бліскучую дужку і павесіў на ранейшае іх месца. Колька ўсміхнуўся: Козел бачыць, як і ён, Лецечка, толькі баіцца быць шчырым.

— А цяпер пагаворым шчыра,— сказаў Козел, звярнуўшыся да Лецечкі.

Але гаварыць шчыра Козелу перашкодзіла баба Зося. Яна ўвайшла ў пакой і паставіла на стол каля кветак двухлітровы глёк з малаком. Глёк поўны-поўненькі, з контурам белай пены. Колька ўзрадаваўся, але не малаку, а нечаканаму з’яўленню бабы Зосі, якая пазбавіла яго ад размовы з Козелам. Яшчэ ўчора ён быў бы рады і малаку, але сёння штосьці ўжо занадта прыхільная да яго баба Зося. У будзень малака прынесла. А мо свята якое сёння?

— Сёння, дзеці, снедаць будзем у ізалятары,— абвясціла баба Зося, страсаючы з настольніка нябачнае смецце. У голасе бабы Зосі пры ўсёй яе буркліваcці Лецечка пачуў нязвыклыя для яе дырэктарскія ноткі. І гэты фальш у яе голасе, загадны тон як знялі Кольку з месца і закруцілі яго па пакоі. Колькі можна ім камандаваць? Колькі можна: таго нельга, гэтага нельга, таго не бяры, туды не ступі! А чалавек амаль што пражыў ужо сваё жыццё, лічаныя дні засталіся чалавеку жыць на гэтай зямлі. Дык мае ён права быць самім сабой, рабіць тое, што яму хочацца, хаця б у гэтыя апошнія дні? Мае. Хопіць. У гэтыя апошнія дні ён павінен жыць, як жыве мужчына ў свае апошнія дні.

Але, як павінен жыць мужчына ў свае апошнія дні, Лецечка не ведаў. Хутчэй за ўсё не так, як ён жыў да гэтага. А як? Лецечка з нянавісцю і агідай пазіраў на малако, што прынесла баба Зося, і было яму моташна ад гэтага малака, прыкра было Лецечку і ад таго, што аб ім так клапоціцца баба Зося, прыкра яму было і ад прысутнасці Козела і Стася, прыкра да агіднасці было ад устойлівага паху лякарстваў і хвароб, якія праелі ўжо гэтыя белыя з рудзінкай сцены. Ён не хацеў больш заставацца ў гэтых сценах. Калі ўжо яму наканавана памерці, дык лепей упасці на хаду, на бягу, пад адкрытым небам, каб можна было на развітанне раўнуць па-звярынаму, без рызыкі разбурыць штосьці, без рызыкі абваліць на сябе столь і сцены, каб лёгкім хапіла паветра на апошні ўздых, каб ён паплыў над зямлёй, дасягнуў неба. Туды, на свежае паветра, да хлопцаў, дзе бяжыць, бяжыць па сцежцы саду, смыгаючы на хаду трусікі, Бурачок, дзе смех і раззлаваная Лена Лаза.

— Як хто, а я снедаю сёння разам з усімі, у сталоўцы,— цвёрда сказаў Лецечка.

— Не, Лецечка, не, дзіцятка...

Але Лецечку ўжо было не спыніць. Ён ляпнуў дзвярыма і, разам з кіруючым да сталоўкі людам, памчаў па дарожцы саду, куды не хацелі яго пускаць і дзе так смачна пахла. Хаця, памчаў — гэта, мабыць, гучна для яго сказана. Ён хутчэй клыхаў, чым бег, старанна стрым-

ліваў сябе на спусках, аббягаў, абмінаў карэнне, пянькі. Хочаш не хочаш, а прыходзілася вось так стрымліваць сябе. Сэрца жыло ў ім гэтай раніцай неяк непрыцёрта да цела, і на кожным кроку гэтая непрыцёртасць муляла болем. Нібыта сэрца няспынна кублілася там, у грудзях, згубіла сваё законнае месца і не магло адшукаць яго. Лецечка не жадаў прыслухоўвацца, засяроджвацца на гэтых сардэчных ускідках, імкнуўся думаць пра нешта старонняе, прыемнае, але мімаволі ўсе думкі сыходзіліся на адным, якімі б кружнымі шляхамі яны ні беглі. А ўпартасць і свавольства, з якімі ён кінуў-рынуў малако і ізалятар, і гэтае клыханне-бег бадзёрылі яго. Як ні наракае сэрца, а бегчы цудоўна. Калі ты бяжыш, і жыццё бяжыць, ты нібыта ўтыкаешся ў яго, прасаджваеш яго наскрозь, здзіраеш з сябе напластаванае гадамі, і не хвароба, а прахалода нязведанага ахутвае цела. Ёсць, ёсць смак у хуткасці, у скорасці. На зямлі ж дваццаты век, век скорасці, і як пражыць яго і не адчуць скорасці, імклівага руху паветра, што струменіць па твары і руках і растае ў сэрцы, ахутвае сэрца водарам і халадзінкай мяты. І зямля, што знікае з-пад ног, пакінутыя табой ззаду дрэвы — адкінутае табой і адразу ж забытае мінулае, якое ўпісалася больш у вочы табе, чымсьці ў памяць.

Але былі ў Лецечкі гэтай раніцай дзіўныя пранікнёнасць і тамленне. Ад ізалятара да сталоўкі семдзесят, ад сілы сто метраў. І на кожным з гэтых метраў яму адкрывалася не ўбачанае, не прыкмечанае раней. Так, па белых кроплях на сцяжынцы, якая пятлёй ахапіла старую грушу, ён, бегучы, згледзеў замаскіраванае ў голлі гэтай грушы кубло ястрабка, здаецца, пачуў і ўбачыў, як пішчаць і цягнуць голыя шыі птушаняты ў гэтым кубле. Кінуўшы вока на сцяжынку, пратаптаную не адным пакаленнем дзетдомаўцаў, усё роўна як згледзеў мноства слядоў і ног, якія пратоптвалі яе, згледзеў другую сцяжынку, якую пракоўзалі мурашкі. Мурашкі былі чорныя, земляныя, маленькія і таксама, пэўна, спяшаліся ў сталоўку, сваю, мурашыную, сталоўку. І вялі іх, пэўна, свае, мурашыныя, пахі. Мурашкі ішлі накацiста, валам, у глыб саду. Колька

3. Зак. 780.

спыніўся, загарадзіў ім дарогу пальцам. Мурашкі замітусіліся. Тыя, што паперадзе, лезлі на тых, задніх. Тыя, што паперадзе, як сляпыя кацяняты, тыцкаліся ў яго палец, абнюхвалі гэты яго палец. Хваляванне сярод іх нарастала. Яны не здолелі самі сябе супакоіць, падумаць, яны былі наладжаны на рух, на нейкую сваю зыходную мэту. І рухаліся, рухаліся, напаўзалі адно на аднога, злосна страсалі з сябе сваіх больш нецярплівых і жвавых братоў і сярдзіта, па-пчалінаму, калі пчала ўжо ў роспачы, калі яна вось-вось уджыгне цябе, ускідвалі ўгару адлакіраваныя чэравы, змыкаліся і размыкаліся іх адлакіраваныя жвалы. І вось з пяць ці то болей самых разумных або самых дурных мурашак учапіліся Лецечку за палец. Лабастыя, настырныя, яны маглі перегрызці яму палец і пракласці сабе дарогу. Павіслі на пальцы, дзерлі, шкуматалі ва ўсе бакі. Палец ужо стаў чорны ад наліплых мурашак, Лецечка ўжо баяўся за яго. Але тут штосьці здарылася ў мурашыным царстве, аб'явіліся новыя важакі і пайшлі ў абыход пальца. Пайшлі туды, куды клікала іх жыццё, не звяртаючы ўвагі на сваіх таварышаў, якія намёртва сашчапілі свае жвалы на перашкодзе, што паўстала на спрадвечнай іх дарозе, усё роўна як даручылі жыццём і смерцю ўтрымаць, абараніць іх шлях ад новых замахаў звонку. Даручылі і забылі пра іх, адракліся, асудзілі на смерць, таму што ў тых, хто ішоў, каму нішто не замінала ісці, была ўжо свая, іншая мэта, была свая дарога, свабодная дарога.

— Бачыш ты, кемлівыя,— сказаў Колька і асцярожна строс з пальца мурашак, зняў палец з мурашынай сцежкі, быццам развітаўся з імі назаўсёды, паклыхаў далей, разважаючы аб разумным і жорсткім жыцці мурашак, аб тым, ці ёсць у іх сэрца. А калі і ёсць, якое яно? Пэўна, не больш варсінкі. З такім сэрцам зручна жыць. Пад ногі Кольку кінуўся дзетдомаўскі сабака Асталоп і заклыхаў побач з ім, гулліва памахваючы кудлатым, у дзядоўніку, хвастом. «Без нагі,— падумаў Колька.— А сэрца здаровае, сабачае сэрца».

— Давай памяняемся сэрцамі,— памяркоўна звярнуўся да Асталопа Лецечка, загаварыў з Асталопам лагодна і з пяшчотай, хаця і не вельмі любіў яго за празмерную асталоплівасць. Асталоп, пачуўшы добрае слова, нязграбна скокнуў Лецечку на грудзі, лізнуў яго і не ўтрымаўся, упаў дагары, заенчыў, засукаў, засукаў кульцяй. Колька спыніўся, хацеў дапамагчы яму ўзняцца, але Асталоп ужо і без яго дапамогі быў на трох лапах, цягнуў, клікаў уперад. «А мне ўжо з такім спрытам не ўзняцца»,— падумаў Колька і запаволіў крок, шкадуючы, што пакрыўдзіў Козела і Дзыбатага, збег ад шчырай гаворкі з імі. І ці выпадзе калі яшчэ такі час? А ён часцяком быў несправядлівы да Козела, груба абышоўся і з бабай Зосяй. А Козел любіць яго, гаворыць з ім ноччу, калі ён не мае сілы заснуць, улагоджвае яго, вучыць гуляць у шашкі. А баба Зося, відаць, купіла малако ў цёткі, што жыве насупраць дзетдома, купіла за ўласныя грошы.

Пяшчота, нейкая нават слязлівасць ахапілі Кольку. Як да яго ні ставіліся Козел, баба Зося, а ён любіў іх, усіх любіў. Любіў мурашак, хаця, даводзілася, і забіваў іх, душыў, калі яны траплялі пад рукі. Але няхай жа цяпер ведаюць мурашкі — ён забіваў іх не таму, што ненавідзеў, а з-за дзетдомаўскай звычкі спрабаваць усё на трываласць, і Асталопа, які б ён ні быў асталоп, ён таксама любіў заўсёды. А калі і цэліў у яго каменем ці палкай, дык зусім не таму, што адчуваў асалоду ад чужога болю і чужога плачу. Ён экзаменаваў Асталопа на кемлівасць і спрыт, экзаменаваў, зразумела, жорстка, несправядліва. Але ён будзе, будзе справядлівы да ўсяго адушаўлёнага і неадушаўлёнага.

Імкненне да неадкладнай, імгненнай справядлівасці такім цяжкім грузам легла на Кольку, што ён спыніўся, кінуўся да Асталопа, абняў яго. Сабака як не ашалеў ад гэтай неспадзяванай ласкі, заенчыў, завыў уголас, прыклаў хвост да жывата і стрэльнуў у кусты, памчаў, высока ўскідваючы азадак.

Колька з замілаваннем панаглядаў за гэтым пакрыўджаным мячыкам-азадкам, што скакаў у траве, і

ўжо ўзяў кірунак да ізалятара, каб і там аднавіць парушаную ім справядлівасць у адносінах да Козела і бабы Зосі, але раптам перадумаў. Штосьці незразумелае адбывалася каля сталоўкі, быццам у дзетдом наскочыла якоесьці племя індзейцаў, не хапала толькі вогнішчаў, а так апантана білі тамтамы, гучалі ваяўнічыя воклічы, з узнятымі ўгору рукамі бегалі галапузыя дашкаляты, чырванаскурыя. І Колька палічыў, што аднаўленню справядлівасці зусім не пашкодзіць, калі ён спачатку ўведае, што сёння за вэрхал такі ля сталоўкі.

Каля дзвярэй у сталоўку яго спыніў Андрэй, Бурачок-большы.

— Ты галодны ці цікаўны? — з крывой усмешкай і звысака спытаў ён Лецечку. Колька быў галодны, але і інтэрас меў, таму толькі матлянуў галавой: разумей, маўляў, як хочаш. Спачатку Лецечка наогул не хацеў Бурачку адказваць, але, памятаючы аб толькі што прынятым рашэнні быць да ўсіх справядлівым, палічыў, што не варта абыходзіць справядлівасцю і Бурачка. На першым жа кроку пачыналіся супярэчнасці, на першым жа кроку трэба было змагацца з самім сабой: справядлівасць да Козела, бабы Зосі, Асталопа была неабходная і абгрунтаваная, а як паводзіць сябе з гэтым асталопам Бурачком?

Не цярпеў ён Бурачка і разам з тым вінаваціўся перад ім. Нецярпімасць гэтая аднойчы прарвалася, як прарываецца струп. Пабіўся аднойчы Лецечка з Бурачком, даў кухталёў. Наогул справядліва даў. Але, ведаючы, што справядліва, прыгадваў ён той выпадак з сорамам і агідай да сябе, да сваіх рук, якія білі чалавека...

У школьнай бібліятэцы Бурачок узяў кніжку Мало «Без сям'і». Узяў — і ці згубіў, ці то прадаў камусьці. Бібліятэкарка папрасіла Лецечку ўздзейнічаць на Бурачка. Лецечка ў свой час таксама чытаў «Без сям'і», і вельмі ўжо кніжка прыйшлася яму даспадобы. І ён ахвотна згадзіўся ўздзейнічаць. Сустрэў Бурачка аднаго, у садзе:

— Дзе кніжка, каму загнаў?

Бурачок таптаўся на месцы, асуджана паглядваў на сціснутыя проста так, дзеля пераканаўчасці, кулакі Лецечкі і маўчаў.

— Скажаш ты, гад, ці не: куды запраторыў кніжку?

Бурачок, як і да гэтага, не адрываў вачэй ад Лецечкавых рук. І маўчаў. І ў яго маўклівасці гучала: чаго ты марудзіш, чаго ты душу матаеш, давай вучы, бі! І Лецечка ўдарыў Бурачка, пакорлівага, безабароннага, гатовага прыняць удар. Яго абурыла спруцянелая пакорлівасць, гатоўнасць Бурачка прыняць удар. А Лецечка першы раз у жыцці ўдарыў чалавека. І нічога не адбылося. Рука адчула сілу, ёй падабалася біць. І Лецечка ўдарыў яшчэ і яшчэ, біў і глядзеў у вочы Бурачку і бачыў, як набрыньваюць яны слязьмі, як яны пакорліва пакутуюць. І тут Лецечка адчуў агіду і нянавісць да сваёй рукі, хоць адсякай яе. Ён ужо асыпаў Бурачкаградам новых удараў. Цяпер ён біў яго ўжо не за кніжку, а за пакорлівасць, за тое, што Бурачок давёў яго да ўдару. Бурачок Лецечку тады так і не адказаў. І з таго часу Лецечка не любіць Бурачка і вінаваціцца перад ім. І як яму паводзіць сябе перад ім, не ведае. Тут яшчэ трэба падумаць, паламаць галаву, і кіўнуў ён яму цяпер зняважліва, як сказаў: адчапіся ад мяне. Бурачок-бурачок, але зразумеў, што да чаго, заступіў Кольку дарогу.

— Я на пасту,— сказаў ён,— загадана нікога не прапускаць.

Бурачка асадзілі хлопцы, што стаялі ўбаку, кіравалі ўсім, але рабілі выгляд, што іх тут і няма, хлопцы са старэйшай групы далі зразумець Бурачку, што таго, хто з ізалятара, можна і прапусціць. Але ўцяміў гэта Колька крыху пазней. А ў тую хвіліну ён адціснуў плячом Андрэя Бурачка і прайшоў у сталоўку, у тое, што яшчэ ўчора было сталоўкай. Сёння ж там было перавернута ўсё дагары нагамі. Сталы, крэслы як змецены ў адну кучу, і на самым версе гэтай кучы хлапчукі з малодшай дашкольнай групы, як апантаныя, грукалі лыжкамі па металічных талерках, крычалі, што каму на язык трапіць.

— За што змагаемся? — напяў голас і Колька, паспрабаваў заглушыць гэты вэрхал. Але ў адказ яму грымнула такое сакавітае і зладжанае: «Пайшоў вон-вон-вон!» — так металёва выбухнулі талеркі, што ён вылецеў са сталоўкі, нібыта выспятка атрымаў.

Разгулялася дзетдомаўская вольніца, дзетдомаўцы адмовіліся ад снедання. Дык вось чаму баба Зося не пажадала, каб ён, Васька Козел і Стась Дзыбаты ішлі сёння снедаць у сталоўку. Вось чаму, як у свята, яна збегала сёння па малако... Тое, што адбываецца сёння, выспявала ўжо даўно. Лецечкава вайна з новай выхавацельніцай стала вайной усяго дзетдома. А ён нічога і не ведае... Вера Канстанцінаўна цяжкой рукой наводзіла ў дзетдоме парадак. З прыходам Веры Канстанцінаўны ў дзетдом самапалаў у ім не паменшала, а стала яшчэ больш. Ужо двух хлопцаў з адарванымі пальцамі адвезлі ў гарадскую бальніцу. Ужо сталі пабойвацца дзяжурныя выхавацелі заходзіць у палату пасля адбою да старэйшых хлопцаў, некаторыя з гэтых хлопцаў і самі з'яўляліся ў дзетдоме толькі тады, калі прыходзіў дзень, ноччу ж знікалі немаведама куды. Невядомы глухі і грозны непакой апанаваў дзетдом і дзетдомаўцаў. Штосьці паварочвалася гэтым летам у дзетдоме і дзетдомаўцах — і немаведама ў які бок. У дзетдом, як ніколі да гэтага, прыйшло шмат новых выхаванцаў, і, як ніколі да гэтага, шмат старых выхаванцаў рыхтавалася пакінуць яго.

Прыйшлі навенькія не толькі з калоній, але і з навакольных вёсак. Штосьць здарылася гэтай вясной і ў вёсках, там раптам выявілася вялікае мноства сірот, якія жылі да гэтага часу пры бабульцы ці пры маці, але без бацькі. І вось гэтыя бабулькі, дзядулькі, удовы, асабліва ўдовы, якія ўсё чакалі, чакалі ды так і не дачакаліся з вайны мужыкоў, цягнулі на сваіх плячах столькі гадоў ад вайны ўнукаў, сыноў, дачок, раптам як у адну гадзіну пачалі перагараць. Пачалі паміраць у самы непадыходзячы час, калі ўсё ўжо бралася на жыццё, калі ў магазінах пачаў ужо з'яўляцца нават белы хлеб, калі ўжо былі адсечаны хвасты ў чэргаў да прылаўкаў з хлебам. І пачалі хутка-

хутка поўніцца дзетдомы сіротамі ўжо іншага пакалення і інакшай закваскі, сіротамі, сіроцтва якіх было, пэўна, яшчэ больш жахлівым, чым ваеннае, таму што было яно пераходным, неспадзяваным, невытлумачальным, таму што гэтыя сіроты ведалі, што такое родны дом, а большасць з іх нават ведала і што такое маці, якая памерла на іх вачах, захлынаючыся іх і сваімі слязьмі. Трапіўшы ў дзетдом з глухіх вёсак, яны ведалі штосьці большае і аб жыцці, чым тыя, хто ўсю сваю свядомую жытку пражыў у дзетдоме. Але яны яшчэ не зведалі, што дзетдом — гэта таксама сям'я, што ўсе яны там браты і сёстры. А старыя выхаванцы, амаль што былыя ўжо, выменьвалі на свае зношаныя рэчы, рэчы новыя для самастойнага жыцця. Думкамі яны былі ўжо ў дарозе. І сум у іх быў развітальны, буйства, свавольства і непаслухмянасць — разлучальныя. Буйства і свавольства, да якіх схільныя не толькі дзеці, але і дарослыя, калі яны ў дарозе.

І вось такое буйства і свавольства, летнюю нечаканую паводку, узялася ўвесці ў берагі Вера Канстанцінаўна. Яшчэ ўчора на вячэрняй лінейцы яна аб'явіла дзетдомаўцам, што ад заўтрага ў іх, у Слабадзе, не спецыяльны дзетдом, а звычайны.

— Наш дзетдом быў спецыяльным дзіцячым домам таму,— гаварыла яна, зіхатліва паблісквваючы ў паўзмроку залатым зубам,— таму што жылі і выхоўваліся ў ім дзеці франтавікоў, якія загінулі на вайне. Сёння мы іх выпусцілі ўжо, амаль усе яны на прамой і сонечнай дарозе самастойнасці. Дзяржава зрабіла для іх усё. Дзяржаве сёння, як ніколі, патрэбны рабочыя рукі. Мы — змена нашых бацькоў — павінны дапамагчы. Фабрыкі і заводы ждуць нас. І калі мы раней дзяржалі вас у дзетдоме да семнаццаці гадоў, то сёння мы не можам дазволіць сабе гэтага. Сем класаў — і перад вамі адкрыты ўсе дарогі. Гасударства — не дойная карова, панятна я гавару? Гасударству тожа нялёгка, трудна, урэменныя труднасці былі, ёсць і будуць, панятна я гавару? Усё тады ясна.— Вера Канстанцінаўна скончыла і паглядзела на дырэктарыху, якая з ёй таксама была на лінейцы.

— Так, дзеці… так,— сказала дырэктарыха,— зразумейце і мяне, дзеці. Можаце разыходзіцца.

І дзеці разышліся. Учора, пасля звычайнай спецдзетдомаўскай вячэры, яны, здаецца, разумелі ўсё. Разумеў усё і Колька Лецечка, калі стаяў на лінейцы. Ён любіў гэтыя вячэрнія лінейкі, калі ад саду і сажалкі павявае хвалюючай ядранасцю, калі маладзік ці поўня ўблытаюцца ў голле яблыні ці спусцяцца да вады, а ад дарогі цягне цяплом і спакоем, шугае жарам, растопленай смалой ад стракатай трыбуны, што выстаяла на сонцы цэлы дзень, трыбуна і дарога тояць яшчэ ў сабе летні дзень, сочаць гэты дзень, трыбуна патрэсквае ў абдымках вечара, а дарога распаўзаецца цестам, прыманліва і цьмяна б'е ў вочы выбітая за дзень да белага пяску коламі машын і падвод каляіна; калі так добра стаіцца ў цішы і прахалодзе вечара і калі верыцца ва ўсё лепшае пад ціхі руп сцяга, што стомлена апускаецца ўніз, скрабе мачту. Нялёгкі выпаў сцягу дзень: яго пякло сонца, трапаў ветрык, і дождживк, здаецца, крапаў на яго, скоры летні дожджык, не з хмар, а з-пад сонечных промняў, што коса бягуць на зямлю. Забавілася на хвіліну сонца, трывожна закрылася далонню, прыкмеціўшы на сваім шляху дзетдом, пырснула дажджом сонечнае праменне. Прамок крыху сцяг, забавіўся дзяжурны па лінейцы: ці то варон лічыў, ці то прыдрамаў на спёцы, не паспеў сцяг спусціць. Кінуўся да мачты, а дожджыку ўжо і няма. Прыбрала ўжо далонь сонца і спёкай налегла на зямлю, на сцяг, на плечы дзетдомаўцаў, што выйшлі ў той гарачы час на калгаснае поле палоць кукурузу, на плечы дзетдомаўцаў, якія ў той час на дрывотні калолі дровы. І вось цяпер навярэджаная, гарачая ад дзённай працы рука дзетдомаўца павол перабірае спружыністы шнур, спускае стомлены сцяг з мачты. Спускае, не спяшаючыся, убірае ў сябе разам з вечарам урачыстасць хвіліны. І сцяг не спяшаецца. Вочы ўсіх дзетдомаўцаў пільна сочаць за ім, а сцяг злёгку толькі пакалыхваецца, не ад ветру, ад стоенага дыху хлопцаў і дзяўчат, ад узрушанасці іх сэрцаў. Сцяг не такі ўжо, як у пачатку лета, палымяны, таму што ён устае разам з зарой,

ён ужо злёгку пасечаны нечаканым дождыкам і калючым ветрыкам, як і той баявы сцяг, што не для парадаў, а для самых лютых атак. І глядзіць сцяг у вочы дзетдомаўцаў, як глядзеў той баявы ў вочы іх бацькоў. І дзетдомавец, які цяпер спускае сцяг,— сёння лепшы дзетдомавец. Гэта там, на дрывотні ці на калгасным полі, ён дамогся права стаць пад сцяг, даць адпачынак і сцягу. Мінуту назад усе, што стаяць цяпер на лінейцы, нават самыя адпетыя з іх, чакалі: а раптам для ўрачыстага спуску сцяга выклічуць яго. З заміраннем сэрца чакаў, што прагучыць і яго прозвішча, і Лецечка, хаця ведаў — не прагучыць, каго-каго, а яго не выклічуць, няма, не вынайдзена яшчэ ў дзетдоме такой работы, на якой і ён мог бы стаць адметным. Ён вызвалены ад працы, таму і не паднімаць, не спускаць яму сцяга. Толькі глядзець, глядзець і зайздросціць, як гэта робяць іншыя.

Але ўсё роўна ў гэты вячэрні час, у гэтай вечаровай урачыстай ацішанасці, калі зямля аддае ночы прыдбанае за дзень цяпло, што мае быць лепей, чым слухаць, як пад цвірчэнне конікаў віруе, трымціць на ветрыку сцяг. Ужо адно тое, што ўсе яны цяпер разам, з'яднаныя адным строем і вечар на ўсіх адзіны, адзіны на ўсіх сцяг, адна на ўсіх трыбуна, сцішвае сэрца, прымушае яго біцца мерна і выразна. Надае веры, што за вечарам, ноччу зноў прыйдзе раніца, прыйдзе новы вялікі дзень. А новы, не разменены, не разбаўлены, скрухай і крыўдай, значыць, лепшы. Лепшае ж заўсёды там, наперадзе. Лепшае — гэта тое, чаго яшчэ не было, незведанае. І дзетдомаўцы ўчора аднесліся да весткі, абвешчанай Верай Канстанцінаўнай, як адносяцца да дня пражытага ўжо, скончанага.

Але вось прыйшло сёння, прыйшлі і яны ў сталоўку: хлеб — строга па пайцы на брата, на першае — якоесьці блакітнае сёрбава, на другое — кукіш з маслам. Адзін незадаволена буркнуў, другі — адшпурнуў ад сябе талерку, а трэці проста ўзрадаваўся, што ёсць магчымасць пасваволіць. І абудзілася, пайшла гуляць вольніца. Прыгадаўся час, калі іх толькі звозілі ў гэты дзетдом, а час той быў не такі ўжо і даўні, і анёламі яны ніколі не

4. Зак. 780.

былі. І паляцелі ў кухараў, на падлогу талеркі з сёрбавам. Кухары зніклі, пахаваліся, замкнуліся ў кухні. Дзяжурны выхавацель пабег па дырэктарыху, і ўсякае разуменне, і ўсякая разумнасць, з якімі яшчэ ўчора дзетдомаўцы стаялі на лінейцы, сёння былі імі страчаны. Забыў аб сваёй учарашняй згодзе і Лецечка. Сапраўды, несправядлівасць учынялася на свеце. Хто гэта там асмеліўся пашкадаваць яму хлеба? Хто гэта пакваліўся на яго законную пайку? Не, што яму «положено», з-пад зямлі выцягні ды пакладзі на стол. Колька не прыкмеціў і сам, як ужо лямантаваў разам з усімі, разам з усімі хмурна маўчаў. Маўчаў і крычаў не таму, што яму да зарэзу патрэбна была гэтая дадатковая пайка хлеба, ён ніколі не з'ядаў таго, што яму давалі. Ён як бы знайшоў сябе ў гэтым тлуме і вэрхале, знайшоў якраз тое, што яму патрэбна было гэтай раніцай. Калі ўжо жыць апошнія дні, дык жыць так, каб усім чарцям моташна было, і да чаго ж добра, што ён дажыў да гэтага дня, не памёр. Такое вясёлае жыццё пайшло, што пра сябе няма часу і падумаць. Трэба быць такім, як і ўсе, быць разам з усімі моцным, дужым трэба быць...

Лецечка, зразумела, не ўсведамляў гэтага, але ў тыя дні яму проста патрэбна была нейкая падзея, зрух нейкі ў жыцці, які б пазбавіў яго ад думак пра сябе, які б надаў яму сілы жыць за кошт іншага жыцця, а яго ўласнае жыццё ўжо было на сходзе. Але ён аб гэтым нічога не ведаў, хоць і пагадзіўся ўжо, што так, жыць яму засталося нядоўга. Пагадненне гэтае і згода былі няшчырыя. Дзесьці ў глыбіні душы ён спадзяваўся, што ўсё гэта гульня. Жахлівая, захапляльная, але гульня, і Лецечка без нараканняў і нават з нейкай палёгкай прыняў жудасныя ўмовы гульні ў сваю смерць і цяпер гуляў, як гуляў бы ва ўсякую іншую гульню, якую б яму ні прапанавалі.

А пачыналася новая гульня весела. Усім раптам знайшлася справа. Усе былі тут неабходныя адно аднаму. І яго голас быў не лішні сярод іншых галасоў. А гэта так прыемна, калі ты — як усе, неабходны ўсім. І Колька адчуваў сваю неабходнасць і лямантаваў ці не больш за іншых, успрымаў гэты свой лямант як праявы жыцця, як

само жыццё і быў шчаслівы, што і яму ў гэтым жыцці знайшлося месца.

Прыйшла дырэктарыха, зморaная, пастарэлая. Прыкапацела Вера Канстанцінаўна, задыхана і мітуслівa, паблiскваючы залатым зубам.

— Ета што, ета как на «Пацёмкіне», есці адмаўляецеся?

— Як на «Пацёмкіне»! — завішчаў натоўп. Не хацела, а падбухторыла хлопцаў Вера Канстанцінаўна.

— Хлеба, хле-ба, ад пу-за, ад пу-за...

— Жрыце самі гэту заціруху! — гэта дашкалята. І паляцелі ў дырэктарыху і ў Веру Канстанцінаўну талеркі з белым сёрбавам, і лапша з гэтага сёрбава ўблыталася ў валасы дырэктарыхі. З лютасцю грымнулі ў свае металічныя тамтамы дашкалята. І дырэктарыха, сеючы па дарозе лапшу, пайшла ў канцылярыю — Вера Канстанцінаўна знікла яшчэ раней, як скрозь зямлю правалілася.

— Плакаць пайшла, — кіўнуў галавой услед дырэктарысе Андрэй Бурачок. Колька паглядзеў на яго твар і ўбачыў на ім такую зларaднасць, столькі асляпляльнай радасці, што яму захацелася зажмурыцца. Над яго вухам са свістам праляцела талерка з лапшой і з чмяканнем уляпілася ў спіну дырэктарыхі. Але яна нават не азірнулася. Ішла як ішла, і лапша aпадала са спіны белымі бездапаможнымі чарвячкамі. Кольку стала шкада дырэктарыху. Ён адчуў, што адбываецца штосьці не тое, штосьці мярзотнае, брыдкае, аб гэтым сведчыць самазадаволеная ўхмылка Бурачка, Бурачок аж ільсніцца, яго нібыта подмазкай падмазалі. Угадаў на гэты раз Бурачок: дырэктарыха сапраўды будзе плакаць, будзе плакаць з-за яго, Бурачка. І як ні вінаваціцца Лецечка перад Бурачком, а дырэктарыха яму даражэй, таму што яна больш дзетдомаўская, чым Бурачок. Яна спрадвеку ў дзетдоме, а Бурачок стаў дзетдомаўцам нядаўна.

— Ты чаго гэта такі рады, чаго ты лямантуеш? — падступіў Колька да Бурачка.— Ты... сын франтавіка... Паліцэйскага ты сын, вось хто ты.

— Я... паліцэйскага! Недаробак!

За недаробка Бурачок умыўся сёрбавам. А біцца ім не далі. Лецечку ж без меры закарцела раптам пабіцца, праверыць свае сілы, адпомсціць за дырэктарыху. Ён адчуваў, што гэтай раніцай у справядлівай бойцы надаваў бы Бурачку. Такую ён адчуў раптам у сабе сілу і ўпэўненасць. Гэтай раніцай ён быў здатны на ўсё. І зноў жа ён не разумеў, што ўсё гэта запазычанае, ад усеагульнай узрушанасці. Ён трапіў на хвалю, а хваля патрабавала моцы. І Лецечка быў моцным. Ён быў дзетдомаўцам. А ніводзін з дзетдомаўцаў не думаў аб смерці. Яны патрабавалі жыцця, ежы, сокаў у зямлі. Іх пажаданнямі, воляй іх жыў і Лецечка, як, пэўна, жыў і дасюль, не падазраючы аб гэтым. Таму што ён даўно павінен ужо быў памерці. Павінны былі памерці Стась Марусевіч, Васька Козел і ён, Лецечка.

І Козелы, Марусевічы, Лецечкі паміралі ў тое лета і ў іншыя леты ў іншых дзетдомах. І ў іншых дзетдомах былі таксама свае Лецечкі, свае Марусевічы, свае Козелы, з'яднаныя адзіным лёсам, адзіным страшным маленствам, якога многія з іх, як і Лецечка, і не памяталі, а тыя, якія памяталі, не хацелі памятаць, хацелі пазбавіцца ад гэтай сваёй памяці, таму што жудасней за іх дзіцячыя ўспаміны на зямлі ўжо нічога не было, не магло быць. Тут, на зямлі, толькі распачаўшы жыццё, толькі адплюшчыўшы вочы, яны прайшлі праз такое, чаму яшчэ няма назвы. І тыя, хто выжыў, як выжылі Лецечка, Марусевіч, Козел, у шаснаццаць-семнаццаць гадоў павінны, абавязаны былі памерці. Дактары вытлумачвалі гэта падарванасцю, знясіленасцю нервовай сістэмы, дыстрафіяй, парокамі сэрца. Так, усё так, але была і яшчэ адна акалічнасць. З грузам, з цяжарам сваёй памяці яны не маглі жыць на зямлі. Зямлі б было сорамна працягваць іх жыццё. Яны павінны былі памерці да таго ці менавіта ў тыя дні, калі дзеці вайны, сыны і дочкі салдат, якія загінулі на фронце, пакідалі дзетдом і на змену ім ішло новае пакаленне, але не так, не так.

— Даеш спецдзетдом! Даеш спецдзетдом! — згуртавана скандзіравалі хлопцы. Разам з імі скандзіраваў, крычаў і Лецечка, усё роўна як патрабаваў: «Даеш жыццё...» Так, ён крычаў аб жыцці, і чым больш крычаў, тым больш прыкра рабілася на душы яго. Ён углядаўся ў хлопцаў, прагледзеў вочы, але ні ў кім не бачыў гэтай прыкрасці. Не бачыў ён сярод прысутных і хлопцаў, бацькі якіх былі паліцэйскімі. А такія хлопцы жылі ў дзетдоме, але на гэтую хвіліну зніклі. І гэтае іх знікненне дапамагло Кольку пазбавіцца ад прыкрасці. Пераканала яго ў тым, што ён не горшы за іншых, што тут, сярод дзетдомаўцаў, і яго месца. І яму трэба стаяць разам з усімі.

Адгалёкаўшы, натоўп дзетдомаўцаў пасунуўся ад сталоўкі ў сад, пасунуўся з той жа няўмольнасцю, з той жа ўзрушанасцю, як гэта рабілі і мурашкі, якіх наглядаў Лецечка ў тым жа садзе. Як вусені, па самыя вяршаліны абляпілі яблыні, загалёкалі, заверашчалі, пачалі аб'ядаць яшчэ зялёныя яблыкі. Разам з усімі на яблынях былі Козел і Стась. Дзяўчаты толькі разышліся па палатах. Але некаторыя з іх засталіся з хлопцамі. На дрэве разам з хлопцамі сядзела і Лена Лаза, старанна надкусвала яблык, касавурылася і аб'едкам мерылася ў Кольку. Ён хацеў пералезці да яе, ды не было куды. І Колька нудзіўся ў адзіноце, яму здавалася, што менавіта цяпер надышоў той час, калі можна прызнацца Лене, таму што другога такога зручнага моманту не выпадзе. Збаіцца сёння — і ніколі больш не асмеліцца падысці да яе. Трэба вырашаць. Лена як бы адчувала яго ваганні, пацвельвалася. Была яна цяпер на дрэве надзвычай прыгожая, у лёгкай белай, у зялёны гарошак сукенцы, загарэлая сярод загарэлага і зялёнага вецця, рухавая, няўрымслівая, як яшчарка на дрэве. Белае плацце і гарошыны на ім зліваліся з лістотай яблынь і сонечным святлом, і не адрозніць было часам проці сонца, дзе яблыня, а дзе Лена. Соладка заходзілася сэрца, быццам не Лена ела няспелы яблык, а ён сам еў гэты яблык — так ішла прахалодай аскоміна па ўсім целе і хацелася на крылах пераляцець да Лены. І ён ужо нібыта ляцеў, так павявала лёгкім ветрыкам, як усё роўна ён сам,

крыламі, разводзіў гэты ветрык. Але Лецечка толькі выціраў пот з ілба і мацней уціскаўся ў сук, на якім сядзеў. А Лена ўсміхалася яму адначасова светлай і цьмянай усмешкай. Светлай, таму што яна ўсміхалася яму, а цьмянасць яе ўсмешцы надавала чорная палоска яшчэ ў дзяцінстве з'едзеных зубоў. І ў гэтай цьмянасці, з гэтай чорнай палоскай Лена была для Лецечкі асабліва прывабная, крыху з заганай, яна была яму больш блізкая і больш родная. І ён бы пералез да яе, хай бы абломвалася голле, сеў бы з ёй побач. Але тут прыехала міліцэйская машына.

Невядома, ці выклікалі яе Вера Канстанцінаўна з дырэктарыхай, ці то ўжо і да міліцыі даляцелі гвалт і лямант, але з'яўленне яе тут было зусім недарэчы. Хутчэй за ўсё дзетдомаўцы адлямантавалі б, аб'елі б яблыкі з яблынь, пазлазілі б з дрэў і ціхамірна разышліся. А міліцыя, ці да гэтага яна імкнулася, надала значнасць таму, што адбывалася, падбавіла агню. Не паспелі міліцыянеры яшчэ вылезці з машыны, а ўжо некаторыя з хлопцаў саскочылі з яблынь і пабеглі з саду, і, як высветлілася крыху пазней, беглі яны не ад страху, не ад міліцыі ўцякалі, але менавіта так успрынялі гэты захад дзетдомаўцаў міліцыянеры і кінуліся страсаць іх з дрэў. Дзетдомаўцы адбрыкваліся, адбіваліся, лезлі на самыя што ні на ёсць макаўкі.

— Рабяты, рабятушкі,— аддаўшы загад не чапаць дзетдомаўцаў, залагодзіў старшына.— Давайце падобраму, рабятушкі. Ну чаго вы ўсхадзіліся? Ехалі каля дзетдома, думалі, гарыць нешта... Давайце, хлопчыкі, не будзем...

Але ўлагодзіць дзетдомаўцаў міліцыянерам не ўдалося. Яны дзеля прыліку яшчэ крыху паўгаворвалі іх і з'ехалі пад нядобрыя позіркі хлопцаў, якія хвіліну назад збеглі з саду, а цяпер вярнуліся зноў, вярнуліся ад спальняў і схованак, і пазухі іх выразна адтапырваліся. Хлопцы прыйшлі не без «гасцінцаў».

Следам за міліцыяй наскочылі пажарнікі. Гэтых сустрэлі амаль з весялосцю, як бацькоў родных, сустрэлі. Зазывалі да сябе на дрэвы, частавалі яблыкамі, прапа-

ноўвалі прылегчы, адпачыць у цяньку пад яблынямі, павартаваць іх. Пажарнікі зычліва адклікаліся на гэтыя жарты і самі жартавалі. Усім было весела. Але жарты жартамі, а пажарнікі ўпраўна рабілі і сваю справу. Выцягнулі з машыны лесвіцы, пажарную кішку, расцягнулі па зямлі.

— Атанда, хлопцы, зараз будуць паліваць, — папярэджвалі адзін аднаго дзетдомаўцы, папярэджвалі тых, хто сядзеў на бліжэйшых да машыны яблынях, а на гэтых акурат яблынях сядзелі Колька Лецечка і Лена Лаза. Яны прыціхлі і апасліва паглядвалі на абвіслую пакуль пажарную кішку. У глыбіні душы яны і хацелі, каб іх аблілі, каб было аб чым пагаварыць, што ўспомніць. Але пажарнікі марудзілі, валаводзілі, як усё роўна ад кагосьці чакалі каманды, а ніхто не адважваўся даць ім гэтую каманду.

— Горача, — кпілі дашкаляты, ляпалі па голых жыватах далонямі, адхукваліся і прудзілі з яблынь на зямлю, цэлілі ў пажарнікаў. А ў глыбіні саду хлопцы, сталейшыя, стралялі з самапалаў. Каля дзетдомаўскіх варот сабраўся натоўп. Там таксама мітынгавалі, спрачаліся. Але аб чым яны спрачаліся, што абмяркоўвалі, Колька не чуў. Ён ужо змарнеў, не заўважаў ужо, што адбываецца і ў садзе, глядзеў толькі на Лену, але і яе не бачыў. Тое, што адбывалася цяпер у дзетдоме, ужо здавалася яму бяссэнсавым і непатрэбным. Вельмі ж занадта гвалту, ляманту, мітусні.

Перад вачыма ўсё стаяла дырэктарыха: плечы і валасы ў лапшы, вочы — заплаканыя. У вачах крыўда і боль, і пытанне ў вачах: за што, ці гэтага я заслужыла, ці я сапраўды настолькі нядобрая вам? Дзе ж справядлівасць? І Лецечку было не толькі шкада дырэктарыху, але і сорамна за сябе, за тое, што ён бачыў, як несправядліва абыходзяцца з дырэктарыхай, наглядаў, але не абараніў яе, а яна заўсёды і паўсюдна бараніла яго, абараняла ад Веры Канстанцінаўны нават... Няма ў яго чалавека бліжэй і даражэй, чым дырэктарыха, хаця яна заўсёды трымае яго на адлегласці, Але, можа, у тым уся і справа, што і на адлегласці яна бачыць яго, памятае аб ім, прыяе яму. Яна

сама на складзе, у вобласці, выбірае для яго лепшае адзенне, абутак, ведае, што пасуе яму. Пры ім было — у вобласці на складзе дырэктарыха адклала тры бобрыкавыя паліто. Кладаўшчык ці то загадчык склада запратэставаў:

— У дзетдом, на перыферыю такія паліто? Вы правышаеце...

— Ціха, ціха,— сказала дырэктарыха.— Бяры гэтае паліто, Лецечка, і ў машыну.

Лецечка ўзяў паліто, але прытрымаўся, стаіўся за дзвярыма склада. Як дырэктарыха выгаворвала кладаўшчыку, як бэсціла яго, адкуль той голас і тыя словы ўзяліся! У дзетдоме яму ніколі не даводзілася чуць, каб яна так крычала на кагосьці.

— Тылавая крыса,— крычала яна,— не папаўся ты мне на фронце, я б табе паказала перыферыю. Заліў вочы. Іх бацькі жыцця не шкадавалі, самі яны не справяць сабе гэтага бобрыка... Чалавек, гаспадар мне знайшоўся...

Так ваявала за яго дырэктарыха, а ён... І Лецечка жадаў цяпер аднаго — спакою, каб яго не чапалі. Няхай заўсёды будзе цішыня і побач Лена, і каб ніколі не заходзіла сонца. Хай навекі стаіць на зямлі летні сонечны дзень. Так добра, так хораша, калі дзень і сонца. Сонца выглядзела яго з неба, абрынулася на яго, затапіла ўсё ў ім святлом і радасцю. Як багата ў сонца святла і радасці, што можа з ім параўнацца, што можна з ім параўнаць! Няма на свеце нічога больш неабходнага чалавеку, чымсьці сонца. Можна пражыць без дадатковай пайкі хлеба, можна пражыць на сёрбаве. Але як пражыць без сонца? Нездарма, згледзеўшы яго, адплюшчвае вочы лён, квітнее пры ўсходзе сонца. «І дзеці паміраюць пры ўсходзе сонца»,— нагадаліся Лецечку словы Захар'і. «Хто ж ты, сонца?» — усклікнуў Лецечка, адчуў, як у ім нарастае абурэнне гэтай вышэйшай, небам наканаванай несправядлівасцю. Не мружачы вачэй, калоцячыся ўсім целам, пачаў углядацца ў сонца, нібыта кідаў яму выклік, пасылаў гэты выклік праз тысячы і тысячы кіламетраў, цераз спакойную роўнядзь і далячынь неба, праг, каб гэтае неба, як і раніцай, пачало плавіцца, рушыцца, праг спапяліць сонца. Але неба

заставалася ўвагнута-чыстым, бязвоблачным, сонца глядзела на яго незамутнёна-зырка. Нястрымна каціласяў поўдзень. «Няўжо яно і застанецца такім, будзе грэць і радаваць усіх, калі мяне не стане? — падумаў Колька.— Навошта сонца, калі ўжо няма мяне? Навошта гэтае спрадвечнае неба?» Чалавек, ён, Колька Лецечка, павінен быць нязгасным, вечным, а не сонца, не неба. Вось гэтага трэба дабівацца, а не ўзнімаць вэрхал немаведама з чаго. Галавой трэба думаць. Вось памрэ ён, і на якую трасцу яму ўсё гэта? «Мне не трэба — Лене, Козелу, Дзыбатаму, Бурачку трэба будзе».

Здаецца, хтосьці падышоў да Лецечкі і загаварыў — ці гэта сонца размаўляла з ім?

— Ты на што мяне ўгаворваеш? — адказаў Лецечка сонцу і скасавурыўся, заплакаў. Спачатку лёгкімі слязьмі, што беглі самі сабой, ад пільнага ўглядвання ў сонца, а потым і сапраўднымі, горкімі слязьмі.— Ты на смерць мяне ўгаворваеш.

Сонца са згодай кіўнула Лецечку з неба, памутнела і таксама заплакала разам з ім. І неўзабаве яны ўжо плакалі соладка і са смакам — сонца на небе, Лецечка на яблыні, на зямлі.

— Падла ты, сонца, вечная падла,— мармытаў Лецечка.

— Я не падла, Лецечка,— адказала яму сонца голасам Захар'і.— Я люблю цябе, Лецечка.

— Палюбіў воўк кабылу, пакінуў хвост ды грыву.

— Я люблю цябе, Лецечка...

— Ты зрабі лепей, каб мяне Лена Лаза палюбіла.

— Што табе ўжо ад яе любові? Табе рыхтавацца трэба. Я заву цябе да сябе, Лецечка.

— А ты спытай мяне спачатку: ці хачу я да цябе?

— А я цябе і пытаю: ты хочаш да мяне, Лецечка? Хочаш? Хочаш!

— Не, не! — закрычаў Лецечка.— Хлеба, хлеба...

— Хлеба, хлеба,— раўнулі дзетдомаўцы. Да іх у сад спяшалася дырэктарыха.

— Уязджайце, уязджайце нямедленна,— накінулася яна на пажарнікаў яшчэ здалёку.— А вы злазьце, злазьце з дрэў. Узнялі ўвесь горад на ногі. Што людзі аб дзетдоме падумаюць, уяўляеце сабе? Падумаюць, што і сапраўды вас тут голадам прымарылі... Сваёй сям'і да гэтага часу не маю... Да міліцыі, да пажарнікаў дастукаліся... Як мне цяпер па горадзе прайсці, як мне людзям у вочы глядзець? Я ж мо маці ваша, ці вы выракаецеся мяне? Сорам, сорам... дажыла... Выгадавала сыноў, дачок, падняла на ногі, а яны, як малпы,— на дрэвы... Пытанне, якім быць нашаму дзетдому, здаецца, вырашана станоўча. Раніцу ўсю ўбіла, каб дазваніцца да вобласці. Злазьце, злазьце з дрэў. Лецечка, Лаза, нягоднікі, на зямлю.— Вылучыла дырэктарыха Кольку і Лену з усіх, быццам толькі яны адны і сядзелі на яблынях. І Лецечка з Лазой паслухмяна злезлі з дрэў і пайшлі з саду ўдваіх, быццам сапраўды больш у садзе нікога не было.

— А мне ўжо рыхтавацца трэба...— усё яшчэ не чуючы сябе, усё яшчэ галосячы там, на дрэве, разам з іншымі дзетдомаўцамі і поўнячыся яшчэ іх дужасцю, але ўжо са смуткам у голасе сказаў Лецечка Лене, калі яны выйшлі на дзетдомаўскую алею, на якой раслі лістоўніцы і векавыя ліпы.

— А я ўжо рыхтуюся,— весела падхапіла яго словы Лена. Лецечка спатыкнуўся. Лена паглядзела на яго з сумненнем, але не выказала гэтага, зычліва спытала: — А ў які ж ты інстытут, Лецечка, надумаў?

— Ды ў той, у той...— абыякава махнуў рукой Лецечка, поўнячыся горыччу ад той далёкасці, у якую адплыла ад яго Лена. Яны па-ранейшаму ішлі алеяй поруч. Лена была побач, але ў той жа час як бы раптам і знікла, нейкае воблака з яе абрысамі, воблака, створанае яго ўяўленнем, плыло побач з ім. Але гэта не шкодзіла яму любіць і тое ўяўнае, створанае светам яго думак, і тое, што існавала на самай справе: дрэвы, траву, дзетдом, хлопцаў,— ён толькі вылучаў у гэтай замкнёнай, выгараджанай з усіх бакоў прасторы Лену. Яму было прыемна адчуваць, што яна ёсць, уяўная і сапраўдная, і

любіў ён яе ўяўную і сапраўдную. А Лена прагла, каб усе любілі яе. Лецечка здагадваўся аб гэтым па тым, як яна, нібы незнарок, гарнулася да яго пляча, не вельмі ён і падабаўся ёй, а гарнулася. І з выклікам глядзела па баках: вось, маўляў, якая я — добрая, дужая, прыгожая, шчодрая, мяне так ласкава саграе сонца, сонца любіць мяне, мяне любіць цень, што падае з дрэў, мяне любіць дарога, па якой я іду. І гэты дзівак хлопец. І мяне на ўсіх хапае. Я ўсім дазваляю любіць сябе. У мяне наперадзе яшчэ такое доўгае жыццё, і мяне так шмат яшчэ будуць любіць. І як жа ж гэта хораша — быць шчаслівай і ведаць, што цябе ўсе любяць. І Лена так шчодра прываблівала і прынаджвала яго да сябе.

— Я, ведаеш, Лецечка, інстытут яшчэ не выбрала,— прызнавалася яна Лецечку.— А гэта ж самае галоўнае — абраць такі інстытут, каб жыць потым без турбот. Які гэта інстытут, па-твойму, Лецечка?

— Пэўна, эканамічны.

— Ну, Лецечка, ты і скажаш, эканамічны. Што я, па-твойму, лічыльнікі буду грызці? Не, Лецечка, не ведаеш ты жыцця. Лецечка, выдатнікі, яны ўсе такія.

— Ты вось што, вось што, Лена...— Колька спыніўся і ўхапіў Лену за руку.— Ты помні, помні мяне, Лена, ладна?..

Лена здзіўлена паглядзела на Лецечку і ўсміхнулася яму такой шчырай, такой зычлівай цьмянай усмешкай, што ў яго прыраслі да зямлі ногі. Лена ўзяла Лецечку пад руку. І ў тое ж імгненне, як яна зрабіла гэта, як дакранулася да яго цела, нібы апяклася, цьмянасць, якая сыходзіла ад яе ўсмешкі, лягла ёй на твар. Нібыта яна раптам засумнявалася, ці варта было яго браць пад руку. Чорная пасмачка валасоў упала на раздумліва прарэзаны ўпоперак маршчынай лоб, сталі цьмянымі вочы. Лена цяпер ужо нібыта і не прыкмячала Лецечку, глядзела паўз яго. Лецечка прачытаў у гэтых яе вачах такое, што яму не трэба было больш слоў. Лена цяпер была ад яго не проста далёка, а нязмерна далёка. Адлегласць паміж імі вымяралася не кіламетрамі, нават не тым, зможа ці не зможа яна

яго пакахаць. Іншая мера лягла між імі. Перад Лецечкам была жанчына, жанчына, якая ўжо забылася пра дзетдом і дзяцінства, забыла ўжо ўсіх, хто жыў да гэтага побач з ёй. Яе ўжо клікала туды, у невядомае, невядомае яшчэ ёй самой, неспазнанае, тое самае неспазнанае, якое прыцягвае кожную жанчыну, прарочыць і слёзы і радасць, і боль і шчасце. Па-жаночаму непрыступна ўздымаліся пад лёгкім паркалем грудзі, нібыта яны ўжо дыхалі паветрам будучых захапленняў, радасцей і болю.

І Кольку закарцела прыпасці да грудзей гэтай раптам зусім-зусім незнаёмай яму дзяўчыны, так карцела пацалаваць яе далёкія, заклікальна-раскрытыя вусны, але не яго, не яго клікалі гэтыя вусны. «І няхай не мяне, і няхай, — думаў ён. — Гэта нават і лепей, што не мяне. Толькі ці добра будзе, калі я цяпер яе пацалую? Яна цяпер і не прыкмеціць, што я яе пацалаваў. Мне трэба яе пацалаваць, пацалаваць далёкую, ужо збегшую ад мяне, але ўсё роўна такую дарагую, такую родную. Не ў вусны толькі, не ў вусны, у вусны, пэўна, сорамна цалаваць, у вусны яе будуць цалаваць іншыя».

— Колька, Колька, чаго ж ты стаіш? Колька, — прамовіла яна, — цалуй жа мяне, цалуй.

І Лецечка паслухмяна абняў Лену, застыглую, акамянелую, і зразумеў, што не яму яна толькі што загадвала цалаваць яе, не яго яна чуе каля сябе, а кагосьці іншага, які ўжо дзесьці ідзе да яе, які побач ужо. І ён міжвольна азірнуўся, шукаючы гэтага іншага, азірнуўся, не бачачы нікога, не бачачы нават Лены. Лецечка самахоць прыпаў гэты раз да яе па-птушынаму раскрытых, безабаронных вуснаў. І цалаваць у вусны было зусім не сорамна. «Цалуй жа, цалуй жа, мілуй іх», — шапталі гэтыя вусны. І Лецечка цалаваў, паступова забываючыся, што ён злодзей, што ён бярэ тое, што не належыць і не можа належаць яму, паступова супакойваючыся, не бачачы ніякай карысці ў пацалунках, плачучы ў душы. Развітаўся ў душы з Ленай, з жыццём, ненавідзеў і любіў Лену непамерна, ведаў, што гэта ў яго так першы і апошні раз у жыцці.

Пабраўшыся за рукі і збянтэжана ўглядаючыся адно ў аднаго — ці яны гэта, — Лецечка з Ленай стаялі пасярод пустэльнай дзетдомаўскай, былой памешчыцкай, старадаўняй ліпавай алеі. Ліпы ад часу і запусцення аблыселі ўжо, аблыселі веццем, а месцамі і карой. Скрозь гэтае парадзелае вецце свабодна падала на зямлю сонца, саграваючы дзядоў — адмерлае голле, плехі. Ад гэтых плех ліпы здаваліся сівымі, як бы скінулі з сябе шапкі, і ад іх сівізны і старэчы праступаў нейкі дакор. Алея была доўгая, цягнулася далёка, туды, дзе быў гарадскі парк і колішні панскі парк. Але самога парку яна не дасягала, упіралася ў тупік, цаглянуую сцяну, якая служыла мяжой паміж паркам і дзетдомам. Сцяна гэтая — якое ні рэдкае было на ліпах вецце — з таго месца, дзе стаялі Лецечка з Лазой, не праглядвалася. Там, наперадзе, густа расла трава, а каля самай сцяны ўхапілася і крапіва. І адтуль, дзе стаялі Лецечка з Ленай, здавалася, што там, наперадзе, не сцяна, не тупік, а спавітая зялянінай альтанка. А стаялі яны каля самай магутнай, абхваты ў тры, самай сівой і самай старой на алеі ліпы, верхавіна якой адзінютка ўзвышалася не толькі над дзетдомам, але і па-над усім горадам. Верхавіна гэтая, самая яе макаўка, дарваўшыся да неба, маладым зялёным шарам разлеглася па-над іншымі дрэвамі, нібыта на плечы старой ліпы было пастаўлена яшчэ адно, маладое дрэва, і позірк ад верхавіны мімаволі бег уніз, шукаючы гэтае дрэва, але каля самых каранёў спатыкаўся, натрапіўшы на вялізную, у палову чалавечага росту, выбоіну — дупло. Выбалела гэтая выбоіна-дупло даўно, не менш чым паўвека назад. Ад таго паўвекавога болю, пэўна, так і ўскінулася гэта дрэва ў неба, падманліва амаладзілася другой верхавінай. Тады ж, амаль паўвека назад, чалавек імкнуўся дапамагчы дрэву — бетонам, як пластырам, заклеіў выбоіну і ўжо, пэўна, каб пацешыць сваё вока, выгарадзіў гэтую замураваную каменем рану, выгарадзіў вітымі, з вензелямі, жалезнымі кратамі. Ліпа абыякава аднеслася да кратаў, але ад бетону адхіснулася, бетон патрэскаўся, пазелянеў, аброс мохам, а там, дзе калісь бетон і ліпа былі ўсутыч, утварыліся шчыліны, у

якія цяпер свабодна пралезла б рука. Ліпа расла, расла з каменем у грудзях, і цяпер узняла гэты камень, каб бачна было ўсім яе скамянелае сэрца; ёй было боязна даткнуцца да гэтага сэрца сваім жывым целам, яна выраклася яго, калісьці, пэўна, і плакала: там, адкуль цяклі даўным-даўно гэтыя слёзы, лушчылася жоўтая, збалелая парахня. І Лецечка глядзеў на дрэва, на засцерагальныя краты, і гэтая мудрагелістая прыдумка чалавека з лячэннем дрэва здавалася яму непатрэбнай і здзеклівай. Ён адчуваў даўні боль дрэва і сённяшнюю яго прыгнечанасць. Няхай бы ўжо ліпа хоць і параненая, але жыла без гэтай прыдумлівай міласэрнасці чалавека, дыхала ўсёй сваёй істотай, і ранай таксама.

Лішнімі і непатрэбнымі здаваліся яму і ўсе гэтыя пацалункі і абдымкі на алеі — без радасці, а галоўнае, без надзеі на штосьці ў будучыні. Нібыта ён, як жабрак, маліў літасці, прасіў кавалак хлеба і атрымаў міласціну.

Як міласціну яна панесла насустрач яго вуснам свае вусны, таму і няма цяпер у ёй ні сарамлівасці, ні збянтэжанасці перад ім. І ў той жа час ён быў шчаслівы, што ўсё было — як было. Мо яму і не патрэбны былі ні любоў, ні пацалункі, а толькі чалавек, які б прысутнічаў каля яго, які б успрыняў і яго як чалавека, патрэбен быў чалавек дужы, здаровы, які б менавіта так, усёй істотай, імкнуўся да жыцця. Родны, блізкі, чалавек, якога б ён хацеў лічыць блізкім і родным. І каб гэты чалавек, калі ўжо не стане яго, Лецечкі, прыгадаў бы яго, няхай мімаходзь, бесклапотна, але паплакаў аб ім і тым самым на нейкую хвіліну як бы падняў яго з таго свету.

— Памятай мяне, Лена, памятай,— зноў паўтарыў Лецечка, выціснуў з сябе знямелым языком, прашаптаў, як шэпчуць першае прызнанне. Па сутнасці, гэта і было прызнанне. І, гаворачы ўслых «памятай», ён, як малітву, як заклён, паўтараў сам сабе: «Я люблю цябе, Лена, я люблю цябе, Лена, але ніколі, ніколі не скажу табе аб гэтым». І адначасова выразна адчуваў, што ён ужо сказаў, выказаў. І цяпер яму на самай справе, ці кліча там яго зямля, ці не, нічога не застаецца, як толькі па-

мерці. І Лецечка паміраў, стоячы перад Ленай Лазой. Цела зрабілася лёгкім, не адчувалася ні рук, ні ног, ні сэрца. А ў голлі ліпы гулі пчолы, вясёлкава ўспыхвалі, трапляючы на сонца, і знікалі, згаралі ў лістоце маленькія, асляпляльна-яркія факельчыкі.

Лена з Колькам, не згаворваючыся, раптам згодна рушылі з месца і пакрочылі па алеі. Але ішлі яны чужыя адно аднаму, маўклівыя. Прайшлі ўсю алею, падышлі да сцяны, уперліся ў сцяну і павярнулі назад. Ступілі крок-другі, Лена спынілася, твар яе пачырванеў, яна ўтаропілася ў неба, у сваю, не спазнаную яшчэ ёй далячынь, злосна адрэзала:

— Ну чаго ты цягаешся за мной, Лецечка!..

«А сапраўды, чаго гэта я за ёй цягаюся?» — падумаў Лецечка і збочыў з алеі, пайшоў садам туды, дзе на ўзгорку, на сонечным прыпёку, стаяў будан Захар'і, дзе, ён ведаў, нікога цяпер няма, упаў там на жытнюю салому і адчуў сябе ўжо памерлым. І так, як сёння, ён згодны быў паміраць кожны дзень, па некалькі разоў на дзень.

Прычыкіляў да будана Асталоп, убачыў Лецечку, пэўна, прыгадаў штосьці добрае, звязанае з ім, завішчаў, заскуголіў ад радасці, упаў на жывот і папоўз на жываце да Лецечкі, матляў ва ўсе бакі дзядоўнікам, што начапляўся на хвост, скроб, дзёр здаровымі лапамі зямлю, коўзаў кульцяй па саломе.

— Ну і асталоп жа ты, Асталоп, ну і асталоп жа ты, братка,— сказаў Лецечка крыху з раздражненнем.— Ты ж не Бурачок, Асталоп, а я табе не Вера Канстанцінаўна... А ведаеш, хто я? Я брат табе, я Маўглі.— Вера Канстанцінаўна ўсё ж увяла яму ў вушы, хто такі быў Маўглі.— Амаль сабака, а больш — воўк. Не людзі, не маці, а ваўчыца карміла мяне сваім малаком, таму я такі дзікун. Вялікі, дарослы ўжо, а розум дзіцячы.— Я — усё роўна як ты: стары ўжо, а ўсё роўна асталоп. Хочаш, я табе раскажу пра сябе... Жыў на свеце хлопчык. Яшчэ не жыў нават, толькі нарадзіўся, а маці памерла. Набрыла на яго ваўчыца, выкарміла сваім малаком, вырас ён сярод

яе ваўчанят... Вось так, Асталоп. Ты асталоп, я... А абодва мы...

Сабака ўзняў галаву, прыслухаўся да яго слоў, выгадваючы, пэўна, што за імі будзе: ласка ці біццё. Заваліўся на спіну, галава ўбок і язык убок. А вочы скіраваны на Лецечку, і смех і свавольства ў вачах, і згода па першым жа слове ўскочыць і імчаць, куды загадаюць.

— Эге, Асталоп, ды ты не такі ўжо й асталоп,— сказаў Лецечка.— Прыдурваешся, як гаспадар твой Захар'я.

Асталоп лыпнуў адным вокам, як падміргнуў, лізнуў Кольку руку і прыціснуўся да яго цёплым, нагрэтым на сонцы чорным бокам. Лецечка ўзяў сабаку за кульцю.

— Дзе нагу згубіў, братка?.. Чаго маўчыш, сорамна прызнацца, пад цягнік трапіў ці то куля жывадзёра цябе пазначыла?..

Колька не заўважыў сам таго, як да болю сціснуў сабаку кульцю. У горле ў Асталопа пагрозліва забулькацела, ён злаўчыўся і прыхапіў Лецечкаву руку зубамі, але не кусаў, патрымаў у зубах і адпусціў. І Колька адпусціў кульцю, на імгненне якоесьці затрымаў на ёй далонь і адчуў далонню, як тахкае ў гэтую кульцю Асталопава сэрца, быццам, прыліваючы пругкімі, гонкімі токамі, кроў імкнецца прарвацца далей, за кульцю, у працяг нагі, шукае і не знаходзіць гэтага працягу.

— Баліць, Асталоп, ведаю, баліць. Мне таксама баліць. На вось паслухай мяне. — Лецечка расшпіліў кашулю і падставіў голыя грудзі да Асталопавай пашчы. Асталоп тыцнуўся яму ў грудзі шурпатым языком, горача лізнуў яго спатнелае цела. Услед за гарачынёй цела агарнула прахалода. Лецечка абняўся з Асталопам, і яны соладка заснулі. І саснілі сон, Лецечка — свой, запаветны, які часта сніўся яму. Пэўна, добры сон сасніў і Асталоп, таму што пасля доўга аблізваўся, нібыта толькі што атрымаў і схрумстаў салодкую костку.

— Ты любіў ужо каго-небудзь? — спытаў на развітанне ў Асталопа Лецечка. Але той не зважаў на яго пытанне, стаяў, соладка аблізваўся.— Любіў, значыць,— сказаў Лецечка.— Я вось таксама люблю.

І яны разышліся, задаволеныя, бадзёрыя ад сну ў халадку будана.

А вечарам Лецечка даведаўся, што іх дзетдом застаўся «спец» — спецдзетдомам. Аб гэтым паведаміла на вячэрняй лінейцы дырэктарыха. Веры Канстанцінаўны на вячэрняй лінейцы не было. І засынаў ён у тую ноч упершыню без баязлівасці і страху, што заўтра можа не прыйсці. Не сустрэўся больш ён у той дзень і з Ленай, але спадзяваўся, што сустрэнецца заўтра. Трэба толькі пазбыць гэтую ноч...

## IV

Пазбыць ноч, і не толькі гэтую, якая зоркамі ўслала неба, грыбнымі туманамі спавіла зямлю, цішыню якой золка калолі званамі коні, пушчаныя на ноч у паплавы, асвечвалі цяпельцамі пастухі, але і ноч колішнюю, спавітую плачам і слязьмі ўдоў і дзяцей, пазбыць тую ноч праг не адзін толькі Лецечка, але і шмат іншых дарослых людзей, якія жылі ў гарадах і вёсках. То было лета збавення, развітання. Збавенне, развітанне гэтае было няспынным ад вясны сорак пятага, нават не з сорак пятага, а з лета сорак чацвёртага, калі гэты невялікі гарадок вызвалілі ад фашыстаў. Але да лета сённяшнага года працэс гэты ішоў як бы неўпрыкметку: стойвалася адно, балела другое. На базарнай плошчы, якая спакон веку была мяжой паміж горадам і невялікай вёскай, што прыляпілася да горада, дык вось на плошчы, здаецца, спакон веку сяляне прывязвалі коней да стабілізатара бомбы, што тырчала з зямлі як напамінак аб вайне. У дні, калі не было базару, да гэтай бомбы ўнадзіліся сабакі. Ля гэтай бомбы вечарамі можна было сустрэць і закаханых. На бомбу можна было прысесці, яна ўвайшла ў зямлю пад вуглом градусаў так на трыццаць, каля яе ўтульна было завесці доўгую гамонку і ладна было абаперціся, спыніцца вясковай бабцы, каб завязаць матузкі на чаравіках, і бакі ў бомбы былі вышараваны, зіхацелі, як бакі ў добрага, сытага каня.

Дзетдомаўцы абмяркоўвалі вечарамі ў сваіх пакоях, што будзе, калі распаліць пад гэтай бомбай ягонь: гахне ці не гахне, а калі гахне, куды дасягне. І, пэўна, яны такі выпрабавалі б на справе, куды дасягне. Але адным днём на плошчы з'явіліся сапёры, адчапілі плошчу, адкапалі бомбу, пагрузілі яе на машыну і асцярожна, усё роўна як нябожчыка, павезлі немаведама куды і немаведама дзе пахавалі. І без гэтай бомбы плошча, а разам з ёй і горад як штосьці згубілі. Горад ужо звыкся са сваёй бомбай, яна ўпрыгожвала яго, як помнік, што стаяў таксама на плошчы і знік таксама разам з ёй. З гэтых падзей і пачалося вірлівае пераўтварэнне горада. Яно было асабліва прыкметнае для дзетдомаўцаў, таму што асноўныя падзеі разгортваліся амаль што ў іх пад бокам.

Ад дзетдома да базарнай плошчы вымерана — сто пяцьдзесят метраў. Выйшаў з дзетдома, мінуў два высачэзныя, верхавіны і не зглядзець, шапка падае, ясакары, і ў цяні іх разлапіста ляжыць перад табой галоўная вуліца горада: пясок і брук — чырвоны камень. Брук канчаецца, крыху не дацягнуўшы да горада, абрываецца абрывам. Падводы, што кіруюць на базар, кожны раз падскокваюць на абрыве, і падскок гэты лепш за ўсё гаворыць дзядзьку, што ён ужо ў горадзе, што хопіць яму лунаць дзесьці ў аблоках, час спускацца на грэшную зямлю. Крыху збочыўшы з бруку, а адсюль здаецца — і па самім бруку, бягуць, бягуць тэлеграфныя слупы, бягуць у хвойнік, праз хвойнік, які абапал бруку, праз хвойнік, у якім губляецца і сам брук, пераходзіць у шлях, што звязвае Слабаду з іншымі вялікімі гарадамі. Вуліца ж, скіраваўшы дзядзьку на плошчу, драбніцца на мноства вулачак і завулкаў і проста сцяжынак, разабрацца ў якіх, куды яны вядуць, не надта лёгка. Базарная плошча — гэта таксама пачатак дарог, вытокі, вусці мноства рачулак, па якіх ходзяць машыны і падводы, прыбывае і ўбывае вясковы люд: хуткія на нагу дзядкі ў кашулях навыпуск, падпяразаных папружкай, з перакінутымі цераз плячо на кійку ботамі ці чаравікамі; усмешлівыя маладухі, якія крыху з пагардай, а крыху і са спалохам прыглядаюцца да

ўсяго гарадскога; шустравокія хлапчукі ў цяжкіх ад дарожнага пылу суконных касцюмах, калашыны якіх ашчадна ці то падкасаны, ці то, наадварот, запраўлены ў шкарпэткі; хлопцы, што ўжо ваўсю жаніхаюцца, злёгку з перасыццю, у расхлістаных кашулях, праз якія так і ломяцца загарэлыя і магутныя грудзі, хлопцы гэтыя глядзяць на горад і ўсё роўна як прыцэньваюцца да яго, прымяраюць яго да сябе.

Базарная плошча — гэта і пачатак вялізнай пусткі, якой ні канца ні краю, на якой слабадзянскія навасёлы адкрылі свае ўласныя кар'еры і чэрпаюць хто адменна тлустую слабадзянскую гліну, хто адборны, зярнятка ў зярнятка, белы пясок, жвір. Само сабой, там раскашуюць і дзетдомаўцы.

На краі пусткі вялізны з белага пяску курган. Па дзетдомаўскіх паданнях, якія з часам сталі паданнямі і слабадзянскімі, курган гэты незвычайны, не толькі прыстанішча груганоў, не толькі зборышча мышэй, але і прытулак, стан бандытаў і разбойнікаў. Адны кажуць, што там праводзіла ўжо аблаву міліцыя, злавіла процьму бандытаў, вывезена шмат усякага дабра — на дзесяці падводах везлі, але ж божацца другія, што да кургана ў гарадскіх улад не дайшлі яшчэ рукі, а там захаваны ці то скарб старажытных князёў, ці то каштоўнасці і маёмасць, што з усяго свету нахапалі фашысты; і пагодлівым сонечным днём курган, на якім, здаецца, днюе і начуе старая, аблезлая варона, цягне да сябе дзетдомаўцаў, а як упадзе цемра — наводзіць жах. Справа ў тым, што ля кургана пралегла дарога, якая вядзе на станцыю, а дзетдомаўцы любяць развітвацца з тымі, хто ад'язджае ў свабоднае жыццё, на станцыі, любяць глядзець, як садзяцца яны ў вагоны, як кратаецца цягнік, як набіраюць хуткасць колы, як знікае з вачэй у белым дыме апошні вагон. І вось кожны раз, набліжаючыся да кургана, уступаючы ў цень ад яго, яны прыціхаюць і ўсё чакаюць, чакаюць, што вось-вось хтосьці вынікне з гэтага ценю і пачне іх рабаваць. Але курган ціха і сонна маўчыць. А аднойчы ён раптам узяў і знік, нібыта і не было яго, як

прывід нейкі. Пустку закідалі цэглай, дошкамі, бярвеннем, бетоннымі плітамі, тэхнікай. На пустцы стала цесна. Усё, скончылася ціхае жыццё ціхай Слабады.

Пачалася будоўля. Адначасова заклалі падмуркі Палаца культуры, гасцініцы і рэстарана. І яшчэ аднаго неабходнага гораду збудавання: на дванаццаць вочак, па шэсць з кожнага боку. Першым у строй дзеючых уступіў рэстаран, а потым падаспела і гасцініца, і вось працуе ўжо і Палац культуры. Толькі збудаванне на дванаццаць вочак усё ў той жа першапачатковай стадыі: вочкі ёсць, перагародка паміж імі ёсць, а пра сцены, пэўна, забыліся. Але гэта, зрэшты, не шкодзіць таму, каб збудаванне выкарыстоўвалася згодна з прызначэннем.

Ціхая, мілая сэрцу Слабада з крывымі, удзірванелымі і прапыленымі вулачкамі, з прызбамі і лаўкамі каля хат, з абымшэлымі, крывымі платамі была адціснута кудысьці за блізкі свет. Слабадзяне, а больш таго дзетдомаўцы, былі ўзрушаны да самага сэрца — са спазненнем, але і для іх пачыналася эра каменю, бетону і асфальту. І тое, што больш за ўсё ўзрушвала ў гэтай эры, прыйшло не з камяніцамі, двух-трохпавярховымі дамамі, у якіх усё ёсць: вада ўсялякая, ванна, прыбіральня,— а з асфальтам. Жоўтыя, падобныя да чарапах машыны ўзялі горад штурмам, упаўзлі ў яго па пяску і бруку, як блазны, пацяшаючы народ на слабадзянскіх ямах, грэблях і калдобінах. А ў Слабадзе пайшлі ўжо як па масле: самі для сябе ладзілі і дарогі і масты, выцягвалі ўсё гэта са свайго гарачага чэрава, цягнулі за сабой чорныя стужкі дарог, як павук снуе павуцінне.

І дзетдомаўцы хадзілі следам за гэтымі машынамі, спачатку чакалі, калі яны стомяцца, прыстануць перад неадольнымі слабадзянскімі пяскамі і глінамі, а потым: калі ж гэта ўвесь горад будзе заасфальтаваны. Апусцеў дзетдом, апусцелі карпусы і палаты, усе з іх як перайшлі жыць на пустку. Зрэшты, пусткай цяпер ужо называлі тое месца толькі па старой памяці, а на самай справе там ужо быў цэнтр. У цэнтр, на асфальт, да слупа з чорнай патэльняй-рупарам і пацёг за сабою наступным ранкам

Захар'я Лецечку. Лецечка прыбег да Захар'і ў будан, каб пагаварыць з ім аб жыцці і смерці. Захар'я сядзеў на саломе і пераабуваўся, старанна накручваў на вялізную жоўтую нагу амаль што цэлую прасціну.

— А, ты яшчэ жывы, Лецечка-ліхалецечка. Здароў, здароў, пад'еў і зароў, — прывітаў ён Лецечку.

— Здароў, здароў, — у тон яму адказаў Лецечка. — Ніякіх здарэнняў за ноч не было, не ўкралі цябе гэтай ноччу? Як спаў, нічога не муляла, сабака над вухам не брахаў?

— Не, спяшу дакласці, таварыш начальнік: спаў мякка, саломка і зямелька не мулкія. Свет за ноч не перавярнуўся, усе яблынькі ў наяўнасці. Развіднела як і належыць, у свой час. Яшчэ пытанні ёсць?..— І Захар'я, як у трубу, убіў нагу ў халяву, узяў яшчэ адну прасціну, паслаў яе на саломцы, разгладзіў, прымерыўся і паставіў на край прасціны босую нагу.

— Ты што гэта, як ні то ў госці збіраешся?

— О, на гэтую справу я заўсёды гатовы. Гасцяваць, браце, не зямлю капаць, толькі вось часу на гасцяванне не хапае. Уднела — і праца кліча. Тупаць, тупаць ахвота, мясіць зямельку... Не, браце, не для таго чалавек прыходзіць на свет, каб спаць, каб памерці, а каб працаваць, працаваць, бачыць, як свет перайначваецца, і самому яго перайначваць.

— Ці не шмат ты на сябе зранку бярэш, Захар'я? Свет перайначваць...

— Во-во, малады ты, таму і дурны, па табе, перайначыць — гэта значыць перавярнуць. А па мне, палку ў зямлю ўтыркнуў — ужо ўсё і па-інакшаму. А калі гэтая палка ды яшчэ парасткі пусціць...— І другая нага з шумам і чмыхам лучыла ў бот. Захар'я падхапіўся з саломкі, патупаў, пацягнуў за халявы і задаволена паклаў на Лецечкаву галаву даланю, як цагліну кінуў. Была гэтая яго далання і цёплая і халодная, але і цяжкая, шурпатая, што наждак. Колькава галава амаль патанула ў далані Захар'і, нават сонца не згледзець. Але Кольку было прыемна стаяць пад гэтай жывой страхой.

— Ох і здаровы ж ты, Захар'я, а ў маладосці, пэўна, быў яшчэ дужэй?

— А вала пабіваў,— адказаў Захар'я.— На спор ад пана залатую дзесятку меў.

— Як жа гэта ты пабіваў яго, вала?

— Потым, потым, Лецечка. Я і цяпер яшчэ дужы. А ў цябе сілы ёсць? — І Захар'я прыгнуў даланёю Лецечкаву галаву.— Есць, ёсць моц... Патрэбен ты мне сёння, Лецечка, на добрае дзела.

Захар'я пакінуў Лецечку, нырнуў у будан. Вылез з яго з паловай цагліны, старанна абцёр яе ад зямлі, дастаў з кішэні бушлата свежую, сённяшнюю, адзначыў Колька, раённую газету, загарнуў у яе цагліну.

— Навошта табе цэгла? — спытаў Колька.

— Калі ўзяў, значыць, патрэбна. Я ўжо даўно без патрэбы нічога не бяру.

— А цагліну як украў, ці яна залатая?

— Дурань ты, Лецечка, калі гэта цэгла залатой была,— слушна адказаў Захар'я.— А цэглу я пяць ужо гадоў не краду, як у дзетдом перайшоў, так ніводнай цаглінкі і не ўкраў.

— А быў час, краў?

— А быў час, краў... Адна ў адну роўна паўтары тысячы цаглін украў я на сваім вяку. Пяць гадоў рабіў вартаўніком на цагельні. І кожны дзень па цагліне. Печ выйшла. Меркаваў і на дом цагляны нацягаць, ды паперлі — драпежнік, раскрадальнік. Ото добра зрабілі, паспрыялі мне. Зараз як падумаеш, колькі дзён мне парыцца там, колькі цаглін перацягаць... А зараз аніводнай не трэба, не трэба...— І Захар'я зарагатаў. Колька пазіраў і не мог уцяміць: усур'ёз усё гэта ён гаварыў ці жартам.

— Было, было дзела пад Палтавай,— раптам згубіўшы свой смех, сказаў Захар'я.— А зараз цэглы на плошчы навалам ляжыць — еш, не хачу... Я палавінку падняў, для справы, Лецечка, для справы.

— Якая ж гэта справа ў цябе?

— Шмат будзеш ведаць, пастарэеш.— Захар'я зладзейкавата зіркнуў у бакі, схаваў загорнутую ў газету

цагліну за пазуху і зашпіліўся, упершыню, пэўна, зашпіліў бушлат на ўсе гузікі. Узяў Лецечку за руку і павёў яго з дзетдома. На ганку ізалятара іх чакала, як усё роўна ведала, што яны тут будуць ісці, баба Зося.

— Дзень добры табе, Захар'я!

— Добрдзень,— мармытнуў Захар'я і хацеў крочыць далей, але баба Зося спусцілася з ганка і стала на дарозе.

— Мо хопіць, Захар'юшка, сэрца на мяне мець?

— Збоч,— сказаў Захар'я.

— Не, Захар'юшка, не, ведаю, куды твая дарога... Няма маёй віны перад табой, чалавек ты бязлітасны, няма, вось дзіцем гэтым клянуся...

— Няма — і суда няма,— сказаў Захар'я.— Не замінай мне.— І ён пачаў абыходзіць бабу Зосю, трымаючыся за Лецечкава плячо, як усё роўна за нейкі выратавальны круг. Лецечка каб і хацеў, то не здолеў бы вырвацца. Было яму крыху жахліва ад гэтай незразумелай гамонкі старых. Не бачыў ён раней, каб сыходзіліся яны разам, думаць не думаў, што яны ведаюць адно аднаго, што ёсць штосьці паміж імі. А выходзіць, што ёсць, ёсць, і штосьці вельмі няпростае. Баба Зося счарнела ўся і дрыжыць кожнай жылкай, кожнай маршчынкай моліць, упрошвае, крычыць, а Захар'я — што крэмень.

— Вох-ох-хох,— цягне ці то ўслед ім, ці то да неба рукі баба Зося.— Камень, камень ты, Захар'я? За якія грахі пакутую я? Каму яшчэ так пакутаваць выпадала, людцы...

— Аб чым гэта яна? — баязліва пытаецца ў Захар'і Лецечка.

— Не твайго розуму справа. Павые — перастане...

— Даўно ты яе ўжо ведаеш?

— З той пары, як лыжку ў рукі аплёў.

— Хто яна?

— Не назаляй мне, хлопча... Прыгожая. Красуняй у дзеўках была, вось за красу сваю і плоціць... За ўсё на гэтым свеце разлічвацца трэба: і за красу, і за пачварнасць, за хваробу і за здароўе... Не ведаю я яе і ведаць не хачу.

І не пікні больш. Рот на замок, — сказаў і як сапраўды замкнуў, павесіў сабе і Лецечку на рот замок.

Яны ўжо выйшлі з дзетдома і падыходзілі да плошчы. А на вуліцы адбывалася штосьці незразумелае, надта ўжо ажыўленая была яна для гэтай будзённай раніцы. Да плошчы ўхваствалі, кіравалі коней, гналі падводы мужчыны, спяшаліся прыгожыя маладайкі, буслamі, спаважна, ступалі хуткія на нагу дзядкі. І грымела, грымела на ўсё наваколле бадзёрым маршам патэльнярупар. Але хада ў людзей была не пад гэты марш, марш як бы збіваў іх з кроку, з думкі якойсьці збіваў, быццам бянтэжыў іх твары, і вочы ў людзей былі хмурныя, засмучоныя, не кранутыя музыкай.

На самой жа плошчы тварылася ўжо зусім штосьці неймавернае. Толькі гадавое свята, кірмаш у гэтае свята збіралі такое мора народу. Але ніхто нічым сёння тут не гандляваў. Не было ні звонкіх высачэзных гор з гаршкоў, гладышыкаў, макітраў, не вішчалі ў мяшках парсюкі, не кудахталі, не гублялі пер'я звязаныя гронкай, з сінімі мецінамі на баках куры, не сляпіў вочы жоўты бляск масла з кроплямі расы — нічога гэтага не было там сёння. Былі хмурныя, узрушаныя сяляне, якія ўсім кагалам, нават з груднымі дзецьмі з'ехалі з хат. Жанкі, каб суцішыць дзяцей, бясконца кармілі іх, бясконца лучылі ў іх разяўленыя раты сінія, абвіслыя цыцкі. І ўсе чагосьці чакалі, утульна і грунтоўна ўладкоўваліся на драбінках падвод, якія стаялі амаль што ўсутыч адна да адной. Чакалі коні, пераборліва чмыхалі ў торбы з аўсом, якія звешваліся з іх галоў. Змардавана чакалі, сноўдалі па базары мужчыны, якія не мелі коней, пешшу прыджгалі ў горад, чакалі чагосьці і гараджане, якіх таксама было нямала на плошчы. Захар'я спаважна здароўкаўся з мужчынамі, упарта прасоўваўся да ганка, да службовага ўвахода Палаца культуры. Супынкі гэтыя і здароўканне: «Жыў?» — «Жыў...» — «А Кузьмапрымак памёр ужо».— «Памёр...» — пэўна, былі не вельмі даспадобы. Ён кхекаў, адводзіў вочы ўбок, імкнуўся глядзець толькі сабе пад ногі, але яго ўсё роўна, высокага, магутнага, груваcткага, зглядвалі, уцягвалі ў гаману:

— Колькі ўжо гадкоў, Захар'я, мінавала, як мы з табой апошні раз балакалі?

— А незлічона ўжо...

— А баба твая яшчэ жыве?

— Жыве, жыве, трасца яе не бярэ...

— Пачакай, пачакай, тут у мяне на гэты самы выпадак ад бабы прытырана...

— Паспеецца, паспеецца,— ківаў Захар'я і даваў дзёру да наступнай падводы, да другога дзядзькі ці то да цёткі.

— І што-та ты, Захар'я, радню не прывячаеш, бяжыш...

— Прывячаю, Маланння, прывячаю...

— І-і, удовая я стала, бедная, сабакі і тыя маю хату абмінаюць... Завалілася, Захарка, мая хата, перадавала, пераказвала праз людзей, каб ты наведаўся, падсабіў падняць, перасыпаць...

— Прыйду, Маланння, прыйду...

— І то ж у мяне ўжо выціснута, як слёзка божая стаіць.

Лецечка здзіўляўся, колькі гэта знаёмых у Захар'і, на ўсе вочы разглядаў мужчын і жанок. Раней, калі ён адзін, без Захар'і, хадзіў па рынку, усе яны здаваліся яму на адзін капыл, непрыступныя, злосныя, якія дбаюць толькі аб сваім дабры, як больш выгадна тое-сёе прадаць, каб, барані бог, чаго-небудзь у іх не ўкралі. А зараз... і яму былі ўжо прыемныя частыя супынкі, размовы Захар'і. І Захар'я не хаваў перад Лецечкам свайго задавальнення, гаварыў яму:

— На мяне ўжо, Лецечка, ні адзін сабака не гаўкае, кожны сабака ведае мяне.— І рэзаў натоўп плячом, як масла, шчодра даваў кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму «добрдзень».

— Цю, Захар'я. Ды ці не твой гэта часам хлопец?

— Мой, мой, кума, да другога разу...

— А ці скора ўжо тут пачнецца?

— Скора, скора...

— Я ж іх, Захар'я, га́даў, як цябе, бачыў. У нашу вёску іх прывозілі. Я ад усяго нашага міру маёра хрыстом-богам

5. Зак. 780.

маліў адвярнуцца на мінутку. «Понимаю,— балбоча,— отец. Понимаю, но служба, не могу». Ах ты мацъ тваю... А жыццё ў нас, Захар'я, нечага бога гнявіць. Жыць можна сёння. Ё і чарка, і да чаркі ё. Даюць сёння жыць, нечага бога гнявіць, жыць можна, каб не гáды етыя. Ці скора іх павязуць?

— Каго павінны везці, што тут будзе? — спытаў Лецечка ў Захар'і.

— Справядлівасць будзе,— адрэзаў Захар'я.— Трымай язык за зубамі, от яшчэ навязаўся на маю галаву.

Яны прыбіліся ўжо да ганка, але не з параднага, а з чорнага хода ў Палац культуры, да ценю, да прахалоды. І тут, у цяні, у прахалодзе, Захар'я нечакана спатнеў.

— Ох, братка,— сказаў Захар'я, уздымаючы галаву да казырка, які павіс над ганкам.— Прамашку, здаецца, даў, трэба было не цябе, а каго-небудзь дужэйшага залыгаць. Слухай, а можа, я цябе туды ўссаджу, га?..

— Я табе ўссаджу, я табе ўссаджу,— звісла з процілеглага боку схілу казырка сівая бародка.— Занята плацкарта, забіта, і мясцоў больш німа.

— Добрдзень, Нічыпар,— амаль што весела сказаў Захар'я.— Ды як жа ты, стары хрыч, не рассыпаўся, ускараскаўся як ты туды?

— Ускараскайся і ты сюды, малады хрыч, тут я табе ўсё як ёсць і раскажу,— засмяялася, заскакала бародка.

— А ты хоць з гасцінцам? — ільсціва спытаў Захар'я.

— А як жа, мы прыпаслівыя.— І дзядок выпраставаў руку, паказаў Лецечку і Захар'ю добры камень, які ледзь трымала яго старэчая, ужо знядужаная рука.— Гэта ім за бацьку майго, дзеда Гуляя. Памятаеш яшчэ дзеда Гуляя?

— Памятаю,— адказаў Захар'я.— А ты Сучкоў ўсіх маіх памятаеш?

— Э, Захар'я, дзе тут усіх памятаць, тут бы гадкоў сваіх не забыць ды бацьку.

— Ну, дык трымай і ад маіх.— І Захар'я падаў Нічыпару сваю загорнутую ў газету палоўку цагліны.

— Бацьку майго яны ўжо апасля злавілі, зімой,— прымаючы гэтую палоўку, гаварыў Нічыпар.—

Выхваляліся: паслалі дзеда Гуляя рыбу лавіць, з агню жывым выйшаў, а з пелькі, з вады, сухім не выйдзе. А яму ж той парой соты гадок мінаваў... Сіроты мы з табой, Захар'я, сіроты. Давай да мяне, я ўжмусь, разам нам, сіротам, трэба трымацца.

— А ці не прагадаем мы з табой, Нічыпар, седзячы на гэтым вярблюдзе? А калі іх ды красным ходам павядуць?

— Ты што, ты што,— закоўзаўся на сваім седале дзед.— Гэта ж каго цераз красныя дзверы? Не мае таго быць, Захар'юшка. Мяркуй сам, па-партызанску мяркуй: ці можна гадаў праз красны ход пускаць... Гэта па-першае. Па-другое, вушы развяжы, паслухай, цяміш, якое там мора народу б'ецца, па кавалачку іх паганыя душы там расцягаюць. Не прошчана кроў людская. Я хітры, ты не думай, не сумлявайся, на вока людзям іх не дапусцяць. Лезь, не сумлявайся, Захар'іна гара.

— Ты й мянушку маю памятаеш. Была гара, ды ветрам разнесла...— І Захар'я, сапраўды як гара, палез, падзёрся на казырок. Як усё роўна валовымі нагамі абхапіў тоненькі прэнцік, Лецечка кінуўся дапамагчы яму, але Захар'я загадаў адысці і не замінаць, далей ад граху, а то, не дай бог, абарвецца.

— Не трасі, не трасі, і так дрогка,— папіскваў зверху дзядок,— хапайся за выступ, за ўступ.

Захар'я кінуў клюшняватую руку на ўступ, абдзіраючы грудзі вастрыём, акрайкам казырка, пачаў падцягвацца, пасабляў сабе нагамі, адпіхваўся нагамі ад прэнціка, разгойдаўся, раз-пораз міргаў, як усё роўна дзёрся на казырок не толькі целам, але і вачыма. З такім жа спрытам, а мо нават і больш спрытна ўздзіраўся б на гэты казырок і конь. Але, пэўна, ад таго старога каня была і ў Захар'і ўпартасць. Ён усцягваў сябе наверх сантыметр за сантыметрам. Агрубелымі і тоўстымі, але хуткімі пальцамі, нібыта іграў на гармоніку, бег па камені, знаходзіў у ім, і вокам не згледзець, шурпатасці, паглыбленні, бугаркі, учэпіста, па-мужыцку трымаўся за гэтыя шурпатасці, за паветра, бугрыўся сам, уздымаўся ўсё вышэй і вышэй.

І вось зялёнай камлыгай, купінай абваліўся на казырок, лёг грудзьмі, аддыхаўся, залез усім целам, узлёгся там гарой, не ведаў толькі, куды ўмасціць ногі, узняў іх угару.

— Дэмаскіруеш, кыш назад,— заенчыў дзядок.

— Нішкні, Нічыпар,— загадаў Захар'я.— Ляж і памры. Галоўнае — ціха.

— Ціха, табе ціха,— выгаворваў дзед праз сцятыя зубы.— Ды карову б сюды ўссадзіць, то больш ладу было б. Хлопца б вот падсадзіў бы замест сябе.

— Я сам павінен,— адбіваўся Захар'я.— Я столькі чакаў гэтага часу, мо таму і жыву. Сваімі рукамі павінен. Цэгла, камень не возьмуць — рукамі буду, зубамі. Скочу адсюль, хрыбціну сабе зламлю, а на той свет разам з сабой аднаго ды гада прыхаплю. Колькі злосць мая выспявала, Нічыпар, як кветка тая купальская... Касу ў рукі вазьму, а ў травах — галоўкі бялявыя дзяцей маіх стаяць. Лыжку ў рукі, а з талеркі — іх вочы на мяне... Не, Нічыпар, кранам мяне адсюль здымуць. Памры, Нічыпар, маўчы да часу... А ты, Лецечка, ідзі, ідзі. Нягожа табе яшчэ глядзець, як людзі гінуць.

Лецечка адмовіўся ісці куды-небудзь без Захар'і. У ім цяпер жылі і цікаўнасць і жах: што ж тут павінна адбыцца, якіх такіх гадаў паўзучых павінны выпусціць? Як гэтых гадаў будуць наладжваць на той свет Захар'я з Нічыпарам? Жах браў ад той нянавісці, што гучала ў словах, у голасе Захар'і, якая ўзняла яго і кінула на бетонны казырок, як на кулямёт, зліла, як з'яднала, яго твар з бетонам, пакінула на ім адны толькі вочы. Лецечка адчуваў, як у ім абуджаецца нянавісць, млява варушыцца ў грудзях. Гэта была яшчэ не яго асабістая нянавісць, а толькі водгук таго, што адбывалася з Захар'ем. Ён адчуваў, што не мае права пакінуць Сучка. Ён з усёй дзетдомаўскай грамады абраў толькі яго, і ён, Колька, павінен быць побач з ім да канца.

— Добра,— сказаў Захар'я,— добра, Лецечка. Застанься, я таму і браў цябе. Прыглядвай за дарогай, як убачыш чорную такую крытую машыну, свісні і змывайся тады. Паліцэйскія былыя ў той машыне будуць.

Лецечка сеў на бетонную прыступку і пачаў углядацца ў дарогу, у жанок, якія з пустымі вёдрамі спяшаліся да калонкі, ішлі не столькі па ваду, а каб пагаманіць з іншымі жанчынамі. Спадпічнае радыё ўжо даўно пачало сваю работу, забылася і пра печы, і пра някормленых дзяцей і парсюкоў. І Кольку брала прыкрасць, што яны вось так глумяць час. Іншая справа ён. Ён — як партызан у засадзе, глядзіць і маўчыць, чорнай машыны не праваронiць. Ён і сапраўды адчуваў сябе партызанам. Вось толькі вымчыць з-за павароткі машына, ён скамандуе, і па яго камандзе... такое пачнецца... А што тут усё ж пачнецца, паспрабаваў Лецечка ўявіць сабе: паляцяць цагліны-гранаты, перакуліцца ўгару калёсамі машына, сканаюць у ёй гады — паліцэйскія — на радасць усім людзям, на радасць Сучку і Нічыпару. Пакрысе ён пачаў ужо разумець нянавісць Сучка і Нічыпара, спакваля мацнела і яго ўласная нянавісць: за што яны малых Сучкоў спалілі, яны ж і яго маглі таксама спаліць? Цаглінай іх, няхай ведаюць, што ім будзе за яго. Ён ужо праг, каб гэтая машына з'явілася як мага хутчэй. А галас там, на плошчы, крэп. Бушавала людское мора. Ужо не было чуваць галасоў паасобку, як спачатку, нібыта толькі ішла за хваляй хваля, варочала каменне. А раніца была ціхая, задуменная, ні воблачка, ні хмаркі на небе ці хаця б залётнага, прыблуднага ветрыку. І машына ўсё не паказвалася. Колька ўжо стаміўся чакаць. Чаму б гэтым людзям, падумаў аб моры на плошчы Лецечка, не сядзець цяпер па хатах, не кляпаць пад павецямі кос — сенакос ужо на носе, бабам не палоць агародаў? Не, цягнуцца кудысьці, кінулі-рынулі ўсё. Дурны народ, зусім з глузду ўсе паз'язджалі. Паліцэйскія ім патрэбны, не маюць іншага клопату. Разбяруцца без іх. А цяпер так добра паляжаць з кніжкай у садзе, пачытаць пра тых жа немцаў, паліцэйскіх, партызан. З кніжкі больш даведаешся, чым тут убачыш. Там дзесьці ў садзе ўжо, пэўна, чакае яго Лена. А ён марна траціць час. А ў яго, калі верыць таму ж Сучку, не надта гэтага часу і ёсць. Трэба рыхтавацца. І Колька зніякавеў, таму што ён не ўяўляў сабе, як гэта туды трэба рыхтавацца. Адзенне

новае трэба, дык няхай аб гэтым баліць галава ў дырэктарыхі. Напісаць лісты? А да каго іх пісаць, куды пасылаць? Развітацца з Козелам, Дзыбатым, з бабай Зосяй? Чаго загадзя з імі развітвацца, калі яны заўсёды пад рукой. Ды яшчэ развітаешся — і застанешся жыць. Тады хоць рукі на сябе накладвай. А што яму наогул рабіць, не ў сэнсе блізкай смерці, а ў сэнсе жыцця...

— Едуць, едуць! — загаласілі каля калонкі жанкі.

— Едуць, едуць! — залямантаваў Лецечка.

— Не дэмаскіруй голасам і прысутнасцю. Згінь! — піскнуў Нічыпар зверху.

Лецечка адбег ад ганка. Машына скіравала да Палаца культуры, сцішылася, развярнулася і пачала пад'язджаць да ганка. З машыны саскочылі салдаты, вылез з кабіны маёр. І салдаты, і маёр, пэўна, яшчэ здалёку прыкмецілі на казырку Нічыпара і Захар'ю, і цяпер салдаты ўсміхаліся, хаваючы вочы ад маёра. А маёр задраў галаву, пільна ўглядаўся ў вочы старым, а старыя з такой жа пільнасцю, нават не міргаючы, трымаючы на выпрастаных руках, напагатове, камень і палову цаглінкі, глядзелі ў вочы маёру.

— Ну что мне с вами делать прикажете? — развёў рукамі маёр.

— Завадзіце,— піскнуў, як усё роўна аддаў загад маёру, дзед.— Нас тут нету, не відзіце вы нас.

А да ганка падвальваў ужо раз'юшаны натоўп, набягала людское мора, падхапіла, прыбіла і прыціснула да машыны Лецечку. Салдаты выстраіліся жывым калідорам ад дзвярэй машыны да дзвярэй Палаца культуры. Усутыч да іх прымкнулі і людзі. І толькі каля маёра быў свабодны, як нічыйны, астравок зямлі. Маёр па-ранейшаму з нудой, нібыта і не бачачы, не заўважаючы людзей, глядзеў на старых.

— Как мне снимать вас с этой верхотуры прикажете? Сами слезете?

— Не! — у адзін голас піскнулі дзяды. Узнялі галовы, згледзелі іх і людзі з натоўпу.

— Добрдзень, Нічыпар! Добрдзень, Захар'я!

— Ціха, ціхенька, людцы. Нас німа тут...

Выбухнуў смех, усміхнуўся і маёр.

— Помогите отцам спуститься на землю,— загадаў ён салдатам.

Але «атцы» спускацца не пажадалі.

— На руках мяне адсюль здымайце,— сказаў Нічыпар, сеў на казырок, скурчыўся і заплакаў, выціраючы вочы крысом ватоўкі.— Душы ў цябе німа, таварыш камандзір. Німа душы. Яны бацьку майго, яны дзетак маленькіх, яны ўсё наша сяло. А ты іх у машыне раскатваеш. Німа праўды, німа душы...

Маёр махнуў рукой і пайшоў у кабіну, злосна грымнуў дзверцамі. Двое салдат ужо былі на казырку. Яны ашчадна падхапілі дзеда пад пахі, Нічыпар паспеў, прыгроб да сябе камень, і салдаты, як дзіця, з рук у рукі перадалі Нічыпара разам з каменем іншым салдатам, якія стаялі ўнізе. Тыя хацелі паставіць яго на ногі, але Нічыпар не даўся, падкурчыў ногі пад сябе, і яго пасадзілі на зямлю каля ганка, як мех бульбы, маленькі чорны мех з сівой бародкай. Нічыпар трос гэтай бародкай, уздымаў над галавой камень і крычаў скрозь слёзы:

— Глядзіце, людцы, глядзіце. Вось сэрца маё! Во што з ім стала!

І зараўлі, загаласілі спачатку бабы, засмаркаліся ў хусткі і хустачкі, потым адвярнуліся, крывячы губы, і мужыкі. І тут, як па жывым, разануў натоўп дзіцячы пранізлівы плач. Плакаў Лецечка, прыпаў ілбом да кола машыны, як усё роўна самлеў на гэтым коле. Натоўп адхлынуў ад яго — такі нечаканы і такі несуцешны, надрыўны быў яго плач.

— А-а, рабёнка задавілі! — залямантавалі бабы.

— І нічога мяне не задавілі. Я зусім не таму...

Так, сапраўды ён плакаў зусім не таму, што яго крыху прыціснулі, ён і сам не ведаў, чаму ён плача: вочы не трывалі глядзець на Нічыпара, які трымаў у руках сэрца-камень. Яго, яго гэта было сэрца ў руках старога.

— Людцы, мір! — выбухнуў зверху голас Захар'і.— Не папусціцеся, не выдайце. Куля літасцівая. Агонь трэба і камень... Мучыць іх, як мучыліся мае дзеці ў агні... Дзеці мае, дзеткі, Колька Лецечка, сынок...— Захар'я на ўвесь свой магутны рост стаяў на казырку. У схватцы з салдатамі ён згубіў шапку, сівыя пасмы валасоў збіліся ў камяк, і камяк гэты варушыўся — як жывы. Захар'я быў страшны, проставалосы, сівы, замызганы, жахліва дужы, з выпрастанымі да неба акасцянелымі клюшнямі пальцаў, з амаль што звар'яцелым тварам.

— Як яны гарэлі, як яны прасілі: татачка, даражэнькі, лёду...

Захар'я не ўстаяў, пахіснуўся, ступіў з казырка на машыну, загрукаў па блясе ботамі:

— Чуеце, гады, чуеце, смерць ваша да вас просіцца!

— Наведите порядок, быстро! — зноў сярод людзей быў маёр. Ён быў таксама сівы і проставалосы, як Захар'я. Шапку пакінуў, пэўна, у кабіне, у шафёра, пэўна ж, там застаўся і яго пісталет, таму што кабура была адшпілена і пустая.

— Чалавеча, хрыстом богам цябе заклінаю, адвярніся на мінутку,— адбіваўся ад салдат, цягнуўся да маёра Захар'я. Але маёр маўчаў, толькі тугія жаўлакі каталіся па мангольскім скуластым твары. І нечым падобныя на маёра, кволыя побач з Захар'ем, салдаты спусцілі яго на зямлю. Адчыніліся заднія дзверцы, машына крыху яшчэ здала назад, стала амаль што ўшчыльную да сцяны Палаца культуры. Забразгала жалеза ў машыне, і у поўнай цішыні, у нейкім нават аняменні раніцы і людзей, спешна і спалохана, загрукалі ўжо там, у будынку, па дошках падлогі крокі. Ціша ўжо была неймаверная, толькі гэтыя крокі, дых людзей і міргание іх вачэй. Маёр падышоў да кабіны, узяў з рук шафёра шапку, пісталет:

— Процесс, граждане, открытый, вход свободный, через фойе.

Ад яго кінуліся ва ўсе бакі. Імгненне-другое, і толькі салдаты, маёр, Захар'я з Нічыпарам і Лецечка засталіся каля машыны.

— Отцы, я вас могу провести через служебный вход,— падышоў, дапамог устаць з зямлі Нічыпару маёр.

Захар'я з Нічыпарам змоўчалі, пабраліся за рукі і пабрылі на плошчу. Лецечка пачакаў яшчэ крыху чагосьці і пакрочыў за імі. Ён усё яшчэ не мог сціішыцца, плакаў і не ведаў сам, чаму плача.

## V

Убіцца ўнутр Палаца культуры Кольку не пашанцавала. Народ валіў туды, пёр напралом, не зважаючы — дзе свае, дзе чужыя. У адно імгненне знеслі моцныя дубовыя ці то робленыя пад дуб дзверы. Мужчыны перлі маўкліва, напорыста, прыціснуўшы да грудзей ці да бакоў рукі, сцяўшы зубы, нібыта рабілі нейкую цяжкую і непрыемную работу. Жанчыны паспявалі і рукамі намахацца, паздымалі хусткі і хвасталі гэтымі хусткамі па твары, па вачах мужыкоў, выкрыквалі штосьці злое, нядобрае. Але ў галасе, у тлуме слоў іх ніхто не чуў і не разумеў, нібыта жанчыны гаварылі на нейкай замежнай мове. Падлеткі, як скрозь лес, прадзіраліся скрозь ногі дарослых. Надрываўся, заклікаў да парадку рупар, але толькі множыў галас і тлум.

Лецечка не адважыўся і наблізіцца да гэтага вірлівага патоку. Шчыра кажучы, яму не вельмі і карцела глядзець на гэтых гадаў-паліцэйскіх — застанешся жывым па дарозе ў залу, замардуюць, дыхнуць не дадуць ужо ў самой зале, прыпрасуюць да якой-небудзь цёткі ці бабулькі, да вечара не выпусцяць на волю. І Лецечка стаяў у баку ад гэтага людскога віру, учапіўся за слуп, на якім грымеў рупар, і, крыху аглухлы ад гэтага грому, убіраў у сябе ўсё, што тут адбывалася. Яму было жудасна ад таго, што прарвалася раптам у людзях — шалёнае, злоснае. Якімі ж гадамі павінны быць паліцэйскія, калі праз столькі гадоў абудзілі такое ў людзях, ці чалавекі яны, на чалавекаў так не рвуцца глядзець. Што гэта натварылі яны тут, які знак, якую рану пакінулі ў сэрцах людзей?

6. Зак. 780.

І яшчэ, Лецечку цяжка было паверыць, што перад ім тыя самыя людзі, якіх ён, здаецца, уведаў да апошняй кроплі. Вось па гэтых вуліцах яны з дня ў дзень хадзілі на работу, везлі на базар і ў падворкі сена на падводах і санях. Лецечка іншым разам, сцікаваўшы, як адвернецца дзядзька, пад'язджаў на іх санях ці падводах, чапляўся за рубель ці то за вяроўку, якая звісала з воза, хаваўся за сенам і ехаў сабе. Здаралася, дзядзька нязлосна сцёбаў яго пугай. Ён плакаў ад болю, выкідваў кулак: пападзешся, маўляў, і ты мне. Дзядзька лагодна пасмейваўся, выскаляў жоўтыя на сонцы зубы. А выпадала, яго і падсаджвалі на воз, частавалі вясковым духмяным салам. Салам, маслам, гуркамі і памідорамі гандлявалі яны на базарах, да хрыпаты змагаліся за капейку. З прыбыткам ці са стратай збывалі свой тавар, ашчадна завязвалі пакамечаныя рублі ў насоўкі, хавалі за пазуху бліжэй да сэрца, а пяцёрачку якую ў зубы і кіравалі да забягалаўкі, чайной — сто — дзвесце грамаў, а то і цалкам белагаловую. Хапатліва закусіўшы, іншы раз і біліся, пацяшалі людзей. А іх жонкі наглуха, да вачэй, ахутвалі чорнымі хусткамі твары, учынялі набегі на магазіны. Выходзілі з магазінаў, як на нагах устояць, абвешаныя клункамі і сеткамі з хлебам, звязкамі абаранкаў, горамі белых гарадскіх булак — гэта ў апошні час, сыты час, а раней... хапалі ўсё, што трапляла пад руку, што дзешавей, практычней,— мыла, іголкі, соль, цвікі, камбалу і кільку-хамсу, танныя кансервы, траску і чырвоную, салёную рыбу гарбушу і на зубок дзецям — сто — дзвесце грамаў ліпкіх цукерак-падушачак. Не чуючы пад сабой ног, беглі да бальшакоў, на спадарожныя машыны, а калі іх не было, выпраўляліся без доўгіх разваг і пешшу, якая б дарога ні была — тры ці ўсе трыццаць кіламетраў, ішлі ноччу, апоўначы, больш за ўсё апоўначы, бо днём трэба было рабіць.

Дык ці гэта тыя, гаспадарлівыя, памяркоўныя, людзі цяпер на плошчы? Дзе іх тады гаспадарлівасць, дзе іх памяркоўнасць? Людское мора ў асноўным ужо схлынула з плошчы. Галас і тлум былі ўжо ўнутры будынка са шкла, каменю, мармуру. На асфальце засталіся толькі гузікі,

галёшы, згубленыя бабамі хусткі ды невялічкая купка людзей. Прасторны, з запасам, з перспектывай пабудаваны Палац культуры не змог увабраць усіх, не змог увабраць, умясціць у сябе нечакана абуджанае гарадское і вясковае гора, нянавісць. Людзі гронкамі віселі на адарваных, перакошаных дзвярах, купкамі стаялі каля ганка і ка́ля раптоўна знямелага рэпрадуктара. То маўкліва ўздымалі галовы ўгару, то глядзелі на Кольку, які прыціснуўся да слупа і адчуваў сябе як голым усё роўна, распятым іх маўчаннем, нібыта якаясьці частка віны за тое колішняе, мінулае, але не забытае ляжала і на ім. Паглядаў на людзей, як ваўчанё, спадылба. Мітуслівы, галасны ранак ужо накладваў свой адбітак на яго твар, пад вачыма выступалі ўжо зямліста-вугальныя цені, вочы як выпхнуў хто — так пастаўлены былі яны ўсім на пагляд, пукатыя, ненатуральна белыя бялкі, парэзаныя чырвонымі, трывожнымі ніцямі прожылкаў, якія амаль што дасягалі зрэнкаў. У зрэнках выспявалі здзіўленне, разгубленасць і боль. Боль, трывога і крык спелі і на ружовых скулах яго, на тоненькай, пудлівай маршчынцы каля падбародка. Боль, загнанасць былі і ў яго сутаргавым дыханні. Ён і згадаць не мог, колькі цяпер у ім, дзетдомаўскім, казённым, дакору, але людзі адчувалі гэта. І ніхто не затрымліваў на ім вачэй, і ў той жа час ніхто не мог адвесці ад яго вочы, нібыта не рэпрадуктар, а ён, Колька Лецечка, павінен быў сказаць ім мо тое адзінае, прыхаванае слова, якое б вытлумачыла ўсё: навошта, дзеля чаго яны, шматпакутныя, прыйшлі сюды.

Лецечка ўжо вырашыў збегчы ад іх вачэй, яго ўжо не трымалі ногі, і ён ужо адарваўся ад слупа, а на тую хвіліну ў рэпрадуктары штосьці гучна шчоўкнула. Кольку памсцілася, што гэта шчоўкнула штосьці ў ім — так разанула застыглае, спруцянелае цела пранізлівым узрушаным голасам.

— Встать! Суд идет!..

«Суу-ууд ёт-ёт-ёт» — пакацілася над плошчай, гонтавымі і саламянымі стрэхамі хат, загуло ў лісцях дрэў, над аціхлай Слабадой. Лецечка і ўсе, хто быў побач з ім, распраміліся, выпрасталі спіны, шоркнулі па зямлі ботамі

і чаравікамі. І доўгая, гаротная цішыня каменем лягла на зямлю. Толькі там, за шклом і бетонам, у Палацы культуры,— выразныя і ўсё мацнейшыя, як удары метранома, што адлічвае час, але не секунды, а гады, крокі. Абвальны грукат адсунутых крэслаў і уздых. Уздых там, у зале, і тут, на плошчы. Уздых хваляй прамчаў па плошчы, па горадзе і знік — поле і лес паглынулі яго. Пад нагамі ў Лецечкі толькі здрыганулася зямля, зямля, здалося яму, таксама ўздыхнула. Лецечка адштурхнуўся ад слупа і пайшоў па дрыготкім, растопленым асфальце, але кіраваў ён не ў дзетдом, а ў поле, дзе палавела ўжо жыта. Неба, мсцілася яму, наблізілася да зямлі. І было яно ўжо зусім не небам, а блакітным празрыстым шарам. І ён ішоў пад гэтым ашчадным да яго шарам, кратаў яго рукамі. Шар быў цёплы, родны. І скрозь добра відаць было ўсё: і жыта, і далёкія, пакрытыя саломай і чаротам хаткі і хлявы вёскі, што была пад горадам, і конь, і жарабё, што стаялі на ўзгорку, і бабулька, што рвала сурэпку на картаплянішчы, і буслінае кубло на вільчыку старой хаты, і сам бусел, які выстойваў на адной назе, як вартаваў усё, што бачыў Лецечка, вартаваў сам час, бела-ружовы ў ружовым ранку бусел. Колька адвёў вочы ад вёскі, скіраваў позірк туды, дзе выгіналася сярод парослых ніцай лазой і вербалозам балацін і пагоркаў, сярод белых выспаў пяску дарога, дзе стаялі аціхлыя маладыя хвойнікі, і пабег, пабег вокам па даляглядах, па пясках, лясах, выжарах. Усё гэта было яго. Усё гэта было знаёмым і дарагім яму. І ўсё гэта было ад яго за блакітным родным і чужым шарам. А ён прагнуў туды, на гарачы, як прысак, пясок, у змрочную, маркотную прахалоду хвойнікаў. Але Лецечка ведаў, што туды ён ужо не дойдзе. І ён углядаўся ўдалячынь без нуды і суму, баючыся толькі аднаго — мімавольнай слязой парушыць гэты блізкі і далёкі свет.

Але свет быў парушаны не ім, а гудам матора экскаватара, расстраляны як аўтаматнай чаргой. Не прыкмечаны Лецечкам экскаватар капаў траншэю. Палутарка валачыла па зямлі на дроце дзве ржавыя трубы. Рабочыя пракладвалі да вёскі водаправод. Колька пады-

шоў да траншэі і лёг на выкінутую з яе крыху вільготную зямлю і гліну. Траншэя была глыбокая, метры са два глыбінёй. Але дзіўна, і на паверхні яе, і далей, углыб,— пясок і гліна. І больш нічога — ні каранёў адмерлых дрэў, ні чарапкоў якіх, ні якой-небудзь каменнай сякеры, ні асколкаў, ні міны, ні косткі. Нібыта ніколі не ступалі на гэтую зямлю ні звер, ні чалавек, не падаў тут ніхто, ніхто нічога не губляў. А Лецечку здавалася, што калі зямля так густа заселена людзьмі, перапоўнена жыццём, то яна павінна была поўніцца і памяццю далёкага і блізкага жыцця. Варта толькі калупнуць яе — і зямля ажыве, загаворыць. А тут толькі гліна і пясок. Але ж і па гэтых глінах і пясках яшчэ да яго прайшлі тысячы і тысячы, мільёны людзей. Няўжо ж яны не пакінулі пасля сябе і следу, ніякай адзнакі? Як жа яны ішлі — па паветры ці ляцелі, чым яны сілкаваліся, што елі — не святым жа духам жылі? Чаму ў гэтай раскапанай зямлі няма і намёку на чалавечую жытку і на смерць чалавечую няма намёку ў зямлі? Няўжо ўсё адбываецца толькі на зямлі? Куды ж усё гэта знікае потым?

Ці гэта толькі тут так, на пустое, няўдалае месца натрапілі? Не можа быць, каб усюды так. Знаходзяць жа людзі і стойбішчы старажытнага чалавека, і скарбы знаходзяць, натрапляюць на цэлыя гарады старажытныя, а яму не шанцуе, не дадзена яму паглядзець нават на бітую старадаўнюю гладышку. А мо і тут што-небудзь адкапаюць? Такая вялізная, глыбокая траншэя, столькі зямлі перакапана, і столькі яе яшчэ перакапаць трэба! Ён падышоў бліжэй да экскаватара, пачаў сачыць за яго работай. І ўтрапёна глядзеў на магутнасць і бязлітаснасць гэтай магутнасці: быў уражаны тым, як коўш без усякіх разваг угрызаўся ў зямлю, драпежыў яе, нямую, маўклівую. Якая ж пасля гэтага можа быць тайна, ці ёсць каму паратунак ад гэтых бязлітасных стальных зубоў? Зусім іншая справа заступам, асцярожненька. Але дзе гэта набрацца столькі заступаў? Ды там, у вёсцы, ад смагі сканаюць. Няхай ужо лепей экскаватарам. Толькі шкада, што ў коўш яму не трапляе нічога добрага. Цяжка змірыцца з тым, што вакол цябе толькі пясок і гліна. Гліна і пясок — усё, што засталося-

ся ад людзей, звяроў, нават ад вайны, якая прайшлася па гэтай зямлі. А дзе ж золата, дзе нафта? Няўжо такая бедная яго зямля? Няўжо яму не пашанцуе нічога знайсці, адкрыць на ёй? Ён жа, як і ўсе дзетдомаўцы, марыць аб знаходках і адкрыццях.

Шчыруе руплівы коўш экскаватара. І толькі гліна, толькі пясок. І галасоў нават ніякіх не чуваць, колькі ні прыслухоўваўся, а не чуваць, каб кагосьці клікала зямля. Гудзе толькі экскаватар, калупае, дзяўбе пясок і гліну грак, але ён нічога спажыўнага не знаходзіць; абуджаным аваднём звініць, сыходзіць ужо ранак. Абагрэты сонцам пясок абсох ужо, цячэ, з жоўтага бярэцца белым. Суха скочваюцца з горак пясчынкі, шамацяць, патрэскваюць, як усё роўна вазок коціцца з узгорка, шмат белых вазкоў, толькі ад кузні — і ў дарогу. Калі пакласці галаву на зямлю, здаецца, як бы песня якая плыве над зямлёй, песня без слоў: а-а-а. Манатонная, глухая... Выходзіць, усё ж ёсць голас, чутно, адпявае ўсё ж некага зямля. Не пустая яна, ёсць жыццё і ў зямлі, а жыве ў ёй спрадвечная скруха. Па кім яна, па тых, што ляжаць цяпер у зямлі, ці па тых, што яшчэ лягуць? Чым вышэй сонца, тым гучней, больш надрыўна песня. І вядзе яе ўжо не толькі зямля, вось яе ўжо заспявала, закалыхала маркотным веццем бяроза каля траншэі. Вось падáў, уплёў у яе свой голас і далёкі хмызняк, загаманіла коласам спачатку ў разнагалосіцу, а потым патрапіла, узяло сваю вышыню, сваю ноту і жытняе поле: а-а-а. Ляціць над зямлёй песня. І не толькі скруха ў ёй, але і радасць. Радасць, што слухаеш яе, што гэтая песня і ў табе. Трэба толькі прыслухацца да сябе. Пакласці гарачую даланю на гарачы пясок. Увойдзе ў цябе песня, тужлівая ці вясёлая. Гэта ж мо і не зямля спявае, а сам ты спяваеш. Зямля толькі прыслухоўваецца да цябе, пашырае, множыць тваю песню.

— Ты завеш мяне, Зямля? — пытае, прыпадае да зямлі вухам Лецечка.

— Лецечка, Ле-е-цечка-а-а...— чуе ён глухі і блізкі голас. І песня знікае, вясёлая і тужлівая. Ціха ўсё навокал, як вымерла. Колька падхапіўся з зямлі.

— Лецечка, увесь дзетдом з ног збіўся, цябе шукаючы. — Перад Лецечкам баба Зося.

— Што я, іголка, сам знайдуся...

— Нельга табе з дзетдома сыходзіць, дзіцятка...

— Мне цяпер ужо ўсё можна. Навошта падманваць мяне, баба Зося? Усё можна. Усё дазволена...

Экскаватар перашкаджае іх размове, яны адыходзяць ад яго.

— Што можна, што будзе, каму што наканавана, ведае адзіны толькі бог,— гаворыць баба Зося, і вочы яе вільгатнеюць, чырванеюць.

— А ёсць бог, ты верыш у бога?

— Табе я магу сказаць, што ёсць, веру...

— Во відзіш, відзіш, мне цяпер ужо ўсё можна...

— Няма бога, Лецечка, і не веру я. Каб быў бог, ці ён дазволіў бы... Не, няма бога... Няма і не было ніколі.

— А Лабановіч быў?

— Гэта які яшчэ Лабановіч? Мо ты блытаеш, да вайны ў сельпо ў нас рабіў Кахановіч...

— Дык ты, выходзіць, зусім не тая Зося, не пані Ядвіся?..

— Тая, Лецечка, тая, якая ўжо ёсць — баба Зося... А вось Лабановіча, хоць ты забі мяне, не памятаю, блытаеш... Вось ты ўжо і злуеш на мяне. А хваляваццa табе нельга, нельга. Мо я яшчэ ўспомню Лабановіча...

— Я не злую,— сказаў Лецечка і схлусіў, таму што так злаваў, так абураўся ён упершыню за дзесяць гадоў жыцця ў дзетдоме.

Цягнуў жа яго чорт за язык, адняло б яго. Не толькі ў траншэі пуста, але і баба Зося зусім не Ядвіся, а ліха яго ведае хто. Няхай бы ўжо ён змоўчаў, і засталася б баба Зося пані Ядвісяй. А так — што? Звычайная старая, з выплаканымі вачыма, усохлая, замест ног — сцяблінкі, спрацаваныя сухія рукі, і твар ужо страціў узрост. Колькі такіх бабуль, падобных адна да адной, як дзве кроплі вады, колькі такіх бабуль у хлапчуковых моцных чаравіках, апошніх у іх жыцці, ходзіць па горадзе, колькі іх дажывае свой век па вёсках, замшэлых хатах, у закутках, адгаро-

джаных ад людскога вока матэрыяй, каля дымных печаў. І вось адна з іх прыбілася да дзетдома, прыляпілася да сіроцтва, да ізалятара.

Лецечка амаль што ненавідзеў бабу Зосю, таму што яна зусім не тая баба Зося, якую ён прыдумаў сабе, таму што яна перашкодзіла яму прыдумляць далей, сапсавала ўсё на свеце, больш таго, парушыла яго асабісты свет, свет, які ён стварыў для сябе...

— Я ведаю, хто ты,— сказаў Лецечка,— ведаю, баба Зося.

Баба Зося ўсміхнулася і як памаладзела.

— Што ж тут ведаць, Лецечка...

— Ты жонка Захар'і, вось хто ты, баба Зося.

Баба Зося як не ўпала ў траншэю.

— Гасподзь з табой, гасподзь з табой, дзіцятка, што ты чаўпеш. Не магу я яму быць жонкай...

— Адкуль жа ты тады ведаеш яго, што за віна ў цябе перад ім?

— Не трэба аб гэтым, Лецечка. Пашкадуй хоць ты мяне. Няма маёй віны перад людзьмі, як на духу, як богу, табе гавару... А ён табе пра мяне што гаварыў?

— А што ён мог сказаць?

— Нічога, дзіцятка, нічога. І не будзем болей аб гэтым. Аб чым-небудзь добрым, не аба мне і не аб ім пагаворым.

— Хто ж ты, Зося? — зноў спытаў Лецечка яе, як мог спытаць Лену ці то Стася.

— А старая я ўжо баба, Лецечка, парахня.

— Не ўвесь жа час ты была старая.

— Не ўвесь, не ўвесь, Лецечка, была такая, як і ты. Дваццаць душ жыло ў нашым доме.— Голас у бабы Зосі памаладзеў, зазвінеў і — як abламаўся.— ...Дваццаць душ, і самой сёння не верыцца... Знайшла я, Лецечка, калі такая, як ты, была, у аўсе мех грошай. Не, не такая, ужо нявесцілася... А мо ўжо і замужам была, дзяцей раджала. Не памятаю, няма памяці, ці то гэта перад вайной нават было... Шчасце якое, мех грошай, бітком-бітком...

— І што ты з імі зрабіла?

— Не памятаю, Лецечка, даўно было, ці то цукерак і пернікаў накупляла, ці то матэрыі крамнай на плацце ўзяла...

— А мех куды, куды грошы дзела?

— А туды ж, Лецечка, у авёс і закінула.

— Навошта ж ты іх, баба Зося, у авёс, столькі грошай?

— А ў тым і справа, Лецечка, столькі грошай, мех грошай. Навошта мне так багата, яшчэ падумаюць, што я ўкрала ці то забіла каго.

— А што далей было? Прапаў мех з грашыма?

— Ну што ты, Лецечка, хіба грошы прападаюць? Знайшла я іх раніцай, а пад абед добрыя людзі паспрыялі, пазбавілі мяне ад пакут. Прыехалі ў вёску на калясцы з рысорамі двое, паваліліся сярод вуліцы, галовамі ў пыл, у пясок: «Ратуйце, людзі добрыя, казённыя асігнацыі згубілі». Я і не ўцяміла, што за асігнацыі. «У зялёненькім, гавораць, такім мяху». Тут толькі да мяне і дайшло: гэта ж яны пра грошы гавораць. Прывяла іх да аўса, паказала месца. Адзін з гэтых раскрыў той мех, хап — што рукой ухапіць — і мне за пазуху. Наледзь адбілася, адну толькі паперку і ўзяла.

— Увезлі грошы?

— Увезлі, увезлі... А няўжо ж ты мяне не памятаеш, Лецечка?

— Адкуль гэта я цябе павінен памятаць, баба Зося, ты такая старая, а я...

— Ох, Лецечка, Лецечка, я ж цябе ў шпіталі глядзела. Не памятаеш?

— Не, баба Зося.

— А я вось усё памятаю. Набрала я на тыя дараваныя грошы пернікаў. І елі мы ўсёй сям'ёй... А цябе я ведаю яшчэ са шпіталя. Хто ж там клапаціўся пра цябе, хто спавіваў, даглядаў... Прывезлі цябе трэсачка трэсачкай, я і прыгарнулася да цябе сэрцам. А ты мяне ўсё лаяў, усё лаяў, а я трывала. Устаў ты на ногі, тым жа часам зняўся і шпіталь. Куды мне дзецца? У нямеччыну следам за войскам? Дык паміраць ужо лепей тут, на сваёй зямельцы. А радні ў мяне... Падалася я за табой у дзетдом. Думаю,

прымаюць малых — не прагоняць і старую. На тое яно і выйшла, Лецечка, як наваражыла я сабе.

— А я думаў...— сказаў Лецечка і змоўк.

Не варта было гаварыць, што ён думаў. Яму ўсё яшчэ была даражэй і бліжэй тая баба Зося, якую ён прыдумаў. За тою была нейкая таямнічасць, а за гэтай — нічога: уздыхі, слёзы і смерць неўпрыкметку. І яшчэ дзень назад Колька ўсё гэта і выпаліў бы ёй. А сёння, вось зараз, язык не паварочваўся сказаць ёй гэта. І не таму, што калісьці баба Зося спавівала і даглядала яго. У дзетдоме іх — за сто чалавек, і пра кожнага клапоцяцца, кожнага даглядаюць. Але баба Зося чагосьці чакала, якіхсьці добрых, зычлівых слоў. А іх у тую хвіліну ў Лецечкі не было. І ён вырашыў за лепшае перамаўчаць. Няхай баба Зося так ніколі і не даведаецца, што плялі пра яе дзетдомаўцы. Няхай яна будзе яму бабай Зосяй, а для іншых так і застанецца пані Ядвісяй. Так будзе лепей ёй і дзетдомаўцам. А ён нікому нічога не скажа.

— А я думала...— сказала цяпер ужо баба Зося, так і не дачакаўшыся слова ад Лецечкі.

— Аб чым жа ты думала?

— Думкі мае... Падахвоціць, развесяліць цябе думала.

— Дык падахвочвай, весялі мяне.

— Пра грошы я табе гаварыла ўжо. І не згадаю больш, што б табе яшчэ расказаць цікавае... Выпускнікі нашы, дзетдомаўскія хлопцы, прыехалі. Студэнты...

Прыезду студэнтаў Лецечка не вельмі ўзрадаваўся. Але яго кранула імкненне бабы Зосі хоць такой дробяззю ды дагадзіць яму, і закарцела чымсьці аддзякаваць ёй за гэтую вестку пра студэнтаў, за гісторыю з грашыма.

— А памятаеш, баба Зося, курган пры дарозе? — нечакана для сябе пачаў ён.

— Там немцы яўрэяў расстрэльвалі, ля гэтага кургана іх і пахавалі...

— Не, не,— сказаў Лецечка. Рушылася яшчэ адна тайна, разбіваўся ўшчэнт добры, абжыты свет, які ён і іншыя дзетдомаўцы стварылі і прыстасавалі для сябе. Ён кінуўся ратаваць, што яшчэ магчыма было выратаваць,

пачаў хлусіць, нахабна і пераканана: — Нічога ты не ведаеш, баба Зося. Курган той старажытны, і я раскопваў яго, калі ты спала, мы з Козелам і Стасем узялі пажарныя лапаты і пайшлі да кургана...

Колька сам сябе злавіў на нахабнай хлусні: пажарны шчыт быў заўсёды на замку і рыдлёўка была там толькі адна. Але спыніцца і падумаць не выпадала, нёс лухту, бязглуздзіцу:

— На дрывотні ўкралі сякеру, збілі замок, узялі лапату і пайшлі.

Баба Зося не перашкаджала хлусіць, зацята маўчала.

— Ты што, не верыш мне, баба Зося?

— Веру, веру, расказвай, расказвай, Лецечка.

— За ноч мы раскапалі курган, управіліся за ноч. На ім пясок толькі зверху, а далей — як хата: і дзверы і печ.

— І печ? — пляснула рукамі баба Зося.

А Лецечка ліхаманкава перабіраў у галаве, як спыніцца, выблытацца з гэтай хлусні, і працягваў хлусіць.

— І печ, і ложак, і скрыні. Мы столькі дабра маглі б вынесці. Але тут прыскочыла міліцыя...

Лецечка слаў праклёны сабе, слаў праклёны на бабу Зосю. Ну чаму яна так уважліва слухае, чаму не спыніць яго, не скажа: лжэш ты ўсё, Лецечка! Утаропілася і слухае брахню.

— Якая міліцыя, Лецечка?

— Конная, баба Зося, і на машынах...

— Ад такой міліцыі, само сабой, не ўцячэш.

— Уцяклі, як зайцы, пайшлі па пустцы, схаваліся ў кар'еры.

Лецечка здаўся, не імкнуўся ўжо болей гаварыць што-небудзь падобнае да праўды. Хлусіць дык хлусіць. Яму ўжо было сорамна, брыдка слухаць сябе. І чым больш было сорамна, чым больш брыдка, тым больш пераканаўча ён хлусіў, тым больш раздражнёна гучаў яго голас, як быццам ён лавіў на хлусні, упікаў у хлусні кагосьці іншага, а не сябе.

— Ну супакойся, супакойся,— схілілася да яго баба Зося.— Уцяклі, і ладна. І хораша, што збеглі, малайцы.

— Ты мне не верыш! — закрычаў Лецечка.— А я табе пра мяшок з грашыма паверыў, адразу паверыў.

— Ты добры, ты даверлівы, рахманы. Як вожык ты, здаешся толькі калючым. Я ведаю, ты не такі, як усе.— І баба Зося ўсохлай лёгкай рукой прыгладзіла віхор на яго галаве, так лёгка правяла рукой па галаве, як і сапраўды гладзіла вожыка. І, як вожык, які адчуў бяспеку і давер, Лецечка абмяк ад гэтых яе слоў і нечаканай пяшчоты, носікам-бульбачкай нюхнуў немітуслівую добрую даланю бабы Зосі і адразу дараваў ёй усё: што яна не тая, не коласаўская, Ядвіся, што яна ніколі ёю не была, не ведала шляхетных панскіх пакояў, што яна, такая як ёсць, жыве побач з ім у дзетдоме, у пакоях, дзе калісь жыла панская чэлядзь. І дзеля такой бабы Зосі ён быў гатовы на ўсё. Ён за яе цяпер і ў агонь, і ў ваду. І не толькі за яе. Ён любіў той хвілінай усіх любоўю, якая апякала, спапяляла яго кволае цела. Яму карцела крыкнуць на ўсю моц, каб усе пачулі, каб усе пабачылі, колькі ў ім дабраты, які цудоўны дзень стаіць над зямлёй.

Лецечка і баба Зося ўжо былі каля дзетдомаўскай брамы, у цяні двух вялізных ясакараў, абадраных восямі падвод. Побач з гэтымі ясакарамі і дзетдомаўскай драўлянай брамай, над якой ціха калыхаўся чырвоны сцяжок, была яшчэ адна брама, два мураваныя слупы з адагнутымі набок крукамі, што калісь утрымлівалі дзверы. Дзверы, зноў жа калісь — зараз ад іх і следу не было, расчыняліся ў парк. Сёння ж у парк уваход свабодны, да яго, да замка ў ім, былога панскага палаца з вежамі, вядзе асфальтаваная сцяжынка. На мураваных слупах яшчэ захаваліся часткова літары з прозвішчам пана, часткова яны сцёрты часам, часткова падзяўбаны, пасечаны сякерамі, штыкамі і прыкладамі вінтовак. І ад ясакараў, замка, мураваных слупоў павявае старажытнасцю, спакоем, чысцінёй і свежасцю. Спакой, бадзёрасць і нават нейкае замілаванне адчуваў у сабе і Колька. Ён ужо даўно і не згадваў плошчу, Захар'ю з Нічыпарам, забыў пра машыну, маёра і гадаў-паліцэйскіх.

Ён уваходзіў у свой родны дом, яго ўводзілі ў гэты дом. Там яго чакалі Лена, Козел з Дзыбатым, там яму было прыгатавана снеданне. Ранкам, праўда, ён збег з гэтага дома, трохі пабадзяжыў, але цяпер набліжаўся да яго абноўлены, працяты трапяткой радасцю, радасцю і шчасцем, якія аж трымцяць у нас, калі мы пасля доўгай дарогі зноў сустракаемся са сваёй бацькаўшчынай, сваім родным кутам. Яго дом, як і прызначана бацькоўскаму дому, быў адгароджаны ад свету, яго мітусні, жахаў, трывог высокай мураванай агароджай, клопатамі бабы Зосі, клопатамі мноства іншых людзей, якіх ён не ведаў і якіх яму ніколі не давядзецца ведаць. Але гэтыя людзі былі дарагія яму, ён здагадваўся, што яны ўсё ж ёсць, і любіў іх. Яму быў дарагі і дзетдомаўскі сабака Асталоп, яму быў дарагі і дзетдомаўскі конь менавіта таму, што яны былі дзетдомаўскія. І Лецечка толькі здзіўляўся, як гэта раней ён жыў і не бачыў нічога гэтага, не шанаваў, не заўважаў, не насіў у сабе ўсяго гэтага. Усё ж гэта было сапраўднае, не часовае, а роднае навекі. І дырэктарыха, якую пакрыўдзілі ўчора дзетдомаўцы,— назаўсёды родны і блізкі яму чалавек. Няспынна ужо дзесяць гадоў яна дбае аб ім, каб у яго доме ўсяго хапала, каб ён быў шчаслівы, каб было добра ўсім ім — Колькам, Стасям, Ленам, каб ім было што пад'есці і адзець, каб былі дровы і падручнікі. Гэта ж ужо і яе дом. Калі Колька ўпершыню пераступіў дзетдомаўскі парог, яна была яшчэ маладая, усе зубы на месцы і валасы свае, потым яны пачалі сівець, яна пачала іх фарбаваць. Выпраўляючыся кожны раз па справах у вобласць, яна цягнула за сабой яго. Хадзіла там з ім па паліклініках, прафесарах, паіла ліманадам, купляла і цукеркі. Не, на свеце няма лепшага дома, чымсьці яго дом. І не трэба яму іншага. Ён будзе тут заўсёды. Гэта мана, што яму карцела хутчэй пакінуць гэты дом, вырасці і сысці з яго. Не, няпраўда.

І Колька паспяшаўся да роднага ганка, які цяпер абляпілі дзетдомаўцы, на якім на ганаровых месцах сядзелі выпускнікі, студэнты. Але баба Зося не дала яму затрымацца, пагнала снедаць. Ён хапатліва пад'еў і зноў

быў на вуліцы, хаця баба Зося і ўмольвала яго адпачыць пасля снедання. Ён не мог больш трываць у чатырох сценах, памяшканне, сцены, усялякая абмежаванасць палохалі яго. Яму патрэбен быў прастор, патрэбны былі людзі. Ён хацеў жыць, як усе. Ніколі больш не быць недаробкам.

## VI

Былыя выхаванцы дзіцячага дома, што прыехалі цяпер на лета ў дзетдом, не былі студэнтамі — баба Зося па сардэчнай прастаце ці па старэчым недамысленні паліслівіла перад ім. Самыя што ні на ёсць рамеснікі-фэзэвушнікі, толькі ў параднай, адпрасаванай форме: бліскучыя кашулі навыпуск, паверх якіх рамяні з бліскучымі спражкамі і літарамі на спражках «РУ»; суконныя штаны з калашынамі неабдымнай шырыні і складкі — парэзацца можна. На галовах, нягледзячы на гарачыню, чорныя фуражкі з зялёнымі кантамі і маленькімі, па модзе, казыркамі. Такія ж, як і дзетдомаўцы — хлопцы. Тым не менш, як трымалі яны сябе, як паводзілі, адчувалася: такія ж, але не зусім былі гэта хлопцы, яны паспыталі ўжо самастойнасці, нахапаліся слоў і выразаў не дзетдомаўскіх, не належалі яны больш ні дзетдому, ні Слабадзе, адрэзаныя кавалкі. Іх было двое, і абодвух Лецечка добра ведаў. Федзя Халява неаднойчы трапляў і ў ізалятар. Колька прыдумаў яму гэтую мянушку, Халява, а сапраўднае яго прозвішча Генералаў, Федзя Генералаў...

Неяк з адной са сваіх паездак у вобласць Колька прывёз крышачку халвы, пачаставаў хлопцаў. Федзя праглынуў у момант ласунак, пацікавіўся, што гэта такое ён еў, і папрасіў яшчэ: халявы. З таго часу і сам стаў Халявай. У дзетдоме ён быў не з апошніх: старшыня дзетсавета. І мо з-за гэтай сваёй пасады ўяўляўся Кольку больш дужым, больш рослым. Але за год, ці то сам Лецечка падрос, ці то Халява не вельмі быў годны ў рамесніках, змяніўся ён да непазнавальнасці. Форма змен-

шыла яго, надала чарнаты ў твары, ён быў як вясковы дзядок у ёй. Раней шчочкі ў яго звісалі, з-за спіны, як кажуць, былі відаць, а цяпер, цяпер нібыта хто іх высмактаў і нібыта яны прысыпаны металічнымі апілкамі і злёгку змазаны машынным маслам; сціснуты і зморшчаны носік-кнопка, нібыта на гэтую кнопку хтосьці там, у вучылішчы, націснуў і адключыў Федзю Халяву.

А Сеню Грыбу форма пасавала. Чорная баваўняная кашуля сядзела на ім як улітая, пад ёй згадвалася дужае цела, дужыя плечы, добрыя мышцы. За год на рамесніцкіх харчах нарасціў ён касцей і мяса. Ужо і загарэць паспеў. Сонца выгнала на яго верхнюю губу чорныя вусікі, якімі, па ўсім відаць, Сеня вельмі ганарыўся, бясконца кратаў іх і песціў. Але з носам вось за гэты год у Грыба здарылася штосьць незразумелае: ён раптоўна набыў гарбінку і глядзеў з твара не прама, а крыху набок.

Грыб быў у цэнтры ўвагі дзетдомаўцаў, расказваў нейкую рамесніцкую, пачатую яшчэ без Колькі, гісторыю.

— ...Загнаў ён мяне ў куточак і нявечыць, кулакі — што гіры, як гірамі садзіць. Усё, усё, думаю, кранты. І ўжо кругі ўваччу ружовыя. А, думаю, паміраць, дык з музыкай, аперкотам яму знізу, пад дых. Ён і лапкі ўверх. Накаут чысцейшай вады, трыццаць мінут адкачвалі.

Грыб выразна паглядзеў на Лену. Колька скурчыўся, угнуўся, нібыта Грыб зрабіў накаут не таму хлопцу, а ён сам, Лецечка, трапіў на кулак Грыбу. Яго занудзіла, сэрца як вырвалася з грудзей, нібыта рыба з вады, сонца і спёка ахапілі сэрца, яно затрапятала, абмякла. А Сеня дабіваў яго, аперкотам,— дастаў з шырачэзнай калашні пачак «Боксу», спрытна вылузнуў з пачка папяроску-цвічок, прыкурыў, пусціў на Лену адно за другім тры кольцы дыму і падміргнуў ёй. Тыцнуў пальцам са збітым чорным пазногцем у літаркі на пачку.

— Гвоздзікі-цвікі...

І зноў пусціў тры кольцы дыму, утапіў пачак у калашыне. «Чаго ён выстаўляецца, чаго ён выпендрываецца? — нібыта ахутаны парным, цёплым туманам, падумаў Колька.— Ён жа ўсё ведае пра мяне з

Ленай, я ж расказаў яму ўсё яшчэ тры гады назад». І Кольку стала прыкра: знайшоў каму давярацца, баксёру. І зноў яго занудзіла, ужо мацней, кінула ў ліпкі, пакутлівы пот. Ён кляў сябе за даверлівасць, за нейкі нават жах, які апанаваў яго, скаваў язык і цела: хацеў кінуць Грыбу штосьці рэзкае, абразлівае, але не здолеў і рота раскрыць. Адчуванне непаўнацэннасці, якое да гэтага часу Лецечка паспяхова пераадольваў, перамагло ўсе іншыя адчуванні. Ён як паглядзеў на сябе збоку, і не сваімі вачыма, а вачыма Лены, дык убачыў, які ён бездапаможны, кволы, хіляк, адным словам. Ён нішто ў параўнанні з Грыбам. У яго ніколі не будзе такіх шыкоўных штаноў, ён не здольны ўзяць у зубы папяросу, не здольны з такім спрытам пускаць такія шыкоўныя кольцы дыму. Ён ніколі не стане баксёрам. І Лена, безумоўна, мае ўсе падставы так пільна глядзець у вочы Грыбу, сачыць за кожным яго словам, захапляцца, як ён пускае дым і носам і ротам. А яго, Лецечкава, месца ў ізалятары. Трэба ўстаць і пайсці, адступіць з вартасцю, з годнасцю, пакуль яшчэ не панёс бязглуздзіцы, пакуль яшчэ рот на замку. Але Лецечка прыпазніўся ўжо адступіць з годнасцю, рот ужо сам адамкнуўся, адамкнуўся раней, чым ён гэта паспеў уцяміць.

— Чаго гэта ты равеш? — спытаў Лецечка, чырванеючы, адчуваючы, што пляце ўжо тую самую бязглуздзіцу, лухту, якой так сцярогся, шкадаваў, што нельга спаймаць, загнаць гэтыя словы назад, і ўпарціўся ад немагчымасці, ад непапраўнасці.— Чаго гэта ты зароў? — паўтарыў ён яшчэ раз і тыцнуў пальцам у літаркі «РУ», што так нахабна выпіралі са спражкі.

Раней, чым знайшоў што адказаць Грыб, зразумела ўсё і таксама пачырванела Лена. Толькі Халява сядзеў, не петрыў, не кеміў нічога, пасміхаўся, уціскаў у шчокі чырвоненькі гузік носа. А Лена ўжо гарэла, як муляла ёй што, нібыта ёй падсыпалі вугольчыкаў — і яна позіркам апякла Кольку. І пад гэтым яе пякучым позіркам Колька зразумеў: усё прапала, гэтых кпінаў, гэтых здзеклівых слоў яна яму не даруе ніколі. І ён махнуў на ўсё рукой, перастаў шкадаваць сябе, а тое, што пакутавала Лена, нават

задавальняла, радавала ўжо яго. «Ага, гадзіна падкалодная,— думаў ён,— так табе і трэба, яшчэ балесней трэба, каб ты не круціла перад кожным баксёрам хвастом, каб ты зразумела, што такое каханне».

— А што гэта ў цябе, баксёр, не ў тустэп і нос паглядае?

Грыб паблажліва ўсміхнуўся і, як маленькаму, растлумачыў:

— Баксёрскі нос, Лецечка. Ва ўсіх сапраўдных баксёраў насы паламаныя. У барцоў вушы, а ў баксёраў насы.

Лена ганарліва павяла вачыма і двума пальчыкамі, на гарадскі манер, абцягнула плацце: горача ёй, глядзіце, зрабілася. Але, нягледзячы на ўсе гэтыя кпіны, Лецечка адчуваў, што ён знішчаны канчаткова, і, не столькі Грыбам, як гэтымі двума пагардлівымі, інтэлігентна адтапыранымі пальчыкамі Лены. Ён глядзеў на хлопцаў, ці разумеюць яны гэта, ці здагадваюцца, што тут адбылося. Хлопцы пасміхаліся, усё зразумелі, аб усім здагадаліся — няцяжка зразумець, што ён знішчаны, зняслаўлены.

— А ўчора ранкам, учора ранкам...— сказаў Лецечка дрыготкім голасам і маркотна крутнуў галавой, каб суняць гэтыя дрыжыкі ў голасе.— А ўчора ранкам Іван Бурачок не пусціў Лену Лазу ў прыбіральню, вось...

І, як учора ранкам, калі ўсё гэта адбывалася, выбухнуў смех. І першымі зарагаталі Лена з Грыбам, іх падтрымалі хлопцы. І такі рогат пайшоў, такі галас узняўся, што на ганак выбегла баба Зося, як пудзіла на ветры, замахала рукамі:

— Марш, марш ад ізалятара, знайшлі месца, дзе рагатаць.

І хлопцы зняліся з ганка і пайшлі ад ізалятара ўсё з тым жа рогатам, згадваючы і паказваючы, як гэта ўсё ўчора адбывалася. Усміхнулася, слухаючы іх, і баба Зося. Толькі Колька мармытаў услед ім: «Смех з пераходам у дызентэрыю»,— і застаўся сядзець на ганку, ссінелы, надзьмуты. Яму здавалася, што ўсе, нават баба Зося, рагочуць з яго, з яго глупства, з яго дурных надзей і слоў.

Усе ведаюць, што ён кахаў Лену Лазу, а яна зрабіла яму казу. Так Лецечка неспадзявана склаў са сваёй бяды верш. Але верш гэты не ўсцешыў яго. Лене трэба было адпомсціць па-сапраўднаму, каб ведала, запамятала на ўсё жыццё, каб больш непавадна было здраджваць. Але помсты, належнай здрадніцы, сам Колька не прыдумаў. Тут трэба была парада. А лепшай парады, што датычыцца помсты, ніхто, акрамя Козела, не мог даць. І ён пайшоў шукаць Козела.

Козел са Стасем Дзыбатым гулялі ў футбол, дакладней, балелі, наглядалі, як іншыя гуляюць.

Але паміж «гулялі» і «балелі» для Козела і Стася не было ніякай розніцы.

Балелі яны нават з большым запалам, чым дзетдомаўцы гулялі. Стась так кідаў круга галавой і над галавой рукі, так дрыгаў і тупацеў нагамі, што нават жах браў. І здавалася — не галава матляецца ў яго на кволай, ссінелай шыі, а лятае, падскоквае пабіты, здрапежаны чырвона-чорны мячык.

— Давай, давай, мазіла,— цененька енчыў Козел і даваў выспятка Стасю.— Хто ж так б'е, на мыла, на мыла, у пустыя вароты...

— На мыла, усіх на мыла,— падтрымліваў яго Стась.— Малайцы, малайцы... На мыла, на мыла — корнер, корнер... Афсайт.

Футбалісты не звярталі ўвагі на крыкі Стася і Козела. А корнеры і афсайты ў дзетдоме былі наогул скасаваны. Малы быў двор, каб гуляць па правілах. З аднаго боку яго абмяжоўвалі агароды, з другога — ліпавая алея, заміналі і канюшня, і жылы і адміністрацыйны карпусы. Такім чынам, было, не да афсайтаў і корнераў. І Стась з Козелам хутка стаміліся, супакоіліся, добра ведаючы, што ім не навучыць дзетдомаўцаў гуляць па правілах. Змарнела адышлі, сталі пад ліпы, у цяні, таму што ўжо добра прыпякала сонца, набліжаўся поўдзень, а яны былі, як кажуць, пры поўным парадзе. Абодва ў адпрасаваных, без адзінай зморшчынкі, без адзінай плямінкі, каверкотавых шэрых касцюмах, у асляпляльна наваксаваных чаравіках,

у кепачках-шасціклінках, толькі адзін маленькі, а другі высачэзны, Пат і Паташонак. Адзін глядзеў на футбалістаў зверху, як са званіцы, і бачыў іх галовы і твары, другі аддаваў больш увагі нагам. Але абодва аднолькава цокалі языкамі, аднолькава матлялі галовамі, аднолькава, хаця і з рознай амплітудай, разгойдвалі плячыма.

А футбалісты разышліся ўжо не на жартачкі. Ужо варатар каманды, якая ніяк не магла ўзяць верх над сваім праціўнікам, нацягваў на спатнелыя рукі скураныя пальчаткі, экіпіраваўся не для таго, каб ямчэй браць мячы, а на бойку, таму што ў дзетдомаўскім футболе не было не толькі корнераў і афсайтаў, але і пераможцаў і перамо-жаных, і дзетдомаўскі футбол быў няспынны, не ведаў абмежаванняў часам. Ні адзін з дзетдомаўскіх футбалістаў не зведаў яшчэ горычы паражэнняў, як не зведаў, дарэчы, і ніводзін слабадзянскі футбаліст, калі гульня ішла на яго полі. Слабадзянская футбольная каманда на сваім полі выйгравала заўсёды, пра гэта добра ведалі ўсе навакольныя каманды, якія прыязджалі ў Слабаду. Калі ж выпадала нейкім разам, што гэтыя некаторыя іншыя каманды забываліся і пагражалі паражэннем слабадзянам, трое слабадзянскіх нападаючых, тры асілкі, як іх ахрысцілі дзетдомаўцы: Ізя, Лёля, Моля, хлопцы і на самай справе як асілкі — кучаравыя, рослыя, магутныя,— закасвалі рукавы. І перамога, будзьце спакойненькія, была забяспечана. Наогул, на дзетдомаўскі погляд, без усялякага перабольшвання, у сябе дома слабадзяне здольныя былі абыграць любую каманду, нават экстра-класа, не гаворачы ўжо аб мінскім «Спартаку». Не, што ні кажыце, Слабада ў тыя гады мела ўсе падставы стаць цэнтрам сусветнага футбола. У слабадзян было чаму павучыцца. Якія б знакамітыя, якія б славутыя каманды ні прыязджалі ў Слабаду, ехалі яны дамоў з паражэннем, а часам і з сінякамі, ехалі пад свіст і ўлюлюканне задаволеных слабадзян, а за іх машынай, звычайна палутаркай, каціўся, падскокваў на калдобінах прывязаны вяровачкай венік, звычайна дзяркач.

Вось па такой схеме ладзілі сваю гульню і дзетдомаўцы. І ў іх камандах былі свае тры асілкі — Ізя, Лёля, Моля. На самай справе яны, канечне, не былі асілкамі, а ператвараліся ў іх, калі таго патрабавалі абставіны, калі іх каманда безнадзейна прайгравала. Вось і цяпер варатар, мо Ізя, недвухсэнсава напяў пальчаткі, два другія футбалісты, што прызначылі сябе да роляў Лёлі і Молі, недвухсэнсава скінулі падраныя майкі. Нападаючы праціўніка выйшаў адзін на адзін з варатаром, ужо намерыўся лупануць па варотах. Але варатар Ізя апярэдзіў яго, улупіў яму ў вуха. Падбеглі Лёля з Молем, і пайшла калатня.

— Стоп, стоп! — паспрабаваў перашкодзіць бойцы Стась.— Будземо гуляць па-новаму, па-новаму будземо гуляць.— Дастаў з-за пазухі жоўты пластмасавы свісток. Стаяў поўдзень ужо, і біцца было горача, футбалісты прыслухаліся да Стася, спынілі рукапашную.

Далей футбол Колька не стаў глядзець. Нецікава. Ён ведаў, адгадаў, чым усё тут скончыцца. Стась будзе хістацца, як каланча, сярод футбалістаў, потым яго адправяць «на мыла», прывяжуць да пінжака дзяркач, і Дзыбаты пашкандыбае ў ізалятар, пачысціць ад пылу касцюм, навядзе бляск на чаравікі, зняможана ўпадзе на ложак, будзе бясконца назаляць яму і Козелу адзіным пытаннем: «Ці возьме ў гэтым годзе бронзу мінскі «Спартак»: будзе дэманстраваць ім фінты, абводы, нажніцы, удары ў дзевятку да той пары, пакуль не зморыцца ці пакуль не разэлуецца на «тупагаловых» — Лецечку з Козелам?

І Лецечка пацягнуў Козела з футбола ў ізалятар. І там, у ізалятары, у прахалодзе і адпаведным моманту балесным суме, павёў гаворку аб каханні. Падводзіў да тэмы спакваля, здалёку, пагаварыў, паразважаў аб каханні герояў Тургенева і толькі пасля гэтага пачаў гаварыць аб здрадзе, аб тым, што яго хвалявала.

— Што ж ты зрабіў, Васька, калі бы ты ўчора цалаваўся з адной, а сёння яна здрадзіла табе, пайшла з другім? — спытаў ён у Козела.

— Лена Лаза? — змружыў вочы Козел і падсеў да Лецечкі на ложак, не ўседзеў, залез на ложак з нагамі, на татарскі манер падкурчыў іх пад сябе. Якраз як бажок, маленькі гарбаценькі бажок — і ўсмешка паблажлівая, хітрая, і твар і губы як маслам падмазалі.

— Пры чым тут Лаза,— адмахнуўся Лецечка, уражана перапалоханы: гэта ж трэба, Козелу ўжо ўсё вядома, не інакш у гарбатых у гарбу яшчэ адна галава? Усё гэты Козел раней за іншых ведае, раней за іншых аб усім пранюхае. Каго гэта ён абвесці вакол пальца задумаў, гарбатага, ды таму сам чорт не дасць рады. Не, не варта давярацца Козелу. Ён ужо хацеў звесці гаворку на нішто.

— Лена тут прышый-прысцябай,— сказаў ён, няшчыра пазяхнуўшы.— Было б каго цалаваць, Лазу... Я так, у сэнсе тэорыі. А наогул у мяне ідэя...

Козел маўчаў, даваў Лецечку выгаварыцца, усміхаўся, як бажок, і, як бажок, пранікліва глядзеў, здаецца, не на Лецечку, а ў самае сэрца яго, глядзеў, не верачы ніводнаму слову і ў той жа час цікаваў кожнае слова, і Колька заблытаўся, асекся пад гэтым яго позіркам — пужліва і асуджана чакаў, якога яшчэ коніка выкіне Козел. І Козел выкінуў, як не чуў нічога пра ідэю, уцяміў, што гэта толькі так, каб адвесці яго ад галоўнага, і спытаў пра галоўнае:

— А пацалункі — гэта што, тэорыя ці ўжо практыка? Ты што, на самай справе цалаваўся з Ленай?

— Ідзі ты, ведаеш куды, са сваімі пацалункамі, са сваімі Ленамі...— Сам пайшоў у наступ, калупнуў Козела забароненым прыёмам: — Заляцаўся да гэтай казы... да гэтай казы заляцаўся сам і прыстаў: пацалункі, пацалункі. Надта прыемна цалавацца з усялякімі козамі.

— А з кім яна пайшла, з Халявай ці з Грыбам? З кім яна пайшла?..— даверліва, як сам з сабой, загаварыў Козел.— Калі з Халявай, то гэта нічога. Халява ён і ёсць Халява. Тут можна не баяцца. Грыб... Грыб — іншая справа. Грыб — хлопец зух, баксёр другога юнацкага разраду...

— Другога юнацкага? — не вытрымаў Лецечка інквізітарскай разважлівасці Козела.

— Другога, Лецечка. Другі юнацкі, трэці дарослы, як і ў мяне па шашках. Але бокс — гэта табе не шашкі-пешкі, Лецечка. Бокс — гэта бокс, не хухры-мухры... А ты праўда цалаваўся з Ленай?

— Адчапіся,— прабурчаў Лецечка і з запалам: — Адчапіся, а то не пагляджу, што нашы ложкі стаяць побач, як залімоню зараз...

Але гэтая Лецечкава пагроза зусім не адбілася на далейшых паводзінах Козела. Ён, праўда, сеў на ложку больш прыстойна, але не са спалоху, а каб пасунуцца бліжэй да Лецечкі. Козел папоўз да Лецечкі, усклаў на яго рукі, выцягнуўся, прыціснуўся да яго, задыхаў амаль што яму ў вуха:

— Ты скажы мне, Лецечка, скажы, не таіся, я нікому, во, крэст на пузе — магіла. Яна цябе таксама цалавала ці толькі ты яе? Скажы, Лецечка, яна таксама цябе цалавала?

— Ніхто мяне не цалаваў,— сказаў Лецечка,— і я нікога не цалаваў. Так... час падыходзіць, час... кахаць...

— Што ты мне галаву дурыш! — Козел аж усхапіўся, скочыў на падлогу і стаў перад Лецечкам на калені.— Чаго ты мне мазгі круціш, арапа ўпраўляеш. Цалаваўся ты ці не з Ленай?

— Калі і цалаваўся, Васька, што з таго: цалаваўся, не цалаваўся?..

— А нічога... Дурань, ой дурань ты, Лецечка.— Козел падхапіўся з падлогі, стукнуў сябе кулаком па калене.— Дурні мы з табой абодва, Лецечка. Цябе-то чаго на красівую пацягнула? Усім красівыя, прыгажунь усім падавай. А хто, я пытаю цябе, некрасівых будзе любіць? Хто Маню Бурачок палюбіць, пытаю я цябе?

— Любі ты яе сам,— адказаў Лецечка.— Трепетно и нежно.

— І буду любіць, буду кахаць: трепетно и нежно. А красівых, красівых, Колька... Сымона гарбатага ведаў?

Колька ведаў аднаго гарбатага — Козела. І з яго было даволі, ён змоўчаў. Козел працягваў:

— Дык вось той Сымон, таксама як і я, гарбаты. Гарбаты не заўсёды, а з вайны. А жонка ў яго прыгожая была, з суседам спуталася. І ведаеш, што Сымон гарбаты ўтварыў? Падцікаваў, навальніца якраз усхадзілася, жонка яго пад шумок па дожджыку — шусь да суседа ў хату, а Сымон у хлеў, раскідаў сена, выкаціў пушку-саракапятку з хлява. Гром лясь, а ён прамой наводкай у хату суседа плясь...

— Забіў? — спытаў Колька.

— У тым і справа, што не...— Козел уздыхнуў.— Сцяну толькі развярнуў. Суд. Даюць Сымону тры гады.

— Так мала, усяго тры гады?

— А за гэтыя справы больш не даюць. Сымон у турму, а на ганку гаворыць: нічога, нічога, адбуду я тры гады, а ў балоце ў мяне танк схаваны... Ужо скора павінен выйсці Сымон.

Яны памаўчалі, разважаючы самі сабе, што будзе, калі вернецца гэты Сымон. Потым Кольку ўзяло сумненне, ці было такое на свеце. І адкуль Козел ведае пра гэта? Ён паглядзеў на Козела і прыкмеціў, што той цікуе за ім. І Лецечка зразумеў, што Козел проста глуміцца з яго, прыдумаў ён гэтага гарбатага Сымона, прыдумаў, каб, пэўна, згладзіць сваю адзіноту. А расказаў, таму што зайздросціў яму, Лецечку, лічыў сябе абыдзеным, абдзеленым нечым нават у параўнанні з ім. Лецечку стала шкада Козела. Ён дараваў яму гэтую здзеклівую прыдумку, але ўпікнуў:

— Злы ты, Васька, злы. Усё б табе паздзекавацца, пакпіць.

Козел раззлаваўся, што яго выкрылі, як звар'яцеўшы, бясконца лапочучы сам сабе: «Пакпіць-паздзекавацца, пакпіць-паздзекавацца...», забегаў па пакоі, пяць крокаў уперад, пяць крокаў назад, ад стала да дзвярэй, ад дзвярэй да стала. На стале тужліва пазвоньвала шклянка з пазаўчарашнімі павялымі ўжо кветкамі. Лісце было яшчэ свежае, зялёнае, а блакітныя пялёсткі, нібыта іх прысыпалі пылам, як прыхопленыя агнём, пажухлі, скруціліся, ападалі, асыпаліся на стол пры кожным кроку Козела. Лецечка

ўслухоўваўся, як ціненька і тужліва дзвінькае шклянка, як падаюць пялёсткі, слухаў, як тлумна і супярэчліва бягуць думкі. Папікаў сябе, што распачаў гэтую гаворку з Козелам. Раскалоў яго Козел, як грэцкі арэх, блазнуе, смяецца з яго. Панясе па ўсім дзетдоме, як ён, Лецечка, заляцаўся да Лены, як ён мілаваўся, цалаваўся з ёй, якую казу яна яму ўпарола. Сабака, Асталоп, і той будзе аб усім ведаць. Усім нашэпча Козел. І Лецечка шукаў і не знаходзіў выйсця, скарыўся, быў ужо гатовы цярпліва трываць усё, што выпадзе яму, усе кпіны зносіць моўчкі.

Але Козел, пэўна, упершыню ў жыцці змяніў сваім звычкам, нічога нікому не нашаптаў, нічога нікому не ўвёў у вушы. А пасля абеду неўпрыкметку ён знік з ізалятара.

Наогул яны сёння ўтрох павінны былі збегчы з ізалятара: Козел, Лецечка і Дзыбаты. Сёння быў дзень медыцынскага агляду, і да іх павінна была прыйсці ўрачыха, паглядзець, паслухаць іх, назначыць каму пілюлі, каму мікстуру, а каму і ўколы.

Кожны такі медыцынскі агляд быў для Лецечкі цяжкім выпрабаваннем. Маркотна і нудліва ішоў час, калі чакалі ўрачыху. А як тая ўрэшце з'яўлялася, з ім адбывалася і зусім ужо штосьці незразумелае. Яго кідала ў дрыжыкі, як толькі ён бачыў чалавека ў белым медыцынскім халаце, а варта было дакрануцца да голага цела стэтаскопам, як ён упадаў нібы ў сон, пруцянеў, і потым патрэбен быў дзень, а то і два, каб апрытомнець.

Пасля медыцынскіх аглядаў ён іншы раз не хадзіў і ў школу. Спаў, быў абыякавы да яды, людзей, кніжак. Вось чаму больш за ўсё любіў Лецечка лета. Летам можна было пазбегнуць медыцынскіх аглядаў, згаварыцца з хлопцамі і сысці з ізалятара на цэлы дзень. Толькі вось сёння штосьці разбрыліся ўсе па адным. Стась не з'явіўся з абеду, Козел паказаўся і знік. Лецечка быў адзін. І адзінота была нясцерпная. Выходзіла, што ў адзін дзень яму здрадзіла не толькі Лена, але і верныя сябры. І Колька рашыў пакутаваць ужо, колькі мог, трываў у пакоі, чакаючы ўрачыху, але тая затрымлівалася. І ў Лецечкі не хапіла духу дачакацца яе.

Стася з Козелам не было і ў пакоі ў хлопцаў на здаровай палавіне корпуса. А вось хлопцы былі ўсе ў наяўнасці, усе васемнаццаць. Сядзелі на ложках і крэслах, і нават на стале, радзіліся: Вера Канстанцінаўна зноў «забыла» ў спальні на гэты раз дзве булкі хлеба. Паклала іх на стол, на газету, ножык вось толькі не здагадалася пакласці побач з хлебам, не здагадалася цукерак ці то масла да гэтага хлеба.

Хлопцы пасля абеду былі сытыя, таму і радзіліся доўга. Усе яны добра разумелі выхавацельніцу, зразумелі, што гэта выклік, але не было апетыту есці хлеб сухама, а мо не хапала і рашучасці, не знаходзілася таго першага, які б падаў прыклад.

— Бурачка трэба, знайдзіце Бурачка-большага,— параіў Лецечка.— Яму булку хлеба ўмяць,— што два пальцы абмачыць...

Лецечка быў згодны, што хлеб трэба з'есці, знішчыць, так нават дакладней будзе. Але сам ён не хацеў і дакранацца да гэтага хлеба, а есці ён бы яго не еў і з вялікай галадухі.

Хлопцы збегалі прывялі Бурачка, прынеслі яму графін вады, пасадзілі на стол, нават сурвэтку з тумбачкі сцягнулі і на грудзі яму пачапілі. І Бурачок-большы без усялякіх ваганняў і разважанняў, без лішніх слоў, вочы вылупіў толькі ад сквапнасці ці ад цяжкой працы, за дзесяць мінут умалаціў булку хлеба і амаль да дна выпіў трохлітровы графін вады. Але другую булку не адолеў, з перасыці вочы яго асалавелі, і ён пачаў нават крышку заікацца, пачаў несці лухту: маўляў, калі б грошай далі, дык ён і яшчэ б утаптаў, трэцюю, а задарма адмаўляецца.

Вырашылі гэтую, другую булку хлеба, што засталося ад яе, падзяліць па скібачцы на ўсіх. І ўсе з'елі па скібачцы, акрамя Лецечкі. Хлеб Веры Канстанцінаўны ён адмовіўся есці нават у пакаранне, нават з салідарнасці, і за яго тут папрацаваў, усё ж пераадолеў сябе, Бурачок. Прыбралі стол, дамовіліся: калі елі ўсе, усе будуць і маўчаць. Ніхто хлеба і ў вочы не бачыў, ніхто аб ім нічога не ведае, што б ні здарылася.

7. Зак. 780.

Козела і Стася Колька ў той дзень да вечара так нідзе і не сустрэў — добра схаваліся. І сам ён схаваўся, знік, так што і не заўважыў, як прыспела гэтая вячэра. Еў ён у адзіноце, у сталоўцы былі толькі кухары ды дзяжурныя. Тут, у сталоўцы, і натрапіў ён на Захар'ю. Быў той злёгку, а мо і добра пад мухай. Усё ж пачаставалі яго мужыкі на плошчы «слёзкамі». Гледзячы, як моўчкі крадзецца да раздатачнага акна Захар'я, Колька ўцяміў нарэшце, чаго яму не хапала цэлы дзень, чаго яму было так маркотна: ён павінен быў разам з Захар'ем быць на судзе. А ён перапалохаўся, збег. А там, а не тут, у дзетдоме, адбывалася самае важнае, і гэтае важнае датычыла не толькі Захар'і, але і яго. Была, была пра яго там гаворка. За гэты, такі вялікі-вялікі дзень ён тое-сёе прыгадаў.

Захар'я грукнуў кульбай у акно:

— Зіна, вядро супу.

Кухарка Зіна высунула галаву ў акно і незадаволена забурчала. Яна любіла карміць толькі дзетдомаўцаў. А конюха, прыбіральшчыц, Захар'ю і нават дзяжурных выхавацеляў не вельмі прывячала.

— Не бурчы, не бурчы,— сказаў Захар'я,— я разуменне маю, не аб'ем. Мне тое, што і свінням, астаткі.

Дзяжурныя ўжо самі неслі гэтыя «астаткі», загадзя прадчуваючы забаву. Яны ганарыліся і тым, што ў іхнім дзетдоме жыве і робіць самы пражорлівы чалавек на зямлі. А Захар'я, безумоўна, быў гэтым самым пражорлівым на зямлі чалавекам. Асаблівага жывата, мяса на ім не было, ён хутчэй быў хударлявы, чым тоўсты, але без усялякай натугі быў здольны ўмяць пару двухкілаграмовых булак хлеба сухама і паўвядра супу, зверху прыняць яшчэ паўвядзерную каструлю кашы і запіць усё гэта трохлітровым чайнікам кампоту. Мерацца з ім у дзетдоме быў здатны адзін толькі Андрэй Бурак, у якога, таксама як і ў Захар'і, скура ды косці ды вочы ад сквапнасці навылупку, і паглынаў гэты Андрэй Бурак усё, што ні падавалі, не з патрэбы есці і не з галадухі, а ад сквапнасці, давячыся, смецячы, раскідваючы. Захар'я ж еў прыгожа, праўда, лезла ўсё гэта, як у прорву: вылазіў з-за стала, і

знаку на ім ніякага, усё роўна як і не еў нічога. Найбольш дапытлівым з дзетдомаўцаў ахвотна тлумачыў, што непамерная пражэрлівасць яго ідзе ад таго, што ў маладосці з'еў ён гадзюку. Праўда ці не, але, як расказваў Захар'я, адбылося гэта яшчэ ў той час, калі ён парабкаваў у пана. Пан быў злы, што чорт, і худы, як кашчэй. Парабкі надумалі збавіцца ад пана. Злавілі, зварылі і падалі яму гада балотнага, гадзюку. Праглынуў пан таго гада, і халера яго не бярэ, таўсцець толькі пачаў, адгадаваў чэрава — на воз не ўскласці, палагаднеў, дабрэйшы стаў. Захар'ю таксама закарцела мець пуза, як у пана. І ён таксама спаймаў гада, зварыў яго і з'еў. Але пуза так і не прыдбаў, пражэрлівасць толькі напала. Што б ні з'еў — мала. Вечна не хапала яму яды і тады, пры пане, і потым, без пана, у вайну і ў мірны час. І цяпер, калі прыспеў ужо час на той свет збірацца, усё вантробы ненасытныя есці просяць. Прорва, а не жывот: падавай яму і падавай, паднось і паднось, жыве там гадзюка ў жываце і смокча...

— Збег, значыцца, пакінуў мяне аднаго.— Захар'я падсеў да Лецечкі, дастаў з-за халявы бота драўляную лыжку, старанна выцер яе рукавом бушлата.— Збег, Лецечка, ліха тваю матку.

— Ты ж сам мяне кінуў,— сказаў Лецечка.— Самагон з Нічыпарам пайшоў глушыць.

— Глушыў і самагнёт, Лецечка, у жыцці так не пякло. Прагул у мяне сёння, Лецечка... Душа баліць. Першы раз у будні дзень і без работы.

— Ты ж на рабоце! — здзівіўся Лецечка.— Які ў стоража можа быць прагул? Прыйшоў, пад'еў і ў будан — на бакавую.

— Э, Лецечка, у дзетдоме ў мяне не работа, а служба. Работа ў сяле, у хаце. Я цясляр, Лецечка, хаты людзям раблю, а вось сёння правалаводзіў дзень. А ты гэта добра, добра зрабіў, што збег. Не трэба гэтага табе, Лецечка. І блізка не падыходзь болей туды, не патыкайся, бо там...

Захар'я замоўк, забыў пра суп і пра Лецечку, пэўна, забыў, як трэсачку нейкую непатрэбную, круціў у кляшняватых пальцах драўляную, ёмістую, але ўжо

аджыўшую свой век, сасмактаную, злізаную лыжку. Краі яе ўжо амаль што прасвечваліся, і як ім не прасвечвацца, калі згадаць, колькі ўжо год гаспадару яе, колькі ён высербаў ёю супоў, колькі яна перанасіла гарачых картопляў і каш. Лыжка, падобна было, ператварылася ад такой цяжкой працы з драўлянай у касцяную, і гаспадар яе, уладальнік, цяпер і сам ужо як вытачаны з адзінай добрай косткі, з жывога чалавека ператварыўся ў костку. Такі і ў зямлю, у пясок, гліну ляжа на вякі, на стагоддзі, і праз стагоддзі яго знойдуць, адкапаюць, як знаходзяць і адкопваюць мамантаў, і будуць вывучаць, як вывучаюць мамантаў. А яго, Лецечкава, цела ў момант пойдзе прахам, перамяшаецца з зямлёй, і знаку ад яго не застанецца, што ён быў. Пыл, тая ж самая гліна, што так даспадобы слабадзянскім навасёлам. Яе замяшаюць разам з пяском у ночвах, замесяць босымі нагамі хлапчукі і бабы і кінуць на сцены таго дома, што рубіць цяпер Захар'я, прыгладзяць кельмамі, прыгладзяць, каб не вытыркаўся яго віхор. Але і ён будзе бачыць усё, што адбываецца ў хаце. Толькі не будзе мець голасу. І добра, калі яму пашанцуе трапіць у добры дом, у добрую сям'ю, у якой ніхто нікога не крыўдзіць, у якой не пакрыўдзяць і яго: ён жа не заплача, не папросіцца. Няхай гэта будзе дзетдом, толькі не ізалятар, барані божа ад таго, каб і пасля смерці апынуцца ў ізалятары...

Тут Лецечка спалохаўся, як нібыта ўсё, што ўяўлялася, трызнілася яму, ужо адбылося. Цела яго, яго прах размясілі, атынкавалі ім ізалятар, на яго дыхнула пахам лякарстваў, павеяла дыханнем Козела і Стася, іх хваравітасцю і страхам, хваравітасцю і страхам, што сыходзілі ад яго самога.

Лецечка адчуў, што яму не хапае паветра. Няма, няма чым і пасля смерці яму дыхаць. Ён падхапіўся з крэсла, уплёўся абедзвюма рукамі за спінку яго, адкінуў галаву, каб не бачыць нікога, дыхаць ужо не гэтым, здыханым, цяжкім, што імкнулася да долу, паветрам, а тым, што льецца зверху, не апаганеным яшчэ нікім, ні Стасем, ні Козелам, нават і Захар'ем, таму што Захар'і, здалося яму,

ужо няма, ён ужо даўно ў зямлі, у гліне, не было больш побач з ім Захар'і, не бачыў ён яго, але голас Захар'і дасягаў яго, гучаў у вушах, замінаў дыхаць.

— Ну вось, Лецечка, вось, сынок. А што я табе гаварыў... Пастой, пастой, не садзіся. Зараз, зараз табе лепей будзе, крыві б табе трэба пусціць. Я пазаўтраму п'явак табе прынясу... дзіця ты горкае...

Словы Захар'і аб крыві і п'яўках яшчэ больш вярэдзілі яго, нагадвалі аб нечым далёкім і забытым, што было, было з ім, але ўжо сцерлася з памяці. Ён раптам, як наяву, выразна ўбачыў перад сабой зіхатлівы ад шкла і нікелю медыцынскі шпрыц, мужчынскія дужыя рукі, якія пахлі лякарствам і мылам і свежым ручніком. Шпрыц, як жывы, ганяўся за ім, за Лецечкам, лучыў яму ў руку, у вену. Шпрыц быў такі вялізны-вялізны, а ён, Лецечка, такі маленькі, такі маленькі...

— Не дамся, не дамо. У мяне ўжо і так уся кроў высмактана, няма крыві! — Лецечку мроілася, што ён крыкам крычыць, аж канае ад крыку, а з горла выкатваўся толькі бездапаможны хрып. Ён ужо апамятаўся, і яму было ўжо сорамна за сябе, усё ўжо ўраўнаважылася. Не было больш шпрыца, не чулася і паху лекаў. На ранейшым месцы з той жа самай драўлянай лыжкай у руцэ сядзеў Захар'я і з цікаўнасцю, жахам і болем углядаўся ў яго.

— Гэта яна, я н а да цябе прыходзіла,— пошапкам сказаў Захар'я.— Відзеў ты яе?

— Гэта была не яна. Гэта быў ён...— Лецечка здрыгануўся, таму што на імгненне яму адрыўся і твар мужчыны, бліскавіцай мільгануў у памяці. Лецечка паспеў толькі згледзець акуляры на гэтым твары, пукатае шкло акуляраў, жоўтае павуцінне дужак. Мільганула ўсё гэта — як малаком забялілася.

— Хто ж гэта ён? — як раней, пошапкам дапытваўся Захар'я.

— Аб кім ты? — з недаўменнем паглядзеў на яго Лецечка. Ён амаль што нічога ўжо не памятаў з таго, што з ім было толькі што.

— Яна была, Лецечка, яна,— перакананa сказаў Захар'я.— Я яе сёння таксама відзеў, калі там, на казырку, стаяў. Пагразіла яна мне пальцам і сказала адно: «Чакай, не спяшайся. Я аб табе не забыла, не абыду». Ад мяне яна к табе прыйшла. Не хадзі, не хадзі ты, Лецечка, барані божа, на плошчу, на суд. Не дражні яе, там яна цяпер.

— А што робіць зараз Зося, што робіць зараз баба Зося, Захар'я? — неспадзявана і, здаецца, зусім не да месца раптам звярнуўся да Захар'і Лецечка, але Захар'ю аж скрывіла, ён нават падскочыў.

— Няйнакш, ты спазнаўся з нячыстай сілай... Слухай, хлопча, слухай: маўчы!

— Не, не,— хапатліва загаварыў Лецечка,— Захар'я, не трэба лгаць сабе, не лжы сабе. Вунь яна, вучь яна: глядзі, у акне стаіць, на цябе паглядае, на цябе, ценем за табой ходзіць баба Зося. Цень яе за табой ходзіць... Сястра яна табе?.. Сястра родная, а ты...

Захар'я ўгнуўся, зніякавеў, але ў акно і не паглядзеў.

— Ведаю, што стаіць яна ў акне, ценем за мной ходзіць... і не ў акне, не ценем, вось тут яна, жывая, між намі стаіць... Што яна робіць, Лецечка?

— Плача, Захар'я. Рукі да цябе цягне...— адказаў Лецечка, хоць ні ў акне, ні каля іх ніякай бабы Зосі не было відаць.

— Адтуль ты яе відзіш, адтуль,— памаўчаўшы, зноў загаварыў Захар'я.— Не к дабру, не к дабру гэта, Лецечка, а што зробіш, нічога тут ужо не папішаш. Паміруся, паміруся я з ёй, Лецечка, каб не хадзіць табе адтуль да мяне, не вярэдзіць ногі. Калі ты мне адтуль знак падаеш, значыць, так трэба. Сястра яна мне, родная. З-за яе, Лецечка, наш род і палёг, вось, падсечаны пад корань. Красівая яна была ў дзеўках, красівая, пасылаў сватоў да яе адзін — ды адлуп яна яму дала. «Успамянеш мяне,— прыгразіў.— Радня цябе пракляне». Стрымаў слова, гад. Выйшла яна за другога, колькі гадоў мінула, нарадзіла яна дзяцей. Ужо большыя на ногі ўсталі, на свой хлеб пайшлі, а тут вайна. Жанішок той былы — у паліцаі. Першым дзелам дзяцей яе меншых... ото стаіўся, ото стаіўся...

Хлопчыка і дзяўчынку ў бочку... бочку засмаліў і жыўцом дзяцей у гэтай бочцы ў зямлю закапаў. Яе пальцам не крануў, яна сама як бы розумам кранулася. А жаніху яе, паліцаю, усё мала... Чалавеку на ўсё толькі адважыцца трэба, толькі пачаць, тады ўжо не ведае ён ні канца, ні краю... Давай увесь наш род, усю фамілію пад корань: за Зосю, за гардыню яе, помсціў... І мяне, і маіх дзетак... Вось так, Лецечка. Вось якое ліха па белым свеце ходзіць. І разумею я, Лецечка, разумею, што ні на паўстолькі не вінаватая яна ні перад кім, што няма чалавека больш няшчаснага за яе на зямлі... Але як удумаешся, як уваб'еш у галаву — усё ж па-іншаму, па-іншаму магло пайсці, калі б не выпадак. Не ў выпадку справа, галавой суджу, а сэрцам... Дзеці ў маім сэрцы, рана жывая, а чалавек, калі паранены, як звер, не розумам — ён болем жыве... Дрэва падсячы — яно не будзе выбіраць, куды ўпасці, на іншыя дрэвы, на кусточкі і валіцца...

— А гэтыя, у бочцы, хлопчык і дзяўчынка адразу памерлі, ён іх смалой не абварыў, калі смаліў бочку? — шэптам спытаў у Захар'і Лецечка. Ён мо і не чуў, што тут гаварыў Захар'я,— так уразілі яго гэтыя хлопчык і дзяўчынка, іх пакутлівая смерць.

— Затхнуліся, затхнуліся ўжо ў зямлі,— шэптам і адказаў яму Захар'я.— Спачатку, як мышы, людзі расказвалі, скрабліся, скрабліся, а потым аціхлі. І хопіць, Лецечка, не для твайго сэрца, не для дзіцячага паняцця. Абыходзь ты краем гэтыя нашы балячкі. Не кранай ты нашых ран. Толькі ўспомніць, прыгадаць усё — і жыць не схочаш, не хадзі ты заўтра, не хадзі.

Лецечка маўчаў. Але ён быў цвёрда перакананы, што пойдзе заўтра туды. Ён і так патраціў ужо дзень. Дзень, пражыты сёння, і на самай справе здаўся яму пустым, марна патрачаным днём — нейкія дзіцячыя крыўды, дзіцячыя размовы з Козелам.

А дзень яшчэ ішоў, працягваўся. Яшчэ была лінейка, і на лінейцы бітую гадзіну таўклі пра ЧП у старэйшай групе. Дакладвала аб ЧП сама Вера Канстанцінаўна,

гаварыла як бы з жалем. А дырэктарыха была злосная і рэзкая.

— Суткі вам усім на роздум аб тым, што адбылося. Да наступнай вячэрняй лінейкі знайсці вінаватых, хто ўкраў хлеб. Шмат чаго можна дараваць, але калі ўжо крадзеж ідзе ў дзетдоме, калі крадуць адзін у аднаго — недаравальна. Таму што тады ўжо няма калектыву. А няма калектыву — няма і сям'і, няма дзетдомаўцаў, няма дзетдома.

Лецечка зноў чуў і не чуў, аб чым гаворыць дырэктарыха, ледзь вытрываў да заканчэння лінейкі, ледзь ішоў з яе, зморany, цяжкі. Потым доўга не браў сон. Стась усё разважаў аб футболе. А потым хлопцы за сцяной узнялі такі шурум-бурум, што ўздрыгваў ложак і са столі сыпалася тынкоўка. Баба Зося неаднойчы бегала на здаровую палавіну корпуса, супакойвала хлопцаў. Але тыя супакоіліся толькі дзесьці к першым пеўням. Калі Колька ўжо зусім змарнеў, тады толькі ўсталявалася цішыня, сухія і гарачыя прасціны крыху адышлі ад яго поту, і ён урэшце прыладзіўся да падушкі, і ўжо можна было заснуць. Але сон бег ад яго, ад трывожнага і радаснага одуму: што будзе заўтра? Усе спяшаліся, спяшаліся кудысьці, беглі людзі, брахалі чамусьці сабакі, скуголіў, выў пад акном Асталоп. І... зноў прыходзіў ён. Але толькі пукатае шкло акуляраў і жоўтае павуцінне дужак...

## VII

На плошчы за ноч шмат што перайначылася. Але ўсё гэтак — ушчыльную адна да другой — стаялі падводы, як усё роўна і не пакідалі яны на ноч плошчу. Нагой не было куды ступіць ад народу, таксама, здаецца, нязменнага, учарашняга. Але, прыгледзеўшыся, Лецечка адзначыў, што народ гэты сёння крыху інакшы, крыху не з такім настроем. З вазоў вяла, але ж тым-сім ужо гандлявалі. На рыштаваннях універмага, на другім паверсе, марудна, але ўсё ж працавалі, а ўчора там нікога не было. І галасы

на плошчы сёння гучалі больш прыглушана. І ранак стаяў млявы, санлівы, нібыта змораны ўжо, нібыта ўсё вакол змарылася, змарнела яшчэ ўчора.

Але такая змарнеласць і кволасць панавалі не доўга. Варта было толькі расчыніцца адрамантаваным звечара ці то ноччу дзвярам Палаца культуры, як санлівая ачмуранасць ранку знікла. Зноў загойдалася, забілася людское мора. Лецечка стаяў каля дзвярэй, чакаў, калі адхлынуць першыя, самыя буйныя, хвалі. Як толькі, здалося яму, паменшала таўкатня, уліўся, прыстаў і сам да вірлівага патоку. Але, пэўна, паспяшаўся — нельга было ні распраміцца, ні ўздыхнуць, ледзь не раздзіраючы на часткі, яго пацягнулі ў залу, як цягне за сабой вясновая паводка ўсё, што замінае ёй, што сустракаецца ёй на шляху — дрэвы, кусты, палкі, трэскі. І Лецечка адчуваў сябе такой трэскай, якая трапіла ў паводкавы вір. Так кідала, шпурляла яго ад аднаго чалавека да другога, ён ляпіўся да кожнага, да каго толькі не прыбівала яго, але ненадоўга: жыццёвыя хвалі, жыццёвы вір быў таксама бязлітасны, як і той, сляпы, стыхійны, тут таксама была стыхія. І нельга было прыбіцца, прыстаць ні да аднаго з берагоў, ніводзін бераг, ніводзін чалавек не прымалі яго. Тыя, што былі наперадзе, ужо бачылі перад сабой залу, крэслы, што чакалі іх, прыспешвалі прыспешваць тых, хто наперадзе іх, і тыя, што былі ззаду, ціснулі, гналі, вымушвалі паскараць крок. У тых, хто ішоў ззаду, было яшчэ больш нецярплівасці і яшчэ менш разумення, таму што яны бачылі толькі спіны пярэдніх, ім увесь час здавалася, што іх знарок не пускаюць, знарок прытрымліваюць. А Лецечка нічога перад сабой не бачыў. Яму трэба было змагацца і з тымі, хто наперадзе, каб яго не цягнулі за сабой так хутка, далі перавесці дых, не адарвалі ні рук, ні ног, не распялі, і трэба было змагацца з сабой, утаймоўваць сваё абурэнне і пратэст, і паспяваць крочыць за ўсімі, паспяваць выкідваць ногі і рукі, каб утрымлівацца на хвалі, на плыні ў гэтым жыццёвым моры. Вось-вось, здавалася, усё скончыцца, хваля вышпурне яго на бераг, абдасць пенай і памчыць далей. А ён, знясілены, застанецца на пяску.

8. Зак. 780

Але, уяўляючы ўсё гэта, Лецечка не шкадаваў, што кінуўся ў плынь,— як ні цяжка, а рухацца разам з людзьмі, быць сярод людзей, адчуваць сябе жывым нават у гэтым вірлівым, накіраваным невядома куды гурце было радасна. І радасць не згасла, не страчвалася, хаця хапала і штуршкоў і папіхачоў у спіну, даставалася і нагам і рэбрам. Ён і сам не губляўся, быў шчодры, кагосьці таксама біў па рэбрах, кагосьці штурхаў, ямуміналі, і ён замінаў — жыў, рухаўся, змагаўся за жыццё. І больш за ўсё баяўся, каб яго не пазбавілі гэтага жыцця, не выцягнулі за рукі з залы. Таму Лецечка не вельмі засмуціўся, калі ўбачыў, што ў зале сесці яму ўжо няма дзе, крэслы ўсе занятыя. Ён уладкаваўся на падаконніку, за прапыленай парцьерай. Каб уберагчыся ад якой-небудзь неспадзяванкі, закрыўся ўвесь гэтай парцьерай, пакінуў толькі маленькую шчылінку. Вельмі нават няблага ўладкаваўся: бачыў усіх, а яго — ніхто. І не такая духмень была сядзець на падаконніку, са шчылін у акне цягнула халадком, можна было даць ахаладаць і спатнеламу твару, калі прыціснуцца тварам да шкла, што ён, не марудзячы, і зрабіў. Вось толькі, калі прагучала ўжо знаёмая каманда: «Встать! Суд идет!..» — ён застаўся сядзець. Адзін сярод соцень людзей застаўся сядзець. З дапытлівасцю і спалохам утаропіўся ў людзей, якім дадзена было здзяйсняць суд. Гэтыя людзі цікавілі яго больш, чымсьці гады-паліцэйскія. Паліцэйскіх яму ўжо даводзілася бачыць, а вось на жывога суддзю глядзеў упершыню. Не мог сабе ён уявіць, як гэта адзін чалавек будзе судзіць другога, мае права нават пазбавіць другога чалавека жыцця, і не дзе-небудзь у цёмным завулку, не адзін на адзін, а прынародна, і Лецечка прагна і пільна ўглядаўся ў твар суддзі, шукаў на яго твары нейкую адмеціну, нейкі асаблівы знак, які б дазваляў суддзі судзіць іншых людзей. Але нічога адметнага так і не знайшоў. Чалавек больш чым звычайны. Зняць з яго форму, пераапрануць у цывільнае ды ў натоўп яго — і не згадаеш, што гэта суддзя, вялікі чалавек. Без асаблівага сораму і спалоху можаш таўхнуць яго і пад рэбры, і на нагу яму наступіць, і нізашто не ўгадаеш, што таўхануў, абразіў

нешта вышэйшае, уладу. I твар суддзя меў самы непрыкметны. Пасля суда ўжо, вечарам, у ізалятары, Лецечка спрабаваў нагадаць, уявіць сабе гэты твар, але ўсё дарэмна. Пракурор, гады-паліцэйскія паўставалі перад ім амаль імгненна, а суддзя не падпарадкоўваўся яму. Так ён быў падобны на ўсіх, бачаных Лецечкам людзей, на тых, хто жыў побач з ім. I Колька амаль адразу сказаў сабе, што такому суддзі можна даверыцца, што асабіста ён яму давярае.

Суддзі ўладкаваліся, і Колька пачаў разглядаць паліцэйскіх. I ледзь не ўпаў з падаконніка. Не, нічога жудаснага, звычна бандыцкага, фашысцкага ён у іх не згледзеў. Ён адчуў дух гніласці, пах цвілі і тхла, што яўна сыходзіў ад іх. Мерцвякі, жывыя мерцвякі сядзелі перад ім. Колька зразумеў словы Захар'і, які гаварыў яму аб тым, што смерць цяпер знаходзіцца на плошчы. Тут яна была, тут, цяпер Колька адчуваў яе прысутнасць і сам. Мо гэтыя людзі, што сядзяць вось на лаве падсудных, наводзілі калісьці жах, былі жорсткія, не ведалі, што такое жаль, сеялі на зямлі смерць, цяпер жа смерць стаяла за плячыма кожнага з іх. На імгненне яны былі амаль што вырваны з яе абдымкаў, прыведзены на суд не з уладкаваных кватэр і вясковых хат, а з таго свету, адкапаны з паграбоў, капцоў — з-пад зямлі. Смерць дала ім камандзіроўку на гэты свет, каб яны зазірнулі, паглядзелі ў вочы тым, каго не паспелі забіць. I здрыгануліся ад зробленага, ад той кары, што чакае іх, ад той нянавісці, што пячэ сэрцы людзей, і каб жудасна было ім вяртацца зноў у небыццё, але яшчэ больш жудасна — сядзець вось тут, у зале, адчуваць сябе жывымі. А зала была перапоўнена агнём, нянавісцю. I ў адным толькі чалавеку, у Лецечку, здаецца, нянавісці не было, у ім была грэблівасць, нібыта ён толькі што апаганіўся чымсьці, дакрануўся да чагосьці ліпкага, брыдотнага. I Лецечку нават злёгку нудзіла, калі ён глядзеў на паліцэйскіх, на іх схіленыя пакорлівыя галовы, калі ён сустракаўся з іх кранутымі вільгаццю вачыма, час ад часу перахопліваў іх поўныя жаху позіркі, якія яны, тоячыся, кідалі ў залу, на імгненне абуджаліся да жыцця, позіркі як

выбух нуды, мальбы і жаху. Але зала не ведала літасці, і паліцэйскія як апякаліся вачыма аб залу: столькі ў ёй было ціхага агню і нястоенай нянавісці. Паліцэйскія хаваліся ад гэтага агню і нянавісці за бар'ер, за салдат, за плечы адзін аднаго. Хаваліся і не маглі схавацца. Не было цяпер на зямлі такой сцяны, якая б абараніла і схавала іх.

Паліцэйскіх было чалавек дзесяць. Лецечка пабаяўся палічыць, колькі іх дакладна: жахліва лічыць нябожчыкаў, мерцвякоў. Былі гэта розныя людзі, рознага колеру твары і валасы, розніліся яны і адзеннем, але ўсіх іх ужо зрадніла, пабратала зямля, пячаць яе выразна выступала на іх тварах, яна была ў чорных звужаных зрэнках іх ужо тагасветных вачэй, у касцяна-жоўтым бляску залысін. І Лецечка жахнуўся не таму, што бачыў іх перад сабой тут, у зале, а таму, што яны будуць і там, будуць ляжаць у адной з ім зямлі. А калі ў гэтай зямлі штосьці ўсё ж існуе, будуць бадзяцца там. Не жывыя ці часова ажыўленыя былі яны страшныя яму, а мёртвыя. Ён знячэўку мо там і сустрэнецца з імі, і ці знойдзецца там абарона, ці ёсць там суд, ці будуць там стаяць паміж ім і паліцэйскімі гэтыя маўклівыя, задумёныя салдаты, ці здолеюць яны абараніць, уберагчы яго ад паліцэйскіх?

Наўрад, наўрад ці так... На зямлі чалавеку з чалавекам размінуцца лягчэй, чымсьці там. Там жа ён будзе ўжо не чалавек, а нейкі толькі дух, а дух пранікае паўсюдна. Значыцца, і на тым свеце наканавана яму дыхаць з імі. Навошта толькі ён пайшоў на гэты суд, паміраў бы сабе ціхенька ў ізалятары, побач былі б Козел, Дзыбаты, баба Зося, паміраў бы, нікога і нічога іншага не ведаючы, і ўсё было б добра, спакойна. А так — атручаны апошнія дні. Як здолее зямля спакойна прымаць усіх, як яна, не скалануўшыся нават, можа прыняць гэтых мерцвякоў.

Яшчэ можна было саскочыць з падаконніка і пайсці, паспрабаваць забыць усё, паспрабаваць выветрыць з сябе, са сваёй памяці гэты дух мярцвячыны, пах гнілі, цвілі, палічыць, пераканаць сябе, што ўсё гэта толькі здані,

прывіды, трызненне нейкае, што гэта ўласціва толькі гэтаму свету, а на тым усё інакш, усё разумна.

Зямелька добрая, зямелька мяккая і разумная. Яна не трывае і не прымае зла, няма ў яе зла і на яго, нічога дрэннага ён ёй не зрабіў. І яму будзе няблага там, толькі саскочыць і прабіцца да выхаду, там свежае паветра, там сонца, там чыстае неба, там ластаўкі ў небе, дурны і ласкавы сабака Асталоп і бяскрыўдныя мурашкі...

Але Лецечка разумеў, што ён дарэмна пераконвае сябе. Ён ужо не здольны добраахвотна пакінуць залу. Была над ім у тую хвіліну вышэйшая сіла, і гучаў яе голас: застацца, выседзець, прайсці праз усё да рэшты — добрае, мярзотнае, але пакратаць сваімі рукамі, пачуць усё сваімі вушамі. Навошта, дзеля чаго, калі дні твае ўжо злічаны, калі ты адной нагой ужо там? Лецечка не ведаў гэтага, не было ў яго адказу на гэтае пытанне. Тут над ім зноў было нешта вышэйшае, вышэйшае за яго разуменне. І ён да апошняга быў падпарадкаваны не сабе, а гэтаму вышэйшаму ў ім, якое, як ні дзіўна, спакойна аднеслася да слоў Захар'і, аб смерці, але не хацела падпарадкавацца жыццю, спрачалася з ім, дыктавала процілеглае сэнсу і розуму.

— Падсудзімы Калягін...

— Так точна,— ускочыў нябачны да гэтага Лецечку, закрыты салдатамі аховы паліцэйскі. Пасма прамых валасоў, ад кадыка да падбародка — сіняя жыла-вяроўка, вялізныя залысіны, скапецкі вашчана-белы твар, шырокі, пляскаты. Але ўсё на гэтым пляскатым твары выразнае, нават рэзкае, нібыта яно пачало ўжо гнісці: нос, скулы, сківіцы.

Суддзя адкінуўся на высокім крэсле, схіліў крыху набок галаву, супакоіў на падлакотніках рукі:

— Раскажыце суду пра сябе:

— Слухаюся.— Калягін угнуўся, кіўнуў спіной, нібы дэманструючы паслухмянасць і жаданне расказваць пра сябе. Але перад гэтым выцягнуў з кішэні бабаўнянага, добра ўжо зношанага пінжака насоўку, паднёс яе да чырвоных, як трахомай запаленых вачэй, нібыта выпадала

яму расказваць пра сябе штосьці незвычайнае жаласлівае, тужлівае.

— Расказвайце! — прыспешыў суддзя.

— Слухаюся...— зноў з гатоўнасцю кіўнуў спіной Калягін.— Нарадзіўся я ў 1927 годзе...

На гэтых яго словах Колька ўжо другі раз ледзь не ўпаў з падаконніка. Чалавеку, які быў ад яго за бар'ерам, ужо ў вайну споўнілася семнаццаць гадоў, а цяпер ён выглядае на ўсе пяцьдзесят. Так, калі вайна была яшчэ ў Беларусі, яму было семнаццаць. Столькі, колькі цяпер і Кольку. І Колька адчуў сябе абражаным... А Калягін працягваў ашаламляць яго відавочным, але неверагодным:

— Да вайны вучыўся ў школе, скончыў чатыры класы. Меў брата і сястру. Маці працавала ў калгасе. Бацька ганчар... Прыйшлі немцы...

— З родзічаў ніхто Савецкай уладай не прыцягваўся да суда, ніхто не быў рэпрэсіраваны? — ледзь чутна падзёўб па падлакотніках крэсла суддзя.

— Ніхто... да вайны лепей было, усё было...

— А хто вінаваты, што ўсё перамянілася?

— Вайна...

— Вы адчувалі розніцу паміж былой і новай уладай?

— Зараз так... А ў той час... Такі я ўжо быў...

— Якім вы такім былі?

— Ну, такім, ніякім... Другога жніўня 1943 года немцы ў нашым сяле забралі ўсю моладзь, далі позвы, аб'явілі, што павязуць у Германію...

— Партызанскія атрады ў вашым раёне былі?

— Паліцэйскі гарнізон яны ў нашай вёсцы разагналі.

— Вы не спрабавалі збегчы, згадзіліся ехаць у Германію?

— А куды дзецца, куды бегчы, каб тое ведаў, страшна ж, расстраляюць... Партызаны ж позваў не прысылалі... Прывезлі ў горад, сказалі, што будзем служыць для барацьбы з партызанамі...

— Вас жа ў Германію везлі, на працу, чаму раптам для барацьбы?

Калягін на гэтае пытанне не адказаў. Адказ Лецечку быў і без патрэбы. Ён зразумеў усё і сам, разумела ўсё і зала. Зала ўсё яшчэ жыла нянавісцю, а яму здалося, што ён залішне паспяшаўся з даверам да суддзі — вельмі ж па-хатняму, вельмі ж памяркоўна задаваў той пытанні, спакойна слухаў адказы. Словы, пытанні сапраўднага суддзі павінны страляць, апякаць агнём, думаў Лецечка. І наогул, што тут было судзіць, і так усё ясна: выкручваецца, прыкідваецца Калягін, дурня з сябе строіць. Побач з Палацам культуры дзетдом, во дзе суддзі, больш як сто чалавек, і ні ў кога там не ўздрыгне рука. Нікога не падвядзе рука і з тых, што сядзяць вось у зале. Усе яны страляюць, страляюць вачыма. Разлічваюцца за сябе, за сваіх дзяцей і ўнукаў, за дзяцей Сучка, за сівога сірату дзеда Нічыпара, за сіроцтва бабы Зосі. Дык ці ёсць сэнс, гэта самае, цягнуць ката за хвост? А суддзя цягнуў:

— Працягвайце, працягвайце, чаго спыніліся...

— У першы дзень размясцілі нас у хляве,— будзённым і цьмяным голасам загаварыў зноў Калягін.— Драўляныя ложкі фабрычнай работы на два паверхі. На другі-трэці дзень нам далі форму, тонкую, як рабочую. Пачалі вучыць страявой, як абыходзіцца з вінтоўкай рускай, тактыцы вядзення бою ў палявых, лясных умовах, спецыфіку праціўніка вывучалі, вучылі кемлівасці і матам лаялі.

— Разумелі, да чаго вас падрыхтоўваюць?

— ...не магу ведаць.

— Як, не можаце ведаць? Далі вінтоўку, вучылі хадзіць па лесе: як гэта — не магу ведаць?

Не, здаецца, нічога быў суддзя. Учапіўся маленькімі, счырванелымі рукамі ў крэсла, галаву адкінуў, і вочы яго, маленькія, страляюць, страляюць.

— Не магу адказаць,— кінуўся позіркам па дапамогу да сваіх Калягін, натрапіў на непрыхаваную злосць і сакануў па гэтай злосці, як з аўтамата, секануў не па сабе, а па сваіх: — Каб весці бой з партызанамі. Заняткі яшчэ праводзілі супраць Савецкай улады, палітычна яшчэ рыхтавалі.

— Вы верылі, што Савецкая Армія разбітая?

— Не магу адказаць,— і насоўку да вачэй.

— Вам гаварылі, што зямлю дадуць, як толькі бандытаў разаб'яце?

— Так!.. Але як я адносіўся да гэтага, не магу адказаць.

— Вы чулі фронт?

— Не, нас нікуды не выпускалі, нас у Барысаў...

— Вы ведалі, што горад, у якім вас фарміравалі, ужо вызвалены Савецкай Арміяй?

— Не... нам паказвалі падлетка ў ваенным адзенні: у камуністаў, маўляў, няма каму ваяваць.

— Аб чым жа вы думалі, калі глядзелі на гэтага падлетка?

— Аб доме думалася...

— Чаму не збеглі?

— Не мог... Нельга... Страшна...

— Што вам страшна? Вам жа растлумачылі, што ворага ў вас ужо няма, разбілі вы ворага... Чым яшчэ займаліся?

— Песні спявалі...

— Якія?

— Я не спяваў.— І зноў насоўку да вачэй, рукі крыжам да грудзей: верце, я не спяваў, я харошы і мне ёсць што за добрае залічыць.— Потым нам далі суконнае абмундзіраванне. Пагоны чорныя, пятліцы чорныя, на адной пятліцы стрэлы і літары крывулькамі...

— Эс эс?

— Эс эс... На пілотцы чэрап чалавечы з дзвюма косткамі, як на слупах: смяртэльна, не падыходзь! Вінтоўку нямецкую далі, штык у ножнах, падсумак. Пастроілі, далі каманду: «Смірна!» Немец пачаў чытаць прысягу, перакладчык перакладаў: «Рэйху і фюрэру...»

— Грамадзянінам якой дзяржавы вы сябе тады лічылі?

— Савецкага Саюза.

Лецечку здалося: Калягін дацягнуўся-такі да яго і праз бар'ер, ударыў яго. Але суддзя памкнуўся адвесці гэты ўдар.

— Грамадзянінам якой дзяржавы вы сталі, калі прынялі прысягу?

— Фашысцкім бандытам я стаў... Але аб гэтым я ў той час не думаў... Рэчавае забеспячэнне атрымалі, плацілі нам па дваццаць чатыры акупацыйныя маркі... Потым нас прывезлі ў Барысаў. Два тыдні жылі ў палатках. З Барысава павезлі ў Мінск, у пушкінскія казармы, вывучалі нямецкія гранаты, наш кулямёт «максім», вадзілі на ахову мінскай турмы. Я адзін раз толькі на ахове турмы быў. У калідоры стаяў. Адчынілі пры мне адну камеру. Там чалавек дваццаць...

— Хто ўтрымліваўся ў камерах?

— Нам не гаварылі...

— А вы не здагадваліся?

— Рускія... Потым, дзесьці ўжо ў кастрычніку сорак трэцяга года, нас пастроілі са зброяй на вуліцы. Немец, камандзір аддзялення, сказаў, што едзем у гета. Вывозілі яўрэйскае насельніцтва на машынах, душагубках — будка такая чорная, дзверы шырокія, металічныя, жалезныя крукі ўнізе і ўверсе, герметычна зачыняліся. Пяць было такіх душагубак і чатыры грузавыя машыны. Нас падзялілі на групы па восем — дзесяць чалавек, загадалі хадзіць па хатах, выводзіць жыхароў і грузіць на машыны.

— Каго грузілі? Ахвотна людзі ішлі?

— Якая тут ахвота, грамадзянін суддзя... Сілу, зразумела, прымянялі. Жанчыны, старыя, дзеці, па трыццаць — сорак чалавек у машыну. Везлі кіламетраў дзесяць па Магілёўскай шашы, збочвалі ўлева да Трасцянца. Станавіліся заднім бартом да ямы... Памеры? Як вам сказаць...

Лецечку скаланула ад гэтага «як вам сказаць», ад гаспадарскага, прыкідлівага прыжмуру вачэй Калягіна: Калягін упершыню асмеліўся паглядзець у залу. Нібыта гэтая яма была цяпер перад ім і ён павінен быў вызначыць яе памеры і колькі людзей можна туды ўкласці, гэтых людзей, што былі цяпер у зале. І ўсе, хто знаходзіўся ў зале, як здранцвелі, здранцвелі ад будзённасці, з якой Калягін аб усім спакойна расказваў, як ён усё па-гаспа-

дарску разлічваў, і ад таго, як пад гэтую яго нетаропкую памяркоўную гаворку абуджаліся да жыцця паліцэйскія. Працэс працягваўся, і ён датычыў усіх, накладваў свой адбітак на ўсіх, хто трапіў на яго, на тых, каго судзілі, і тых, хто судзіў, і тых, хто быў у ролі гледачоў, слухачоў: былі ў зале і такія, што прыйшлі з цікаўнасці, каб паглядзець на відовішча, якое аж захапляе дух, каб дакрануцца да таго, чаго не маглі спасцігнуць розумам, да пякучай тайны чалавечага падзення. Але большасць усё ж імкнулася сюды, каб упэўніцца, пераканацца, што зло будзе пакарана, каб вынесці яму свой чалавечы прысуд, каб яшчэ раз сказаць, што яны нічога не даравалі і ніколі не даруюць, што яны памятлівыя, няхай аб гэтым ведаюць усе, каму ёсць падставы баяцца іх памяці, хто разлічвае на час, на забыццё. Кожнаму чалавеку, кожнай яго справе ёсць судны дзень, ёсць судны час.

Так, гэтыя людзі ішлі сюды, несучы сваю нянавісць. Магчыма, яны і чакалі ўбачыць штосьці неверагоднае, нечалавечае, чаго ніколі нельга ахапіць ні розумам, ні сэрцам. А перад імі было штосьці надзвычай будзённае, шэрае, нікчэмнае, вартае жалю, але ж чалавечае. Ды толькі такое чалавечае, якога ім ніколі не спасцігнуць. І зала была нібыта ў одуме. Людзі думалі, пэўна, не толькі аб мінулым, аб сённяшнім, але і аб будучым: адкуль жа гэта ўсё бярэцца ў людзей звычайных, з дзвюма нагамі, з дзвюма рукамі! Гэта ж чырванавокі скапец быў адным з іх, выйшаў з іх. Бацька ганчар, маці калгасніца, мо каму ён быў і пагодкам, хадзіў ці мог хадзіць разам у адну школу, араў адну зямлю. І страляў іх бацькоў, паліў іх братоў, сясцёр, дзяцей. Якая ж маці яго нарадзіла, як яна насіла яго, як насіла яго зямля? Што ж такое чалавек, ці ёсць мяжа яго брыдотам і мярзотнасцям? Як гэта магчыма: сёння, як і ўсе, п'е малако маці, а заўтра раздзявае маці, спакойна страляе ў чалавека, які нарадзіў яго... Страляе ў чалавека... Ці не ўпадаюць тыя, хто імкнецца растлумачыць гэта, у штосьці яшчэ больш страшнае, жудаснае, за якім ужо нічога — пустэча, змрок, холад? Ці магчыма знішчыць, забіць сябе падобнага, не забіўшы пры гэтым

сябе? Усяму павінна быць мяжа, усяму ёсць канец. Ёсць жа, ёсць такая нябачная рыса, ступіўшы за якую ты ўжо не чалавек, не звер нават ужо, а нешта. Нешта было перад імі, адкрытае, шчырае, чалавечае нешта. Калі ж яно пачалося, ці сканае яно калі, ці ёсць над ім смерць? Не, не тая, якая прыбярэ гэтае чалавечае нешта, што стаіць цяпер перад імі на дзвюх нагах, а ці ёсць над тым і таму смерць, што нарадзілася раней за гэтае нешта, але вылучыла, абрала менавіта яго? Як дабрацца да таго нешта, якому падпарадкоўваецца, услугоўвае гэта нешта? Калі яму прыйдзе канец? І ці смяротнае яно? Колькі будуць трываць яго людзі?..

Было гэтае ўсеагульнае недаўменне і ў Лецечку, разгубленасць нават нейкая жыла ў ім, суседнічала побач са страхам, дапытлівай цікаўнасцю, агідай, праўда, трохі іншай, чым ва ўсіх: навошта марна траціць на гэтага Калягіна час, калі яму дастаткова дзевяці грамаў свінцу? Дзевяць грамаў — і справядлівасць возьме верх. І ён ужо чуў спапяляльны посвіст гэтых дзевяці грамаў справядлівасці. А паліцэйскія за бар'ерам ужо ажылі, першапачатковы страх іх спачатку змяніўся раўнадушшам, абыякавасцю, потым прыйшла цікаўнасць да таго, што адбываецца ў зале, да таго, што і як расказвае Калягін. І твары іх пачалі набываць індывідуальнасць, яны ўжо не былі падобныя, як падобныя твары нябожчыкаў. Ужо брывасты сусед Калягіна, што з нудой і разгубленасцю неадрыўна ўглядаўся ў акно, з якога быў відзён недабудаваны, у рыштаваннях, гмах універмага, здавалася, трапіў сюды, за бар'ер, выпадкова. Ажыў, незразумела чаму, больш за іншых ненавісны Лецечку чалавек у чорным, у чорнай тэнісцы, з чорнымі рукамі ад мноства наколак на іх, з чорнымі ўчэпістымі і жорсткімі вачыма. Адказваючы суддзі, Калягін увесь час пазіраў на яго, на чалавека ў чорным, нібыта пытаўся дазволу гаварыць.

— Метры са два шырынёй была яма, метраў дваццаць у даўжыню, а ў глыбіню... не ведаю, не заглядваў. З'явіўся немец, адкормлены, у чорным паліто, загадаў

раздзець людзей, паставілі іх да ямы і пачалі страляць. Мы і кулямётчыкі-немцы стралялі... і я страляў.

— Яны глядзелі вам у вочы, тварам яны да вас стаялі?

— А якая розніца...

— Да гэтага прыходзілася людзей забіваць?

— Што вы, грамадзянін суддзя, не, і зараз бы не забіваў...

— Зараз вам не дадуць забіваць,— штосьці здарылася з тварам суддзі — ён наліўся чырванню, перасмыкнуўся. Лецечка не ведаў і ўжо ніколі не даведаецца, што перад суддзёй у тую хвіліну стаяў яго зямляк, што гэты Калягін жыў калісьці недалёка ад той вёскі, у якой жыў суддзя. Што суддзя ў семнаццаць год пайшоў у партызаны.

— Я не свядома, я паднявольна,— упершыню голас Калягіна сарваўся і задрыжаў.

— Якая ж сіла вымушала вас страляць па людзях?

— Я два разы толькі... Усе стралялі, і я страляў. Немец страляў і нас прымушаў... Мы б не стралялі — нас бы пастралялі... Хто не падаў у яму, таго спіхвалі, нам рукавіцы далі, у рукавіцах згружалі з душагубак. Расчынялі дзверы, а там ужо трупы. Адпрацаваным газам е т а  с а м а е. Рукавіцы — і выгружалі ў траншэі.

— Колькі ж вы дзён так працавалі?

— Дзевяць-дзесяць дзён запар... Апошні дзень, праўда, мала было работы. Збіралі, хто схаваўся на гарышчы, у хляве, у пограбе — чалавек трыццаць — сорак такіх было. Але я ні на аднаго з іх не натрапіў. Сказаць па праўдзе, я баяўся на гарышчы лазіць.

— Чаго вы баяліся?

— Лесвіцы не было...

Суддзя хацеў яшчэ штосьці сказаць, але толькі адкрыў рот, хапіў паветра і схіліў галаву да папак, якія ляжалі перад ім на стале. Калягін перагнуўся цераз бар'ер і замёр, шчыльна прыціснуўшы рукі да бакоў.

— Актам дзяржаўнай камісіі ўстаноўлена, што ў раёне Трасцянца было знішчана дзесяць тысяч савецкіх грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці. Падсудны Калягін,

колькі людзей было знішчана ў раёне Трасцянца з вашым асабістым удзелам?

— Грамадзянін суддзя, я па праўдзе вам кажу...

— Гаварыце не мне, гаварыце суду...

— Я тры дні толькі... я выстраліў...

— Адказвайце па сутнасці.

— З маім асабістым удзелам было знішчана шэсцьсот трыццаць чалавек. Я толькі...

— Праглі выжыць?

— Так, праг выжыць...

— Ці не занадта ацанілі вы сваё жыццё: шэсцьсот трыццаць чалавек?

— Я не даражыў...

— Што вы адчувалі, калі стралялі па людзях?

— Што я адчуваў... скажу па праўдзе, прыходзілі ў казарму, есці не маглі.

— Гарэлку давалі?

— Не, толькі дваццаць чатыры зялёныя маркі... Няхораша я адчуваў.

— Што вы няхораша адчувалі?

— Дрэнна раблю...— І ў прыціхлую залу, а Лецечку здалося — прама яму ў вушы: — Я баяўся...

Страх і цяпер гучаў у яго голасе. Але было незразумела, ці гэта быў яго даўні страх, ці ён нарадзіўся цяпер, ці гэты чалавек нарадзіўся разам са сваім страхам.

— Баючыся, каб вас не расстралялі, вы спяшаліся страляць іншых. Так гэта трэба разумець?

— Так, як інакш яшчэ разумець. Усякае было. Трое з пушкінскіх казарм збеглі, іх злавілі, прывязалі да слупа, вывелі ўсю нашу роту, і рота іх расстраляла.

— Наступная ваша акцыя, падсудны Калягін, пасля знішчэння яўрэйскага насельніцтва ў Трасцянцы?

— Пасля гета хадзілі ў каравул. Ахоўвалі турму, бралі людзей і вазілі туды...

— Якіх людзей бралі і куды т у д ы вазілі?

Калягін забыў пра насоўку, утаропіўся ў суддзю, як бы штосьці не зразумеў, нявінна, пакрыўджана заміргаў, залыпаў вачыма.

— Якіх бралі людзей? — зморана паўтарыў суддзя.— Якіх людзей і куды вазілі? Вам зразумела пытанне, падсудны Калягін?

— Так точна, грамадзянін суддзя. Вязняў бралі і вазілі ў Трасцянец. І гэтыя людзі, вязні, жалезнымі кручкамі даставалі трупы з траншэй, штабелявалі іх: рад трупаў, рад бярвення. Бочка жалезная з саляркай. Палівалі саляркай і запальвалі. А мы ахоўвалі...

— Каго і ад каго ахоўвалі?

— Вязняў. І каб ніхто не набліжаўся, як загадана было.

— Дзе вы харчаваліся?

— Сухі паёк нам давалі. Ля вогнішчаў і елі.

— Як харчаваліся вязні?

— А я вось не бачыў, як іх кармілі. Прыязджаў немец, адкормлены, у кожаным паліто. Строілі вязняў, нібыта везці дамоў — у турму. Мы строіліся насупраць. Каманда: направа. Яны тварам да траншэі, і мы расстрэльвалі іх... Я таксама страляў... разы два...

— Прыцэльна?

— У людзей, зразумела.

— Што гэта былі за людзі?

— Заключоныя, вязні... Рускія, беларусы. На другі дзень гэтыя трупы палілі ўжо іншыя вязні. З маім асабістым удзелам знішчана восемдзесят — сто вязняў мінскай турмы.

Восемдзесят — сто... Яны паўсталі перад Лецечкам, як жывыя. Як жывыя ці мёртвыя, не то яшчэ тут, не то ўжо там? Лецечка і сам не разумеў, дзе ён ужо — ці то яшчэ тут, ці то ўжо там. Уваччу ўсё мроілася, сіні, мярцвянага адцення, туман касмыкавата ляпіўся да зараснікаў, сіне ахутваў босыя і таксама сінія, як пазбаўленыя жыцця, крыві, ногі. Адзенне — сіні туман, твары — сіні туман, усё гэта наплывала і наплывала на Лецечку — туман твараў і вачэй. Гэтая туманная плынь, падобная да людской плыні, якая віравала на плошчы, і прыбіла яго да падаконніка, нябачна ахапіла Лецечку і закружыла, панесла да траншэяў, ямаў, ірвоў, якія былі перапоўнены трупамі старых, дзяцей, жанчын,— у туман.

І ён, Лецечка, быў ужо сам сінім туманам, быў адным з гэтых людзей у тумане, якія штабелямі ўкрылі ўсю зямлю так, што і ступіць не было куды.

Агромністыя, пад самае неба, штабелі сініх цел. І сярод гэтых штабеляў ён, Лецечка — голы, сіні, але жывы. Ён выдзіраўся з туману па лесвіцы, якой не было ў Калягіна, па трупах дзёрся на штабель. Усё вышэй, вышэй, вышэй, каб з гары гэтых трупаў паглядзець на зямлю, убачыць сябе жывым і дужым сёння, у зале суда, на падаконніку. Але бачыў толькі адкормленага немца ў чорным скураным паліто, бачыў чорныя машыны з крыжамі па баках, бачыў Калягіна, маладога, задаволенага, у чорным, з крывулькамі-стрэламі літарак на чорных пятліцах, з дзвюма скрыжаванымі косткамі на пілотцы: не падыходзь — смяртэльна! І Лецечка там, наверсе, на штабелі, смяяўся з гэтай бязглуздай перасцярогі: што яму смяртэльна, не падыходзь, калі ў штабелі трупаў ён і сам труп, не ведае, што такое страх. Трупы запоўнілі зямлю, трупы закрылі сонца. І Калягін, адкормлены і сыты, які моцнымі зубамі хрумстаў галету, грыз кілбасу — вызначаны яму немцамі сухі паёк, каб Калягін быў яшчэ больш сыты, яшчэ больш адкормлены, і той адкормлены немец у чорным скураным паліто таксама былі ўжо трупамі, але яшчэ не ведалі, не здагадваліся аб гэтым. А Лецечка ведаў. Усё ён ведаў пра гэтую ахутаную сінім туманам зямлю. І, ведаючы, жахаўся. Калягіну ў кастрычніку сорак трэцяга было семнаццаць гадоў. Шлях Калягіна, як і яго, Лецечкаў, шлях па зямлі толькі пачынаўся. Толькі пачынаўся, але колькі ім, Калягіным, каб выжыць, было ўжо забіта ўчора. І колькі ён заб'е яшчэ, каб выжыць заўтра. Лецечка не шкадаваў, што памёр ужо. Жахлівей усё ж жыць сярод трупаў, чым ляжаць разам з імі...

— ...на клубе ў вёсцы Сучкі вісеў чырвоны сцяг...

— Бацька! Бацька! Татачку!

— ...вёска Сучкі была спалена год назад. Уцалеў адзіны дом — клуб і на ім чырвоны сцяг... Мы пайшлі ў лес... шэсцьдзесят чалавек іх было... з розных вёсак...

адной вяроўкай звязалі рукі... Пярэдняму — сцяг, запрэглі шэсцьдзесят чалавек у воз... «За Радзіму, за Сталіна, наперад!..» Бізунамі, прыкладамі... Дзед упаў, стары, каля ста год, гаварылі... Гуляй, Гуляй... Прыдумалі гуляць у рэчцы, у пельку, пад лёд... Здаровых аддзельна, старых, малых — нягожых — у лазню... Падпалілі... Было, было, крычалі спачатку, а потым перасталі... Усе ў тую лазню не памесціліся. Непадалёку бойня была, скаціну там раней білі. Загналі тых, хто не ўлез у лазню, у гэтую бойню, падпалілі, крычалі спачатку, а потым перасталі...

«Старых, малых — нягожых — у лазню, у бойню... Крычалі спачатку, а потым перасталі...» Не, не перасталі, крычаць. Уздымаецца размаляваная ў розныя колеры, палае і цяпер столь Палаца культуры. Гарыць, хаця звонку, пэўна, і не відаць. Там, звонку, свабодна віруе на ветры чырвоны сцяг. Чырвоны сцяг, які перанеслі пад посвіст бізуноў тыя шэсцьдзесят ад вясковага клуба ў Сучках да гэтага Палаца культуры ў Слабадзе. Ажылі старыя, малыя — нягожыя, гарыць у тым даўнім агні, лямантуе ад яго на падаконніку Лецечка. Старога, нягожага дзеда Нічыпара з каменем, узнятым над галавой, выводзяць з залы салдаты. Пячэ і яму.

Палае над зямлёй пажар, а Лецечка ў расталай ужо рэчцы гуляе рыбінай пад вадой. Вялікая, старая, але дужая рыбіна жыве ў вялізным цёмным віры, над якім малады дубок і кустоўе арэшніку. Скрозь іх лістоту зрэдку дасягае дна сонца, але затое там, на дне, заўсёды зоркі і месяц. А да сонца рыбіна днём усплывае сама, усплывае, не закаламуціўшы яго, стаіўшыся пад берагавой стромай, гадзінамі стаіць нерухома. Слухае гамонку хлапчукоў-вудзільшчыкаў. Яны сядзяць на беразе, басанож, палошчуць ногі ў вадзе. І рыбіна часам казыча ім босыя ногі, кранае іх пяткі старэчымі мяккімі губамі. Хлапчукі рагочуць:

— То мо сом цябе, а не вада.

— А мо і сом, тут, крыж на пузе, самы — на воз не ўскласці.

— Злавіць бы такога,— уздыхаюць.

— Злавіць можна, а як яго дадому панясеш...

Фантазёры вясковыя хлапчукі. Не спаймаць ім гэтую рыбіну.

Яна сілкуецца не так, як прыдуркаватыя плоткі і акуні. Цёмным вечарам, ноччу. Вось надыдзе вечар, рыбіна яшчэ пацешыць іх. Выплыве з віру на плынь і, як дрынам, ляпне па вадзе хвастом. І прысядуць ад нечаканасці хлапчукі.

— Чулі?

— Чулі!

— Бачылі? Пудоў на пяць, а мо і болей. Ён?

Зразумела, ён, хто ж іншы. Хораша рыбіне, у парнай вечарам вадзе яна — як у сырадоі. Хлапчукі за дзень панакідалі ў ваду яшчэ няспелых, яшчэ з малаком арэхаў, надкусаных яблыкаў. Паруе рэчка, струменіць, бруіцца вада, як човен, слізгае месяцавай сцяжынкай качар.

Месяц вечарам адарваўся ад дна, усплыў наверх і лёг на ваду. Рыбіна чапляе гэты месяц на вадзе гарбатай спіной і возіць на сабе па рэчцы. Гэта цяжкая, але прыемная праца — вазіць месяц, купаць яго ў рачным сырадоі. Задаволена рыба, задаволены месяц. І карысна абаім. Хто, калі не яна, рыба, дагледзіць месяц, хто вышаруе яго медныя жоўтыя бакі да таго ранішняга срабрыстага бляску, дзе яшчэ можна знайсці столькі звонкай празрыстай вады, як у рэчцы, дзе яшчэ, акрамя Беларусі, ёсць такія ўтульныя, зацішныя рэкі з ніцай над вадой лазой, з арэшнікам на стромах, з чырвоным вербалозам на пяску, з дубкамі, што падбеглі да вады, з такім белым і жоўтым, залатым і срабрыстым пяском! Пясок гэты таму такі залаты і срабрысты, што не толькі ў рэчцы, але і ў ім, як цэцерукі ў снезе, кожную ноч купаецца месяц, шаруе свае бакі. Забаўляецца з месяцам рыбіна, як заляцаецца да месяца, забаўляюцца з ім арэшнікі, ніцыя лозы туляць, мілуюць яго зыбкім ценем, які падае на ваду ад іх лістоты. А месяц смяецца, рагоча рагатай савой, што прыхавалася ў голлі дуба, рагоча так, што гойдаюцца і драбняцца ў вадзе, і над вадой, і спадыспаду вады срабрыстыя ўночы і на золку лістота і голле зарасніку. І нячутна ўздыхаюць,

пазяхаюць, пацягваюцца ад захаплення і ўзрушанасці дубы. І растуць, растуць. Усю ноч возіць па рэчцы на сабе рыбіна месяц. І сама гэтая рыбіна срабрыстая і залатая, месячная. Коціцца, коціцца, плыве над рэчкай і над усёй зямлёй яе звонкая, срабрыстая радасць. І гэтай радасцю прагна дыхаюць травы на заліўных прырэчных сенажацях, п'юць яе росы, ёю насычаюцца ноччу птушкі, ёю, нябачнай, але салодкай, аздабляюцца ноччу хлапчукі, што спяць па вясковых хатах і лётаюць, лётаюць у сне, растуць. Растуць, калі ўцягнецца вільготны і прэлы змрок, паміраe на некалькі гадзін зло, калі над зямлёй свеціць толькі месяц, ды зоркі, ды перамірґванне светлячкоў, ды шчаслівы смех рыбы. Маленькая рачулка нясе сваю маленькую радасць вялікай рацэ, а тая — мору. Хораша, пэўна, ля мора, аднак лепей за ўсё ля вытокаў гэтай радасці, каля гэтай маленькай рачулкі. З берага, дзе сядзелі ўдзень хлапчукі, пахне чалавекам, і рыбіна, змарыўшыся, заплывае ў свой вір, гуляе там з дубовым лістом, то патапляе яго, то ўзнімае да паверхні, чысціць сваю хату ад прынесенага за дзень вадой смецця. Потым паказвае з вады пляскатую галаву, дыхае, хапае чыстае, з камарыным звонам паветра. Паветра патрэбна і рыбіне, як ёй без паветра, яна цэдзіць яго разам з вадой і, захмялелая ад пахаў, зноў гарэзліва б'е па вадзе магутным хвастом. А хвост у яе сапраўды магутны, моцныя ў яе плаўнікі, дужае сэрца. І вось яна, прыціснуўшы плаўнікі, «салдацікам» знікае ўглыбіні, ведаючы, што хутка будзе дзень, што зноў будзе заўтра. А гэта значыць, што да яе зноў прыйдуць хлапчукі. Яна, тоячыся ад іх, будзе зноў іх забаўляць, будзе казытаць ім пяткі, а хлапчукі будуць аж верашчаць ад захаплення, ад крыку і ад жаху. І будуць прыдумляць, таму што лепшыя ў свеце выдумшчыкі — вясковыя хлапчукі, хаты якіх стаяць на беразе рачулак. Толькі для іх і жывуць у гэтых рачулках такія вялікія, такія добрыя рыбіны...

— ...За што расстрэльваў?

— Загад такі быў.

— Загад забіваць?

— Загад забіваць...

— Што гэта за людзі былі, ведалі, адкуль яны?

— Рускія людзі, з хат... Нам загад забіваць, не шкадаваць ні старых, ні малых. Нада мной стаялі немцы, грамадзянін суддзя...

Грамадзяніна суддзю аж калоціць і ў чырвань кідае ад гэтага ліслівага звароту да яго, ад таго ліслівага тону, якім адказвае на яго пытанні чалавек, які стаіць за бар'ерам. Калоціць, абражае гэтая ліслівасць і ўсіх, хто сядзіць у зале, абражае і Лецечку. Але і зала і Лецечка могуць выказваць свае пачуцці, абурацца, сціскаць кулакі, закрываць вочы і вушы, а суддзя павінен быць бясстрасным, на тое ён і суддзя. Але ж ён таксама чалавек, што адчувае ён цяпер? Не, Лецечка не здольны паставіць, дакладней, пасадзіць сябе на яго месца. Яго месца тут, сярод людзей, з якіх ён выйшаў. Ён жыве цяпер іх пачуццямі, іх вялікімі і святымі нянавісцю і абурэннем. Зала тужліва, выцвілымі вачыма сівой жанчыны, якая сядзіць непадалёку ад Лецечкі, глядзіць на Калягіна. Глядзіць жанчына, але ці бачыць яна што цяпер. Жанчына ў той час, у той дзень, аб якім спавядаецца Калягін, была дзяўчынкай, мо равесніцай Лецечку. Яна толькі што вылезла з-пад забітых у хляве людзей. Якісьці дзядок засцярог яе сваім целам: «Маўчы, трывай, жыві, дзетка». Дзетка выпаўзла з хлява і схавалася ў пажарнай бочцы, у якую дбайны гаспадар нанасіў вады. Гэтая бочка з вадой выратавала ёй жыццё, але не выратавала ад заўчаснай старасці, ад сівізны ў трыццаць год. Жанчына прагне зразумець, чаму яна так рана пасівела. І яна саромеецца гэтай сваёй заўчаснай сівізны, вінавацціца за яе, вінаваціць сябе за тое, што на зямлі ёсць такія людзі, як Калягін, што яна павінна жыць побач з імі,— мо штосьці яна зрабіла і робіць не так, мо дзесьці пакрывіла душой? Без віны вінаваціць яна сябе, без віны, але ж... Дзядок той, што засцярог яе сваім целам, загінуў... І ў тужлівых вачах яе сум і пытанне: чаму ўсё так, чаму, хто дазволіў, як дазволілі, што г э т ы я , такія рахманыя цяпер, такія бяскрыўдныя, калі пад аховай, пад вартай, столькі пусцілі па свеце сірот, столькі пралілі крыві? Ці не сон гэта ўсё, што перажыла

яна, ці не прывіды, ці не здані перад яе вачыма? Яна спрабуе зазірнуць ім у вочы, углядаецца ў іх твары, прыглядаецца да іх рук. Не, не зразумець, не зразумець ёй нічога, ніколі. І гэта яе някемлівасць тлуміць галаву і Лецечку, не дае спакою яе засмучаны вінаваты твар. І ён круціцца, ненавідзіць гэтую сваю такую някемлівую галаву. Суддзя, пэўна, ведае тое, чаго ніколі-ніколі не спазнаць яму. Лецечка ненавідзіць паліцэйскіх. Так, у іх даўно ўжо абудзілася пякучая, жывёльная цікавасць да таго, аб чым расказвае Калягін. Яны літаральна зрываюць з яго вуснаў, як п'юць, кожнае яго слова, нібыта ніколі не былі з ім побач, нібыта яны ніколі нікога не палілі, не расстрэльвалі, не забівалі.

А Калягін даўно ўжо асвойтаўся, ён ужо ведае, калі, што і як сказаць, а дзе і прамаўчаць, не зразумець, прыкінуцца. Калягін кемлівы, цямлівы дзядзька. Суддзі ўжо больш не патрэбна задаваць яму наводных пытанняў, нават залішнія ўжо і самі пытанні. Калягін глядзіць суддзі ў рот, цікуе пытанні і ўгадвае іх да таго яшчэ, як яны будуць вымаўлены, як яны выспеюць. Ён гатовы служыць і ўслугоўваць тут, за бар'ерам. Ён ужо адчуў уладу і падпарадкаваўся сіле, якая над ім. Рукі за спіной, ногі напаўсагнутыя, галава наперад, ён гатовы рынуцца наперад, гатовы выканаць любы загад, які толькі не прагучыць. Усё ў ім ужо напагатове, на ўзводзе, усё напята, усё ў салодкім прадчаканні загаду. Вось-вось прагучыць яму загад, і вочы, язык яго, цела, кожная яго жылка падрыхтаваныя ўжо да таго, каб падпарадкавацца. Ёсць, ёсць асалода ў падпарадкаванні, і Калягін спазнаў яе.

— ...Азарычы... Сакавік сорак трэцяга года. Гразь, слота. Падаў мокры снег.

Памяць Калягіна дакладна працуе на ўспамін. Такі яму сёння загад: успомніць усё да дробязей. І Калягін цяпер мастак, ён малюе на памяці сакавік сорак трэцяга. Невялічкі хвойнік, хмызняк, выгараджаны калючым дротам. Выгараджана травяністае, дрыгвянае балота. У балоце шэрыя, сагнутыя ў крук людзі. Трыццаць сем тысяч чалавек, але Калягін малюе толькі дваіх з гэтых трыццаці

сямі тысяч. Заходзіцца ад слоты і халадэчы ўхутаны матчынай хусткай хлапчук. Маці ідзе да хвоі, каб наламаць голля і распаліць цяпельца. Двое ў чорным — Калягін і адкормлены немец — цікуюць за ёю, разважаюць: ці пападзе немец з вінтоўкі ў жанчыну, заб'е ці параніць яе — да жанчыны далекавата, метраў семдзесят, а мо і болей. Немец бярэ ў Калягіна вінтоўку, доўга цэліцца — і трапляе, забівае жанчыну.

— ...яны хворыя ўсё былі. На тыфус хварэлі. Жанчыны, дзеці, старыя...

Лецечка выразна бачыць гэтую жанчыну, якая ўпала ў дрыгву. Немаведама адкуль, але яму знаёмая карціна, якую намаляваў Калягін. Хмызняк, калючы дрот, дзве постаці ў чорным, пошчак стрэлу, як трэск абламанай галіны, жоўтая, ад расталай зямлі, вада. Хлопчык у матчынай хустцы. Лецечка прыціскаецца патыліцай да прахалоды шкла. Гэта ён, ён у хустцы. Адсюль, з падаконніка, ён разглядзеў твар хлопчыка.

— Немцы на станцыю Рудабелка прывезлі хворых тыфам людзей, накіравалі іх пад Азарычы, у балота. Мэта адна — звезці як мага больш тыфознікаў і затрымаць наступленне нашай арміі...

— Якая яна вам ваша армія...

— Савецкая Армія,— пакорліва папраўляецца Калягін.— Дэзарганізаваць транспарт. Уначы ўжо бачны былі савецкія ракеты над лесам. Ад поезда, ад Рудабелкі, везлі людзей на машынах. Хворыя, абмарожаныя, жахлівае відовішча. На машыны ўскідвалі старых, хворых, малых. Яны самі ўжо не здолелі залезці. Машын на ўсіх не хапала. Ішлі пешшу. Падалі — прыстрэльвалі. Дарога — жахлівае відовішча, гразь, слота. На некалькі кіламетраў нагі не ўбіць — трупы, трупы. Ніхто іх не прыбіраў. Дзед адзін не здолеў ісці. «Сынкі, сынкі,— умольваў.— Не страляйце мяне на дарозе. Палажыце каля лесу...»

— Уважылі просьбу дзеда?

— Некалі было. Прыстрэлілі на дарозе. Усіх стралялі на дарозе. Дарога ў трупах, па іх машыны...

Лецечка спаўзае з падаконніка на падлогу. Коламі па ім праехала машына. Сівая жанчына ўладкоўвае яго ў крэсла, сама садзіцца на падаконнік. Але Лецечка бяжыць з залы, ён не здольны трываць больш там, ён бяжыць у сакавік сорак трэцяга, у тыфозны лагер Азарычы ці то з лагера бяжыць. Бяжыць па дарозе, па шляху Рудабелка — Азарычы. А мо па якой-небудзь іншай, але падобнай на тую дарогу. Была, была ў яго такая дарога ў сакавіку сорак чацвёртага ці ў жніўні сорак трэцяга — гэтага ён не памятае. Для яго тады не існавала пары года. Час быў падзелены на святло і змрок. А дарога была адначасова ў святле і ў змроку...

## VIII

Не то чалавек, не то звер які — штосьці незразумелае брыло лесам. Каціўся па лесе касмыкаваты жывы камяк. Пад чорнымі ялінамі, дзе вецце нізка прыпадала да зямлі, камяк гэты поўз. Быў ён з усіх бакоў густа аблеплены дрыгвяністай гразёю, быў густа абсыпаны ігліцай і лісцем. І здалёку, пры зменлівым і падманлівым у лесе святле, здавалася, што гэта коціцца ў сваю нару асенні, дбайны і руплівы, вожык. Аднак калі на яго шляху сустракаліся лапіны, не парослыя хмызняком, ці зараснікі багуну, вожык гэты ці воўк, выпростваўся, узнімаўся на ногі, і тады было зразумела, што гэта і не вожык, і не воўк — не звер, а хлопчык.

Ён ужо не памятаў, колькі гадзін ці колькі дзён брыдзе лесам. Не здольны быў ён і адказаць — ці то чалавек ён, ці то звер. Гэта быў лясны хлопчык, адзін з тых, якіх было нямала па тым часе, якія ці то самі адбіліся ад маці, ці іх адбілі ад яе чарговай аблавай. Але хлопчык памятаў, што зусім нядаўна каля яго быў хтосьці жывы, дарослы, пэўна, маці, яна ці то ўпала сама і больш не паднялася, ці то іх абклалі, выйшлі на іх людзі ў чорным, з чорнымі палкамі, якія вывяргалі агонь, выйшлі, абклалі з усіх бакоў і з поклічам: «Ату іх, ату...», сеючы з палак агонь, загналі ў

балота, у дрыгву, і ён выграбся з гэтага балота ўжо адзін. Застаўшыся адзін, хлопчык не злякаўся. Жыў ён з маці ў лесе ўжо даўно. І першы пробліск свядомасці знайшоў яго ў лесе, і ён ужо быў упэўнены, што на зямлі існуе толькі адзін лес. Усё жывое заўсёды жыло і жыве ў лесе, хаваючыся адно ад аднаго. У лесе пад ялінамі была яго хата, пасцель. Але прыспеў час есці, пачало змяркацца, і хлопчык выпаўз з балота і пабрыў па лесе. Інстынкт гнаў яго да людзей. Ён хацеў да змроку прабіцца да якога-небудзь жытла і баяўся гэтага. Разы са два за дрэвамі ён прыкмеціў людзей, але не адкрыўся ім, стаіўся ў кустах, перачакаў, калі яны знікнуць. Потым кінуўся шукаць іх і не знайшоў. І вось цяпер, выючы, ішоў і поўз, як сляпы, тыцкаўся ў купіны галавой, размазваў па твары балотную твань, ягады брусніц, дурніцы. І звяры, і людзі, і птушкі абыходзілі і аблятаалі яго, не прызнаючы ў ім свайго. А яму б цяпер сустрэць на сваім шляху хоць гадзюку, што-небудзь жывое, каб не быць ў адзіноце, выпаўзці хоць на якуюсьці сцежку звярыную. Толькі лес быў нежылы, пусты. Хвоі, яліны, зрэдку — дубнякі. Хлопчык прыглядаўся да дрэваў, да абымшэлых камлёў, кратаў гэтыя камлі рукамі і не адчуваў у іх цёплага, жывога. Халоднае, маўклівае і нелагоднае дрэва. Яно магло б і ажыць, калі б у яго быў агонь: крэсіва і жоўты сухі грыб — трут. Крэсівам па крэмені, і з крэменя ці то з жалезкі — іскры на трут. Але ў яго ні трута, ні крэсіва, ні крэменя — нічога не было.

Толькі на сконе дня, калі ўжо заходзіла сонца і зямля, па якой ён брыў, пачырванела, нібы набрыняла крывёю, хлопчык натрапіў на сцежку. Ён узрадаваўся ёй, сцежка хутка вывела яго да шляху. Хлопчык спыніўся, стаіўся ў кустах, разглядваў дарогу і нібыта прынюхваўся, чым ад яе патыхае. Ужо амаль што сцямнела, але яму, толькі што з ляснога змроку, толькі што ад ляснога страху, было яшчэ светла. Шлях гарбаціўся, аднолькава цягнуў управа, улева і губляўся ў хвоях. Шырокі гаротны вясковы шлях, хапіў ён на сваім вяку ўсяго, машыны, падводы змясілі яго да мёртвага белага пяску. Але дзе-нідзе на гэтым мёртвым

белым пяску чорным і вільготным вокам паблісквалі ўначы і лапікі цвёрдай, нескалатушанай зямлі, якую не здолелі спляжыць, адарваць ад матчынага цела, і яно сачыла праз гэтыя лапікі-вочы па ўцалелых венах і жылах сукравіцу-вільгаць, плакала зямля, плакаў шлях, застаўшыся ў адзіноце, нябачнымі слязьмі. Але слёзы гэтыя не кранапі хлопчыка. Шлях, хаця ён і імкнуўся да яго, быў яму чужым, патыхала ад яго чалавекам і жывёлінай — потыхам, якога ён цураўся, якога ён баяўся. Але лес палохаў яго яшчэ больш. І ён выйшаў з кустоў, пакрочыў да шляху і спыніўся на мяжы пяску і травы. Асцярожна пакратаў дарогу, сыпучы пясок нагой. Ніхто не ўдарыў яго, нішто не выбухнула, нічога не здарылася.

Хлопчык скочыў у пясок, як у прысак, закапаўся абедзвюма нагамі. Можна было б закапацца, засыпацца гэтым пяском і з галавой і перачакаць, покуль чырвоная паласа, якая цяпер стаяла над лесам, зноў не разгарыцца ў сонца і не прагоніць цемрадзь. Можна, калі б у хлопчыку не жыў голад. Звер сядзеў у ім больш моцны, чым страх, цягнуў яго, смактаў, прымушаў рухацца, шукаць не толькі і не столькі цяпла, колькі ежы. І хлопчык пабрыў шляхам у напрамку, дзе ўсё яшчэ зіхацела чырванню неба, дзе было штосьці жывое і спажыўнае.

З зараснікаў, з раструшчанага гнілога пня, на яго звярынымі прагнымі вачыма глядзелі светлячкі. Але ён ужо ведаў, што вочы гэтыя нежывыя, і не баяўся іх. Двойчы ўначы, у цемрадзі, стрэліла чырвоным вокам і штосьці жывое, над ім дзіцячымі галасамі галасілі совы і пугачы, але з хлопчыкам ужо была дарога, шлях, і ён крочыў па ім і нічога не баяўся. Ён ужо даверыўся шляху, шлях для яго ўжо ўвасобіўся ў штосьці роднае і блізкае. Хто яго ведае, мо шлях спавіваў яго роспач і адчай матчынай калыханкай, мо пацяшаў яго бабульчынай казкай. Вясковыя шляхі на ўсё здатныя. Не толькі ў старадаўнасці, але і сёння, калі ў спакоі і адзіноце ўслухацца ў іх самотную ціш, можна пачуць і калыханку, і казку, і паданне. І хлопчык адчуваў, што тут, на шляху, яму нічога не пагражае. Ужо было зусім цёмна. Месяц

яшчэ не ўзышоў, і лес выглядаў адзінай цёмнай грудай, як адарваная ад неба і прыціснутая да зямлі цемрадзь. Але шлях не губляўся ў гэтай цемрадзі, цьмяна бялеў, як шчодра пасыпаная соллю добрая луста хлеба. І хлопчык крочыў сабе, глядзеў не пад ногі, а туды, уперад, на шлях, які як бы бег наперадзе яго, размотваўся, як клубок нітак, і цягнуў хлопчыка за сабой.

Але так крочыў ён не доўга. Пачало трапляць пад ногі якоесьці бярвенне, пачало чапляць яго за ногі, нібыта ён ступіў на грэблю. Ён заспатыкаўся, галодна завурчаў, яму трэба было спяшацца, спяшацца, хаця і немаведама куды. Трэба было хутчэй адолець шлях, прыбіцца да чагосьці новага, селішча якога, агню, хлеба. А сілы ў яго былі толькі на шлях без бярвення. А бярвенне траплялася ўжо ўвесь час, сапраўды, не шлях, а грэбля — гаць. Хлопчык заблытаўся ў гэтых гацінах і ўпаў. І тут з-за лесу выслізнуў месяц, яркі, шчарбаты, нібыта быў ён да гэтага на прывязі, на вяроўцы ці нават на ланцугу, на дроце нейкім. Матляўся, круціўся, коса рэзаў сябе гэтым дротам і вось перарэзаў, меншай сваёй часткай адарваўся, слізгануў на неба і свяціў утрая. І пры гэтым святле хлопчык убачыў, што ніякае не бярвенне зваліла яго, а людзі. Людзі густа ўслалі сваімі целамі дарогу. І хлопчык ляжаў на чалавеку, на дзядулю. Тулава дзядулі ляжала на бугры, а галава ў ямцы і задзёрта ў неба, як усё роўна звярталася з якімсьці запытаннем да неба, чакала ад яго адказу, была звернута да неба, утыркалася ў неба сівая бародка, у неба ўтыркалася яблыка вострага дзіцячага кадыка, звяртаўся да неба востры нявінны дзіцячы ўсохлы носік. А ў хлопчыка ўтаропіліся ашклянелыя вочы. І гэтыя вочы больш за ўсё і перапалохалі хлопчыка. Ён адхіснуўся ад іх, памкнуўся ўстаць, але заблытаўся ў дзедавай світцы, і дзедавы рукі, застыглыя ўжо і ўчэпістыя, што сучча, нібыта ажылі, схапілі хлопчыка за адзенне і не адпускалі. І хлопчык, трошкі прыўзняўшыся, зноў лёг, упаў сваім брудным, але жывым тварам на беламёртвае, халоднае, ілбом дакрануўся шкляных, мёртвых вачэй, адчуў іх пругкі холад і закрычаў. І болей у яго не было ні сілы, ні жадання

9. Зак. 780.

ўставаць. Адна толькі думка аб тым, што яму прыйдзецца ж уставаць, кудысьці ісці, выклікала страх. Жудасна было адарваць вочы ад аднаго нябожчыка, каб згледзець перад сабой дзесяткі новых. Дзядок, якога ён ужо бачыў, здаваўся добрым нябожчыкам, здаецца, і світка яго была цёплая, добрая, ад яго не сыходзіла ніякай небяспекі, іншыя былі куды страшнейшыя, таму што ён іх яшчэ не бачыў. Гэты ляжаў сабе, маўчаў і не краташся, а тыя маглі ажыць, закрычаць, што гэта ён тут перашкаджае ім адпачываць, яны здольныя былі пакласці побач з сабой і яго, навекі супакоіць і яго.

Хлопчык прыціснуўся да дзеда, да, здаецца, яшчэ цёплага і ласкавага шчэцця на яго твары, ён прасіў, маліў дзеда, каб той абараніў яго, ашчадзіў ад іншых нябожчыкаў, не аддаў ім яго. І ўзнімі зараз дзед руку, загавары з хлопчыкам, ён бы не здзівіўся — такія палкія былі яго заклёны, так горача ён яго ўмольваў азвацца, бараніць яго ад мёртвых. Але дзед маўчаў, маўчалі і іншыя нябожчыкі. Толькі лес тужліва стагнаў, месячны тужлівы вецер гуляў у соснах, выдзімаў з іх мёртвых ствалоў самотную, маркотную песню. І здавалася, гэтую песню цягнуць над шляхам, гаротным вясковым шляхам, нябожчыкі, адпяваюць самі сябе. На зямлі, акрамя ветру, месяца, няма іншых плакальшчыкаў. Няма ніводнага жывога чалавека. Вымерла зямля. Вымерла, калі ўжо людзі выйшлі паміраць на дарогу, не знайшлі больш прыстойнага месца, як легчы на дарозе, каб напалохаць яго, адзінага, што застаўся жывым; і дзед стаў яшчэ больш дарагі для хлопчыка, але ўжо не як абарона ад мёртвых, а як адзіная сувязь, адзіная нітачка, што звязвала яго з людзьмі, з жывымі, адзіная ўцалелая нітачка, працягнутая з таго свету да яго, нітачка, якая сведчыць, што свет калісьці быў густа заселены людзьмі, былі людзі на зямлі, не толькі дзеці, такія, як ён, хлопчыкі, не толькі жанчыны — яго маці, але і дзяды, расла ў іх сівая барада, насілі яны світкі, мелі рукі і ногі... І мёртвыя былі ўжо жаданымі на яго шляху. Няхай жа яго вядуць да святла, у заўтрашні дзень і мёртвыя.

Але доўга заставацца сярод іх хлопчык не мог. Захлынулася дзіцячым покрыкам у лесе сава. Хлопчык адарваўся ад дзеда, усхапіўся на ногі і пабег. Ён бег цяпер, заплюшчыўшы вочы, спадзеючыся, што, калі адплюшчыць іх, шлях адчысціцца ад мерцвякоў, якія супакоіліся ў яго пяску. Ён бег ад нябожчыка да нябожчыка і сам цяпер крычаў савой, покуль быў яшчэ голас, покуль быў яшчэ крык. А калі яго ўжо не стала, калі не было ўжо сілы бегчы, адплюшчыў вочы і збочыў, каб перадыхнуць у цемрадзі, нічога не бачачы перад сабой. Але і там, куды ён збочыў, былі трупы, яны цікавалі за ім, не пускаючы ў лес, не давалі перадыхнуць. Мёртвыя ўзялі яго ў кальцо, абклалі з усіх бакоў, як абкладвалі некалі і жывыя. І хаця гэтыя мёртвыя былі больш бяскрыўдныя, чым тыя жывыя, якія маглі забіць яго, якія стралялі ў яго і яго маці з вінтовак, ён усё ж больш жадаў, каб з цемрадзі выйшлі тыя, што сеялі агонь. Калі яны ўжо так прагнуць забіць яго, знішчыць, ён не стане больш уцякаць ад іх, не будзе больш хавацца ў балота. Няхай забіваюць, хай знішчаюць, хай страляюць, ён гатовы. Легчы на дарозе побач з іншымі лягчэй, чымсьці крочыць і спатыкацца аб іх, няспынна адчуваць іх прысутнасць.

Але і такой драбязы не магла падарыць тая ноч. Хлопчык не мог адарвацца ад шляху, таму што шлях усё ж кудысьці вёў, да жыцця ці то смерці, ці то ў пекла, ці то ў рай, але штосьці было там, у яго канцы. Светлая, захінутая лесам нітачка цягнулася з святла і вяла да святла. А пакладзеныя на дарозе — гэта знарок, спецыяльна, каб яго напалохаць, каб ён рынуўся ў лес.

Час, час ужо і скончыцца шляху, час бы ўжо і світанню... А мо ўсё так ужо і застанецца на зямлі — вечная ноч, прыкіпіць да неба абломак месяца і будзе пазіраць у мёртвыя, шкляныя вочы дзядоў, жанчын, дзяцей. Падманлівы светлы шлях, які вядзе ў нікуды. Жах ці надзея прымушаюць хлопчыка ісці. Дзе ж канец шляху, дзе канец цемры, лесу гэтаму, яго дзе канец? Як жа гэта так здарылася, што ўсе дарослыя загінулі, а ён жывы, чаму не знішчылі яго? Ён бы лёгка, адразу памёр і не піскнуў бы...

Бяжыць на зямлі хлопчык, ужо не бяжыць, а паўзе. Паўзе скрозь ноч на дарозе, як па мінным полі; згледзеўшы краем вока, якое ўжо баіцца глядзець наперад, палатніну вопраткі, старэчую ці дзіцячую сцятую руку, абмінае, абпаўзае міну-мерцвяка. Калі б гэта была сапраўдная міна, калі б хлопчык ведаў, што яна побач з ім, ён бы, не разважаючы, кінуўся на гэтую міну. Але мерцвякі не ўзрываюцца, трупы намнога страшнейшыя за міны, яны не забіваюць, але рвуць на шматкі, на шматкі. Цела яго, здаецца, нашпігавана мінамі, яны ўзрываюцца, але не ўсе, некаторыя застаюцца, штосьці не дае ўзарвацца, узарвецца потым, калі прачнецца забітая, знішчаная гэтай дарогай памяць. А такая памяць усё ж прачынаецца, каб выбухнуць апошні раз, канчаткова. Не, ні тады, ні пасля не будзе, няма літасці.

Па-над лесам, па-над шляхам выбухае сполахам і гасне, рассыпаецца зялёнымі пырскамі ракета. Ёсць, ёсць штосьці наперадзе, да чагосьці прыводзіць шлях. Яшчэ адна зялёная ракета завісае над лесам, але пакуль што высвечвае яна не канец шляху, а толькі новыя трупы. Магчыма, іх ужо і няма там, наперадзе, магчыма, гэта толькі так блюзніцца хлопчыку. Але як яны не будуць блюзніцца, калі ён прайшоў праз іх. Яны ўжо цяпер ніколі не знікнуць, яны будуць заўсёды ў яго вачах. Будуць там, наперадзе. Як ні светла, як ні шчасліва там, у шляху, па якім ён прайшоў, няма і не мае быць шчаслівага канца. Чалавек усё ж нараджаецца адзіны раз...

Там, наперадзе, ракеты ўжо ляцяць чародамі. Там, наперадзе, грымяць ужо гарматы. Не, не памерла зямля, не сканала гэтай ноччу. Гэта ўжо залпы пераможныя, і пераможныя ракеты палаюць і грымяць над зямлёй. Але і пры гэтым пераможным святле і пераможным громе гінуць, паміраюць людзі. І хлопчык паўзе ў той пераможны дзень не для таго, каб жыць, а для таго, каб памерці. У яго целе ўжо няма жыцця. Але цела ўсё ж рухаецца, і, паміраючы, прагне жыцця жывое. Да людзей, насустрач пераможным залпам, каб легчы не сярод трупаў, не на дарозе, а, як і наканавана чалавеку, як заведзена ў гэтым свеце, сярод людзей. Да жывых.

Паволі, але ўжо знікае цемрадзь. Неба яшчэ цьмянае, шкляное, як вочы ў дзеда, які застаўся ззаду. Але ўжо ўздымаецца сонца, рушыць ашклянелае неба, ахутвае нізкім світальным туманам шлях. Сонцу без патрэбы глядзець на мерцвякоў. Яно не хоча бачыць здрапежаную, апачвараную снарадамі, вайной зямлю. Сонцу патрэбна шчаслівая зямля, якая не ведае гора, слёз, трупаў. Няхай будуць дрэвы і кусты, але такія, што вышэй за туман. І дрэвы, як па струнцы, ухапіўшыся за сонечны промень, выцягваюцца, выпростваюцца перад сонцам. Яны, дрэвы, салдаты сонца, спрадвечныя яго радавыя, ім яно шле сваё світальнае мяккае святло, ім усміхаецца з неба. А ўсе астатнія, што таксама не могуць без сонца, няхай растуць да дрэваў, няхай вучацца нехапатліва чакаць світання, ранку. Тады сонца будзе зычыць і ім, не абміне іх пяшчотай і ласкай. На ўсіх хопіць.

## IX

Вуліца плыла і пагойдвалася. Касавурыліся, як у зламанай ветрам вадзе, шчыкетнікі, цьмяныя хаткі, што ўлезлі ў зеляніну садоў. Асабліва нетрывалымі ў гэтай зялёнай і бэзавай вадзе здаваліся спарахнелыя, латка на латцы, хлявы. Яны беглі ад хат, як у бездань, у глыб агародаў, у бульбоўнік, у раскошу садоў. І з вуліцы немагчыма было вокам адразу і поўнасцю згледзець іх. Хлявы, здавалася, то рассыпаліся на часткі створкамі расхлябаных ветрам дзвярэй, латкамі стрэхаў, то якімсьці цудам аднаўляліся зноў, сцягваліся па бервяну, драначцы, прывязваліся, як да прычальных тумбаў, да каменна-шэрых «шпаковень», якія тырчалі побач з імі. І зноў распадаліся, рушыліся. Рушылася непарушнае, што стагоддзямі ўчэпіста трывала, стаяла на зямлі. А цяпер зямля нічога не хацела трымаць з таго, што было пастаўлена чалавекам. Зямля гарбацілася, успушвалася і імкнулася пазбавіцца, стрэсці з сябе і самога чалавека.

Лецечка ішоў пасярэдзіне вуліцы, па асфальце, і асфальт плыў пад яго нагамі. Паўдзённае сонца ўжо

распарыла да бэзавай глыбіннай сіні асфальт, і бэзавае лёгкае мроіва сыходзіла з асфальту, пагойдвалася і вілося вяроўчынай, нібыта асфальт не ляжаў на зямлі, а сплываў, цёк ракою. Каровы, якія лена ішлі побач, нібыта адчувалі гэтую нетрывалую цякучасць асфальту, цісннуліся да платоў, баяліся ступаць на асфальт, падымалі пыл і ішлі сваёй спрадвечнай дарогай, па пяску, тужліва і скоса пазіралі на дзёгатную, створаную чалавекам, ім на пагібель, раку. Яны, пэўна, разумелі і прадчувалі, што са з'яўленнем такой ракі зыбкае і нядоўгае і іх існаванне, іх жыццё ў Слабадзе: ужо задумваліся, чухалі патыліцы іх гаспадары — што рабіць з каровамі, калі навокал асфальт. Скруха, паўдзённая развітальная песня чулася ў задуменна-адчужанай хадзе кароў, ■ ў іх сытым, затуманеным жвачкай воку прывідам уставалі то гаспадар, то іх незайздросная і блізкая ўжо будучыня. І яны раз-пораз пароўвалі, угіналі галовы, нібыта імкнуліся стаць нябачнымі, непрыкметнымі. Не, не так, не так хадзілі яны раней гэтай вуліцай. Былі яны яе гаспадынямі, карміцелямі, былі яны тады не каровамі нават, а псейкамі: Мілкамі, Ягадкамі, Малінкамі, неслі ў сабе не развітальную песню, а калыханку. Водгукі гэтай былой калыханкі часам чуліся Лецечку і цяпер. Але дарога, якая ўвесь час знікала, замінала яму аддацца гэтай песні, замінала абуджэнню ў памяці таго, аб чым спявалася ў гэтай песні, а пелася ў ёй аб пясках, аб старым вясковым шляху, аб мурожным сене, аб тым, як цыркае аб край даёнкі малако, як цвыркае, падцягвае песні ў шчыліне цвыркун, як сакочуць у канюшыне конікі... Бясконцая гэта была песня, спрадвечная, як само жыццё. Таму так і ліп цяпер чаравікамі да асфальту Лецечка, пёкся на самым санцапёку. Ён не зусім выразна разумеў гэта, але асфальт быў чужы яго душы, адно толькі добра: не абуджаў, не вярэдзіў яго памяць асфальт. Не было асфальту ў той жудаснай ночы, і можна было крочыць па ім, не баючыся, што спатыкнешся аб дзеда са шклянымі, звернутымі да неба вачыма, што мерцвякі зноў возьмуць цябе ў кальцо і пагоняць у тую ноч. Новая гэта была дарога, пракладзеная на яго, Лецечкавых, вачах. Асфальт надзейна схаваў

былое, былому не прабіцца скрозь яго, не прабіцца дрэву, не прыжыцца травінцы, не прыжыцца і карове, але і былому, як ні курчыцца яно ў родавых схватках, не адрадзіцца зноўку на асфальце — толькі пара, сінія завеі. Але і гэта хутка абдзьмуць свежы вецер і прахалода, хай толькі ніжэй стане сонца.

Чакаючы гэтай бадзёрасці і прахалоды вечара, і брыў Лецечка немаведама куды. Невядомасць і нейкая прыгнечанасць адчуваліся асабліва востра, калі раптам знікала паветра і ён лавіў яго не толькі ротам, але і рукамі, з кашлем заглытваў яго. І тады Лецечку здавалася ўсё незнаёмым і ачужэлым, штосьці рвалася і абвальвалася там, у грудзях. Ён забываў сябе, дзе ён і што ён, нібыта сон нейкі сніў наяву, так усё вакол яго было прывідна і нерэальна. Але ногі звыкла неслі яго да дзетдома. Ногі былі як бы асобна ад яго, і нібыта яны пабольшалі, патаўсцелі. За нагамі цяпер трэба было ўжо цікаваць, пільнаваць іх трэба было, каб яны не нарабілі шкоды, бяды, не праламалі асфальт, не ўцяклі ад яго, не пакінулі на асфальце адно толькі тулава.

І ён узрадаваўся неймаверна, калі ўбачыў сябе на дзетдомаўскім ганку. Як ён на яго трапіў, ужо не памятаў, і спачатку падумаў, што ўсё ўбачанае і пачутае на судзе, у Палацы культуры,— сон, што ён яшчэ спіць, толькі на хвілінку адплюшчыў вочы. Трэба зноў заплюшчыць іх і паспрабаваць заснуць, тады сон, які ён сніў да гэтага, забудзецца і прыгадаецца штосьці новае, добрае, вялікая рыбіна, напрыклад, сасніцца, яна ж яму часта сніцца. Баба Зося, праўда, гаворыць, што рыба — гэта не к дабру. Але якое зло мае быць ад той рыбы? А яшчэ часта сніць ён якіясьці дзверы. Бачыць у сне сцяну жывой зелені, ці то хмелю, ці то плюшчу, а мо нават і вінаграду. І ў гэтай сонечнай зялёнай сцяне непрыкметныя дзверы — блакітная пляміна. Да гэтай сцяны, да гэтых дзвярэй ён кожны раз выходзіць пасля доўгага блукання ў якімсьці змроку, у цемры, тумане, зняможаны, знясілены, падае і, здаецца, правальваецца кудысьці, як ні то памірае. Вокамгненна ўсё асвятлялася сонечным пранізлівым

святлом — і з'яўляліся блакітныя дзверцы. У сне ён нават ведаў, куды яны вядуць. Сцяна з хмелю, вінаграду ці то плюшчу падзяляла свет на дзве часткі. У той, у якой заставаўся ён,— цемрадзь і туман, за сцяной, за дзверцамі,— свет, радасны, яркі, шчаслівы, які ён так прагна і марна шукаў, які толькі можна сасніць, але ён ёсць, ён рэальны, там усё вакол блакітнае і зялёнае, пяшчотнае і лагоднае, добрае. Там ужо ёсць адзін Лецечка, такі ж, як ён, толькі не недаробак, а нармальны, шчаслівы. Усе там шчаслівыя, усе бестурботныя і даўно чакаюць яго. Яму трэба толькі ўстаць і штурхануць дзверы. Ён уставаў, падыходзіў да дзвярэй і тут звычайна прачынаўся.

Сон гэты заўсёды быў салодкі і жаданы. Лецечка быў улюбёны ў яго, ён унадзіўся яго глядзець амаль што кожную ноч, навастрыўся паказваць сабе яго па заказу. І цяпер ён пажадаў паглядзець яго. Але дарэмна Лецечка мружыў і заплюшчваў вочы — не было зялёнай жывой сцяны, не было прываротных блакітных дзвярэй. Не спаў ён, явай былі і суд і дарога. І Лецечка на чым свет стаіць кляў і лаяў сябе, што пайшоў на гэты суд, але, праклінаючы і лаючы сябе, ведаў, што пойдзе туды зноў, пойдзе заўтра і паслязаўтра. Будзе хадзіць кожны дзень, покуль суд не скончыцца, покуль не вызнае ўсё пра сябе і паліцэйскіх. Там, на плошчы, тая сцяна і тыя дзверы, за якія ён раней, у сне, не мог трапіць, якія не здолеў расчыніць у сне. Яны расчыніліся яму наяву. Няма за ёй шчасця, няма бестурботнасці. Але трэба ісці праз сцяну, трэба ісці ў той іншы, незнаёмы яму і страшны свет, каб нічога не баяцца ў гэтым свеце. Спазнаць усё да рэшты. Мо менавіта да гэтага, а не да якіх-небудзь міфічных блакітных дзвярэй імкнуўся ён усё жыццё, менавіта гэта ён шукаў у зямлі, а трэба было прайсці ўсяго толькі сотню-другую метраў да плошчы. І там схавана яго тайна з'яўлення на свет. Там ён спазнае, навошта і чаму, як ён стаў недаробкам. Ён жа не заўсёды быў такім, як цяпер, не заўсёды. Акрамя палацяў, дарогі, ён яшчэ тое-сёе ўспомніў са свайго мінулага жыцця. Да таго, як ён трапіў на палаці, быў у яго і бацька, і маці была, і дом у яго быў, як і ва ўсіх. Ён поўзаў

па падлозе, а потым ужо і хадзіў сваімі нагамі па жоўтых смалістых дошках. Першага ж свайго кроку не памятае, не памятае прысутнасці бацькоў, іх, здаецца, і не было. Спачатку. Толькі жоўтая падлога, на ёй кроплі жоўтай смалы, ліпучыя, счарнелыя далоні ад гэтай смалы. Два акенцы высока над галавой. Хтосьці ўвесь час падглядваў за ім з гэтых акенцаў, цягнуўся да яго, кратаў, пяшчотна гладзіў па галоўцы і сляпіў вочы. І яксьці яму закарцела даведацца, хто там стаіўся, нябачны, добры, і ўвесь час дражніць яго, пацвельвае. Ён дапоўз, датупаў да акенца, ускараскаўся на лаву, падцягнуўся за падаконнікі і ўстаў, прыклаў вочы і губы да шкла. Нікога ў акне не было, і за акном пуста. Зялёны падворак, трава-мурава, кура на ёй. Ён спачатку і падумаў на куру: яна яго чапала. Але тая глядзела сабе пад ногі, штосьці дзяўбла раз-пораз, незадаволена сакатала, а потым і зусім знікла. Кура знікла, а чыёсьці вока ляжала на ім. Ён круціў галавой, ішоў на розныя хітрыкі, заплюшчваў вочы, хаваўся за падаконнік, а потым нечакана выглядваў, каб захапіць знянацку гэтага нябачнага. Але ўсё было, як і раней, як і раней; цёплая далонь на яго галаве, чыёсьці цёплае вока на яго твары — нікога. Тады ён узяўся за тое, што стаяла на падаконніку. А стаяла там пузатая бутэлька, закаркаваная коркам з паперы. Яму ніхто не перашкодзіў адкаркаваць гэтую бутэльку — бацькоў дома не было, здаецца, іх як бы і зусім не было. Яны з'явіліся ў наступную хвіліну, выраслі нібыта з-пад зямлі, ён каўтнуў з бутэлькі чагосьці нядобрага, злога, пякучага. Ён выпусціў з рук бутэльку і зароў, што было моцы, як бугай, і апынуўся на руках жанчыны з чорнымі косамі, якая плакала амаль што так, як і ён. А каля іх бегаў, мітусіўся вялізнага росту, вышэй за Захар'ю, вышэй за ўсіх, каго яму даводзілася бачыць потым, мужчына. І дзіўна, мужчына таксама плакаў. І ўвесь час прыгаворваў: «Балюча, балюча, балюча... Мужчыны не плачуць, мужчыны не плачуць...» — і слёзы беглі па яго твары. Лецечка цягнуўся да яго запэцканай у смале, вільготнай ад слёз і поту рукой, другой рукой абдымаў за шыю жанчыну і ўгаворваў іх абаіх: «Не плач, татачку, не

плач, мама...» — і плакаў за іх дваіх і за сябе, таму што не мог трываць ад болю і агню. Жанчына і мужчына былі яго бацькам і маткаю. Ён быў іх сынам. І хапіў на акне з пузатай бутэлькі воцату. Воцату, таму што, акрамя бацькі і маці, быў яшчэ хтосьці трэці, які ўсплёскваў далонь аб далонь і галасіў: «Ой п'яніца будзе, ой горкі, запойны, з малых год ужо да бутэлькі, да таго, што найгарчэй, за воцат, за воцат».

І ўсе трое з'явіліся і зніклі, як расталі. Маці знікла імгненна, нібыта яго выхапілі ў яе. Была — і няма ні следу, ні памяці, чорная бездань. А мужчына як трапіў усё роўна ў туман і плыў кудысьці ў густым тумане, туман хаваў яго. І вось што зусім незразумела: туман ахутаў толькі мужчыну, ён, Лецечка, быў побач з мужчынам, бег за ім, але яму сляпілі вочы сонца, пясок, і трава была пад нагамі, і карэнне якіхсьці дрэў. Ён бачыў сябе, высвечанага на пяску сонцам, у белай стракаценькай кашульцы, у чорных з лямкамі кароткіх штоніках, басанож, бачыў свой спатнелы твар з дзвюма сцяжанкамі ад слёз, пазбіваныя аб карэнні дрэў і не вельмі чыстыя ногі. А бацькавых ног, што на іх было — чаравікі ці боты,— што на ім было надзета да пояса, не бачыў, не памятае. Да пояса бацька быў паглынуты туманам, а вышэй пояса — ахоўнага колеру гімнасцёрка і вінтоўка на шэрым рамяні цераз плячо. Твару няма — парослая светлымі мяккімі валасамі загарэлая шыя. Гімнасцёрка, вінтоўка, шыя таксама часам знікалі з вачэй. Пасмамі наплываў туман, і ўсё патанала ў гэтым тумане. Толькі востры штык не хаваўся ў тумане, ён пранізваў, праколваў туман вострым джалам, рэзаў, успорваў яго лязом і рухаўся — нібыта не чалавек нёс яго, а ён сам па сабе вырваўся, вырас з зямлі, з туману і сам сябе нёс над зямлёй і туманам. Так ён увайшоў, так і застаўся ў вачах Лецечкі, калі бацька знік ужо зусім. І цяпер гэты штык у яго вачах. У яго вачах набывае нейкую пэўнасць, рэальнасць і той, трэці: «Ой п'яніца будзе, ой горкі, запойны...» Старая гэта, бабулька, і, здаецца, як ні то баба Зося?

— Баба Зося, ты была заўсёды? Колькі табе гадоў, баба Зося?

Баба Зося сядзіць на крэсле каля белай, засланай белай сурвэткай, казённай, на два аддзяленні тумбачкі. У яе пакоі паўзмрок, акенца глядзіць на поўнач. Паўднёвы пакой аддалі ім: Лецечку, Козелу, Марусевічу.

— Заўсёды я была, Лецечка, заўсёды. Я старэй за зямлю ўжо, зажылася.

Лецечка прапускае гэтыя яе словы, не, не гэта ён хоча пачуць ад яе: ці была яна ў тым дні, калі ён апёкся воцатам? Ці не яго яна бабулька, а мо і маці? Ці не сын ён яе, той самы, якога ў бочку? А ён з бочкі вылез потым. Выбіў дно і выйшаў...

— Чаго гэта цябе на воцат пацягнула, Лецечка? П'яніца да бутэлькі цягнецца. Ой п'яніца будзеш, ой горкі...

Была, была... Дык чаго ж яна тоіцца ад яго, чаму не прызнаецца, што яна яго бабулька, а мо і маці.

Забыла яго. І цяпер не памятае, ■ мо і памятае, ды баіцца, што іх абаіх з дзетдома выганяць і яна не здолее пракарміць яго. Дык яму ж так мала трэба. І ёй ужо мала трэба. Пойдуць у вёску, купяць карову, карова іх пракорміць, пражывуць, не прападуць. Недарма ж на базары гаварылі, што жыццё цяпер іншае пайшло, лягчэйшае. Даюць сёння жыць усім. Ды і Захар'я ім не чужы, дапаможа, ён добры, добры... Аднак калі яна не адкрыецца яму — ён ёй не адкрыецца. Ён толькі вызнае, неўпрыкметку выпытае, што было з ім потым, потым...

— А што стала потым? — ахвотна ўцягваецца ў гаворку баба Зося.— Усім вядома, вайна...

— А далей, далей, бабуля? — Лецечка пільна ўглядаецца ў твар бабы Зосі, шукае падабенства з сабой. І не знаходзіць яго: яна старая, ён малады. Згадвае, што ведаў бабу Зосю раней, ведаў гэтыя ўсохлыя немітуслівыя рукі, чуў гэты добры ціхі голас, глядзеў у гэтыя добрыя блакітныя вочы.

— І далей, вядома, унучак, немец прыйшоў... І далей, унучак, вядома. Усе з тваёй бутэлечкі воцату каўтанулі. Хто болей, хто меней, каму колькі наканавана. Ты дык і

ўсю бутэльку выпіў да дна. І я добра прылажылася. Чалавек мой загінуў, сыноў выправіла ваяваць... Бацька твой выправіўся на вайну... Хата згарэла... А дзяцей маіх меншых...— Баба Зося змаўкае, пазірае ў акно, глядзіць на Лецечку іківае галавой. А галава ў яе белая-белая, сівая-сівая, вочы белыя, выплаканыя. Наўрад ці яна яго бачыць цяпер.

— Маці мая таксама згарэла? — палохаецца яе невідушчых вачэй, яе сівізны і цішыні Лецечка.

— Усе на вайне згарэлі, хто душой, хто целам, як каму наканавана. Усе мы пасля вайны пагарэльцы, Лецечка. Пасля вайны пайшлі па свеце, Лецечка, сіраты, дзетдомы, жабракі.

— А дзе я быў да шпіталя, да палацяў, баба Зося? Як я трапіў у тую хату на палаці? Ты што, кінула мяне?

— Што ты, Лецечка, чаўпеш абы-што, што ты на мяне напрасліну ўзводзіш? Як гэта я магла цябе кінуць? Прыбіўся да мяне ў вайну хлопчык адзін гадкоў васьмі, дык я яго даглядала, па старцах з ім хадзіла да апошніх яго дзён. Сама для сябе не стала б прасіць, а як пагляджу на яго, што яму яшчэ жыць трэба... А ты мне такое вярзеш, папракаеш мяне. Як мне ад цябе такое слухаць. Колька...— і баба Зося заплакала.— Я са шпіталя сюды прыйшла, каб за табой прыгледзець. Прыкіпела я сэрцам да цябе, ты мне ўжо — як свой. Былі ў мяне і сыны, унук тваіх гадкоў. Мо гэта ты і ёсць...

— Дык ты не ведала мяне раней, да шпіталя, бацьку і маці маю не ведала? — Лецечка спытаў бабу Зосю, ужо ведаючы адказ, разумеючы, што пытаць аб гэтым не варта, няхай бы заставалася падманлівая, але такая прывабная надзея не толькі яму, але і бабе Зосі: як бы яна не адна на гэтым свеце, як бы ў яе ёсць хтосьці родны, кроўны, ці то сын, ці то ўнук. Але штосьці і абуралася ў ім, патрабавала праўды, страшнай, горкай, ды праўды, якая яна ні ёсць. Праўды ён праг усё жыццё, сам гаварыў усім толькі праўду. Спачатку саромеўся: цяжка гаварыць праўду, калі яна датычыць не цябе. Але мужчыны не толькі не плачуць, але і не лгуць. А на тую часіну яму ўсё ж

карцела і схлусіць, схітраваць не дзеля сябе, а дзеля бабы Зосі. Патрэбна бабе Зосі, каб ён быў яе сынам ці то ўнукам, няхай, яго не ўбудзе. Баба Зося сядзела перад ім маленькая, маўчала і маўклівасцю сваёй прасіла аб літасці. І ён не стаў чакаць яе адказу, толькі злосна ляпнуў дзвярыма. Ляпаннем гэтым выказаў нязгоду з хлуснёй, якая толькі закалыхвала, але нічога не паляпшала. Ён разумеў, што з гэтым нявыказаным, недагаворанымжыць яму далей будзе больш цяжка. Трэба будзе працягваць хлусіць, памнажаць хлусню, жыць у хлусні. А навошта, каму гэта трэба? Навошта існуе хлусня, нават добрая? Яму ад яе няма дабра.

І гэтае адчуванне няпэўнасці перашкодзіла яго радасці, калі ён убачыў на дзетдомаўскім падворку каля калодзежа Лену Лазу. Лена піла ваду з вядра, паставіла яго на край зруба і піла, і сонца, якое было ўжо на схіле, ужо амаль што схавалася за макаўкамі ліп, цікавала за ёю чырвоным вокам, падглядвала, як яна п'е. Вада вылівалася з вядра, трапляла за выраз сукенкі, на босыя, падпаленыя сонцам ногі. Лена, як застоенае жарабё, перабірала нагамі, нібыта апякалася вадой, падымала галаву, устрэсвала валасамі і зноўку прыпадала да вядра, і зноў вада гулліва струменіла за выраз сукенкі, пырскала на босыя ногі, і Лецечка здзіўляўся: колькі ж гэта можна піць! Вось ужо і сонца схавалася за ліпамі, і яму, Лецечку, ужо самому карцела прыпасці да вядра, каб аж заламала зубы. Вада ў дзетдомаўскім калодзежы была на дзіва сцюдзёная. У глыбіні на зрубе, каля самай вады, яшчэ да гэтай пары трымаўся лёд. І Лецечка накіраваўся да Лены, каб следам за ёю з такой жа асалодай прыпасці да вядра. Але тут да калодзежа на веласіпедзе падруліў Грыб, штосьці сказаў Лене — Лецечка нічога не чуў. Лена пырснула смехам, як сцюдзёнай вадой, і падала Грыбу вядро. І Грыб піў таксама прагна, як толькі што Лена, нібыта высмяг ён увесь. Потым яны, смеючыся ўжо разам, плёхнулі ваду на зямлю, кінулі вядро ў калодзеж: набіраючы хуткасць, усё хутчэй мільгаючы, проста б'ючы па вачах бліскучымі ручкамі, закруціўся калаўрот, і пакрыўджанае вядро пайшло гуляць

па зрубе. Ланцуг яшчэ працягваў раскручвацца, дзілінькаў, тоненька і таксама пакрыўджана, як выгаворваў, за штосьці, а Лена скочыла на раму веласіпеда, Грыб абняў яе, ашчаперыў рукамі руль, прыціснуўся да Лены грудзінай і пакаціў, паварочваючы на ліпавую алею, на якой дзень ці то два назад Лецечка цалаваў Лазу. І тое, што яны абралі менавіта гэтую алею, балюча абразіла Лецечку, абурыла яго. Ён не вытрываў, пабег за імі, каб выказаць усё Лене, хто яна такая ёсць.

Але выказваць яму нічога не давялося. Не даязджаючы некалькіх метраў да чырвонай цаглянай сцяны, тупіка, Грыб і Лаза ўпалі з веласіпедам у траву і не падымаліся. Папаўзлі ад веласіпеда. Лецечка яшчэ нейкі час паглядаў, як круціцца задняе кола веласіпеда, чырвона ўзбліскваюць у заходзячым сонцы нікеляваныя спіцы. Было ў іх узбліскванні штосьці аголена-сараматлівае, што балюча джаліла вочы. Лецечка хапатліва адвярнуўся і пабрыў прэч, разважаючы, як гэта ўсяго толькі якіхсьці пару дзён назад яму магло прыйсці ў галаву, што ў яго з Ленай Лазой будуць дзеці. З Ленай Лазой у яго ніколі не будзе дзяцей. «А вось у цябе будуць, будуць дзеці, і вельмі хутка нават,— сказаў ён помсліва, адрасуючы свае словы Лене.— Вось будуць у цябе дзеці, тады спазнаеш...» Але што павінна спазнаць Лена тады, ён не ведаў і не хацеў думаць аб гэтым далей, не хацеў тлуміць галавы. Зашчымела, зашчымела на душы, агарнулі маркота і тужлівасць, яго яшчэ не пакідала, жыла яшчэ ў ім хлусня, што нарадзілася ў пакоі бабы Зосі. І не было куды сысці, не было нікога, з кім можна было падзяліцца гэтаю крыўдаю, не было каму пажаліцца, паказаць свае раны. А яны ўжо смылелі, крывавілі, і кашлем ірваўся вонку боль, ён уціскаў у сябе гэты кашаль, каб яго, не дай бог, не пачулі Лена з Грыбам. Навошта ім там, у траве, чуць, як хтосьці, дзесьці зняможана і надсадна кашляе, кашляе ён, Лецечка, той самы Лецечка, які калісь цалаваў Лену, цалаваў тымі самымі губамі, на якія цяпер набягае кроў. Няхай яны ніколі не дазнаюцца аб гэтым. Няхай ёй, Лене, будзе хораша з Грыбам, як яму, Лецечку, было хораша,

калі ён цалаваў яе ў прызначаныя Грыбу вусны. Хай Лена ніколі не зведае яго пакут, не будзе памятаць, што і ў яго на гэтай алеі...

Тут кагосьці прарвала тым самым пранізлівым, яго, Лецечкавым, крыкам, які ён душыў у сабе разам з кашлем і ўжо быў прыдушыў. Лецечка ад нечаканасці нават прысеў: каго гэта так разбірае, хто гэта так раўнуў за яго? Раўнула машына, узняла ўсю Слабаду — новенькі, зялёненькі, што жабянё, «газік». Дзетдомаўскі шафёр, малады і шалапутны хлопец, выправіўся па гэты «газік» яшчэ на тым тыдні і вось прыгнаў. І як звар'яцеў ад радасці, заклікаў дзетдомаўцаў парадавацца разам з ім. І дзетдомаўцы абмацвалі, абхаджвалі «газік» з усіх бакоў, як тыя цыганы кабылу. Машына, нічога не скажаш, як лялька, і блізка не радня той, якая была да яе, палутарцы, ці, як звалі яе дзетдомаўцы, палундры. І менавіта з-за сваёй прыгажосці, з-за сваёй лялечнасці новая машына і не спадабался Лецечку, яму было шкада тую сваю, родную палундру, якую на тым тыдні звялі з падворка. Звялі ў літаральным сэнсе, як зводзяць на салатопку з'езджаную клячу. Перад гэтым шафёр выдраў з яе чэрава якіясьці трубкі і патрубкі, адкруціў люстэрка, выкруціў якіясьці прыборы:

— Нічога, новая будзе. Усё роўна хана, адбегала сваё, старэнькая...

А Лецечка парадніўся ўжо з той, старэнькай. Яна была яму — як сястра, яна была яму дзетдомаўкай, такой, як і ён сам, яна прыйшла ў дзетдом нават раней за яго, зрэдку бабулька-палундра падвозіла і яго, вазіла ў вобласць і тут, па Слабадзе, катала. Вазіла не толькі Лецечку, але і гасцінцы дзетдомаўцам з вялікага горада, прысмакі розныя, ласункі. Калі Лецечка збіраўся ў вялікі горад, ён пытаў у Козела ці Стася, што ім прывезці. Тыя звычайна адказвалі: батончык. І ўсе іншыя дзетдомаўцы давалі яму такі наказ: прывезці батончык. І давалі на батончык грошыкі. На цукеркі не хапала, а белая гарадская булка-батон была не меншым ласункам і дзівам, чым тыя ж цукеркі. Колькі гэтых батончыкаў на бабульцы-палундры перавазіў Лецечка? Да чаго ж разумная была бабулька і паслухмяная! Колькі ж у

яго, Лецечкі, і іншых дзетдомаўцаў радасці і горычы ад успамінаў аб той бабульцы! Яна такая зычлівая, столькі добрага зрабіла яму, так дбала, так рупілася, як мурашка з дня на дзень, не ведала аддышкі. Нізенькая, няўклюдная, не вельмі і ходкая, але колькі вытрывала на сваіх плячах усяго, колькі перавезла і прадуктаў, і адзення, і сена, і дроў, і пяску, і гліны, і ўсялякага іншага дабра! Хрыпела і кашляла, але цягнула, усё цягнула. Яна прайшла фронт, самае пекла, бачыла вайну не здалёку, а, як радавы пехацінец, ваявала, толькі мо поўзаць не ўмела па-пластунску, а мо і ўмела, бачыла забітых і параненых, і сама не раз была параненая, знявечаная вярнулася з вайны і адразу без адпачынку пачала дагаджаць дзетдомаўцам, бачыла яшчэ першых дзетдомаўцаў, галодных і абадраных, іх слёзы, раны і вошы. Яна адолела такое, што і згадаць цяжка, прайшла, перамагла слабадзянскія гліны і пяскі, навакольныя гаці і броды — бездарожжа. Яна была як салдат, рабочы, калгаснік, тутэйшая, мясцовая. І вось цяпер, калі няма ні вайны, ні голаду, калі і да іх мясцін дацягнуўся асфальт, няма таго бездарожжа — няма і палундры. Лішняй, непатрэбнай стала і палундра, як недарэчнасць нейкая. Замест яе нахабны, сыты і моцнагалосы «газік». І Лецечка касавурыўся, разглядаючы яго, адчуваў, як выспявае ў ім нейкае нечаканае пачуццё віны і суму, як бы ён штосьці зрабіў не так, дзесьці пакрывіў душой, таму і не стала палундры. Добрая, нічога не скажаш, добрая новая машына. Але што з таго, што яна добрая, новая і сэрца-матор у яе не спрацаванае яшчэ, куды дужэйшае за сэрца палутаркі, што з таго, што яна можа больш вазіць грузу. Так, яна абыдзе, перагоніць палутарку, а калі яе спытаць, дзе яна была, калі палундра ваявала, гразла ў балоце, вось што яна адкажа на гэта? Не, ніколі не стане гэтая новая машына такой жа роднай Лецечку, як і палундра, ніколі не зойме ў яго сэрцы такога месца. Разам з ёю, мроілася яму, пагналі, выкінулі на звалку і яго, аднолькава абышліся з палундрай і з ім...

А ўсе вакол як звар'яцелі разам з шафёрам. А пра тое не думаюць, дурні, што ў іх ніколі-ніколі не будзе такой еднасці і роднасці з гэтай новай машынай. Не будзе, таму

што яна **н о в а я**, новая не машына, а істота, што яна гэтай сваёй навасцю і дужасцю адасоблена ад іх, існуе самастойна. Не думаюць... варта было іх толькі паманіць новай прыгожай цацкай, пра ўсё на свеце забылі. Вось так зусім скора яны забудуць і яго. Козел і цяпер не хоча яго заўважаць...

— Атанда, хлопцы, шухер, шухер...— па двары, вочы навылупку, бег Ванька — Бурачок-малодшы.— Бурачка-старэйшага б'юць. Усіх Бурачкоў забіваюць... Капцы... Вера Канстанцінаўна ў канцылярыі... За хлеб, за хлеб... Гэта ты, Лецечка, ты, Лецечка, вінаваты...

Лецечка з Козелам, а разам з імі і астатнія хлопцы рынуліся да канцылярыі.

Цяжка сказаць, біла ці не Вера Канстанцінаўна Бурачка-старэйшага. На той час, калі Лецечка ўварваўся ў канцылярыю, Бурачок, закрыўшы далонямі твар, ціснуўся ў куток, а Вера Канстанцінаўна абаперлася адной рукой на стол, а другой раз-пораз узмахвала і пры гэтым штосьці злоснае выгаворвала Бурачку. На падлозе каля яе ног ляжала лінейка, магазінны метр, якім мераюць матэрыю. Прыкмеціўшы Лецечку, Вера Канстанцінаўна адарвала руку ад стала і пацягнулася па лічыльнікі, якія ляжалі каля яе рукі на стале. Навошта спатрэбіліся выхавацельніцы гэтыя лічыльнікі, пацягнулася яна па іх інстынктыўна, са спалоху ці абараніцца імі хацела — Лецечка не разважаў, што да чаго. Ён вырваў з рук выхавацельніцы лічыльнікі, хутчэй нават яна сама адпусціла іх. Вера Канстанцінаўна глядзела на яго спалоханымі рудымі вачыма і маўчала. І жах выспяваў у яе вачах, жуда, таму што там, за спіной у Лецечкі, ужо стаяў амаль у поўным зборы ўвесь дзетдом. Хлопцы і дзяўчаты стаялі моўчкі, і маўчанне было зацятае.

Закрыўшы твар і вочы рукамі, нібыта імкнучыся схавацца і схаваць ад Бурачка, Лецечкі, ад усіх дзетдомаўцаў жах і жуду сваю, Вера Канстанцінаўна кінулася да парога. І пабегла. Пабегла з канцылярыі. З дзетдома. Назаўсёды. І што з ёй стала потым, Лецечка не ведаў і не хацеў ведаць. Гаварылі пасля, што яна прымала ўдзел

у начной аблаве на дзетдомаўцаў, якія прыйшлі ў дзетдом з калоній і ўзламвалі ноччу ларок. Але аблава гэтая знамянальная адбылася потым ужо. Потым... калі Лецечка ўжо не мог нічога аб ёй ведаць. Не стаў ён сябрам і Бурачкубольшаму, хаця той хадзіў за ім ледзь не па пятах, гатовы быў лізаць яму, як той Асталоп, рукі. Лецечка ж пазбягаў гэтага сяброўства. Ён хацеў забыць, зусім-зусім забыць і Веру Канстанцінаўну. Іншае цяпер хвалявала яго, іншым ён быў заняты. І занадта мала на гэтае іншае заставалася ў яго часу. І наўрад ці быў ён у гэтыя дні дзетдомаўцам. Дзетдом пачаў адыходзіць ад яго ў мінулае амаль што ў тое імгненне, калі ён абараніў ад выхавацельніцы Бурачка, калі ён... так, выратаваў ад дзетдомаўцаў Веру Канстанцінаўну.

І меней за ўсё яму патрэбны былі чые б там ні былі падзякі. Яны нават абражалі яго, было ніякавата, калі яму дзякавалі. Дурні, нічога яны не разумелі. Нічога...

Вочы ў вочы, пакорлівая ўнуранасць аднаго, жах і жуда ў вачах другога. Што можа быць больш страшнае за гэта? Што?

## X

Пастулова Лецечка рабіўся сваім чалавекам на судзе. У яго там ужо вызначалася сваё пастаяннае месца, сваё крэсла на апошнім радзе, адкуль яго не маглі згледзець ні суддзі, ні гады-паліцэйскія, а сам ён бачыў добра ўсіх. Яго ўжо вылучалі сярод натоўпу, пазнавалі, затрымлівалі на ім вока. І ён ужо навучыўся пазнаваць людзей у натоўпе, разумеў, для каго суд быў тэатрам, відовішчам, вылучаў тых, хто выпадкова трапіў на суд, і тых, якія не маглі не прысутнічаць на гэтым працэсе, такіх, як Нічыпар, Захар'я. Такіх, праўда, набіралася ў зале не шмат, і з кожным днём іх рабілася ўсё меней і меней. Стаяла лета, клопатны час, і трэба было ўжо думаць і пра восень, зіму, клапаціцца аб хлебе надзённым. Паліцэйскія для многіх з іх ужо амаль як памерлі. Яны расстралялі іх сваёй нянавісцю яшчэ ў

першыя дні працэсу, таму, пэўна, не з'яўляўся больш на суд і Захар'я.

— А што на нябожчыкаў глядзець, Лецечка...— адказаў ён на пытанне Колькі, чаму ён, Захар'я, не ходзіць больш на суд.— Не варты, не варты яны таго, каб глядзець на іх. Пакрыўджу, абразіць магу тых, хто на тым свеце, не, не варта. Сабакам сабачая смерць...

Лецечка падумаў: праўду сказаў Захар'я, але штосьці перашкаджала яму пагадзіцца з гэтай яго праўдай.

— Чаму ж ты тады нават з цаглінай першы раз на суд пайшоў? Ты што, дараваў ужо ім? А што б сказалі сыны твае, а дзеці бабы Зосі, а дзед Гуляй?

— А што сыны, Лецечка, што дзед Гуляй, дзеці бабы Зосі... Нельга жыць чымсьці адзіным, жыццё шырокае. Усё трэба ў памяці трымаць: і адчай, і надзею, і веру. Шырэй жыць — больш святла ў акне. Дык вось пра тое, аб чым ты пытаеш: дзеці, дзед Гуляй, таму і не хаджу туды — як ні круці, як ні вярці, а іх ужо не падымеш. А я жыву, я чалавек. І боязна мне жыць і ведаць, што іх няма. Чаму іх, а не мяне? Чаму я перажыў дзяцей сваіх? Мо гэта пакаранне мне, мо недагледзеў чагосьці... Сум на сэрцы маім, таму і не хаджу, каб не вярэдзіць раны.

— Чаго ты недагледзеў, вайна ж?

— Так, Лецечка, так, ды толькі ж людзі ваявалі.

— Але ж, выходзіць, ты забыў пра іх, Захар'я, закрыў вушы і вочы — нічога не ведаю, нічога не бачу, нічога не чую. Я не я і хата не мая. А з бабай Зосяй ты да гэтага часу так і не памірыўся?

— Грэх глядзець, Лецечка, чалавеку на смерць. Смерць таксама паважаць трэба. Не варта цвяліць яе, без дай прычыны вочы ёй муляць. І табе раю, Лецечка, не хадзі ты больш туды.

— Гэта чаму ж і мне не хадзіць? Ты сам гаворыш: мне ўжо хутка... Ды і сам ты толькі да спаса...

— Вось таму не хаджу і табе не раю. Глядзі на сонейка, там яго не будзе, не будзе, Лецечка. Глядзі, як птушкі лётаюць, як людзі радуюцца, жывуць. Вось нам з табой што трэба — на жывых глядзець, аб жывых дбаць,

жыццё ж шырокае. Хораша ж жыць, вельмі хораша, Лецечка, прайсціся сонейкам па зямельцы. Узяць яшчэ ў руку сякеру. І па халадку, покуль не ўгрэла, не прыпякло, памахаць ёю. Возьмеш ты яе ў рукі — інакшыя думкі ў галаве, вясёлыя, аб тым, як жыць-быць, як ляжа тваё бервяно ў дом, зайграе на сонейку, абальецца смолкай жывой, зазвініць, заспявае.

— Ты ж ужо не для сябе ладзіш дом, табе ж ужо не жыць у тым доме.

— А якая розніца, якая розніца, Лецечка? Усе мы жывём, і нікому з нас на тым свеце нічога не трэба. Але ж усе мы, хто розумам жыве, хто аб жыцці дбае, да апошняга часу не ведаем аддышкі. Гэтым нашым клопатам, мяркую я, і жыццё наперад рухаецца, хоць і разумеем, што там нікому нічога не спатрэбіцца — усе аднолькавыя і ўсіх аднолькава страчаюць-прывячаюць...

— І паліцэйскіх?!

— Не, вось ужо гэта ты не кажы. Тут ужо ад чалавека ўсё ідзе, ад таго, як ён сам прызначыў сябе на зямлі, пры жыцці. Вось як яно выходзіць-атрымоўваецца. Баіцца чалавек памерці чалавекам — памірае сабакам. А я чалавекам хачу памерці. Жыў, смерці не цураўся, паміраю — смерці не шукаю. На хаду, у рабоце прыму яе... А ў зале той яна мяне нечакана можа прыдушыць...

— А што мне рабіць, Захар'я? Які мне будаваць дом, калі я ўсё жыццё дзетдомаўскі, казённы. І сякерай я не здольны.

— А пойдзем са мной, я цябе навучу, паглядзіш, як я жыву.

— А далей, Захар'я?

— А што далей?

— У тым і справа, што там, далей, далей?

— Гэта ж дзе, Лецечка?

— І там,— Лецечка паказаў пальцам на зямлю і махнуў рукой за плячо,— і там, Захар'я. І там і там нуда мая, туга мая, душыць, цісне, што не ведаю я нічога: адкуль прыйшоў і куды пайду.

— З зямлі, Лецечка, з зямлі. Усё з зямлі. Зямля дае, зямля бярэ.

— А я не веру, што я з зямлі, не веру: мо я з агню, з полымя, і хачу ў агонь, зноў у полымя. Я хачу ведаць сябе, хачу пераступіць цераз тваю і маю нуду.

— Вось чаго чалавеку не дадзена, таго ўжо не дадзена.

— Чаму не дадзена? Хто не даў, Захар'я, хто не дае, хто трымае?

— Жыццё,— сказаў Захар'я.— Жыццё, Лецечка, трымае нас і не пускае, куды не след пускаць жывога. Заўсёды наперадзе ў чалавека павінна быць загадка нейкая, таямніца. Няхай невялікая, па чалавеку, па яго розуму, але павінна быць у жыцці кожнага загадка, як і справа неадкладная заўсёды павінна быць у яго. Як жа, навошта жыць, калі няма наперадзе ні справы ніякай, ні таямніцы, чым жыццё тады трымаць, калі ўсё пароблена ўжо, калі ўсё ўжо разгадана, калі ён ведае свой дзень і час, зазірнуў у той дзень...

— А ты, ты ж зазірнуў. Ці хлусіш, што зазірнуў?

— Бывае ў чалавека мінута, надараецца, выпадае яму мінута. Праклёны ён потым шле сабе за гэтую мінуту. І я кляну сябе, Лецечка... Не аб усім трэба гаварыць, што ведаеш, не ўсё бачыць, што на вачах. Усё б пераказаць каму, Лецечка, што я бачыў, што я ведаю, што ў гэту мінуту адчуваю, дык і веры ніхто не дасць, і слоў у мяне такіх не хопіць. І пры сабе трэба штосьці пакінуць. І забываць, зжываць з памяці шмат чаго трэба, да дабра не давядзе ўсё аб усім памятаць і ведаць. Не хадзі, Лецечка, не хадзі больш туды.

Лецечка не паслухаўся Захар'і. Яго цяпер, бадай, ніхто не здолеў бы спыніць. Не было такой сілы, якая б змагла перашкодзіць яму трапіць на працэс. Таму што нябачны воку працэс ішоў і ў ім, і перашкодзіць, спыніць тое, што адбывалася з ім, было немагчыма. Ён бачыў перад сабою на лаве падсудных твары паліцэйскіх і радаваўся, што як яны ні імкнуліся, але не змаглі яго знішчыць. Не забіць, не забіць яго ім, не дапаможа ім і іх тактыка спаленай зямлі,

татальнага знішчэння. Не яго яны паляць, не па ім яны страляюць, а па сабе, па сабе, сябе падсмажваюць на запаволеным, пажыццёвым для іх агні. А ён, Лецечка, негаручы, ён загавораны ад кулі, няхай страляюць, няхай паляць, ён усё верне ім: іх агонь, іх кулі, за ўсё адплоціць. Разам з тымі, загубленымі, знішчанымі імі, ён знойдзе іх на тым свеце. На тым свеце ён збярэ ўсіх. Адшукае дзеда Гуляя, белабрысых Сучкоў, ад якіх пахне малаком, ён прыйдзе пад Азарычы ў той хмызняк, у тое балота, абгароджанае калючым дротам, і падніме, узбудзіць трыццаць сем тысяч тыфозных, змарнелых — жанчын, дзяцей,— ён пройдзе зноў вясковым начным гаротным шляхам, скліча ўсіх, хто там ляжыць, гукне дзесяць тысяч яўрэяў, пагукае вязняў мінскай турмы, абыдзе ўсе вёскі, усе папялішчы, пагукае тых, хто згарэў. І ўсе яны, тысячы тысяч, кожны чацвёрты з яго радзімы, рушаць на тых, хто паліў, забіваў іх. І ніводзін з катаў не схаваецца, нідзе не схаваецца і на тым свеце. На тым, на гэтым свеце няма такога кутка, няма такой схоўні, дзе яны маглі б прыхавацца, прытаіцца. А ідзе суд справядлівы і бязлітасны. Страх за страх, боль за боль. Няхай скаланаюцца яны, жывыя і мёртвыя, ад іх страху і болю. Ідзе расплата. Ідзе, таму ён, Лецечка, і ўбірае цяпер у сябе чужы боль і болькі, набрыньвае чужымі болем і балькамі, таму і валочыць кожны дзень такія цяжкія, набрынялыя вадой ногі на плошчу, на суд, на лобнае месца. Невялікая дарога ад дзетдома да гэтага месца. Ды яму яна амаль што ўжо не пад сілу. Але ён усё роўна двойчы на дзень ідзе і ідзе, таму што дарога і жывіць яго. Не было б у яго гэтай дарогі, яго і самога ўжо... Не, рана яму пакуль аб гэтым, рана. Вялікая справа яму даручана. Кім? А ён і сам не ведае — кім, бацькам, маці ці тымі забітымі, рускімі, беларусамі, яўрэямі, яго равеснікамі, дзецьмі, якіх спалілі, расстралялі, закапалі жывымі ў зямлю, утапілі ў калодзежах, якім патрушчылі галовы аб дрэвы, колы машын. Ім ён павінен панесці з гэтага свету праўду аб жывых, як жывыя разлічваюцца за іх пакуты і смерць.

Ад гэтай плошчы і павядзе ён знявечаных, расстраляных, спаленых, тых, хто не дажыў да гэтага светлага, ужо зямнога, суда. Павядзе асфальтам. Гэта для іх кладзецца асфальт, для іх пракладаюцца роўныя, прамыя дарогі, каб яны не збіліся, каб ім ямчэй крочылася, таму што іх шлях доўгі, бясконцая іх дарога. Няхай хутчэй, хутчэй сцелюць асфальт. Няхай хутчэй ставіць на зямлі новыя хаты Захар'я, каб было дзе ім адпачыць, заначаваць, каб яны, як і Лецечка, убачылі і засведчылі, што зямля і пасля іх смерці зямлёй засталася, такой, як і была. Стаяць хаты, пазвоньваюць смалістым звонкім бярвеннем. Яшчэ лепей, яшчэ прыгажэй стала зямля, каб яны, здзейсніўшы тое, што задумалі, справядлівы свой суд, зноў супакоіліся ў зямлі. Не турбаваліся, не журыліся за зямлю, не думалі, што на ёй толькі папялішчы ды вецер. Вечная зямля. Яе не забіць, не спаліць, якімі б спрактыкаванымі ні былі гэтыя падпальшчыкі і забойцы. На зямлі ёсць і іншыя майстры. І яны і ў смяротны час не разлучаюцца з сякерай і касой, да апошняга ўздыху глядзяць на сонейка, колькі яго яшчэ даравана ім да сканчэння іх працы. Вечнае жыццё. Яно не ведае ні супынку, ні аддышкі. Звіняць над зямлёй сякеры.

Лецечка, хоць ён быў дужа заняты і няможылася яму, усё ж выбраў час, пагасцяваў у Захар'і. Не ў хаце, у якой ён жыў, а ў той хаце, якую ладзіў на папялішчы былой вёскі Сучкі. Ад шасцідзесяці двароў вёскі Сучкі засталася адна толькі кузня, закураны хляўчук з маленькімі, на адну шыбку, закуранымі акенцамі-байніцамі. Яны, акенцы гэтыя, нібыта і на самай справе байніцы, увесь час уздрыгвалі ад гулкіх udараў молата аб кавадла, у акенцы ўвесь час біліся, трымцелі і мітусіліся сполахі ад полымя горна. І сам хляўчук быў падобны на дзот: столькі каля яго было абгарэлага чорнага металу, што сцягнулі з палёў, якія тры гады засявала вайна. Асобна ад гэтага гарэлля ляжалі, як сведчыла аб тым свежая і вясёлая чырвань іржы, плугі і бароны, якія былі гэтай вясной у рабоце. Паўсюдна купкі попелу, адпрацаванага драўлянага вугалю, а каля дзвярэй — ладная гара вугалю свежага. Хапала работы кавалю ў мінулым, па самыя вушы яе і ў будучым.

Каля горна ў самой кузні правілі гэтую работу двое: мужчына, падобны на Захар'ю, грудзі, што мяхі, і плечы, што мяхі, так аднолькава неабдымныя і выпнутыя грудзі і плечы; дапамагаў кавалю хлапчук-падлетак, ужо на яго падобны больш, на Лецечку. Каваль нібыта забаўляўся, туды-сюды круціў-вярцеў у доўгіх кавальскіх клешчах нагрэтай да белай чырвані стужкай металу ў палаючым горне. І жалезныя клешчы ў яго чорных руках выглядалі звычайным кіёчкам, той самай каменькай, рабіць якую — вялікія майстры вясковыя ды і слабадзянскія хлопцы. Яны выразаюць яе з кустоўя воўчых ягад, узорліва абкорваюць, а потым абпальваюць над агнём, дык вось у рукі кавалю, здавалася, трапілі дзве такія каменькі, з такой лёгкасцю і ўвішнасцю падпарадкоўваліся яны хаценню каваля, з такой лёгкасцю ўздымаліся яны і ападалі над горнам, кружылі, вадзілі карагод у хісткім і хапатлівым полымі, нібыта былі працягам рук самога каваля. Было ў гэтых клешчах нешта вельмі чалавечае, жывое нецярпенне, палкасць жывая. Каваль адным імклівым хапком выхопліваў з полымя клешчамі, як рукой, металічную стужку, нёс яе ад горна, як па нітцы вёў. І паглядаў у той жа час не на метал, не на стужку, а кудысьці ўбок. Але, і не гледзячы, бачыў штосьці, а мо адчуваў па тым, як яму прыпякала, як жарам дыхала ў твар стужка, меркаваў, гатовая яна легчы пад молат ці не. Хітаў, хітаў хлапчуку галавой, хапаўся свабоднай рукой за ручку мяхоў і зноў нёс метал у горан. Дапамагаў хлапчуку качаць мяхі. Мяхі гэтыя ўжо былі вельмі старыя, лапленыя, пакарабачаныя, але рабілі спраўна. Там, за сценамі кузні, хапалі чыстае паветра, хапалі з глухім і скрушлівым прыхлёбам, нібыта рвалі, адрывалі яго і ўціскаліся, хавалі лапіны, пакарабачанасць, весела выдзьмухвалі. Улівалі гэтае паветра ў раз'юшанае, неўтаймоўнае полымя горна.

Стужка металу, нібыта вышпурнутая з горна агнём, апісаўшы паўкола, легла на кавадла, у рукі кавалю скочыў на доўгай ручцы малаток, ён цюкнуў ім па метале, гахнуў молат, апушчаны падлеткам-памагатым, вясёлы перазвон

металу захадзіў, загойсаў па цёмных кутках кузні, гулліва павялі, пацягнулі гаману малаток і молат: цюк-перацюк-мацюк. Закурчылася разагрэтая стужка металу, пераствараючыся на вачах у Лецечкі ў серп. Каваль паклаў малаток на кавадла плазам, молат сціх, каваль кінуў нарыхтоўку ў цэбар з вадой, выцер спатнелы лоб і толькі пасля гэтага паглядзеў у бок Захар'і і Лецечкі.

— Хто гэта да нас завітаў, Міша, падкажы мне?

«Ён што, сляпы? — падумаў Лецечка.— Сляпы каваль, ды як жа ён...»

— Захар'я прыйшоў,— адказаў падлетак.— А з ім хлопец чужы.

— Сякеру,— сказаў Захар'я.— Сякеру ты мне адцягнуў, Уллян?

— Гаварыце мацней, ён недачувае,— зноў азваўся падлетак. І бацьку: — Па сякеру, бацька, Захар'я прыйшоў.

Ды ён і глухі яшчэ, сляпы і глухі каваль... Лецечка глядзеў на каваля на ўсе вочы.

— Некалі мне, Захар'я, з сякерамі,— сказаў каваль.— Сярпы раблю. Урадзіла на дзіва, а хутка ўжо і жаць.— Прысеў на яшчэ цёплае кавадла, дастаў з кішэні капшук, газету гармонікам. Закурыў.

— Абязручыў ты мяне, Уллян,— зніякавеў Захар'я і наладзіўся пайсці ўжо з кузні. Каваль, як адчуў гэта, нібыта толькі і клопату ў яго было, што цікавяць за Захар'ем, каб падлавіць яго ў гэтую хвіліну, пасміхнуўся.

— Адцягнуў я тваю сякеру, з сынам вось і направіў. Не хацеў, па праўдзе кажучы, а ўзяў яе ў рукі, адчуваю — жалеза, сталь, гаваркая сякера...

— Яшчэ даваенная, тваёй, Уллян, коўкі...

— Вось я і чую,— каваль глыбока зацягнуўся.— Жалеза шмат — і няма жалеза, Захар'я. Гарыць, як палка, жалеза тое. Ні сякеры з яго, ні нажа, ні сярпа...

— Захар'я, ён што, зусім-зусім сляпы? — спытаў Лецечка Захар'ю, калі яны пакінулі ўжо кузню.

— Бачыць... Бачыць дзень-ноч, адрознівае святло ад змроку.

— А як жа... як жа ён...— У Лецечкі перахапіла дых.

— Грукае, грукае,— адказаў Захар'я.— Рукамі бачыць, усе мы так сёння. Вочы палахлівыя, вочы баяцца, а рукі робяць.

— Ды як жа рукі мусяць рабіць, калі вочы нічога не бачаць?

— Вось гэтага я ўжо не ведаю, Лецечка, толькі па сабе меркаваць магу. Толькі ў рукі мне сякера — і вочы не патрэбны. Сякера лепей за мяне бачыць, што рабіць. Я яшчэ вагаюся, думаю: тут бы цішэй, асцярожней, тут бы з пляча — камлюк, асмолле кручанае-верчанае... А сякера ўжо і ўправілася, я яшчэ і дадумаць не паспеў, а яна ўжо справіла ўсё, цюк-перацюк-мацюк — і абышла заганнае месца, выбрала яго. Вось так, Лецечка, паглядзіш, убачыш сам.

І Лецечка паглядзеў. Спачатку на Захар'ю. Захар'я, яшчэ на падыходзе да цесляроў, скінуў з плячэй свой вечны бушлат, сцягнуў і гімнасцёрку і паўстаў перад Лецечкам сам — як дрэва, камлюкаватае, але апрацаванае руплівай і дбайнай сякерай. Нічога ў яго целе не было старэчага і лішняга, было яно ў меру прасмаленае сонцам і высушанае, як тапарышча, звонкае, рабі ім справу і не давай яму спакою. І Захар'я нагамі, як слупамі, абхапіў з двух бакоў бервяно, каб яно не збегла ад яго незнарок, папляваў на далоні, папляваў не надта з якой вялікае патрэбы, а хутчэй за ўсё па звычцы, адганяючы ад сябе ўсё, што было да гэтага, каб нічога не замінала нават і ў думках. Дзвенькнула, каўзанулася па суку на першым пробным узмаху, сякера. Здзіўленая, хто гэта асмеліўся з ёй сваволіць, узляцела пад неба, разваліла, распляжыла надвае ранак: адну яго бліскучую, зіхаткую палову кінула на твар, пад ногі Лецечку, другую — у прахалоду зруба, які ўжо вышэй за чалавечы рост узнімаўся над зямлёй, кінула і пайшла гуляць, пайшла пісаць па бервяне, адсякаючы, збаўляючы яго ад усяго лішняга, непатрэбнага, ад таго, што яшчэ ўчора было адзначана, асуджана на адсячэнне чорным, мазаным вугалем, шнурам. І прасохлае, прахопленае ветрыкам, загадзя акоранае бервяно пачало набываць адпаведную форму, каб

легчы побач з іншымі бярвёнамі ў зруб, ператварыцца ў хату. Працы было бездань, але сякера не ведала маркоты, як гнаная гэтай бездання працы, нясцерпна, усмешліва паблісквала на сонцы, ведала сваю справу. Узнімалася, падала, брала спрытам, сполахам, асцярожнасцю і дужасцю, вастрынёю і сталлю. У палёце бачыла, дзе падсекчы, дзе надсекчы, дзе падчасаць, падсклюдаваць, прайсціся як склюдам, без хапатлівасці, спеху, з двух бакоў абціснуць кручанае асмоле, неўпрыкметку, крадком, падкрасціся да сучка і, неўпрыкметку, скрасці гэты сучок, пляжыла плахамі чыстае, адвальвала лустамі выспелае і выстаенае, роўнае, але не патрэбнае хаце, толькі для печы, і гэтага, патрэбнага толькі печы, адходаў — трэсак, струганіны,— набіралася процьма. Нават дзіўна было, колькі ў дрэве, такім дасканалым на выгляд, якое вырасла на сонцы і ветры, не прымала і ніколі не прагла больш таго, што яму патрэбна было ўзяць, больш таго, што яму неабходна, колькі ж у ім адходаў, колькі ў ім для агню, для развейветру, зямлі. Колькі клопату і турбот сякеры, колькі працы і поту, каб надаць адпаведны выгляд звычайнаму бервяну, абчасаць яго, каб можна было потым пакласці ў хату. Колькі працы потым, калі яно абчасана. Потым, як вынікала з усяго, толькі і пачыналася праца: прагонка пазоў, падгонка вуглоў. І сякера то падзёўбвала дзюбкамі, верхняй, ніжняй, то ўпівалася ў дрэва ўсім лязом, джаліла сонца і вока. Абстуквала, слухала бервяно. Гаварыла з ім, выпытвала, дзе балюча, а дзе можна і патрываць, і пераказвала ўсё, што пачула, вызнала, гаспадару, нагаворвала то таропкай вясёлай гаманой, то басам, то звонкім дыскантам, выгаворвала за штосьці гаспадару і дрэву адначасова. І бегла, бегла наперад, ірвалася з рук, вяла за сабой гаспадара, разумела і гаспадара і дрэва, скаралася гаспадару, але памятала, што той сляпы і бездапаможны без яе. Яна спазнала ўжо дрэва, вызнала яго яўныя і прыхаваныя заганы і радавалася, што праз яе аб іх даведаецца і гаспадар. Радавалася светламу ранку, таму, што ёй гэтым ранкам ёсць праца, што яна так лёгка, гуляючы, спраўляецца з ёй, была задаволена, што трапіла

ў добрыя і дужыя рукі. А гэта ж заўсёды прыемна, калі ты ў добрых руках. Была яна задаволеная яшчэ і тым, што Лецечка, староннi чалавек, усё гэта бачыць і зачараваны, замілаваны ёю. У суладнай гамане працы яна не забывала, што за ёй наглядаюць, яе слухаюць, і заклікала слухаць уважліва, цнатліва ўсміхалася, сваволіла, гарэзіла, пацвельвала бервяно, гаспадара, Лецечку, ранак, сыпала смехам, трэскамі і святлом. Пацвельвала нават сонца, секла яго промні, сляпіла імі Лецечку, Захар'ю, бервяно. Вываргала смех і з дрэва, і ў сваім сваволлі, дурасліваспі, у вясёлай сваёй працы не ведала ні зморанасці, ні межаў, покуль не ўвагнала ў пот гаспадара.

І, як толькі што каваль у кузні на кавадла, Захар'я прысеў на бервяно і соладка зацягнуўся махоркай. Злезлі са зруба, падселі да яго дзяды, таксама задымілі.

— Ну як, хлопец, як наша праца?

— Нічога праца... сякеры добрыя...— Лецечка не ведаў, што гаварыць, але патрапіў, сказаў тое, што трэба.

— Разборлівы, так, так усё. Ай да хлопец! Мы ўжо ні на што не гожыя, а сякеры свае яшчэ ўнукам перададзім... А твая, Захар'я, сякера, дык і ўкрасці такую не грэх. Дзе ты яе нанач кладзеш, куды ты яе спаць укладаеш?

— Дзе ноччу ляжыць, там днём няма. Ноччу яна за мной следам ходзіць. Не ўзяць чужому чалавеку маёй сякеры. Быў адзін. Сеў я так раненькім-раненька за стол, снедаю. Бачу ў акно: крадком шух хтосьці па двары і да павеці. Снедаю. Думаю: што ж ты, голубе, украдзеш у мяне? Самога цікаўнасць бярэ. Але снедаю...

— Ведаем ужо, што снедаеш,— сказаў дзед, што сядзеў па правую руку ад Захар'і.— Покуль чыгун паронкі не апрастаеш, не падымешся.

— Чыгун не чыгун, але вядро добрае... Снедаю. Паснедаў, выходжу з хаты — сякера мая вось гэтая ў голуба ў руках. Стаіць ён з ёй, калоціцца. «Ты чаго,— кажу яму,— украў, дык бяжы...» — «Ох дзядзечка, ох родненькі, аслабані ты мяне, пусці, век чужога не вазьму». Я яму: «Не трымаю я цябе, голуб ты мой, адкуль прыйшоў, туды і ідзі».— «Не здолею, не здолею,— моліць ён мяне.—

Сякера твая трымае мяне, не здолею і кроку зрабіць. Вазьмі, пазбаў, век на чужое вока не пакладу». Я яго і не біў, так, трэсачкай толькі, для навукі. Сякеру ў яго забраў. Як шыбануў ён на вуліцу ды па вуліцы, самалётам не ўгонішся. Вось мая сякера якая...

— І збрэшаш, не дорага возьмеш,— сказаў дзед, які сядзеў злева ад Захар'і.

— Не скажы, не скажы,— не падтрымаў яго напарнік,— старыя людзі слова ведалі. Вось мой дзед пчолы разводзіў. Дваццаць калод у яго ў лесе. У другіх то звер, то чалавек спакусіцца, спустошыць. А дзедавых пчол ніхто не мог узяць. На заклад, ведаю, лазілі. Я і сам малым быў і лазіў, паспавядаюся ўжо вам. Да палавіны хвоі ці то дуба яшчэ так-сяк. А далей — вось як усё роўна не пускае хтосьці, трымае штосьці, хоць ты ўбіся. Я ўверх, мяне ўніз, я ўверх, мяне ўніз, і ўваччу ўжо цёмна...

Захар'я ўсміхаўся, дыміў самакруткай, падміргваў Лецечку. А Лецечка слухаў і не хацеў заўважаць яго падміргванняў. Ён верыў таму, што апавядаў дзед пра пчолы, верыў таму, што расказаў Захар'я пра сваю сякеру. Ён сам бачыў гэтую сякеру. Яна такая, яна здольная на ўсё. Яна не такое яшчэ можа выкінуць. А дзяды ўжо разгаварыліся, плялі аб тым, што было і чаго не было, і ні слова аб судзе, аб вайне. Усё пра пчолы, пра сякеры, пра дрэвы, пра тое, колькі і як стаяць гэтай хаце, што будуюць яны цяпер, ці будзе ў ёй сырасць, ці завядзецца шашаль, як будавалі яны свае хаты, як выбіралі дрэвы ў лесе, глядзелі, колькі ім дасталося сонца, як выбіралі месца пад хату, як добра спіцца, калі пад вуха б'е цвыркун. Аб тым, да чаго ж добрая і спагадлівая зямля, на якой яны жывуць,— кругом недароды, засухі, сухавеі, а то і горш за тое: дажджы, вымакае, гіне іншы раз усё на чарназёме — чарназём добра, але яму трэба, каб і сонца ў меру, і дожджык у меру, то густа, то пуста бывае на зямлі і цёплай, урадлівай, блаславёнай богам. А на іх зямлі, здаецца, пустой, гібельнай, багністай, забытай богам, хай ці то засуха, хай ці то дажджы праліўныя, а зернятка ці бульбачка не прападаюць, кормяць. Родзіць іх зямля,

корміць, які б год ні ўдаўся, а паесці і на насенне захаваць ёсць што. Добрая зямля, добрая. Адна яна, адна такая на ўсім белым свеце. Бачылі дзяды, ведалі і Рым, і Прусію, Венгрыю, Балгарыю — але не зайздросцілі... Пастух там і пугу не так трымае, спрыту не мае таго, каб трубануць у рог, дык трубануць, каб не толькі Ягадцы ці Сіўку на пашу, у лес захацелася, а і самому туды закарцела — не, не... І сонца там іншае, і вецер не той. Гарбузы не растуць. А хаты, дык, прабачайце, людзі добрыя, з таго самага, што каровы нашчыруюць, з таго іх і лепяць...

Дзеці, а не старыя. Нібыта не зведалі яны і вайны, нібыта яны ўсё жыццё вось так ціха-мірна прасядзелі на бярвенні, нарадзіліся тут і знікнуць, лягуць бярвеннем у зрубы, хаты, якія яны ж самі ставілі.

І Лецечку ўжо цяжка было пакінуць іх, век бы сядзеў так, дыхаў бы горкім дымам махоркі і слухаў пра тое, што было і чаго не было. Але не сядзелася. Ён адчуваў, што ўжо атручаны судом. Зацягнуў яго суд, і не здольны ён быў ужо вырвацца з гэтага суда. Нібыта трапіў у вір і павінен ісці за плынню вады, ісці па спіралі да дна, намацаць нагамі дно, займець пад нагамі грунт і толькі тады, як ён адпіхнецца ад гэтай цвердзі, усплыць, вынырнуць на паверхню, да паветра. Размовы дзядоў, наведванне кузні толькі шкодзілі яму цяпер, заміналі, адцягвалі яго ад таго галоўнага, што адбывалася на судзе, што адбывалася ў ім. А з ім, Лецечкам, адбывалася штосьці незразумелае. Ён ужо неаднойчы сам лавіў сябе на тым, што раптам знікае з сённяшняга дня, кудысьці прападае, трапляе ў нейкае іншае жыццё. І доўга-доўга не вяртаецца ў сёння. У першыню з Лецечкам такое адбылося тады, калі ішоў допыт брывастага, суседа Калягіна. Лецечка да таго часу, здаецца, ужо асвойтаўся на судзе. Звыкся з тым, што ўсе паліцэйскія не тояць, гавораць праўду аб сабе, жахлівую, нечалавечую праўду, на якую наўрад ці здольны нармальны чалавек, жахаўся ад гэтай праўды, ад той бездані, якая стаяла за ёй. Але дзесь глыбока ён ужо ціха, неўпрыкметку звыкаўся, рабіўся абыякавым да таго, што чуў, што адбывалася на

судзе, таму што для тых, хто знаходзіўся цяпер за бар'ерам, гэта быў звычайны, нармальны побыт. Яны гаварылі аб ім, як старыя пра пчолы, спакойна, без дрыжыкаў усялякіх, расказвалі аб тым, чым яны жылі, што рабілі, што бачылі. А жыццё, уражанні іх былі аднастайныя: агонь, агонь, агонь. Агонь па загаду, агонь без загаду, у часы адпачынку. І агонь гэты ўжо закалыхваў, усыпляў, здавалася, нічога асаблівага ў ім ужо і няма. Але брываcты раптам адхіліў усе ўласныя паказанні, якія даваў на папярэднім следстве.

— Ёсць там трошкі, ёсць, але гэта няважна, няважна,— так адказваў ён на пытанне суддзі аб папярэднім следстве, з гэтых слоў пачаў ён свае паказанні на судзе. І яго востры, як шабля, твар палаў ад абурэння і нецярплівасці, палалі, гарэлі вуголлем глыбока схаваныя ў вачніцах чырвоныя вочкі. Лецечка з усіх яго слоў пачуў толькі адно, апошняе: «неважно» — так бестурботна і весела, нават з нейкім выклікам суддзі, зале і яму, Лецечку, было выпушчана гэтае слова на волю, кінута ўсім. Няважна, чым ён займаўся, што ён вытвараў у сорак трэцім і ў сорак чацвёртым, што ён да гэтага гаварыў, што гаварылі аб ім. Усё няважна, важна, што ён скажа цяпер. Слухайце яго, што ён скажа цяпер.

І ён увагнуўся, выставіў галаву за бар'ер і сказаў:

— На то ж вайна, то ж вайна, немцы... Я адмаўляю, адмаўляюся я...

Гэтае «я адмаўляюся» з вуснаў паліцэйскага дагнала, заспела Лецечку, злілося з тым «я адмаўляю», якое гучала і ў ім. Ён, Лецечка, даўно ўжо адмаўляў, адвяргаў усё, аб чым гаварылі паліцэйскія, хаця і ведаў, што яны гавораць праўду, вымушаныя гаварыць праўду, але ён не хацеў верыць гэтай праўдзе, не хацеў верыць сваёй памяці, ён і сам жыў у тым сорак трэцім і сорак чацвёртым, але не хацеў верыць і таму жыццю. Ён адмаўляўся, адракаўся ад яго. Імкненне спазнаць да рэшты тое жыццё і адмаўленне ад таго, што такое можа быць, адначасова жылі ў ім, але існавалі як бы асобна адно ад другога. З такой двaістасцю чалавек здольны глядзець толькі сон, здольны

толькі ў сне так верыць і не верыць у яго прывідную, нерэальную рэальнасць. І Лецечка нібыта сніў наяву, прыкархнуў на судзе, адначасова знаходзіўся тут, у зале, і далёка ад яе, у хаце, якую пабудавалі старыя з Захар'ем, верыў, успрымаў усё, што адбывалася тут, і таксама верыў, успрымаў тое, што адбывалася ў хаце.

Чалавек з вострым шабельным тварам і неймаверна важкай, нібыта ўкрадзенай з другога твару, сківіцай ірваўся з-за бар'ера, парываліся, цягнуліся да аўтамата з-за бар'ера яго рукі. Ён выкручваўся, хітраваў, поўзаў, вытаргоўваў сваё жыццё і, здаецца, не надта дорага запрошваў за гэтае жыццё, маліў толькі аб адным: каб ён, Лецечка, спаў, працягваў спаць, каб ён шчыльна зачыніў дзверы і аканіцы ў новай хаце, сніў свае летуценныя, прывідныя сны. І яны абодва застануцца жыць, будуць жыць, паліцэйскі і Лецечка, жыць і не ведаць нічога адзін аб адным, не падазраваць нават аб існаванні адзін аднаго. І Лецечка шчыльна зачыніў дзверы, зачыніў аканіцы, загарадзіў дарогу сонцу і святлу, шэпту жытніх каласоў, што выспявалі ў полі, паху кветак у агародчыку, і стала яму раздольна і лёгка ад утульнай прахалоды паўзмроку. І забілі, заспявалі каля печы цвыркуны, што крадком пранеслі ў хату ў сваіх ватоўках старыя. Добрую хату адбудавалі яму старыя. Усяго ў ёй хапала для жытла — і цяпло, і вада, і столік для гаспадарчых патрэб, каля акенца, дбайна засцелены цыратай, і ложак пастаўлены, мяккі, з панцырнай сеткай, гарадскі, і радыё праведзена. Дзяды са слабадзянскай гліны, з цэглы, што накраў Захар'я, калі рабіў на цагельні, зляпілі печ. Са Слабады працягнулі ў хату, на былое папялішча, водаправод, і ў трубах буркацела, спружыніла вада, падпявала цвыркунам, капала з краніка. І электрычнасць прыйшла да яго са Слабады. І ў падполе стаяў кубел з салам, і бульбачка леташняя не прарасла яшчэ, ляжала ў падполе. І чыгунок бульбачкі з салам управаў за засланкай у печы. Лецечка зняў засланку, дастаў з печы хлеб, паглядзеў яго спадыспаду, пастукаў пазногцем: добра дайшоў. Папырскаў вадой і паклаў каравай на ручнік і захінуў ручніком, каб адышоў хлеб.

Залез у падпол, зняў з кубла вечка, мружачы аж вочы ад паху часнаку і кмену, пластануў добры кус сала, дастаў з печы чыгунок з бульбаю і сеў есці. І, як Захар'я ці то, хутчэй, як Бурачок, не адваліўся ад стала, покуль не апрастаў чыгунок, не выскраб яго да дна. Крутнуў гузік радыё, і стала весела, хата запоўнілася грукатам і громам — жыві, раскашуй, еш, пі, гуляй, а маеш ахвоту, дык і на бакавую, на ложак, мяккі, гарадскі, з панцырнай сеткай. І Лецечка выключыў радыё, залез на ложак. І хораша было яму палежваць на баку ў новай хаце на мяккай пасцелі. Там, за акном, прыпякала сонца, сушыла зямлю, тут прахалода — кап-кап-кап, але не над галавой, а ў металічную ракавіну. І цюк-перацюк сляпога каваля губляўся ў спевах цвыркуна, які ўгрэўся каля цёплае печы. Знямоджаная дрымота песціла не хворае, не недаробленае, а зусім-зусім прыдатнае для жыцця і для таго, каб ляжаць на ложку, цела. Якіясьці цені блукалі ў паўзмроку па сцяне, ціха лёталі, як апітыя, у прыцемку мухі, але яны не раздражнялі Лецечку. І ў сне, у дрымоце сасніў Лецечка ў новай хаце яшчэ адзін, новы сон. Хата адышла, рассунуліся, як расталі, сцены, і светла-светла зрабілася навокал. Бетонным шматлюдным тратуарам, знаёмай вуліцай спяшаліся насустрач адзін аднаму двое знаёмых і незнаёмых Лецечку людзей. Была гэта, здаецца, Слабада, а ў той жа час — як і не Слабада. Дамы высокія, мураваныя, тратуар жа зноў — бетонны, каштанамі абсаджаны. Але адбітак Слабады, жоўты водсвет яе ляжаў на бетоне, каштанах, дамах. Водсвет былой беднасці, галечы і асуджанасці, які імкнуўся, ды так і не здолеў ператварыцца ў колер весялосці і бестурботнасці. Гэты ж водсвет быў і на тварах тых двух, якія спяшаліся насустрач адзін аднаму, толькі адзін з іх быў непрыступны, паважны, а другі... Лецечка не адразу прызнаў у гэтым другім сябе. Быў ён такога ж аблічча, нават у тым жа самым каверкотавым шэрым касцюме, у якім ляжаў Лецечка на ложку. Другі, дарослы, паважны, глядзеў на Лецечку-падлетка непрыступна, строга. І Лецечка таксама прызнаў у ім сябе. Сустрэліся два Лецечкі, два Колькі. І Колька Лецечка, які

палежваў на ложку і наглядаў гэтую сустрэчу, спалохаўся: няма нічога горшага за тое, чым сустрэць самога сябе ў сне. А два Лецечкі, два Колькі на тратуары знаёмага і незнаёмага горада параўняліся адзін з другім і разышліся, не пазнаўшы і не прызнаўшы адзін аднаго.

— Стойце, стойце!..— закрычаў ім Лецечка з ложка. Падлетак і дзяцюк недаўменна спыніліся, азірнуліся, сустрэліся адзін з адным вачыма.— Вазьміцеся за рукі, за рукі! Вы ж родныя.

Дзяцюк сцепануў плячыма і пакрочыў сабе далей, туды, дзе за высокімі камяніцамі стаялі камяніцы яшчэ вышэйшыя, дзе бегалі якіясьці дзівосныя рознакаляровыя машыны, дзе раскінулася плошча, на якой вясёлкава білі фантаны, дзе стаялі ў цяні каштанаў лаўкі, а на лаўках сядзелі прыбраныя, у святочным адзенні, жанчыны, нібыта нават і Лена Лаза была сярод іх. Яна... яна ўжо ўставала насустрач дзецюку, уставала, адводзіла ад вачэй каляровую вадзяную вясёлку. А хлопчык збочыў з тратуара. Тратуар перад ім скончыўся, як абарваўся, нібыта бетон выцягнулі з-пад яго ног, ён пяском пайшоў да гарадка, які, нібыта мроіва, стаяў удалечыні, пайшоў да гарадка драўлянага і натуральна жоўтага. І Лецечка заплакаў, паглядаючы, як у розныя бакі разышліся два Колькі. І, плачучы, у гэтым сваім сне, ён ведаў, што мужчыны не плачуць, і загадваў сабе не плакаць. А слёзы цяклі...

І зноў ссунуліся сцены, і зноў запанаваў паўзмрок.

Лецечка быў у той жа самай хаце, якую паставілі дзяды. Білі цвыркуны за печчу, кап-кап-так — капала вада з крана. Трэба было ўскочыць з ложка, грукнуць нагой па падлозе, і цвыркуны змоўклі б, перастала б капаць вада, рассыпаўся б дом, пабудаваны дзядамі. І ён зноўку апынуўся б у зале, на судзе. Лецечка ўжо не здолеў і не хацеў кратацца. І яму трэба было намагацца, прымушаць сябе сілай, каб узняць нагу, каб тупнуць ёю па падлозе. Так угрэўся ён у хаце, так не хацелася яму на суд. І самога суда гэтага як бы і не было, ён адмаўляўся і адракаўся ад яго, і ўсё ж Лецечка перамог сябе, узняўся, тупнуў нагой і адплюшчыў вочы. Каля яго сядзела старая. Не,

не адна, з усіх бакоў былі людзі. Лецечка ж бачыў толькі адну старую. Нядобрая, страшная гэта была старая. Жахам скавала цела, калі Лецечка зазірнуў ёй у твар. Чорным, як з таго свету, быў гэты твар. Шчокі ўваліліся. Чорныя-чорныя, хаця і нечакана поўныя для старой, запечаныя, асмяглыя губы. Старэчыя мышцы ўжо не здолелі ўтрымаць гэтых губ, яны адвальваліся, паказваючы чырвоныя з адзіным чорным зубам дзясны; не свяцілі ўжо на зморшчаным твары, хоць ледзь прыкметна і ўздрыгвалі, жылі, вочы, як два згаслыя вугольчыкі, і ўсё гэта, адмерлае, скрушліва падвязана пад падбародак белай хусцінкай.

— Адмаўляюся, абвяргаю! — крычаў за бар'ерам эсэсавец-паліцыянт, сёк шабельным тварам паветра перад сабой.

— Выракаюся, выракаюся, праклінаю...— шапацела запёклымі губамі, пахітвала, як у неймавернай роспачы, з боку ў бок востры твар з цяжкой, амаль ужо адваленай сківіцай старая. А той, за бар'ерам, усё цягнуўся, цягнуўся да старой. Працягваў цягнуцца, калі яму ўжо і загадалі сесці і яго месца заняў другі, якога больш за іншых з тых, што сядзелі на лаве падсудных, зненавідзеў Лецечка, чалавек у чорным, у чорнай тэнісцы, з процьмай чорных наколак на голых дужых руках, з чорнымі ўчэпістымі і жорсткімі вачыма. Аб чым ён гаварыў, Лецечка не чуў, таму што хаваўся ад старой. Не звычайная старая гэта была для яго — сама смерць. Смерць, аб якой гаварыў Захар'я, смерць, якую ён шукаў там, за спінамі тых, што за бар'ерам. А яна сядзела поруч з ім, даўно, напэўна, сядзела. Лецечка ўжо бачыў за яе спіной іржавую касу і дрыжаў увесь, чакаючы ўзмаху гэтай касы. Але старая — смерць ці то пашкадавала яго на гэты раз, ці то пабаялася пры народзе махнуць касой. Устала і, ціха пагрукваючы да глянцу наваксаванымі чаравікамі, блытаючыся ў доўгай, да падлогі, чорнай спадніцы, пацягнулася да выхаду. І ўсе, хто прысутнічаў у зале, і суд, і тыя, за бар'ерам, праводзілі яе да самых дзвярэй маўклівым паглядам. Гэта была хвіліна анямення. У зацятай,

здранцвелай цішы залы невыносна доўга шэргалі, з сарочыным прыстукам ірвалі цішыню неразношаныя хлапчуковы чаравікі. Потым гэты сарочын стук і шэргат перайшлі ў тупаток. Каля самых дзвярэй старая не вытрымала зацятай цішыні, якой выправаджвалі яе з залы, пабегла, паляцела, трапіўшы на лапік святла, што біла з расчыненых дзвярэй, паляцела, як чорная вялізная птушка, распрастаўшы вялізныя чорныя крылы. Цішыня стаяла яшчэ з хвіліну і пасля таго, як аціх тупаток яе хапатлівых крокаў. Маўчала зала, маўчаў, апусціўшы вочы, чалавек у чорным, маўчаў суддзя цяжкім каменным маўчаннем, нібыта і сапраўды раптам скамянеў. I ён, суддзя, так і не наважыўся парушыць цішыню. Гэта зрабіў чалавек у чорным. Суддзя ледзь прыкметна хітнуў яму галавой, і той загаварыў нечакана прыемным, звонкім голасам:

— Мне споўнілася шаснаццаць гадоў, калі прыйшлі немцы. Марыў быць аграномам, таму што мой бацька аграном, яго забілі кулакі. Захапляўся сельскай гаспадаркай і музыкай, любіў сабак і пчол. Старэйшы брат быў прызваны ў Чырвоную Армію. Я, калі прыйшлі немцы, рабіў пры доме, на гаспадарцы. Састаяў у падпольнай групе, збіраў зброю, тры скрынкі патронаў сабраў, тры вінтоўкі, гранаты, наган. У 1943 годзе мяне арыштавалі...

— Аднаго вас арыштавалі?

— Не, разам са мной была арыштавана яшчэ адна сям'я: бацька і сын. Утрымоўваліся разам, у адной турме. Білі...

— Чым можаце растлумачыць, што вас аддзялілі ад той сям'і, разам з якой вас арыштоўвалі?

— Не магу ведаць.

— Не можаце ведаць... Бацька і сын сведчаць, што ў той час, калі іх катавалі, вы ўжо разгульвалі па двары без аховы.

— Так, было такое, сустракаліся.

— Чым вытлумачваеце?

— Не магу ведаць. СД выпусціла мяне.

— За прыгожыя вочы...

— Не магу ведаць.

— Не можаце ведаць, як з вязня ператварыліся ў ваўкалака, сталі эсэсаўцам? — Стаміўся, відавочна, ужо стаміўся суддзя. Здаецца, і не важкая ў яго праца, сядзі сабе, задавай пытанні і слухай. Але ўжо не сядзіцца яму на высокім судзейскім крэсле. Ўвесь час угінаецца, угінаецца суддзя, нібыта пад ціскам якім, і торгаецца ў суддзі ўжо вока адно, пытанне задасць — вока торгнецца, нібыта ён з гэтага вока пытанні свае выцягвае, торгаецца вока і ў Лецечкі, не адужаць, не ўцяміць яму з яго галавой, як гэта чалавек з падпольшчыка можа ператварыцца ў эсэсаўца. Суддзя расстаўляе вехі гэтага шляху, забівае тычкі па дарозе здрады. Лецечка разумее гэта, ён ужо навучыўся разумець суддзю, ён бачыць і вехі і тычкі, забітыя ім. Але гэтыя ўказальнікі нічога не праясняюць яму. Мо яны зразумелыя дарослым, а яму — не. Не і не. Няма і не можа быць указальнікаў на шляху здрады. Але як жа ўсё-ткі яно адбываецца-вершыцца, як прыходзяць да яе, што за крывулістая такая дарога вядзе да яе?

Вось ён, Колька Лецечка, яму семнаццаць гадоў, ён любіць пчол, сабак і музыку. Але прыйшлі немцы, у яго ёсць скрынка патронаў, тры вінтоўкі, гранаты і наган. Ён падпольшчык, разносіць лістоўкі. Немцы прыходзяць, каб арыштаваць яго. Ён адстрэльваецца да апошняга. Але яго ўсё ж забіраюць, раненага. Яго б'юць, катуюць... Не, не, лепей смерць, чым нечакана наступным днём сустрэць, трапіць на вочы тых, бацькі і сына. Лепей смерць... Але чаму ён, Лецечка, абраў смерць, а гэты ў чорным,— жыццё? Чаму? Ці ёсць на гэтае «чаму» адказ?

— Як вы ўяўлялі сабе сваё далейшае жыццё? — вось яно, яго, Лецечкава, пытанне.

— У душы я быў адзін. Але форма прадстаўляла мяне другім. Я быў ужо ў другой шкуры, у другой форме.

Не той адказ, не той. Гэта пасля ўжо форма, пасля форма, а да яе?

— Што вы адчувалі, калі ішлі на здраду? Нас не цікавіць, што вы́ перажывалі, мы пытаем: што́ вы перажывалі?

— Я хацеў выжыць, выжыць любой цаной.

— Дзеля чаго?

— Фізічная патрэбнасць жыць.

Вось яно, вось — «фізічная патрэбнасць жыць», гранічна дакладна фармулюе свае адчуванні чалавек у чорным. Фізічная патрэбнасць жыць, ці, іншымі словамі, жывёльная прага жыцця. У хаце з зачыненымі аканіцамі, у нары, у воўчым логавішчы, у будцы сабачай, у сабачай шкуры, у шкуры вужакі, гадзюкі, у адзіноце, страху — усё роўна жыць. «Баіцца чалавек памерці чалавекам — памірае сабакам...»

— А ці думалі вы аб тым, што ваш брат у Чырвонай Арміі, бацька забіты кулакамі?

— Думаў, але дзейнічаў па-іншаму, так атрымоўвалася...

— Ваша замілаванасць да жывёл, ваша схільнасць да музыкі?

— Гэта ўсё было забыта.

— Ваша духоўнае жыццё, чым яно напаўнялася?

— Крывёю. Мне страшна. Жах які...

— Зараз вам страшна?

— Зараз і тады, заўсёды.

— Чаго вам страшна, страшна пазбавіцца жыцця?

— Усяго, усяго мне страшна. Жах які... Мне не верыцца, што гэта я...

— Не бойцеся, не палохайцеся сябе, унтэр-капрал зондэркаманды 7 «А». Вы не жахаліся, расстрэльваючы і палячы жыўцом дзяцей, старых, жанчын. За гэта вам і прысвоілі званне, унтэр-капрал. За што вы расстрэльвалі, забівалі, палілі ні ў чым не вінаватых, нішчылі савецкіх людзей?

— За тое, што яны савецкія людзі, за тое, што яны патрыёты сваёй Радзімы.

— Гэта як разумець? Вы ўжо помсцілі і за сваю здраду?

— Так, так гэта і трэба разумець.

— У вас была яшчэ магчымасць уцячы з СД, калі ўжо былі без аховы, калі вашы рукі былі яшчэ не так у

крыві. Савецкая Армія была ўжо на подступах да вашага горада. Чаму вы не ўцякалі?

— Не зарыентаваўся...

Нават бывалага суддзю скаланула ад гэтага шчырага, непрыхавана-жывёльнага «не зарыентаваўся», скалануўся і Лецечка, але зусім па іншай прычыне, ад радасці, што той, за бар'ерам, не зарыентаваўся. Зарыентуйся ён, хто яго ведае, мог бы перажыць і Лецечку. Перажыў бы, маючы такую заалагічна-фізічную патрэбу жыць. Вось ён стаіць за бар'ерам, дагледжаны, да сіняга паголены, без адзінай зморшчынкі на твары, трэніраванае, як адлітае з металу, цела спартсмена. Жыў бы, хадзіў сабе, як бомба, нашпігаваная толам, чакаў бы свайго часу, калі можна грымнуць, выбухнуць, не тоячыся, на ўсю моц, поўным зарадам. А цяпер ужо не выбухне. Старая — смерць чакае яго за гэтымі сценамі. Яна не ўпусціць яго.

— Том справы пятнаццаты, старонка... Тут з вашых слоў занатавана, што ў Мар'інай Горцы ўтрымоўваліся дзеці, у якіх немцы бралі кроў для параненых нямецкіх афіцэраў і салдат... Актам дзяржаўнай камісіі ўстаноўлена, што такіх дзяцей-донараў у спецыяльным лагеры ў Мар'інай Горцы было восемдзесят... Восемдзесят дзяцей ад васьмі да дванаццаці год, ссінелых, якія ледзь трымаліся на нагах, было вызвалена і гаспіталізавана наступаючымі часцямі Савецкай Арміі. Растлумачце суду, што вы ведаеце аб гэтых дзецях.

Чалавек у чорным схаваўся ад залы, ад суддзі за салдата аховы і маўчаў. Маўчанне яго было доўгае і жахлівае.

— Суд чакае!

Чакаў не толькі суд, падаліся наперад і замерлі, як адзін чалавек, усе, хто быў у зале.

— Суд чакае!

— Я ведаю, што ў сорак трэцім годзе да нас у Бабруйск прыходзілі транспарты з жанчынамі, дзецьмі. Мы бралі дзяцей у мацярок, грузілі іх на машыны.

— Бралі ў мацярок дзяцей... яны што, добраахвотна вам аддавалі дзяцей?

— Якое — добраахвотна? Але жанчыны не мужчыны. Мы вырывалі...

— Мы? Гаварыце за сябе. Што рабілі вы?

— Я вырываў дзяцей з рук маці. Маці драпаліся і плакалі, іх заганялі за калючы дрот, расстрэльвалі ці адпраўлялі ў Германію. Дзяцей грузілі на машыну і везлі — куды, я не ведаю. Іх далейшы лёс мне невядомы.

— Хто, акрамя вас, з тых, што знаходзяцца на лаве падсудных, удзельнічаў у гэтых акцыях?

— Усе... Я, Калягін, Бягун,— чалавек у чорным хітнуў галавою ў бок свайго брывастага суседа з вострым шабельным тварам.

— Падсудны Калягін, прызнаяце паказанні...

— Нічога не магу сказаць, не памятаю.

— Не памятаеце такога?!

— Не, не памятаю...

— Падсудны Бягун.

— Не, не! Не было такога!

— Было, было! — гэта крычаў, і плакаў, і хаваўся за бар'ер чалавек у чорным.

— Было! — гэта крычаў, захлынаўся слязьмі Лецечка. Ён усё ўспомніў, адкуль ён ёсць і пайшоў.

— Мама, ратуй мяне... Ратуй мяне, мама,— крычаў ён на ўсю залу, як крычаў на ўсю зямлю ў тым далёкім сорак трэцім, як крычалі тысячы і тысячы яго равеснікаў.

## XI

— Мама, ратуй мяне! — пяці-шасці-сямі год хлопчык, падпяразаны вяровачкай, у матчынай зялёнай кофце, у зялёнай матчынай хустцы, як недаспелая ігруша ці то яблык, вісіць на матчынай шыі. Ён абхапіў маці рукамі за шыю, уткнуўшыся ў шыю тварам, і плакаў ёй у шыю, і крычаў у шыю, паліваў, абмываў яе слязьмі. А трое ў чорным з маланкападобнымі літаркамі на каўнярах, са скрыжаванымі косткамі і чэрапам на пілотках: не падыходзь, смяртэльна! — трэслі яго маці, як ігрушу. Двое хілілі

яе да зямлі, заломвалі ёй рукі, а трэці рваў, цягнуў на сябе хлопчыка, ірваў, выкручваў, як выкручваюць з голля, узяўшы за бакі, яблык.

Гэтыя зялёныя і шэрыя яблыкі, што раптам набылі голас, што заходзіліся ад крыку, ірвалі не толькі трое. У абгароджаным калючым дротам жывым людскім садзе была цэлая плойма, зграя зборшчыкаў у чорным, як лісты, ляцелі на пашарэлую восеньскую зямлю хусткі, світкі і кофты. Стогн, крык і енк стаялі над зямлёй, што нарадзіла ўсё гэта. Як падсечаныя дрэвы, падалі і курчыліся на зямлі ўжо няздольныя на голас, на крык і лямант жанчыны, ірвалі на сабе валасы, забівалі рот пяском. Ля калючага дроту, на свабодзе, уціснуўшыся ў зямлю гумавымі лапамі, што хіжыя звяры, якіх прыхапілі знянацку спалохам, стылі тупарылыя зверападобныя машыны. Машыны ўжо даўно былі падрыхтаваныя да скачка, да імклівага бегу далей, далей адсюль, ужо даўно гуркацелі іх жалезныя сэрцы-матopы, але толькі дрыжыкі, ад якіх калаціліся капоты, выдавалі працу гэтых сэрцаў-матораў. Машыны аглухлі ад стогнаў і ляманту, здранцвелі ад усяго, што тут адбывалася. Страцілі голас і зборшчыкі ў чорным, асатанелі, павар'яцелі ад нечалавечай працы. Нема мацюкаліся, з нечалавечай шчырасцю, руплівасцю і дбайнасцю рабілі, што ім было даручана — ірвалі целы, кужаль і сукно, жывое і мёртвае.

— Мама, ратуй мяне, ратуй мяне, мама...

Не было паратунку. Скаланалася і дрыжала ўзятая ў калючы дрот зямля, скаланалася і дрыжала здрапежаная салдацкімі ботамі зямля. Не было паратунку ў гэты дзень і зямлі. Усё, на што была яна здольная — гэта адарваць ад сябе, вырачыся, выгарадзіць калючым дротам той маленькі кавалачак-калідорчык сваёй скалатушанай плоці і заплюшчыць вочы, закрыць вушы на тое, што там адбывалася, не падпускаць да яго ні жывога, ні мёртвага. І птушкі абляталі тое месца, мурашкі і казяўкі апаўзалі яго, трава і тая збегла адтуль прэч. Сонца саромелася зірнуць на зямлю. Яно таксама заплюшчыла вочы, закрыла вушы, каб не параніць сябе памяццю, успамінам,

калі ўсё ўжо скончыцца, каб не несці на сваіх промнях іншым людзям і іншым народам страх і жудасць таго, што тут адбылося.

Хлопчыка адарвалі ад маці і пацягнулі на руках па паветры, нібыта баяліся, што ён папаўзе чарвяком у зямлю, і ён выгінаўся, віўся, выкручваўся чарвяком у дужых руках мужчын, слізгацеў у руках, нібыта стаў раптам голым, слізгацела за ім, коўзалася, як пупавіна, скрабла, драпала зямлю вяровачка. Яго падхапілі за гэтую вяровачку-пупавіну, узнялі і кінулі ў кузаў машыны, і машына, атрымаўшы гэтае дзіцячае цела, якое глуха дзвяньгнула ў яе нутры, ірванулася з месца і памчала...

«Кіндэрхайм, кіндэрхайм» — восеньскай мухай б'ецца цяпер у галаве ў падлетка чужое, страшнае слова. Ён ведае, ён успомніў, што яно азначае: «дзіцячы дом, дзетдом». Быў дзетдом у немцаў... І зноў перад ім ажывае, зіхатліва паблісквае нікелем і шклом медыцынскі шпрыц, зноў стаяць уваччу мужчынскія вялікія дужыя рукі, ад якіх пахне лекамі і чыстым ручніком. Замест пальцаў на гэтых руках пяць чорных змяюк. Змяюкі выгінаюцца, нацэльваюць на яго цела вялізную змяю-шпрыц. Шпрыц-змяя гоніцца за ім, лучыць джалам у яго сіняе цела. І туман. І з туману два колеры: сіні і чырвоны.

Свет пафарбаваны ў два колеры: сіні і чырвоны. Ёсць яшчэ трэці ў ім колер, колер туману, бела-малочны. Але гэта не колер жыцця, гэта правал, гэта бездань, у якую ён трапіў і якая паглынула яго, пачала жэрці яго з той хвіліны, як ён стукнуўся аб кузаў машыны. Дзень патух, забяліўся малаком, зацерусіўся імжой, яго зжэр гэты малочны колер. Малочная шэрань туману наплыла, агарнула яго, зжэрла яго рукі, ногі, цела. Захаваліся толькі вочы ды тое, што жывіла іх, малюпасенькая частка таго неадчувальнага, непрыкметнага, што не ўспрымаецца і на дотык, але неўміручага, вечнага нешта, захаваліся вочы і нешта, каб бачыць гэтае малочнае, што наплывае на яго клейка, цягуча і няўхільна.

Калі шэрань, забеленая малаком, разыходзілася, усё навокал запаўнялася сінім і чырвоным кіндэрхаймам.

Кіндэрхайм для яго быў не словам, не гукам, а таксама колерам — чырвоным і сінім. Гэтыя колеры зліліся, і немагчыма цяпер успомніць, які з'явіўся першым, які браў верх, яны нібыта ўзнікалі і вынікалі адзін з аднаго, выцялі адзін з аднаго. Але напачатку, здаецца, быў верх сіняга. Сіні быў дзень, сіняя была сцежка, па якой яго разам з іншымі — таксама сіняга адцення — дзецьмі вялі да сіняга двухпавярховага дома. Адначасова штосьці быццам было і чырвонае. Чырвонымі жужальнымі шарыкамі перакочвалася пад яго нагамі сцежка, па якой ён ішоў да двухпавярховага кіндэрхайма. І ў тым кіндэрхайме было штосьці чырвонае. Шчыліна ў сцяне была чырвоная, шырокая, хоць далонь прасоўвай, а мо і дзверы былі чырвоныя. Каля дзвярэй была абвалена, здаецца, тынкоўка, і ў вочы зазіралі чырвоныя цагліны.

Гэта ўсё звонку, на падыходзе да кіндэрхайма. У самім жа кіндэрхайме, тут выразна памятаецца, уладарыў сіні колер. Ён ляжаў і на цэгле, і на падлозе, і на тварах тых, хто жыў у ім. А чырвоны прыйшоў потым, потым урэзаўся ў вочы, заслаў сабою ўсё.

Хлопчык пяці-шасці-сямі год плыў па бела-малочным тумане. І паступова выплываў з яго. Выплывалі спачатку ногі, а потым рукі, адна, другая, а потым ён прыкмеціў, што вакол яго ёсць людзі, такога ж, як ён, узросту і трохі большыя, хлопчыкі, дзяўчынкі. Хлопчык не ўзрадаваўся ім. Усе яны былі жудасна ссінелыя. І ўсе чагосьці чакалі, пазіралі на дзверы, іх выклікалі па адным за гэтыя дзверы, і адтуль чуваць былі ўвесь час стогны і крыкі. І хлопчык чакаў сваёй чаргі, назапашваў у сабе стогн і крык. І надышла яго чарга. Расчыніліся і зачыніліся за ім дзверы. Але ён не закрычаў. Крык засеў, застыў, прымёрз у яго горле. Тое, што ён убачыў, на белым-белым стале, было жахлівей за жах. На засланым прасцінай стале ў шкляных палачках чырвона паблісквала жывая кроў.

І адскочыў сіні колер, усё надоўга афарбавалася, набрыняла, налілося крывёй. І з гэтага крывавага чырвонага выплылі пальцы са змяёй-шпрыцам і паказалі яму на стол. Ён залез пад стол, яго выцягнулі адтуль за

нагу. Ён укусіў кагосьці ці штосьці, яго ўдарылі па твары. Болю ад гэтага ўдару ён не адчуў. Наогул біць яго цяпер было дарэмнай справай. Цела яго як здзеравянела, і ад удару толькі знямела ўздуліся губы. Ён адчуў на губах прысмак дрэва, нібыта грыз гэтае дрэва і застраміў губы. Яго кінулі на стол. І зноў трое ўзяліся выкручваць рукі і ногі. Прыкруцілі рукі і ногі да стала. І тут ён закрычаў, але не горлам, а прыкручанымі да стала рукамі і нагамі, якія ўсё бачылі, усё разумелі, але не маглі абараніць яго. Бачылі чырвоныя шкляныя трубкі, напоўненыя крывёй, якія пераклалі ўжо на другі стол, бачылі іголку-джала шпрыца, што лучыла ў яго. Вочы разумелі, што шпрыц ідзе да яго па кроў. Шпрыц, аж прагне, дамагаецца яго, каб узяць яго жывую кроў. Узяць усю да кроплі. Ён застанецца без крыві. І яго, як мокрую анучу, выкінуць на сметнік. Увесь зямны жах засяродзіўся для яго на чорнай, коса зрэзанай іголцы шпрыца. Увесь зямны боль глядзеў на яго, цікаваў з гэтай дзірачкі. Джала шпрыца дагнала яго і ўрэзалася, прысмакталася да яго рукі. І ён зноў паваліўся, паляцеў у бездань, у бела-малочны туман, што смактаў з яго сокі. Выкручанай анучай ляжаў ён на чымсьці жорсткім і шурпатым, мо нават ён быў ужо і мёртвы, валяўся на сметніку. Але гэта яго не палохала. Чаго баяцца, калі ў табе няма болей крыві, калі змяя смактала з твайго цела доўга, пакуль, як тая перасычаная, апітая п'яўка, сама не адвалілася, не папаўзла ад твайго цела, губляючы па дарозе чырвоныя кроплі.

Але кроў, здаецца, у ім яшчэ заставалася. Яе смакталі і смакталі, цягнулі гізунты. Нават дзіва брала, колькі ў яго маленькім целе гарачай чырвонай крыві, ёю можна было б затапіць, заліць увесь свет, ёю можна было захлынуцца ўсяму свету. Але шпрыц упраўляўся, не захлынаўся. І ён больш ужо не шкадаваў сваёй крыві, хаця і па-ранейшаму сіне дрыжаў, калі чакаў разам з іншымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі сваёй чаргі. Дрыжаў, пакуль шпрыц лучыў у яго цела, але варта было таму прадзяўбці яго цела, як жах сыходзіў з яго, сплываў разам з крывёю. І разам з крывёю сплывала, пакідала яго тая невялічкая памяць, што жыла

ў ім, пакідала, выцякала па кроплі і нешта, якое жывіла вочы. Ён ператвараўся ў нішто. У нішто, якое абыякава, пластом, бервяном ляжала ці то на палацях, ці то на нарах. Калі і было ў ім што, то гэта адзінае — кроў. Але і яна была ўжо не яго, не належала яму, як не належыць карове малако. Ён ужо нават сачыў, як яна пеніста поўніць шпрыц, з нецярпеннем чакаў, калі будзе высмактана апошняя кропля — і ад яго адчэпяцца, не будуць больш турбаваць яго. Ён ужо не быў чалавекам, у ім ужо не было ні памяці, ні прытомнасці.

І вось гэтая памяць праз шмат гадоў, праз небыццё абудзілася ў ім зноў. І жах, і страх, якія тады так і не прарваўся крыкам, які ён, Лецечка, сам нічога не ведаючы аб гэтым, насіў у сабе ўсе гэтыя гады, выбухнуў з яго. І хаця цяпер яму ўжо ніхто і нішто не пагражала, ён зразумеў, выразна адчуў, што не перажыве гэтага страху, жаху і крыку. І стала балюча, балюча да знямення, да знямення шчымліва сціснулася сэрца. Жыць, ён хацеў жыць, ён не хацеў туды, не хацеў ні вяртання ў мінулае, ні знікнення ў небыццё. Жыць, жыць, жыць кожнай кропляй гарачай чырвонай крыві. Жыць, жыць за кожную высмактаную ў яго гарачую чырвоную кроплю крыві. Жыць... Страх, жах і крык з пенай, як калісьці кроў, ірвуцца з яго, ірвуцца абуджанай памяццю. Ён не мае сілы ні спыніць, ні забыць нічога. Ён ведае, што не здолее больш жыць на зямлі з гэтай сваёй памяццю. Беспамятным быў бы, а з памяццю — не... Кліча, кліча яго зямля, праўду гаварыў Захар'я. Як зямля трывала, насіла яго да гэтага часу? Як зямлі не сорамна трымаць яго на сабе? Ён таксама бомба, якая засталася ад вайны, не выбухнула, не грымнула. І цяпер вось-вось ён павінен выбухнуць, грымнуць. Няхай жа яму нішто не замінае, нішто не перашкаджае выбухнуць. Прэч ад людзей, прэч — у поле, у лес, каб ненаўмысна не закрануць, не параніць каго-небудзь. Нельга яму болей жыць, нельга жыць з яго памяццю, з тым, што ён ведае аб людзях, таму што ў кожным чалавеку ён будзе бачыць тую чорную малпу, у кожнай чалавечай руцэ, якая працягнута да яго нават з мэтай абараніць яго, ён будзе

бачыць змяю, у медыцынскім шпрыцы, які цяпер ратуе яго, лье ў яго жыццё, яму кожны раз здаецца джала змяі. Сіні і чырвоны фашысцкі кіндэрхайм забіў яго. І Слабадзянскі дзіцячы дом не для яго болей. Ён болей не будзе чакаць усходу сонца, прыспешваць заўтра. Яго заўтра ўжо надышло, апошняе і такое, за якім няма ўжо страху памерці. Мужчыны не плачуць...

А слёзы ішлі...

## XII

І памёр Колька Лецечка наступным ранкам. На сваім любімым ганку. На ўсходзе сонца. Калі дзетдом яшчэ спаў. Калі спаў яшчэ горад. Памёр лёгка і нечакана, як паміраюць дзеці. Рыхтаваўся, чакаў, а ўсё адбылося за адну хвіліну. Хвіліна гэтая, праўда, была раскідана імгненнямі ў апошніх гадзінах, якія яму былі дараваны ў той дзень, раскідана па секундах. І, жывучы свае апошнія гадзіны, ён секундамі ў іх адчуваў, што памірае, чуў нейкі голас-покліч, якому нельга, немагчыма было не падпарадкавацца і журботна было падпарадкоўвацца. Але самае галоўнае імгненне, першыя самыя галоўныя секунды ён прапусціў.

Прапусціў таму, што час раптам пайшоў для яго як бы наадварот. Ён як бы не паміраў, а нараджаўся, нараджаўся нанава, для новага шчаслівага жыцця, на бязгрэшнай зямлі, якая не ведала ні войнаў, ні хвароб, пазбаўляўся свайго былога цела, якое яму ўжо надакучыла, займеў новае цела, зноўку вучыўся хадзіць. На гэтай вучобе ён і злавіў сябе, выявіў, што нешта незразумелае, няладнае творыцца з ім. То ён быў у сваім сне-тумане, з якім ужо звыкся, на які не звяртаў увагі, не памятаў, куды, навошта і адкуль ідзе, не заўважаў ні дарогі, ні святла дня. Але нечакана ўсё як бы азарылася ў ім і перад ім. Ён убачыў свае ногі, убачыў новым, нязвыклым позіркам, не сваім, сённяшнім, які ўжо не здольны здзіўляцца простым рэчам, а даўнім-даўнім, колішнім, поўным недаўмення і пытання да самага звычайнага: як

гэта чалавек ходзіць, як гэтыя два крывыя сучкі нясуць яго цела? І яму, як гэта бывае ў дзяцінстве, закарцела, закарцела паспрабаваць языком, зубам, які прарэзаўся толькі ўчора, гэтыя новыя, невядомыя яму і такія дужыя ногі. Жыць бы ды жыць з такімі нагамі, бегаць ды бегаць. Не было больш ні ў іх, ні на іх ні вады, ні пухліны. Прасторна і лёгка раптам зрабілася яго нагам у чаравіках, і самі яны раптам папрасіліся ў дарогу, і каб не проста крочыць, а бягом па гэтай дарозе. І ён памкнуўся ўжо бегчы, але хутка спыніўся, ўражаны зноў тым, каля чаго столькі гадоў хадзіў, што абмінаў не прыкмячаючы. Лецечка ўбачыў дзень, дакладней, вечар, убачыў святло: вячэрняе сонца чырванню ахапіла зямлю, сонца свяціла і яму, свяціла для яго, нібыта было яно і ў ім. І было незразумела, як гэта: сонца свеціць святлом, а ён вачыма бачыць і сонца і святло, бачыць, як цвітуць кветкі каля акна ізалятара, цень ад іх падае на акно, і здаецца, кветкі цвітуць і ў акне, у шкле.

Не паспеў Лецечка звыкнуцца з тым, што зноў займеў здаровыя ногі, не паспеў звыкнуцца са святлом і сонцам, з кветкамі на зямлі і ў шкле, як займеў новыя і дужыя рукі. Прыліла да рук кроў, набрынялі яны дужасцю і засвярбелі, заспружынілі, засумавалі па рабоце, па сякеры, кавальскім малатку. Лецечка адчуваў: у яго цяпер хапіла б і духу махаць сякерай, дзьмуць кавальскія мяхі. Абнавілася ў яго і сэрца, не стала там больш ні хрыпаў, ні болю. Як бы паветра вакол яго стала больш, і імклівай хваляй ахапіла, агарнула яго радасць. Але... была яна вельмі кароткая.

Няма на зямлі большай самоты, як самота, што апаноўвае, бярэ за сэрца чалавека, калі ён прыходзіць да адчування, што ўсе яго мары ўжо здзейсніліся, самота і туга праз радасць... Ужо ў наступнае імгненне Лецечка затурбаваўся, зажурыўся: чаго гэта яму так хораша? Вертануўся на месцы, прабег вокам па летнім садзе, што медна палаў восеньскай лістотай, спатыкнуўся вокам аб чырвань яблыкаў, што выглядалі з гэтай лістоты, яблыкаў, якія здаваліся пад вечаровым сонцам пераспелымі, а на самай справе былі зусім-зусім зялёныя. Нырнуў вокам у

падманную, зноў жа пры вячэрнім сонцы, глыб сажалкі і нібыта стукнуўся, урэзаўся галавою ў пясок. Зашчымела, зашчымела, застагнала сэрца, але не тым, ранейшым, шчымлівым пякучым і затухаючым стогнам, а безнадзейна, не ад болю, а ад тугі, якая агарнула яго і ўжо не праходзіла. Ад развітальнай, разлучальнай тугі, ад таго падману, якому ён ледзь-ледзь не паверыў: хітравалі ці то зямля з яго целам, ці то ён і яго цела з зямлёй, ішлі на ўзаемны, супольны падман і бязлітасную змову. Зямля закалыхвала яго, дарыла яму на гадзіну-другую здароўе і дужасць, каб заглушыць, прыціснуць у ім страх і ўзяць яго назаўсёды, разамлелага, кволенькага, цёпленькага, абнадзеенага жыццём, каб ён заснуў сёння шчаслівы і радасны, заснуў і не прачнуўся, таму такая добрая і літасцівая да яго зямля ў апошні раз. А мо і наадварот, мо гэта цела прадчувае свой апошні час, сцяўшыся ад страху, заклікае жыццё, глушыць боль, угаворвае зямлю, просіць паверыць, што яно дужае, што яму нічога не трэба, што яму ўсяго хапае, даволі з яго і святла і паветра. Журыцца цела, просіць жыцця. Але і цела і зямля ведаюць, што будзе далей: зямля сваім не папусціцца, нікуды не дзенецца ад зямлі цела.

Ведае аб гэтым і Лецечка. Ведае і не баіцца. Чаго баяцца? Баяцца трэба таго, таго трэба сцерагчыся, аб чым не згадваеш, чаго не ведаеш. Неспазнанае страшна, неспазнанае палохае. А ён ужо столькі разоў паміраў за свае семнаццаць гадоў. Пальцаў на руках і нагах не хопіць, каб палічыць, колькі разоў ён паміраў ужо. Яго забівалі ў Трасцянцы пад Мінскам, яго жыўцом палілі ў сялянскай хаце ў вёсцы Сучкі, яго стралялі ў безыменнай вёсцы, яго закапвалі жыўцом у зямлю, яго забівалі, нішчылі па кроплі ў нямецкім кіндэрхайме. Ён паміраў на кожным кроку на безыменным, усеяным трупамі вясковым шляху. Ён, аблеплены мухамі, цэлую вечнасць паміраў на палацях у чорнай хаце. Ён ужо стаміўся паміраць. Трэба ж калісьці і па-сапраўднаму памерці. Прабіў час. Ён дачакаўся яго, прыспеў судны дзень, але няхай не думаюць тыя, хто забіваў яго, што яны памруць лёгкай смерцю. Ён пойдзе

за імі і ў зямлю. Будзе суд і там. Градзе суд. Агні з чалавечых цел не згаслі і пад зямлёй. Гарэць, гарэць нябачныя. Не для ўсіх будуюцца новыя дамы, не для ўсіх сцелецца асфальт. Кагосьці па гэтым асфальце павязуць наперад нагамі, з новага жыцця, якое ўжо добра бярэцца на лад, павязуць хуценька, пужліва, каб ні смуроду, ні скрухі... А ён рушыць у свой апошні шлях па новай, што не трасе, не падкідвае, дарозе нетаропка. Заўтра яму ўжо некуды будзе спяшацца. А покуль трэба прыспешваць сябе. Трэба прыспешваць, покуль дужыя ногі і рукі, покуль дужае сэрца і ясная галава. Покуль ён адчувае, як, адурманьваючы, пахнуць на вечар кветкі. Апошні раз адчувае. Гэта для яго яны дбаюць, для яго так квітнеюць. Заўтра ў яго будзе шмат кветак. Ён жа так любіць кветкі, толькі ў дзетдоме гэтага нельга выказваць. Ён любіць бабу Зосю. Але ў гэтым ён таксама нікому не адкрыецца, нават самой Зосі. Ён любіць свой пакой — ізалятар. І пакой сёння даведаецца аб гэтым. Даведаецца... Ён любіць Козела і Стася, і яны таксама не сёння, дык заўтра даведаюцца аб гэтым... Зараз даведаюцца.

І самота, туга агарнулі сэрца, нібыта ён у нечым вельмі і вельмі правініўся, вінаваты перад усім белым светам. Перад ізалятарам, Зосяй, Козелам, перад усімі людзьмі і рэчамі. Здрадзіў людзям і рэчам і цяпер уцякае ад людзей, рэчаў. Прыгнятала яго віна і за тое, што яшчэ жывыя, жывыя паліцэйскія, за тое, штó яны натварылі на белым свеце, і за тое, за тое... Ён не мог выказаць за што, яму нечакана прыгадалася сівая жанчына, з якой ён сядзеў побач у зале суда, якая зведала столькі пакут і саромелася глядзець людзям у вочы, нібыта ў тым, што адбылося з ёй, была і яе віна. Вось такую адказнасць і няёмкасць адчуў у сабе раптам і Лецечка, няёмкасць за тое, што выпала яму, за людзей, з якіх выйшаў і ён сам, што дарагім яму людзям будзе непрыемна яго дачаснае знікненне, што наперадзе яго чакала нешта светлае і радаснае, а цяпер гэтае светлае і радаснае ўжо не адбудзецца, не адбудзецца. Шмат чаго не адбудзецца з таго, што наканавана яму, і нічога ён не зробіць з таго, што павінен зрабіць, што павінен

пакінуць пасля сябе на зямлі кожны чалавек. І ён вінаваціўся ў тую хвіліну перад усім белым светам за не зробленае ім, не здзейсненае, за тое, з чым застаецца чалавек сам-насам у свой апошні судны дзень і судны час. Ён жа застаўся ні з чым. Зашчымела ад сораму сэрца. І Лецечка заспяшаўся, заспяшаўся, каб што-небудзь ды паспець зрабіць, каб хоць чым-небудзь ды аддзякаваць беламу свету за тое, што ён бачыў сонца і неба, зямлю, за тое, што ён хоць і не доўга, цяжка, але жыў на зямлі. І любіў, любіў і любіць...

Лецечка ціхенька адчыніў дзверы ізалятара і так ціхенька, асцярожна зачыніў іх, што Козел са Стасем толькі зірнулі адзін на аднаго і паціснулі плячыма. А Лецечка подбегам кінуўся ад дзвярэй да свайго ложка.

— Зараз, зараз, хлопцы...— Лецечка пацягнуў з-пад ложка драўляны чамадан, які калісь атрымаў у спадчыну ад Халявы, а той — у спадчыну яшчэ ад кагосьці з дзетдомаўцаў. Быў ён не пафарбаваны, неахайна пагабляваны, але захаваў у сябе цэлую эпоху дзетдомаўскага няскладнага жыцця. Лецечка склаў на чамадан рукі, схіліўся над ім, уцягнуў у сябе яго пах, даўно зжытых клапоў; пах яблыкаў, якія калісь захоўваліся ў ім, гэтым чамадане, а цяпер ужо даўно з'едзены; пах цукерак, дзетдомаўскіх паек хлеба, пах яго, Лецечкавага, жыцця — лекаў, дэзінфекцый, жалеза і гумы; дыхнуў гэтымі пахамі, соладка прыжмурыўся і рэзка, рыўком, адкінуў вечка. Высыпаў усё, што было ў чамадане, на стол. А было там — магніт, шпуля меднага тонкага дроту, стужка гумы ад процівагаза, павелічальнае шкло, зоска з пушыстага хвосціка труса з свінцовай пломбай пасярэдзіне, зубны парашок, шчоткі, баначка чорнай ваксы, кароценькая металічная трубка для самапала і загагулісты корань — нарыхтоўка для таго ж самапала, хромавы язычок ад чаравіка — для рагаткі, кніжка «Тры мушкецёры» Дзюма і шкатулка-самаробка: шэсць знітаваных ружовымі ніткамі яркіх паштовак з відамі Масквы.

— Вось,— сказаў Колька,— вось колькі ў мяне дабра назапашана.

Выхапіў з агульнай кучы магніт і шпулю дроту, схаваў рукі за спіну. І шпуля і магніт пяклі яму рукі, трэба было неадкладна пазбаўляцца ад іх. Неадкладна пазбаўляцца ад усіх гэтых рэчаў. Яны звязвалі яго, збівалі, блыталі думкі. Жаль, туга сыходзілі ад іх. Жаль і туга агортвалі Лецечку. Лецечка прыгадаў, як яму трапілі шпуля і магніт, як ён выдзіраў іх з сапсаванага дынаміка. І як баязліва з месяц хадзіў, чакаў пакарання. Але яго так і не пакаралі. Ніхто так і не даведаўся, што гэта ён выдзер шпулю і магніт з дынаміка. І развітваўся з гэтымі рэчамі амаль што радасна.

— Каму ў якой руцэ? — весела выгукнуў ён.

— Маё ў левай,— сказаў Козел.

— Маё ў правай,— сказаў Стась.

І Колька аддаў Козелу магніт, а Стасю шпулю. Аддаў і ўсміхнуўся таму, як мудра, прадбачліва падзяліў усё выпадак: Козел даўно ўжо шукае дрот для рагаткі, а выпала яму бескарысная рэч — магніт. Лецечка падміргнуў Стасю, вырашыў і надалей працягваць дзяльбу, як падказаў выпадак. Але Козел быў кемлівы, ён хацеў атрымаць сваё адразу.

— Мяняем не гледзячы? — падышоў ён да Стася. Мо яны тут бы і памяняліся, але Лецечка перашкодзіў яму.

— Стоп, стоп, стоп! — закрычаў ён.— Назад рукі не поўзаюць... Вось табе, Васька, яшчэ...— і адно за адным пачаў кідаць у яго далоні трубку для самапала, ваксу, ніткі, іголкі, гузікі. І зусім ужо дзеля смеху — каробачку зубнога парашку і зубную шчотку. Парашку гэтага было ў дзетдоме — хоць платы ім бялі: кожныя два тыдні выдавалі па наборы — шчотка, каробачка парашку. І захоўваў Лецечка парашок проста так, каб чамадан не гуляў. Козела аж скаланула ад гэтага пазачарговага набору. Зусім нават проста мог ён залімоніць парашок у Лецечку. Ды Лецечка паспеў улагодзіць яго: зверху, на каробачку зубнога парашку, паклаў зоску.

І ўздрыгнула Лецечкава рука, калі ён клаў гэтую зоску, хоць і не па ёй была яго туга. Балюча зрабілася Лецечку, што не спатрэбіцца болей яму зубны парашок. Прыйдзе дзень, і ўсе, Козел, Стась, атрымаюць па новай зубной шчотцы, па каробачцы зубнога парашку, а ён ужо не атрымае. Мо нават, як заведзена, паганяюць, як у футбол, па пакоі каробачку з зубным парашком, перамажуцца, выбеляцца, як млынары, і будзе несці ад іх на вярсту мятай. А зоску яму не шкада, хаця і прыдбаў ён яе зусім нядаўна, і марыў аб ёй даўно, як марыў да гэтага дня Козел, як марыць кожны дзетдомаўскі і гарадскі хлопец, што ходзіць ужо ў школу, калі ён, праўда, не бязногі, не калека, мае спрыт біць нагой па пушыстай шкурцы, да якой прыладжаны кавалачак свінцу. Каштавала гэтая зоска Лецечку пяць поўных вячэр, ды звыш таго аддаў пяць пернікаў, што давалі на снеданне, за свінец. Здаецца, як сабаку пад хвост выкінуў пернікі і вячэры. Не спатрэбілася яму зоска. Паклаў яе Лецечка ў чамадан, і як не было ўсё роўна яе, але ні хвіліны, ні вось столькі не шкадаваў ні аб марна страчаных перніках, ні аб вячэрах. Зоска была для кожнага дзетдомаўца сапраўдным скарбам. За гэтым скарбам палявалі і настаўнікі і выхавацелі. І апошнія заўсёды ўдала, заўсёды паспяхова, як чорт іх наводзіў, адбіралі, выкідвалі на сметнікі, палілі ў грубках. А зоскі зноў з'яўляліся. І было для кожнага дзетдомаўца справай гонару мець сваю ўласную зоску. І свая ўласная, заўсёды пад рукой, была ў Лецечкі, ляжала ў чамадане. Чакаў ён часу, чакаў, калі знікнуць з дзетдома ўсе да адзінай зоскі, а ў яго прыхаваецца, ён возьме яе з чамадана... Не, не дачакаўся. Няхай цяпер ляжыць у чамаданс Козела. Няхай заўсёды жыве ў дзетдоме зоска. А прыйдзе час, настане час развітвацца Козелу з дзетдомам ці мо надыдзе і такі час, што адбяруць усе зоскі выхавацелі і забудуць ужо аб ёй, тыя, што цяпер толькі падрастаюць, вось тады і возьме Козел з чамадана яе, перадасць як спадчыну, яго, Лецечкаву, спадчыну, тым, новым, і заскача, заскача, замільгаціць пушыстым хвосцікам зоска, не памрэ памяць аб ім, аб Лецечку. І ўдадуцца, і народзяцца наступныя

пакаленні дзетдомаўцаў дужымі на ногі, будуць набіваць яго, Лецечкавай, зоскай па сто ўдараў, па сто разоў будзе падскокваць угару зоска. Зоска хвацкая, спрытная, ёю можна і больш набіваць, толькі ўменне трэба, і дужыя ногі трэба. Не загіне, не прападзе яна ў Козела.

Стасю Лецечка пакідаў гумку і язычок хромавы ад чаравіка для рагаткі, павелічальнае шкло, трубку для самапала. Непатрэбныя наогул яму, Стасю, рэчы. Але хто загадзя можа сказаць, якія рэчы патрэбныя, якія непатрэбныя, якія з іх больш захоўваюцца, якія з іх больш жывуць... Стась не зробіць рагаткі, Стась не зробіць самапала. Стасю будзе хораша, як было хораша яму, ад аднаго толькі ўсведамлення, што ў яго пад рукой усе матэрыялы, усё начынне, і, калі спатрэбіцца тое, ён у любую хвіліну можа ўзяць і пусціць у справу, ужыць... Але не пусціць, не ўжыве, як не ўжыў сам Лецечка. Радаваўся, што ўсё ў яго, як і ў іншых, усё ёсць. Не горш ён за іншых.

На стале, на белым чыстым абрусе, засталіся толькі «Тры мушкецёры» і самаробная шкатулка. Лецечка кладзе «Трох мушкецёраў» на акно, не можа ён падзяліць кнігу на двух, а каму аддаць перавагу, не ведае, не хоча выбіраць паміж Стасем і Козелам і баіцца абразіць ці то аднаго, ці то другога. Дарагая яму гэтая кніжка, здаецца, калі б можна было ўзяць яе з сабой... А са шкатулкай паспяшаўся ён. Дарэмна ён яе разам з іншымі рэчамі паклаў на стол. Не павінны былі датыкацца да гэтай шкатулкі чужыя вочы. Не павінны. Здабыў яе Лецечка, таксама як і дрот, як і магніт, несумленна. Але, гледзячы на яе, Лецечка адчуваў не сорам, а радасць. Ён нагадаў, як украў гэтую шкатулку ў Лены Лазы з тумбачкі. Зусім нядаўна, і не збаяўся б украсці яшчэ раз, не дзеля якойсьці неабходнасці, а каб адчуць, перажыць яшчэ раз тую ўрачыстую радасць, той салодкі страх, які апанаваў яго ў пакоі ў дзяўчынак, тое адчуванне, што абрынулася на яго, адчуванне дужасці, уласнай годнасці, значнасці, з якімі ён краўся прахалодай калідора да прытоеных у паўзмроку запаветных дзвярэй, тое пачуццё спалоху, з якім ён адчыняў гэтыя дзверы, той рэзкі аглушальны ўдар па

вачах, па ўсім целе святлом і сонцам, які ён атрымаў, калі пераступіў парог пакоя дзяўчынак. Пераступіў і застыў, аглушаны і асleплены іншым пахам, іншым светам і інакшым жыццём. Пах быў дзявоцкі, духмяны і крыху саладкаваты, свет зіхатлівы і бліскучы ад белізны і яркіх фарбаў вышываных сурвэтак і накідак на падушках, жыццё іскрыстае, прамяністае ад дзявоцкіх усмешак, ад іх смеху, што заўсёды прысутнічалі тут, нават тады, калі і саміх гаспадынь не было, калі адсутнічалі гаспадыні. Іх смех жоўта і прамяніста лучыла сонца скрозь вымытыя да зіхатлівага рыпу вокны. Шкло рыпела і ўсміхалася, смяялася ад аднаго толькі дотыку сонечных промняў. Ён пайшоў на пальчыках, баючыся ступіць усёй нагою на маснічыны, пракраўся да Ленінага ложка, расчыніў яе тумбачку. Там, у глыбіні яе, і стаілася гэтая шкатулка з каляровых паштовак, зніітаваных ружовымі ніткамі. Каля шкатулкі ляжалі два пернікі ад снедання. Колька паклаў да іх яшчэ два свае пернікі і ўзяў шкатулку з тумбачкі. Схаваў шкатулку за пазуху, выскачыў на двор праз акно.

Праз акно, хаця бяспечней было выйсці як і заходзіў. Але ён тады не думаў аб небяспецы, усе думкі яго былі аб адным: як мага хутчэй знікнуць адсюль, покуль ніхто не хапіўся, не адабраў шкатулкі. У калідоры, здавалася, яе маглі б адабраць. А на вуліцы ён ужо быў недасягальны.

Усё сваё багацце, што нажываў гадамі, падзяліў Лецечка, раздаў усяго сябе, усё сваё жыццё. Заставалася адна толькі шкатулка, і, гледзячы на яе, радуючыся ёй, ён адначасова гатовы быў і расплакацца, нібыта раздзеты дагала сядзеў цяпер перад Козелам і Стасем. Стол вызваліўся ад рэчаў, і шкатулка, што засталася ў адзіноце, задзірліва ярка калола вочы. Нібыта гэта не шкатулка, а сама Лена Лаза была тут, голая, безабаронная, сядзела перад імі, і сорам браў глядзець на яе, голую, і нельга было адарваць вачэй. І цяжка было прыдумаць, што рабіць з гэтай шкатулкай, яшчэ цяжэй было выканаць тое, што прыдумвалася. Няўтульна і няёмка адчуваў сябе не толькі Лецечка, але і Козел са Стасем. Нібыта яны цікавалі адзін

за адным, і ўсе трое ведалі, што цікуюць, ведалі, цікавалі і пакутавалі ад гэтага. Пакутавалі, нібы ведалі адзін аб адным нешта такое, чаго нельга ведаць. Стасю і Козелу, Лецечка адчуваў гэта, пяклі ўжо рукі рэчы, што ён падарыў, якія ён пакідаў ім. Няўтульна было ў тую хвіліну ў ізалятары, як ніколі. Усе трое маўчалі, але ў гэтай іх зацятасці было выразна чутно, як скуголіць і вые дзесьці ў садзе Асталоп, як дурэюць за сцяной у здаровым крыле корпуса дзетдомаўцы. Усхадзіліся, нібыта задумалі знесці, разбурыць гэтым вечарам увесь корпус ці зламаць сцяну, якая падзяліла іх на хворых і дужых...

— Ах ты гад, гад,— без дай прычыны закрычаў раптам Козел і кінуў на ложак усё, што хвіліну назад з такой радасцю браў ад Лецечкі. І сам паваліўся на ложак, забіўся ў несуцешным горкім плачы.

— Лецечка, Лецечка,— сказаў Стась, прыслухоўваючыся да плачу Козела, да таго, што робіцца за сцяной, да таго, як вые і скуголіць Асталоп за акном. І скаланаючыся раз-пораз: — Не трэба мне нічога, Лецечка. Забяры ўсё назад, табе яшчэ ўсё гэта і самому спатрэбіцца.

— Забірай, забірай і маё,— закрычаў Козел.— Ты што... ты што прыдумаў?..— Козел піхаў у кішэню, за пазуху Лецечку магніт, банку з ваксай, зоску, трубку для самапала, спяшаўся, рэчы падалі на падлогу, ён збіраў іх, раскідваў па пакоі. Тросся ўвесь, нібы яго біла падучка. Грукацеў і шамацеў адзеннем і Стась, адсоўваў ад сябе Лецечкавы падарункі і адсоўваўся ад іх сам, нібыта баяўся заразіцца, падхапіць ад іх нейкую хваробу. І ў яго кемлівых вачах вільгаццю збіраўся, выспяваў спалох. А Лецечку было крыўдна, што Стась і Козел так лёгка, бесклапотна абыходзяцца з тым, што ён запасіў, збіраў усё жыццё.

— Бі, бі...— усхапіўся і падляцеў нечакана да Лецечкі Козел, ускінуў угару падбародак так, што на ім напялася і заблішчала старэча-папяровая скура і сіненька выступілі ўсе жылы і жылкі. Козел ужо занёс руку, павеяла ўжо на Лецечку халадком ад узмаху яго дзіцячага маленькага

кулака. Але ў апошняе імгненне Козел устрымаўся, толькі драпануў па твары вераб'іным, вострым сінім кіпцюрком. А Стась Дзыбаты, той самы Стась Марусевіч, які і муху абмінаў, які і муху не мог пакрыўдзіць, ударыў-такі яго, мазануў па твары далонню, як мокрай анучай, што падлогу мыюць.

— Вось і пабіліся,— сказаў Лецечка, а сам сабе дадаў: «Вось і развіталіся...» — Столькі год разам жылі, а пабіцца не выпадала... Вось і пабіліся. Вось і пабіліся...

І ўсё зноўку нечакана ўспыхнула ў ім і перад ім, азарылася зіхаткім святлом, якое рынула ніадкуль, і загучаў голас-покліч. Лецечка вокамгненна аслеп і аглух ад гэтага покліча і ад гэтага святла. Не вачыма, а ўсім целам ён раптам убачыў і адчуў, як рассунуліся сцены ізалятара, расступілася ноч і заззялі, зазіхацелі ўдалечыні блакітныя запаветныя дзверы, спавітыя плюшчом, вінаградам і хмелем, музыка падхапіла і панесла, панесла яго, нібыта на крылах, панесла да гэтых запаветных дзвярэй, якія ледзь-ледзь прыадчыніліся, з-за якіх цягнулася да яго мноства рук і лілася музыка.

І ўсё гэта як імгненна з'явілася, як імгненна прымроілася, так імгненна і знікла, засталася толькі музыка, прайгравалася ў вушах незнаёмая, ніколі не чутая ім музыка, замілоўвала і расчульвала. Скрозь гукі гэтай музыкі ён чуў цяпер і галасы Козела і Стася, скрозь яе бачыў іх твары. Музыка была ружовая і блакітная. Ружовыя і блакітныя былі галасы і твары Стася і Козела.

— Добранькі які... Добранькі які... Ведаеш, што за такое трэба...— Стась паваліўся на ложак і адвярнуўся тварам да сцяны, зашыўся ў куток, уладкаваўся ў кутку на кукішках і Козел, пазіраў на Лецечку, са злосцю сачыў за ім з кутка. І Лецечка адчуў сваю віну перад Козелам і Стасем. Сапраўды, усё не так, як трэба, ён зрабіў. Па-добраму, па-людску не развітаўся з імі, ні з кім не развітаўся, нават з Захар'ем і з бабай Зосяй. Ён памятаў, да апошняй хвіліны памятаў аб Захар'і і бабе Зосі, але памяць гэтая была зыбкая, размытая, нібыта як не аб жывых

людзях, а аб ценях, якія некалі абкружалі яго, мілых, любых, дарагіх ценях. Адзін з гэтых ценяў, здаецца, быў калісьці яго бацькам, а другі — ці то бабуляй, ці то маці. Ён адыходзіў, аддаляўся ад гэтых ценяў.

Музыка ўжо звала, запрашала яго з ізалятара, зводзіла яго з пакоя, які прапах лекамі... хаця паху лекаў ці якога іншага паху ён ужо не адчуваў, але ведаў пра іх, а музыка вяла яго на прастор, на паветра, дзе рошчынай управа і ўлева расцякалася ўначы дарога, дзе патрэсквала ў прахалодзе ночы прадзьмутая дзённым сонцам трыбуна, дзе шкляна застыла ўначы сажалка і плавае, неспакойна сёння плавае, яго, Лецечкава, рыба. І Лецечка праг хутчэй да лінейкі, да дарогі, да сажалкі, рыбы, праг хутчэй развітацца са сваімі рэчамі. Пазбавіцца ад іх гнёту, каб адсланілася ўсё, каб нічога не замінала. А наяўнасць усіх гэтых рэчаў прыгнятала яго. Ён увесь час памятаў і аб магніце, і аб недаробленым самапале, аб нарыхтоўках для рагаткі, аб зосцы і шкатулцы. Лецечку не давала спакою, што пасля яго, без яго ведама і дазволу хтосьці будзе датыкацца да іх, датыкацца з агідай і жахам. Ён хацеў падарыць, падзяліць іх паміж Козелам і Стасем. Гэта ж зусім іншая справа, калі ён прызначыць іх сваімі жывымі рукамі ў рукі Стася і Козела. На іх жа тады не ўпадзе адбітак яго смерці, не будзе на іх адзнакі смутку яго смерці, якія непазбежна накладушча на іх, не будуць даваць спакою Стасю і Козелу, калі гэтыя рэчы трапяць ім не з яго рук. З яго рук — гэта значыць, у іх будзе жыць толькі памяць аб ім. Добраахвотна — гэта значыць, ён не прыйдзе па свае рэчы адтуль, нікога не напалохае. Сам жа аддаў, не пашкадаваў. Хацеў як лепей, а атрымалася наадварот. Хацеў сысці на ўсю гэтую ноч з ізалятара, каб не напалохаць Стася з Козелам, а, як выяўляецца, ужо напалохаў. Трэба заставацца да канца ў ізалятары, каб не напалохаць іх яшчэ болей. І нельга заставацца, таму што стане ізалятар для дзетдома, для Стася з Козелам пракляццем. Вечарамі будуць яны спуджана азірацца па баках, будуць баяцца зірнуць у куток, таму што ноччу ўсюды будзе ён

блюзніцца ім. І што рабіць, і што пачаць? Апаганіць ён сённяшняй ноччу ізалятар. А ізалятар жа дарагі яму, хоць ён і не вельмі любіў яго. Гэта ж яго селішча, дом яго родны, у ім пражыў болей, чым паўжыцця, і як гэта пагадзіцца з тым, каб застацца тут да канца, як угаварыць сябе, як вытлумачыць усё Козелу са Стасем, куды іх ссяліць, хаця б на адну гэтую ноч? Дзе знайсці самому прытулак на гэтую апошнюю ноч? А ноч, ноч ужо на дварэ. Ужо ўціхамірыліся, угаманіліся за сцяной хлопцы, ужо на ўсю моц б'юць, спяваюць ці то за акном, ці то пад падлогаю цвыркуны. А Стась з Козелам усё яшчэ не спяць, і ўсё меней часу застаецца ў яго. А мо так і не скончыцца ноч, так і застануцца назаўсёды на небе зоркі і месяц і вечна будуць біць у цемрадзі цвыркуны? Не канчалася б ніколі ноч, ноч, змрок, цемрадзь патрэбны цяпер Лецечку для апошняй справы, самай галоўнай, перад тым як знікнуць, справы.

Лецечка марудна ўзнімаецца з ложка, бярэ апошняе, што належыць яму жывому. Шкатулку. Хавае яе за пазуху і, марудна перасоўваючы ногі, накіроўваецца да дзвярэй.

— Куды? Куды? — ускінуліся Стась з Козелам. Дурні, яны дамовіліся пільнаваць яго. Яны думаюць, што здольныя яго ўпільнаваць, што ўпільнуюць яго. Трэба ж такое прыдумаць...

— Я зараз, я зараз вярнуся,— сказаў Лецечка.

Але яны не паверылі яму, крадучыся, пайшлі за ім, спадзяваліся дапамагчы, калі што, а толькі перашкаджалі. У Лецечкі ўжо не хапала сілы парваць паштоўкі, з якіх была зроблена шкатулка, не было сілы ісці кудысьці далёка хаваць яе. Адчуваючы на сабе пагляд Козела і Стася, ён запхнуў шкатулку ў кветкі, верачы, што адтуль яе ніхто не выцягне, што там яна і згіне, адчуў рукою крамяную свежасць расы. Прыхапіў яе далонню разам з пялёсткамі, пылком, начнымі казяўкамі, абмыў расой твар: усё не так будзе пахнуць потым. Усё — не так...

Козел са Стасем ужо былі ў пакоі. Насупраць яго ложка дзвюма акуратнымі горкамі ляжалі магніт, вакса,

зоска, трубка для самапала і шпуля дроту, стужка гумы ад процівагаза, а пасярэдзіне гэтых дзвюх горак — шашачная дошка, каробка з шашкамі і скураная футбольная пакрышка. Лецечка толькі зірнуў на гэтыя шчодрыя дары, хітнуў галавой, ужо далёкі ад усяго гэтага, адрачоны ад усяго зямнога. Але яшчэ жывы, жывы, і пакутаваў яшчэ, таму што нельга яму застацца ў спакоі і ў гэтыя апошнія хвіліны. Трэба рабіць выгляд, што нічога-нічога гэтай ноччу з ім не здарыцца. Трэба, як і кожны дзень, разбіраць пасцель і класціся спаць, захутвацца ў коўдру. Ён разабраў, лёг, захутаўся.

— Лецечка, Лецечка! — апошні раз пачуў ён галасы Стася і Козела.

— Добрай ночы, хлопцы,— першы і апошні раз сказаў ён ім гэтыя добрыя словы. І паверыў сам, што ноч у яго сапраўды будзе добрая, ён зробіць усё, каб яна была добрай. У сваю апошнюю ноч ён не засне. І першы раз у ім не было спалоху перад ноччу, таго штодзённага спалоху, які мучыў яго кожны раз з надыходам вечара, боязі, што вось ён засне і не прачнецца. Хаця і сёння жыў у ім страх, але іншы: не забыць, не прадрамаць, не праспаць сваю ўласную смерць, тую хвіліну, калі ён даткнецца парога іншага жыцця, новага быцця ці небыцця. Не хацеў ён смерці ў ізалятары, смерці ў сне. Думалася, верылася, што ў апошняе імгненне адкрыецца яму штосьці вышэйшае, адным вокам, але зазірне ён, паспее ахапіць тое, што не паспеў спазнаць, разгледзець пры жыцці. Адкрыецца яму вялікая тайна. Яна ёсць, ёсць і адкрываецца рана ці позна чалавеку. Ён зразумее, навошта і дзеля чаго прыходзіў у гэты свет. Мо пабачыць свет будучы, свой родны дзетдом, якім ён стане ў будучым, Стася, Козела, якімі яны стануць у будучым, і мо пабачыць яшчэ і сябе ў будучым. Няўжо ўсё на гэтым, капцы, кранты, няўжо ўсё на гэтым і канчаецца? Не мае быць такога. Ёсць, ёсць жа вышэйшы розум і вышэйшы сэнс...

Лецечка такі прыдрамаў, на хвіліну прыжмурыў вочы, але тут чыясьці рука дакранулася да яго пляча і хтосьці

пяшчотна ў самае вуха: пара, пара. Ён усхапіўся з ложка. Змарыліся, спалі Козел са Стасем. У акно ўжо шэранню і чырванню зазіраў золак. Лецечка ўжо не бачыў і не адчуваў гэтага світання. У вочы яму ўжо свяціла іншае сонца, ён ужо задыхаўся ад яго зыркага, асляпляльнага святла, не хапала паветра. Лецечка, як птушка, што вось-вось падымецца, адарвецца ад зямлі, выпрастаўся, выцягнуўся ўсім целам у струну, замахаў рукамі, ловячы паветра. Але гэтага паветра не было ўжо ў ізалятары. У Лецечкі яшчэ хапіла сілы непаслухмянымі рукамі адчыніць дзверы і выйсці на ганак і там, на ганку, убачыць, як плавіцца, гарыць і палае неба, рушыцца сонца, надломваецца пластамі і пякуча навальваецца на парныя ўжо ад спёкі просіні.

— Людзі! Людзі! — безгалосна залямантаваў ён, выкінуў перад сабой рукі, грабучы імі паветра.— Беражыце, людзі, сонца.

Паспеў, прыгадаў, што такое ўжо было, але сонца ўцалела. Усміхнуўся са страху, што сонца застанецца, а яго ўжо не будзе. Але гэты спалох не паспеў яшчэ адбіцца на яго твары, ён захаваў на твары ўсмешку і слязу: мужчыны не плачуць, ■ слёзы... што зрабіць са слязьмі, яны самі бягуць. Ён паваліўся на ганак. Падаючы, здзівіўся: няўжо гэта ўсё? — і зразумеў: гэта — усё. Недаўменне, сляза і ўсмешка так і засталіся на яго твары. Усмешку, недаўменне і слязу, якую не паспела прасушыць яшчэ і сонца, убачыў і Захар'я, які на світанні завярнуў на ганак. Ён выцер сваю і Лецечкаву слязу, закрыў Лецечку вочы.

— Ну вось і адмучыўся...— дастаў з кішэні капшук з тытунём, закурыў.— А галоўнага я табе так і не паспеў сказаць. Памірыліся мы з сястрой, парадніліся зноў. Дык ты ўжо, браце, не хадзі да мяне, не трудзі ногі... А можаш і адведаць. Прыйдзі, паглядзі, усё нам весялей будзе. Забіраю я яе да сябе, у сваю хату бяру, куском хлеба не абнясу. Хопіць ёй па чужых вуглах жыць, есці казённы хлеб.

Вось так, Лецечка, так... Па-людску цяпер ужо ўсё, па-людску, шкада, ты толькі гэтага не ўбачыш. Але пачакай ужо, пачакай, не доўга засталося чакаць, прыйду я да цябе, сам усё раскажу... Адмучылася, адмучылася ты, дзіця маё, адгаравала. Што ж зробіш, што ж зробіш, жытка наша такая...

Хавалі Лецечку спакойным і празрыстым летнім поўднем. Хавалі ўсім дзетдомам, усім горадам. Выйшла на тое, што пахаванне гэтае супала з вялікім для горада святам — днём вызвалення горада ад нямецкай акупацыі. І напачатку вырашана было пахаванне адкласці, каб не сапсаваць свята. Вуліцам для святочнага шэсця патрэбны былі дзетдомаўцы ў параднай форме, патрэбен быў дзетдомаўскі аркестр. Але, калі прыспеў час радасна трубіць горнам, фанфарам і біць барабанам, ні адзін з дзетдомаўскіх барабаншчыкаў, ні адзін з дзетдомаўскіх гарністаў не выйшаў на вуліцу. Дзетдомаўскія аркестранты сабраліся каля ленінскага пакоя, куды яшчэ раніцай прывезлі з бальніцы Кольку Лецечку. Пад вокнамі ленінскага пакоя плакалі трохногі Асталоп і аркестранты, не ведаючы, што іграць, не адважваючыся на жалобную музыку, ігралі марш «Развітанне славянкі», і ў медных гуках наглянцаваных да асляпляльнага бляску труб чуліся журботныя грымоты навальніцы. Гэтыя навальнічныя грымоты адчула і дырэктарыха, іх нельга было не адчуць, хмары леглі на твары дзетдомаўцаў, і было перааб'яўлена, што адразу пасля святочнага шэсця адправіцца ў апошні шлях і Лецечка.

Гэта было непаўторнае шэсце, ні да гэтага, ні пасля горад не памятаў такога. Наперадзе, у галаве калоны, узяўшыся за рукі, ішлі Козел Васька і Стась Дзыбаты, а ўжо за імі строй барабаншчыкаў і гарністаў. Барабаны і горны прыпячатвалі кожны іх крок. Убаку, не пера-шкаджаючы, трымаліся дарослыя. За аркестрам ішоў

увесь дзетдом. Па загаду аркестра дзетдомаўцы таксама ішлі адзіным крокам. Гэтага адзінага кроку прытрымліваліся і дарослыя, і выхавацелі, і работнікі дзетдома, жыхары і хлапчукі Слабады. Твары ва ўсіх былі застылыя і строгія, але адзіны крок трымаўся цвёрда, і скалануўся асфальт ад гэтага кроку, нібыта адзін вялізны чалавек у жалобнай задуменнасці ішоў па вуліцы і гэты ж чалавек біў у барабан і дзьмуў у вялізную трубу і не чуў ні гукаў барабана, ні гукаў трубы — усё заглушаў яго крок. Чалавеку трэба было пабыць аднаму. І ён быў адзін. Ні ранак, ні мітусня вуліц не заміналі яму, не лезла ў вочы стракатасць фарбаў і адзення. Трывожныя гукі горнаў, труб і барабанаў прахалодай струменілі за каўнер, абціскалі сэрца. А з агародчыкаў, расчыненых весніц ляцелі пад ногі гарністам і трубачам кветкі.

Святочнае шэсце абагнула плошчу і пацякло да дзетдомаўскай брамы і ў поўным складзе, усё пад тую ж прахалоду горнаў, труб і барабанаў, панесла па горадзе Лецечку. І зноў дарогу, цяпер ужо жалобнаму, шэсцю ўсцілалі кветкі, іх як бы ніхто цяпер і не кідаў, усе былі засяроджаны на чырвонай дамавіне, што плыла наперадзе калоны. Але кветкі нібыта самі ўзляталі над вуліцай і ападалі пад ногі тых, хто ішоў. І дамавіна, у якой ляжаў Лецечка, патанала ў кветках, вянках, стракатасці адзення, у гуках аркестра. Здавалася, хавалі не чалавека, а агромністы букет кветак.

Дамавіну з Лецечкам неслі, увесь час змяняючыся, шэсць выхаванцаў дзяцячага дома. Нязменнымі былі толькі Стась Марусевіч і Васька Козел. Яны ішлі — Козел на правым баку дамавіны, Марусевіч на левым — і трымаліся рукамі за дамавіну, за чырвонае палатно, трымаліся, нібыта хацелі дасведчыцца, што ўсё гэта ява, што тут, побач з імі, іх Лецечка, і Стась Марусевіч глядзеў наперад, нібыта ўказваў дарогу, куды трэба несці, а Васька Козел, амаль нябачны Марусевічу з-за дамавіны, глядзеў увесь час пад ногі, нібы выбіраў дарогу, сачыў, каб яна

была роўная і гладкая, каб яна незнарок не патрывожыла таго, хто ляжаў у дамавіне.

Каля плошчы жалобнаму шэсцю заступіла дарогу чорная крытая машына, якую Лецечка бачыў у першы дзень суда, калі ў Палац культуры прывезлі паліцэйскіх. Машына вымчала нечакана з-за павароту вуліцы, патрабавальна бібікнула, не ўцяміўшы, пэўна, напачатку, што тут адбываецца. Бібікнула, змоўкла, нібыта надарвала голас, пачала адступаць, збочваць. Дзетдомаўцы не саступілі ёй ні на крок, нават не звярнулі на яе ўвагі. Машына, збочыўшы, заглушыўшы матор, заціхла. Маёр, што сядзеў у кабіне побач з шафёрам, маладым салдатам, калі дамавіна параўнялася з машынай, хапатліва скінуў фуражку, агаліў сівую галаву. Драпанулі жалезную будку журботныя, суровыя гукі жалобнага марша. Дамавіна з мёртвым Лецечкам і машына з пакуль яшчэ жывымі паліцэйскімі размінуліся. Машына ціха кранулася, і Лецечка з дамавіны невідушчымі вачыма, ледзь пагойдваючыся на плячах дзетдомаўцаў, доўга сачыў за ёй, сачыў, як яна рыўкамі, нібыта асепленая чымсьці, набірае хуткасць і страчвае яе, як разгублена, то хутка, то марудна, круцяцца яе колы, як яна тыцкаецца, то імкне пабегчы, то спыняецца, і як урэшце ўсё ж пабегла, сачыў, покуль яна не знікла, не адарвалася ад шэсця, покуль не растала ў дарожным пыле,— і на асфальце застаўся адзін толькі Захар'я. Жалобнае шэсце было ўжо далёка, ужо даўно не відаць было чорнай машыны. А Захар'я ўсё ўзнімаў, усё выкідваў услед ёй вялізны чорны кулак. Захар'я сам учора выбраў на могілках месца для Лецечкі, на пагорку, каб прадувалася вятрамі.

— Маё месца,— сказаў ён Грыбу і Халяве, якія разам з ім капалі магілу.— Тут ляжаць усе мае Сучкі. Тутака хацеў і я ўладкавацца. Зараз жа няхай ужо лажыцца ён. З дзецьмі яму весялей будзе. Усё ж не аднаму. На гэтым пагорку скрозь Сучкі ляжаць, дзеці, мае і чужыя, нашы, вясковыя. Няхай і ён сярод дзяцей. Барані толькі нас бог

каго-небудзь патрывожыць з іх. Ну, ды калі бязгрэшны ён, а дзеці ўсе бязгрэшныя, нічыіх костачак не кранём і мы.

Але яны ўсё ж скранулі чыесьці косці. Скранулі, калі магіла была ўжо амаль што выкапана. Заставалася толькі падчысціць яе. І Захар'я ўжо шчыра радаваўся, што заступ не стрэў ні дамавіны, ні костачкі спарахнелай. І тут Грыб закрануў штосьці на дне ямы. Закрануў і застыў. Захар'я патурыў яго з ямы, прысеў у кутку, закурыў і толькі пасля гэтага рукамі абгрэб тое месца, дзе спатыкнуўся заступ Грыба. Адчысціў, абцёр, абдуў ад зямлі маленькі дзіцячы чэрап.

— Грэшны не ты, Лецечка, не. Грэшны я, грэшная ў мяне рука, патрывожыў дзіця... Ты не гневайся, не гневайся, дзетка. Хацеў як лепей... І ўдваіх вам будзе тут не цесна... Яно ж лепей і атрымалася. Ты дзіця, і ён дзіця, духу ад яго будзе не многа. А вось палажылі б тут мяне...

І Захар'я замоўк. У кутку выкапанай толькі што магілы адкінуў трохі жвіру і пахаваў чэрап.

— Ляжы, ляжы, не гневайся. Ён хлопец неблагі, усё добра, на першым часе будзеш за павадыра яму, пакажаш усё тут, раскажаш...

І на пагорку, які добра прадуваўся ветрыкам, у жвіры, на пагорку, дзе было цесна ад маленькіх дзіцячых крыжоў, палажылі Лецечку. І паставілі яму не крыж, а, як салдату,— абеліск з чырвонай пяцікутнай зоркай. А праз некалькі тыдняў непадалеку ад абеліска быў пастаўлены і вялізны дубовы крыж Захар'і.

Ён памер, як і абяцаў, калі паспелі ўжо яблыкі.

Васька Козел памёр увосень таго ж года.

Стасю Марусевічу — Дзыбатаму ў Маскве, аднаму з першых у краіне, была зроблена аперацыя на сэрцы. Ён пражыў пасля гэтага яшчэ дзесяць год.